МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## 2

Пад рэдакцыяй
АНАТОЛЯ САБАЛЕЎСКАГА

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1993

ББК 71
К 90
УДК 008(=826)(100=87)(091)

Складанне і прадмова А. Сабалеўскага

**Культура** беларускага замежжа. Кн. 2 / Пад рэд.
К 90 А. Сабалеўскага; Склад. і прадм. А. Сабалеўскага.—
Мн.: Навука і тэхніка, 1993.— 199 с.
ISBN 5-343-01461-5.

Разглядаецца творчасць пісьменнікаў Алеся Салаўя, Хведара Ільяшэвіча, кампазітара Міколы Куліковіча-Шчаглова, апавядаецца пра выступленні ў Беларусі спевака Данчыка, аналізуюцца творы беларускіх пісьменнікаў Польшчы, агладаецца амерыканская газета «Беларус», беластоцкі «Беларускі каляндар», расказваецца пра дзейнасць Кліўлендскага грамадска-асветніцкага цэнтра «Полацак», кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Выданне разлічана на шырокае кола чытачоў.

**К** $\frac{4402000000-098}{М 316(03)-93}$ **Без аб'явы** **ББК 71**



ISBN 5-343-01461-5

## ЗЛІКВІДОЎВАЮЧЫ ПРАГАЛЫ

Сённяшняя навука аб усёй духоўнай культуры беларусаў знаходзіцца як бы на ростанях.

Завяршыўся, прынамсі, вельмі хацелася б спадзявацца, што завяршыўся і звароту назад больш не будзе, у навуцы савецкі перыяд. І час ужо рабіць пэўныя падрахункі. Штосьці ў ёй, найперш палітычна аднадзённае, кан'юнктурнае, выкінецца як шараговая непатрэбшчына. Самі сабой павінны адпасці ідэалагічныя падпоркі і догмы. Будуць удакладняцца, а часам і карэнным чынам пераглядацца, пераасэнсоўвацца асобныя палажэнні і ацэнкі. Словам, наперадзе ў гэтым кірунку — праца і, па ўсім відаць, не малая, і не лёгкая.

Было б, аднак, не толькі не па-гаспадарску, але і проста па-варварску раней здабытае адрынуць усё цалкам, як той-сёй спрабуе і, на жаль, нават не без поспеху цяпер гэта рабіць. Мы ж маем і несумненныя дасягненні — шчыраванні многіх навукоўцаў на ніве нацыянальнай культуры даюць падставы радавацца і ганарыцца, іх плён і надалей будзе заставацца нашым агульным духоўным набыткам.

Тым не менш у даследаваннях, прынамсі ў пераважнай большасці з іх, ёсць прагалы, па сённяшнім часе асабліва відавочныя. Тут маюцца на ўвазе пропускі імён творцаў, прытым і вельмі буйных, якія па праву павінны ўвайсці ў нашу нацыянальную класіку; замоўчванне выданняў, якія зрабілі надзвычай важкі ўклад у справу распрацоўкі і асвятлення культурнай спадчыны; ігнараванне навуковых і асветных асяродкаў, вакол якіх групуюцца дзеячы, дзе каардынуюцца дзеянні, скіроўваюцца ў патрэбнае рэчышча намаганні, высілкі, і іншае, звязанае з беларускай эміграцыяй, яе рухам.

Цяпер марна шукаць канкрэтных вінаўнікаў за такія вось прагалы. Вінавата была сама сістэма, бо пераадолець ці якім-небудзь шляхам абысці ў савецкай Беларусі цэнзуру не мелася аніякай магчымасці. Прозві-

шчы, творы, падзеі, факты, звязаныя з эміграцыяй, у лепшым выпадку выкрэсліваліся з прац, даследаванняў. Найчасцей жа бракаваліся, выкідваліся ў карзіну цалкам рукапісы, калі аўтары спрабавалі пра гэта гаварыць. Акрамя таго, спраўна дзейнічала інфармацыйная блакада, матэрыялы, што тычыліся беларускага замежжа, былі надзейна замураваны ў спецсховах. Доступ да іх мелі фактычна адны ідэалагічныя прапагандысты, якія спецыялізаваліся на выкрыванні і ганьбаванні так званых здраднікаў і ворагаў народа.

Сёння сітуацыя, праўда, не без цяжкасці, не без скрытнага ці нават яўнага супраціўлення, усё ж пачынае мяняцца ў лепшы бок. Мы становімся, зноў-такі не без цяжкасці і супраціўлення, на цывілізаваны шлях. Пастутова адкрываюцца для даследчыкаў, становяцца даступнымі былыя засакрэчаныя архівы, усё больш з'яўляецца звестак пра культурнае і палітычнае жыццё нашых суайчыннікаў у замежжы. Разам з гэтым становяцца асабліва відавочнымі прагалы і пропускі ў гісторыі духоўнай культуры нацыі. І як вынік — з'явілася асабліва вялікая патрэба ў істотна вельмі абноўленай, а можа, і зусім новай гісторыі літаратуры, усіх відаў мастацтва, увогуле культуры.

Аднак ці гатовы мы вось цяпер, неадкладна ўзяцца за яе напісанне? Бадай што не. Як ні актуальныя задачы, з вырашэннем якіх нельга марудзіць, а ўсё ж патрэбен пэўны час. Мы найперш павінны выявіць усе прагалы, даследаваць кожную мастацкую з'яву ці падзею, знайсці ёй адпаведнае месца ў кантэксце гістарычнага развіцця культуры з тым, каб агульная карціна, якую ўслед за гэтым павінны будзем ствараць, выйшла аб'ектыўнай і па магчымасці поўнай.

Рабіць такую вось папярэднюю працу і ставіць сабе за мэту Часовы творчы калектыў пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь.

Літаральна некалькі слоў пра яго дзейнасць. Калектыў быў арганізаваны ў сярэдзіне 1991 года, у склад якога ўвайшлі, думаецца, вядучыя беларускія навукоўцы, аўтарытэтныя спецыялісты ў той ці іншай галіне ведаў.

Па існуючых умовах Часовы творчы калектыў ствараецца на тэрмін крыху менш года. Вынікам яго працы сталася першая кніга «Культура беларускага замежжа». Яе чытачы атрымалі ў пачатку 1993 года.

Натуральна, узнікла патрэба падоўжыць справу, г. зн. сарганізаваць калектыў нанова. У яго ўвайшлі ў асноўным тыя навукоўцы, хто ствараў першы зборнік. Гэта Мікола Мішчанчук, Арсень Ліс, Людміла Маленка, Уладзімір Мамонька, Яўген Адамовіч.

Разам з тым запрошаны і новыя аўтары, якіх з задавальненнем прадстаўляю чытачам. У гэтым выданні бяруць удзел: вядомы спецыяліст у галіне тэатразнаўства кандыдат мастацтвазнаўства Тамара Гаробчанка, вядучыя музычны крытык Святлана Берасцень і літаратурны крытык Алесь Марціновіч.

Цяпер на суд чытачоў выносіцца новая праца — другі выпуск зборніка «Культура беларускага замежжа». Па свайму накірунку ён падобны да першага. Так, кніга адкрываецца раздзелам «Постаці». На гэты раз даюцца манаграфічныя нарысы пра слынных паэтаў Алеся Салаўя і Хведара Ілляшэвіча, пра выдатнага кампазітара Міколу Куліковіча-Шчаглова, вельмі папулярнага спевака Данчыка.

У наступным раздзеле «Выданні» робіцца аналіз апублікаваных кніжак празаікаў, паэтаў Беласточчыны; асвятляецца культурнае і палітычнае жыццё беларусаў Амерыкі, а таксама праблемы мастацтва, якія ўзнімаюцца на старонках газеты «Беларус», што выходзіць у Нью-Йорку; расказваецца пра агульны накірунак беластоцкага «Беларускага календара» і пра змешчаныя ў ім творы, у тым ліку і драматычныя, пра матэрыялы на тэатральныя тэмы.

Чытач сустрэне ў гэтым выданні і новы раздзел — «Асяродкі». Наўрад ці трэба даводзіць, наколькі важную ролю адыгрываюць грамадска-асветныя асяродкі ў жыцці людзей замежжа (ды і не толькі замежжа). З гэтага раздзела можна даведацца пра шматбаковую дзейнасць Кліўлендскага беларускага цэнтра «Полацак» у Амерыцы, пра накірунак і змест часопіса пад той жа назвай, а таксама пра навуковую і педагагічную працу калектыву кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, пра пашырэнне ў Польшчы ідэй беларускасці.

Цяпер яшчэ раз нанова створаны Часовы творчы калектыў. На парадку дня яго дзейнасці — падрыхтоўка новага, па ліку ўжо трэцяга выпуску «Культуры беларускага замежжа». У ім, мяркуем, чытач здолее сустрэцца з новымі буйнымі постацямі на ніве культуры нашых

замежных суродзічаў, даведацца пра іншыя грамадскія і культурна-асветныя ўстановы і аб'яднанні, пазнаёміцца са зместам публікацый мастацкіх і крытычна-аналітычных твораў у розных выданнях і інш.

Хацелася б спадзявацца, што «гарызонты» зборніка з кожным яго выхадам у свет будуць пашырацца і тым самым усё больш і больш зліквідоўвацца белыя плямы і прагалы ў гісторыі духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа.

У добры шлях!

*АНАТОЛЬ САБАЛЕЎСКІ,*
*кіраўнік Часовага творчага калектыву*
*пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь,*
*доктар мастацтвазнаўства, прафесар*

*Мікола Мішчанчук*

# «ДА СКАРБАЎ СУСВЕТУ ІМКНУСЯ...»

## (Нататкі пра жыццё і творчасць Алеся Салаўя)

Алесь Салавей (сапраўднае прозвішча Альфрэд Радзюк) нарадзіўся ў вёсцы Крысава, што на Дзяржыншчыне (Койданаўшчыне) 1 мая 1922 г. у сям'і сына былога парабка графа Чапскага, які спачатку займаўся земляробствам, а пасля стаў інтэлігентам у першым калене. Як пазней прыгадае таленавіты мастак, маці яго таксама «была інтэлігентная і пісьменная жанчына, шмат увагі аддавала на выхаванне»[1]. У 1923 г. сям'я Радзюкоў перасялілася ў Койданава, дзе бацька ўладкаваўся працаваць у лясніцтве. У 1928 г.— зноў пераезд на новае месца працы, у Чэрвеньскі павет, дзе бацька да 1933 г. быў дырэктарам саўгаса. За гэты час ён набыў вышэйшую сельскагаспадарчую адукацыю, а будучы пісьменнік толькі распачаў сваю школьную навуку. Затым — зноў пярэбары ў Койданаўскі павет, у Койданава, дзе спецыяліст з вышэйшай адукацыяй працаваў спачатку загадчыкам прыгараднай гаспадаркі райспажыўсаюза, а пасля — раённага гандлёвага аддзела.

У Койданаве пачаліся першыя літаратурныя практыкаванні будучага пісьменніка. Тут напісаў і надрукаваў у раённай газеце «Ударнік Дзяржыншчыны» першы рамантычна-ўзнёслы святочны верш «На сенажаці». Тут светла марылася і летуценілася, як і ўсім яго аднагодкам, выхаваным у духу адданасці камуністычным ідэалам, веры ў светлую будучыню.

Самым трагедыйным для сям'і Радзюкоў стаў злавесны 1937 год. Арыштавалі бацьку і маці, канфіскавалі маёмасць. У пачварным садызме дайшлі да таго, што

[1] Цыт. па: Салавей А. Нятускная краса. Зб. тв. Нью-Йорк; Мельбурн, 1982. С. 286. Далей спасылкі даюцца на гэтае выданне.

арыштаванаму не дазволілі перадаць дзецям ашчадную кніжку з трымастамі рублямі: маўляў, жывіце, як хочаце.

Пазней бацька загінуў у Сібіры, а маці пасля дзесяцігодніх пакутаў вярнулася ў Беларусь і неўзабаве памерла. Магілка яе знаходзіцца ў Вязані, каля Фаніпаля. Сваякі, запалоханыя энкавэдыстамі, адмовіліся дапамагаць сіротам — 15-гадоваму Алесю, чатырнаццацігадовай Алі, васьмігадоваму Лявонку і чатырохгадоваму Уладзіку (памёр у 1941 г.). Каб не памерці з голаду, старэйшаму давялося працаваць на раскопках торфу, выгружаць вугаль, рыхтаваць дровы на зіму. Колькі маладых, ні ў чым не вінаватых людзей, такіх сама дзяцей-сіротак падкасіла ў даваенныя гады ліхая навала, імя якой далі пазней — таталітарызм, сталіншчына.

Сіроцкае, шматпакутнае жыццё неяк цудам спалучалася з літаратурнай дзейнасцю. Паэт друкуецца на старонках перыядычных выданняў, яго заўважаюць, запрашаюць у 1938 г. у Мінск на канферэнцыю маладых пісьменнікаў. Асабліва клапаціўся пра творчы рост маладога аўтара Пятро Глебка, які і пазней, падчас наведвання ЗША ў складзе дэлегацыі Беларусі ў ААН, цікавіўся яго лёсам. Паспрабаваў А. Радзюк вучыцца ў Мінскім педтэхнікуме, які праз два гады пакінуў па прычыне матэрыяльнай нястачы. Вайна заспела ў Лагойску, дзе ён працаваў намеснікам рэдактара раённай газеты. Ужо перад вайной паэт спазнаў, што такое жорсткая ідэалагічная цэнзура, калі рэдкалегія часопіса «Полымя рэвалюцыі» адмовілася друкаваць яго санет «Тайна», бо форма гэтая, як напісалі ў адказе, даўно выкінута на сметнік.

Як і многія іншыя інтэлігенты, журналісты, А. Радзюк пры немцах разам з народам перажываў трагедыю краіны і, падмануты вонкавай лаяльнасцю фашыстаў да беларускасці, верыў у нацыянальнае адраджэнне ва ўмовах вайны, тэрору, акупацыі. Ён працаваў у Лагойскай раённай, затым да лютага 1942 г. у «Беларускай газэце» і пасля — у часопісе «Новы Шлях», што выдаваўся ў Рызе, аж да самай эміграцыі. У вайну паэт друкаваўся і ў іншых перыядычных выданнях — «Голас вёскі», «Слуцкая газэта», пісаў пераважна творы пейзажнага, а таксама патрыятычнага, антываеннага зместу — «Лёс паэта», «За славу Радзімы», «Пад

шэлесты лісця», «З Новым годам», «Радасць жыцця», «Кінь сваволіць» і інш. Яму верылася і не верылася ў перамены да лепшага, у свабоду. Матывы надзеі раз-пораз перакрыжоўваліся з матывамі трагедыйнага адчування разлому, руйнавання, знішчэння ўсіх святынь навалай з Захаду. Вершы друкаваліся пад псеўданімамі Алесь Салавей, Алесь Вясновы, А. Вясёлка.

У Рызе паэт сябраваў з галоўным рэдактарам «Новага Шляху» Уладзімірам Сядурам, замежнымі нацыянальнымі беларускімі дзеячамі Ул. Брылеўскім, К. Езавітавым, М. Дзямідавым, мастаком Пётрам Мірановічам, рускім крытыкам і паэтам Вяч. Завалішыным, латышскім пісьменнікам Аляксандрам Анцанам, якія супрацьстаялі сталінскаму рэжыму, смела выказваліся па многіх нацыянальных і палітычных пытаннях. У гады вайны ішла напружаная праца розуму, душы і сэрца, вызначаліся адносіны паэта да таго, што адбывалася ў той час у свеце, паступова выспявала думка пра неабходнасць ратавання свайго краю ад чужынцаў. У сувязі з гэтым адзначым пастаяннае імкненне паэта захаваць нейтралітэт у адносінах да новаяўленых уладаў, нежаданне абслугоўваць іх інтарэсы. Ён спрабуе адгарадзіцца ад палітычных боек у мястэчку Ілля, заняцца нежурналісцкай працай, шукае іншых сродкаў матэрыяльнага забеспячэння. Адзначым, што паэт не хінуўся ні да немцаў, ні да бальшавікоў, шукаючы, як і Наталля Арсеннева ды Масей Сяднёў, трэцяга, ні ад каго незалежнага шляху. На жаль, публікацыі ў прэсе даследчыкаў эміграцкай літаратуры сведчаць пра недаацэнку пазіцыі палітычнага нейтралітэту, абранага інтэлігентамі — служкамі нацыянальнай ідэі — у ваенны час. Мы ўсё яшчэ прыклейваем ім ярлык здраднікаў народа. Здраднікамі яны ніколі не былі. Больш таго, дбалі, каб і ў навальнічны час наш народ не забыўся на сваю родную мову, хоць часткова далучаўся да духоўных скарбаў. Яны выступалі ў перыядычным друку з артыкуламі пра слаўны, гераічны час, сведкамі якога былі нашыя продкі, пра росквіт нацыянальнай свядомасці ў Крыўі-Беларусі ў перыяд Вялікага княства Літоўскага. Гісторыя даказала іх праvату і дальнабачнасць.

Новы перыяд жыцця Алеся Салаўя прыпадае на 1944—1949 гг. Пад націскам Савецкай Арміі нямецкія акупанты імкліва адкочваліся на Захад. Разам з імі, пагарджаныя, аблаяныя, ехалі і тыя, хто жыў і працаваў

пры іх (псіхалагічна дакладна і падрабязна настрой гнанай на чужыну інтэлігенцыі перадала ў сваёй «Споведзі» Ларыса Геніюш). Ехалі, каб не бачыць дзесяцігоддзямі, а то і ўвогуле ніколі свайго краю, да бездані, чорнай прорвы, звароту з якой няма. Пункты маршруту Алеся Салаўя былі наступныя: Мінск—Беласток—Кёнігсберг—Рыга—Эстонія—Берлін (Балтыйскім морам)—Вена—Прага—зноў Аўстрыя. Разам з другім паэтам-эмігрантам Алесем Змагаром (А. Яцэвічам), з невялікім скарбам, нейкім цудам прыладкаваным на чужую арбу, у 1945 г. прыбіваецца ў Зальцбург. Тут яго дэпартуюць. Жыве разам з такімі, як сам, людзьмі-гаротнікамі на ўсялякія ахвяраванні і датацыі. Тут ён ажаніўся, у 1946 г. нарадзіўся сын Міхалка.

Менавіта на гэты час прыпадае росквіт яго творчасці: закончыўся першапачатковы перыяд вучнёўства і наследавання традыцый натуралістычнай, апісальна-выяўленчай паэзіі і пачаўся перыяд авалодвання традыцыямі і медытатыўнага, засяроджанага на галоўных пытаннях чалавечага існавання слоўнага мастацтва. За мяжой выходзіць паэма «На хуткіх крыллях вольнага Пегаса» (1948), следам за ёю — паэма «Сын» (напісана ў 1947 г.). У 1948 г. замежны часопіс «Сакавік» выдаў асобнай кнігай другі зборнік паэтавых вершаў «Сіла гневу».

А затым быў выезд на пастаяннае жыхарства ў Аўстралію, у Адэлаіду (два гады кантракту), у Мельбурн, дзе пасля трагічнага заплыву ў акіян здарыўся сардэчны прыступ і не стала паэта-выгнанніка, дзе ён і пахаваны праз чатыры дні пасля смерці 26 студзеня 1978 г. на беларускіх могілках. Так у Аўстраліі пад яркім Паўднёвым крыжам пабольшала беларускіх магілак. Так склаў сваю галаву яшчэ адзін пакутнік за наш край і народ, чалавек, які прагнуў свабоды і не ўбачыў яе нават на другім канцы зямлі. Не давялося яму пабачыць вольнай сваю старонку, як і многім іншым выгнаннікам — ахвярам грамадска-сацыяльных эксперыментаў, што праводзіліся ў нашай краіне.

Паэзія Алеся Салаўя, як і творчасць шэрагу іншых паэтаў-эмігрантаў, нацыянальна-самабытная. У ёй амаль нічога няма прыўнесенага збоку, штучнага, мадэрнісцкага. Яна не прэтэндуе на абстрактную філасафічнасць, штучнае канструяванне новых формаў, застаецца пераважна выяўленча-апісальнай. У жанравых ад-

носінах паэзія Салаўя шмат у чым традыцыйная. Формы, якімі пераважна карыстаецца аўтар,— элегія, балада, ода, пасланне, верш-роздум, разважанне, верш-апісанне, замалёўка, карцінка, эпізод, верш-заклік, гучнае выслоўе, публіцыстычная прамова. У яго творчасці адбываецца сцяжэнне жанравых адзнак выяўленчай, апісальнай, эталагічнай, павучальнай і медытатыўнай, філасофскай лірыкі. Аднак пры ўсім тым, як нам думаецца, дамінуе элегія, якой па-майстэрску карыстаецца Алесь Салавей і якая з'яўляецца найгалоўным жанрам усёй эміграцкай лірычнай творчасці. Дарэчы, гэта якраз і сведчыць пра сумленнасць і шчырую адданасць Радзіме людзей, што яе пакінулі ў скрутны час, пра іх агульны настрой — трагедыйны, тужлівы, пра іх калі і не сусветны, касмічны, то планетарны боль, пра вернасць бацькоўскаму парогу. Трапна выказаў настрой сваіх суайчыннікаў за мяжой Уладзімір Клішэвіч:

Дарма патрачаны ўсе сілы,
Я на чужыне вечны раб.[2]

Такое ж трагедыйнае адчуванне ўласціва і паэзіі Наталлі Арсенневай, якая ў адным з першых пасляваенных твораў мусіла, падобна многім, прызнацца, што аказалася ў духоўнай ізаляцыі, пакінуўшы Радзіму, і зажадала толькі аднаго — магчымай сустрэчы з ёю напаслед:

Жыццё, не шмат ужо дарогі,
штораз пусцей, цямней наўкола.
Дык дай мне роднага парогу
даткнуць, пакуль замкнецца кола![3]

Эміграцкая паэзія, настройваючыся на трагедыйную інтанацыю, як бы вярталася да Купалавага светаадчування перыяду 1917—1920 гг.— спустошанасці, абрыўнасці, замкнёнасці. Дастаткова прыгадаць «Паязджанаў», «У дарозе», «Буралом», «Перад будучыняй» і іншыя вершы пра змрочную дарогу «ў зацьмішчы», «завеі», якая да таго ж пралягае па зачарованым коле. Паэзія Алеся Салаўя таксама культывавала ідэю абрыўнасці, ізаляцыі шляху мастака і народа, ідэю бездані, што адкрываецца перад жывымі нашчадкамі кры-

---

[2] Туга па Радзіме: Паэзія беларускай эміграцыі. Мн., 1992. С. 288.
[3] Тамсама. С. 132.

вічоў. І таму ён не прызнаваў экзотыкі чужых земляў, да самага скону песціў і лашчыў у думках свой святы край:

О, Афрыка! Крывіччынай была б ты,  
каб Нёмнам быў твой паўнаводны Ніл,  
я над табой спыніў бы лёт крылаты,  
далей у свет сягаць не меў бы сіл.

Прабач за сум з мае далёкай хаты —  
счарнелы жаль бусліных пругкіх крыл.  
Перад вясной узнёслага адлёту  
дай лёгкасць ім прасвяднага звароту.[4]

Паэзіі Алеся Салаўя блізкія традыцыйныя тэмы прыроды, радзімы, кахання, дабра і зла, спрадвечна ўласцівыя лірычнаму роду літаратуры:

Пачую я: зязюля за ракой  
куваць пачне ў бары. І дзяцел будзе стукаць.  
Разбудзяць ціхі ранішні спакой  
птушыных галасоў прыветлівыя гукі.  
І сонца яспае з высі тады  
палле агністы сок цурком, нібы праз сіта:  
нап'юцца соку гэтага сады,  
памочыць вус у ім задумны колас жыта.

Пачыналася паэзія Алеся Салаўя з апісання малой радзімы — наваколля вёскі Крысава, што на Дзяржыншчыне, лагойскай Гайны — мясцін, адкуль павяла будучага паэта дарога ў вялікі свет. Радкі атрымліваліся светлыя, празрыстыя, аптымістычныя, бо ствараліся ўраўнаважаным настроем, упэўненасцю ў перавазе гарманічнага пачатку ў жыцці прыроды і чалавека. Пра гэта сведчаць яго вершы перадваеннай і ваеннай пары «Дзеці», «Пароша», «Каляды», «Снягі», «Першы гром». Нават злавесная вайна не здолела знішчыць гаючую веру паэта ў магутныя залечныя сілы роднай прыроды. Часцей адзінокі, без родных і сяброў, пасярод усеабдымнага поля вайны, ён дазволіў сабе такую раскошу, як радасная пейзажная лірыка. Такую адухоўленую і чыстую, як вось гэтая, напрыклад, мініяцюра-нацюрморт, уся сатканая з сонечных фарбаў, жывая, рухомая, дынамічная. Чытаеш радкі паэтавай замалёўкі і прыгадваеш выразны рэалістычны жывапіс Левітана, Шышкіна, Саўрасава:

Не пухам лебядзяў абсыпаны лагчыны,  
зямля схавалася пад белаю аўчынай.

---

[4] Ля чужых берагоў: Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў. Мюнхен, 1955. С. 125.

Мадзее воддаль гай адзін нагі...
Сувоі сыпкія, глыбокія снягі. .

Можна вінаваціць паэта ў тым, што менавіта ў крывавым 1943 г. ён не згадвае сусветнай калатнечы, што яго голас гучыць не гучна, а сцішана. Можна ставіць у віну і тое, што ў вершы «Каляды» на першым плане аказваецца не трагедыя народа, а гарманічны малюнак дзіўнай, чыстай прыроды, згадванне пра дзетак, якія «дружнаю гурбой праступаюць з лесу цераз ляды і елку цягнуць за сабой...» Нам хацелася раней, ды і цяпер хочацца, каб паэзія была «барометрам грамадскіх падзей». Мы даўно ўжо вызначылі ідэйныя пазіцыі, прыкавалі яе ланцугамі да той ці іншай эпохі, тых ці іншых тэм, патрабуем належнага пафасу і настрою ў розныя часы. А паэзія так і рвецца вызваліцца ад жорсткіх нарматываў і рэгламентацыі, жадае жыць агульначалавечым, заўсёдным, што ідзе з часоў Сафокла, Эўрыпіда, Скарыны і Гусоўскага, адліваецца ў радкі, якія запамінаюцца з ранніх дзіцячых гадоў,— пра родны кут, які нам мілы, пра рэчку, што «пад ільдом блішчыць», пра ластаўку, якая вясною «ў госцейкі ляціць» да нас.

Так, ішла вайна. І была яна суровая, крывавая. І не застаўся ад яе ўбаку Алесь Салавей. Ды ў адрозненне ад іншых аўтараў ён імкнуўся прыглушыць патрыятычны рытарызм вераю ў канчатковую суладнасць гукаў і фарбаў на зямлі нават у жахлівы час. Ён нібы пакідаў нам запавет, што мінецца ўсё жорсткае і антычалавечае, забудзецца ліхалецце, схлыне чорная навалач і застанецца на зямлі народ-стваральнік, а з ім — мастак і яго неўміручае слова. Гэтая святая вера падказала Салаўю ўзяцца за пераклад дзівосных радкоў «Калевалы» пра нараджэнне ў нетрах жыцця, у прыродзе, сівой гісторыі песні і абуджэнне свядомасці народа. Ён хацеў абудзіць свой народ прыкладамі з паводзін, лёсу іншых народаў, якія, як і беларусы, таксама многа страчвалі, змагаліся за незалежнасць і свабоду, станавіліся на ногі. Паглядзіце, як нязмушана і свабодна гучыць беларускае слова ва ўрыўку:

Хай сябры пачуюць спевы,
хай іх слухаюць прыветна
між юнацтва маладога
шматпакутнага народу,
што нарэшце стаў на ногі.

Калі карыстацца паралелямі, зварот Алеся Салаўя да перакладу «Калевалы» ў трагедыйны для беларускага народа час меў на мэце выкананне тых самых задач, якія стаялі перад Янкам Купалам у гады грамадзянскай вайны: кансалідаваць сілы нацыі, выхаваць у ёй пачуццё годнасці, веру ў сябе, у магчымасць супрацьстаяць суровым абставінам. Алесь Салавей не справіўся з імі да канца — да завяршэння перакладу «Калевалы» дыстанцыя выдалася вялікага памеру. Ранняя смерць таксама не паспрыяла рэалізацыі задумы. Але спроба перакладу неўміручага твора, хоць бы ва ўрыўках, сведчыць пра кантактнасць нашай нацыянальнай літаратуры з літаратурамі іншых народаў свету, пра тое, што яна нават у навальнічныя і разломныя гады не была вузка правінцыйнай, засвойвала набыты вопыт у плане мастацкай інтэрпрэтацыі гісторыі, стварэння нацыянальных характараў. Салавей садзейнічаў узняццю літаратуры на тую вышыню, на якой яе хацеў бачыць наш Максім Кніжнік — адраджэнец Багдановіч.

Вайна закранула свядомасць паэта, паўплывала на яго светапогляд і стыль. Ён у гэты час усяляк стараўся пераадолець стэрэатыпы вузкага мыслення — ідэі любві да роднага краю, бацькоўскага парога, да мікрасвету, які акружае чалавека. Салаўя прываблівае і макрасвет, і макрапачуцці, і перажыванні. Таму побач з пластом пейзажнай лірыкі, які складаецца з празрыстых замалёвак, выяўленчых карцін, з'яўляецца лірыка іншага кірунку. У зборніку «Мае песні», надрукаваным у Рызе напярэдадні ўваходу ў яе Чырвонай Арміі, які паэт так і не паспеў разаслаць чытачам, другі раздзел «І заплакалі сумныя далі» складаецца пераважна з элегічных твораў пра трагедыю душы аўтара і ўсеагульную трагедыю народа, чалавецтва. Элегія «Восень» (1942) напісана тады, калі паэт жыў у мястэчку Ілля, спрабаваў адысці ад палітыкі, паглыбіцца ў чыста гаспадарчыя клопаты, і поўніцца непадробным болем і смуткам. Аўтар заўважае адзінокі кляновы лісток пасярод усеагульнага згасання жыцця і па асацыяцыі параўноўвае яго з асабістым лёсам і лёсам акупаванай фашыстамі Беларусі:

З хаты выйшаў на двор. Асцярожна рукою дрыжачаю
абрываю лісток, прыкладаю да твару яго:
ўсёй істотай адчуў адыйшоўшае лета гарачае,
бураў грукаты, трэск перуноў і спякотаў агонь.

Туга і смутак прасякваюць радкі і верша «Раса», які заканчваецца вывадам пра тое, што на траве «зігцяць маністамі» не «каралі слёз», не «сокі йскрыстыя», а «боль, і сум, і золь, і кроў зямлі агністая». Бесклапотныя птушкі — «крылатыя асельнікі паветра» — ляцяць, куды захочуць, а чалавеку застаецца глядзець на іх «з адбіткам суму ў сэрцах», піша паэт у вершы «Птушкі». Гэты ж настрой перадаецца і ў перакладзе ўрыўка з неўміручай «Іліяды» Гамера пад назвай «Бітва», з запамінальнай, антываеннай па духу канцоўкай:

> Разам зліліся змагарныя крыкі й смяротныя стогны
> вояў, што нішчылі й гінулі: дол захлынуўся крывёю.

У вайну быў напісаны паэтам і цыкл лаканічных твораў пад агульным загалоўкам «Жывому жыць. Знішчэнню — смерць!» Гэты цыкл медытатыўны, філасофскі. Трагедыйнае светаадчуванне аўтара паглыбляецца ў ім таму, што паэт, як і іншыя калегі-літаратары, становіцца эмігрантам, перажывае адрыў ад роднага краю. З гэтага цыкла знікаюць агульныя фразы і разважанні, а пісьмо кандэнсуецца, ушчыльняецца, становіцца малюнкавым, прадметным:

> Толькі выгляне сонца з-за хмараў,—
> знікне зноў. Скуль бяруцца яны?
> Можа гэта жаўтлівасць пажараў?
> Можа гэта суцьмежа вайны?...
> І марнее жытнёвы палетак,
> і чакае касца сенажаць.
> Кажуць людзі: настала ўжо лета,
> ды чамусьці яго не відаць.

Найбольшай жа ўвагі, на нашу думку, заслугоўвае ў гэтым раздзеле верш «Зямля ў агні». Іншасказальны, прытчападобны, ён напісаны ў форме дыялога (як і Купалаў шэдэўр «А хто там ідзе?») аўтара з апанентамі, якія клічуць яго ў бой з чужынцамі. Але заклікі і дзеянні гэтых апанентаў аказваюцца заклікамі і дзеяннямі мерцвякоў, а сам паэт, адагнаўшы сон, адчувае сябе нібы ў труне. Такая зыходная канфліктная сітуацыя ў адным з самых трагедыйных твораў Алеся Салаўя. Яе паслядоўнае раскрыццё наводзіць на роздум пра светаразуменне аўтара ў той час: ён пачувае сябе вінаватым за бяздзейнасць і пасіўнасць, але не ў стане прыняць нейкае радыкальнае рашэнне, узяцца за зброю, бо, пэўна, не ведае, куды яе павярнуць, «у якім змагацца

стане». Мы і надалей вызначылі б пазіцыю многіх паэтаў-эмігрантаў як пазіцыю нейтралітэту, служэння ідэі, якую не прымаюць ні адзін, ні другі рэжым, бо яна няўгодна любой таталітарнай уладзе, што старалася праглынуць край на скрыжаванні ўсходне-заходніх дарог. Падобных названаму творэў увогуле мала ведае сусветная літаратура:

Зямля ў агні. Гарачыня.
Сусвету — не дыхнуць.
Пякельнай лавы не суняць,
крыві струменіць муць.

Зямлі, зямлі гаспадары —
на дзвюх, на дзвюх нагах —
сусвету скарбы і дары
у пекла топчуць. Жах.

«Хадзі сюды, хадзі сюды!» —
мне кажуць.— «У паход
мы рушым. Выведзем з бяды
радзіму і народ!»

Адзін: «Вазьмі, вазьмі — ці меў? —
вінтоўку — новы стыль...»
Я ўзяў. Я ўвесь акамянеў —
гнілы, крывы кастыль.

Другі: «Вось келіх у мяне —
пітво ў ім змагароў.
Вазьмі!» — Я узяў, зірнуў: на дне —
людзкія слёзы, кроў.

А трэці: «Змогся? Супачынь!
Прыляж на ложак наш».
Я лёг. Прачнуўся уначы —
не ложак, а труна.

І ля мяне, і ля труны —
і века, і цвікі...
Ідуць яны, ідуць яны —
шкілеты, мерцвякі...

У зборніку «Нятускная краса» цалкам змешчаны вершы з кнігі «Несмяротнасць» — найбольш цэласнай і тэматычна, і кампазіцыйна. Інтанацыя вершаў з гэтай кніжкі, што выйшла ўжо пасля асэнсавання стану душы эмігранта-бесхацінца, у цэлым мяняецца ў параўнанні з інтанацыяй ранняй апалагетычнай творчасці. Цяпер голас гучыць напружана, элегічны жанр пацясніўся і даў месца жанру адычнаму. Паэт стараецца пераадолець

прасторавую звужанасць рамак сваёй творчасці, тэматычную абмежаванасць, імкнецца глыбей зразумець лёс краіны, падпарадкаваць суб'ектыўна-індывідуальныя інтарэсы нейкім агульным субстанцыям, выверыць іх шматгадовым вопытам свайго і чужых народаў, чалавецтва.

У пачатку артыкула мы адзначалі «звужанасць», прыземленасць мыслення паэта, якімі вызначаўся пачатак яго творчасці. Гэтая «звужанасць» працавала на ідэю ўхвалення нязгаснасці звычайных чалавечых клопатаў у віры жахлівай вайны і страшэнных катаклізмаў. І вось у пасляваенны час далягляды паэзіі Алеся Салаўя значна пашырыліся за лік раскрыцця вечных тэм, абагульнення канкрэтных фактаў і ўзвядзення іх на вышыню ўсеагульнай вартасці і значнасці:

Маўчы, мой верш! Не ўспамінай эпохі.
Яна — патоп, і над табою — глум.
Ды як мінуць вось тыя ахі й охі,
той самы чын і той жа шум-бурум?

І як знайсці на ток зямлі хоць трохі
жывых слядоў, цвярозых вечна дум?
Няўжо чало пад той жалезнай каскай
больш не жыве ні яваю, ні казкай?

— так выказваецца паэт пра эпоху і пра прызначэнне мастацкай творчасці ў вершы «Не ўспамінай» (1947).

Складанасць разломнай эпохі вызначае і драматызм лёсу народа. Паэт за мяжой яшчэ выразней адчуў, наколькі бяспраўны, запрыгонены быў ён у краіне, «дзе так вольна дыхае чалавек». Характэрны ў сувязі з гэтым верш «Нішчым» (1947). Гэта палітычная медытацыя пра лёс краіны, што населена бязмоўным і бязродным натоўпам, і самае галоўнае — пра тое, што такі народ ужо нікому не перадасць эстафету чалавечнасці, дабрыні, барацьбы за вызваленне:

Зусім нішчым. Сухі пясок пустыні
ваш ідэал. Мякіна — мозаг, кроў.
Пабачыў вас — на лёднай строні
бязродны гурт скапычаных кароў.

Апошні раз у высь нябеснай сіні
ваш правадыр — ваш бык на скон зароў.
На баўтунох вы селі за кវактуху,
курчат няма — вось ваша сіла духу.

Можна меркаваць, што змест гэтага твора падказаны і ўнутрыэмігранцкай барацьбой, калі лозунгі і справы замежнай інтэлігенцыі абясцэньваліся, страчвалі сваё першаснае значэнне пасля перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

У зборніку «Несмяротнасць» на першы план выходзіць і вечная тэма мастацтва, яго прызначэння. Аўтар, расчараваны жыццём за межамі Радзімы, уяўляе сябе не толькі адзінокім, але і «нясхільным Палядынам», вольным і дужым, які рушыў у паход, несучы сваім землякам-беларусам любоў, нянавісць і пагарду. Адзінокі, ён не можа прыняць і разбуральных наватый («Чалом, чалом...»), якія, на думку паэта, вядуць слоўнае мастацтва да катастрофы. Верш, які мы зараз працытуем, заканчваецца кантраснымі асацыятыўнымі радкамі, заклікаными засведчыць парадаксальны характар мадэрнізму:

Чалом, чалом, слухмяныя актавы,
і рыфмаў звон, і спеў радкоў, чалом.
Скасіў мадэрн ажыўшых сокаў травы,
а кветкі іх назваў вялікім злом.
Я з вамі йду пад полагам няславы,
дваццаты век вас выцесніў на злом
і на жанчын мужчынскія ўсклаў споднi,
і пасадзіў саву на храм Гасподні.

Дадаецца ў творах з названага зборніка і медытатыўнасць. Так, верш «Ідзе, плыве» (1948) поўніцца роздумам пра веру і няверʼе, пра карані, пра неабходнасць захоўваць вернасць вытокам. Але ў тым становішчы, у якое трапіў паэт, яму застаецца толькі спадзявацца на часовы, а не канчатковы паратунак — на прасветліны сонца паміж хмарамі:

Над шэраняй шляхоў бясконцых згледзіш
хаморны змрок і сонца ўсплеск — прасвет...

Афарыстычнасць, лаканізм, стройнасць мыслення вызначаюць і жанравы склад зборніка: абсалютная большасць твораў у ім — сціслыя філасофскія васьмірадкоўі, актавы элегічнай танальнасці.

Адарваны ад свайго краю паэт напіша і ў 1958 г. надрукуе ў часопісе «Конадні» «Вянок санетаў» — пра каханне і жаданне вярнуцца на Радзіму, пра пераадоленне тыраніі сілай духу, пра тое, як «да светаў лёт

збуджаюць сакаліны імкненні думак светлых і надзей», пра будучы радасны для людзей планеты дзень, калі змоўкнуць усе «завірушныя нягоды». Не менш свабодна і па-майстэрску ён будзе карыстацца цвёрдымі вершаванымі формамі, накшталт рандо, спрабаваць свае сілы ў вершах-афарызмах.

Важна падкрэсліць суб'ектыўны характар лірычнай творчасці паэта, заўсёдны пошук аўтарам адметнага выяўлення свайго «я». Вынікам падобнай «суб'ектывізацыі» становіцца ў паэзіі Алеся Салаўя культ адзінкі, асобы. Дарэчы, эміgranцкая паэзія з самага пачатку і ішла такім шляхам, адстойваючы права індывідуальнасці на самастойнае, паўнакроўнае жыццё, выкрываючы псеўдакалектывісцкі дух і настрой рытарычнай мастацкай творчасці. Наша ж беларуская савецкая лірыка толькі апошнім часам нібы спахапілася і пачала актыўна бараніць чалавечае «я» ад націску абстрактнага «мы», ставіць яго над грамадска-сацыяльнымі абставінамі, лучыць да агульначавечых праблем. Што тычыцца Алеся Салаўя, дык ён выказаўся наконт гэтага выразна і надзвычай дакладна ў санеце «Яшчэ не моўкнуць стройныя санеты...» (1947):

> Пайду няўхільна сумны, адзінокі
> (у суме — праўда, ў адзіноце — сіла)
> туды, дзе думка клікала, будзіла,
> дзе вам згібенне праракли прарокі.

Што датычыцца яшчэ адной балючай праблемы, якая хвалюе ўсю эміграцкую літаратуру,— адносін да ладу, які выгнаў за межы Радзімы сваіх сыноў і дачок, дык яна ў Алеся Салаўя гучыць па-рознаму ў лірыцы і паэтычным эпасе. У першай — сцішана, зрэдзь, у самых выключных выпадках, у другім — адкрыта, на ўвесь голас.

Сваё асабістае гора — страту бацькоў, ранняе сіроцтва, блуканне па пакутах у далёкіх чужых краях — Салавей-лірык ставіць не на першы ў параўнанні з Масеем Сяднёвым план. Тут ён блізкі да Наталлі Арсенневай. На першым плане ў яго ўсведамленне велічы Чалавека — пасланца Космасу, які роўны і Небу, і Сонцу. Як і ў Янкі Купалы — найвыдатнага паэта XX ст.

> І небу, і сонцу ўсміхнуўся —
> вялікшым у час наш і век.

Да скарбаў сусвету імкнуся,
я іхны, мне ймя — чалавек!

Могуць выклікаць у чытача цікавасць і некалькі сатырычных твораў паэта, напісаных пераважна ў гады вайны. У папярэдніх выданнях яны не публікаваліся, у кнізе ж «Нятускная краса» прадстаўлены ў раздзеле «Вершы, друкаваныя не ў зборніках». Травесційным, у стылі «Тараса на Парнасе», «Энеіды навыварат», з'яўляецца верш «Лёс паэта» (1942). З яго мы даведваемся пра новыя, невядомыя чытачу паводле твораў савецкіх аўтараў падрабязнасці з жыцця мастакоў, людзей творчай працы ў перыяд фашысцкай акупацыі, пра іх заўсёдную мітусню ў пошуках кавалка хлеба:

Той на Сураскі прэ грыбы,
той цягне порткі, той — камашы.
Глядзіш, цяляціны здабыў,
мукі... ну, вось табе і паша.

А як паэт не спекулянт,
і на «сядзенні» мае латы,—
дык і зыйшоў зусім «на кант»,
куды ні пойдзе — страшаць «матам».

І без таго цяжкі ў матэрыяльных адносінах лёс пісьменніка ў гады вайны ўскладняўся нацыянальным нігілізмам новых, акупацыйных улад, а таксама тых, хто з імі супрацоўнічаў. У творы Салаўя расказваецца, як адмаўляюць паэту ў падтрымцы дзеячы «Самапомачы» толькі таму, што «расейскай мовы ён не ведаў», як акцёры ў нацыянальным беларускім тэатры чамусьці не вымаўляюць «ра», а «ря» і «ре». Пасля блукання па пакутах творца вырашае пакінуць грэшную зямлю і растварыцца ў Космасе, а затым ужо на нязнаных далёкіх планетах забыцца на «баі з-за месцаў і аб'едкаў». Сатырычны твор Алеся Салаўя прыадчыняе заслону над падзеямі, якія адбываліся ў акупаванай фашыстамі Беларусі. Аказваецца, не так лёгка было людзям пры новай уладзе захаваць сябе, свой нейтралітэт, проста выжыць. А размова пра мімікрыю тагачаснай інтэлігенцыі, якая імкнулася зрабіць кар'еру на часовым дазволе на беларусізацыю, заслугоўвае і сёння вялікай увагі, таму што і цяпер адбываюцца аналагічныя працэсы.

Паэзія Алеся Салаўя ўвогуле мае, як ужо гаварылася, літаратурны характар. Літаратурнасць кідаецца ў

вочы адразу і вызначаецца то тонкім інтэлектуалізмам, выкарыстаннем традыцый сусветнай культуры, то зваротам да перакладчыцкай дзейнасці. Паэт імкнецца ажывіць найбольш складаныя і арыгінальныя вершаваныя формы, адрадзіць беларускі санет, занядбаны пасля Багдановічавых эксперыментаў, і спробу Уладзіміра Жылкі, Аркадзя Моркаўкі, Уладзіміра Дубоўкі і іншых паэтаў першай трэці XX ст., напоўніць яго новым зместам.

На фоне агульнай зарыентаванасці на выкарыстанне кніжных традыцый выдзяляецца верш паэта «Маці сына чакае з вайны» (1942), напісаны ў лепшых традыцыях беларускай народнай (па светаадчуванню і форме) творчасці. Маці звяртаецца да сына, магчыма, забітага на вайне, з просьбай прыйсці паглядзець, як ёй адной «цяжка жывецца». Для яе ён — «сынку родны, саколік», а сама маці (які цудоўны вобраз-дэталь знойдзены аўтарам!) — «быццам колас забыты, адна». У другой частцы верша гучыць слова самога аўтара, які пераконвае маці, што сын ніколі ўжо не вернецца дадому, бо забіты. У традыцыях фальклору з'яўляюцца адпаведныя вобразы-дэталі, якія характарызуюць і месца смерці воіна, і самога нябожчыка: «На прасторах далёкіх, чужых, пад зялёнай пахілай ракітай, на траве нежывы ён ляжыць там, палаткай паходнай накрыты».

Некаторыя вершы Алеся Салаўя, датаваныя 1941—1942 гг., сведчаць пра непрыняцце сталінскага казарменнага сацыялізму і яго супрацьстаянне камуністычнай ідэалогіі. З іх вылучаецца сваёй бескампраміснасцю твор «Беларусі»:

Нам жыццё было цяжкім прыгонам,<br>і канца не было той бядзе.<br>Чуў Святейшы з высокага трону<br>горкі плач і літанні людзей.

Па шырокіх прасторах раздольных<br>беларускіх лугоў і палёў<br>гаравалі грамады бяздольных<br>паднявольных калгасных рабоў.

Не прыняўшы сталінскую тыранію, як і многія іншыя пісьменнікі, якія пісалі пры немцах, паэт спачатку спадзяваўся на літасць другой тыраніі — фашысцкай. Але ўжо ў 1943 г. адбылося прасвятленне і з'явіліся трагедыйныя творы, сярод якіх «Расцалаваў я алавік...» з

інвектываю — «Абмые неба хай дажджамі і пахаваюць хай... сабакі». Адзінае, што застаецца паэту-беспрытульніку,— быць жывым шкілетам удзень, а ўночы — зданню. І вось ён займаецца тым, што збірае вакол сябе чарцей, ведзьмароў, бярэ ў рукі касу і скача «па скошаных галовах» («З таго свету»). А ў вершы «Стаўся ўсюды госцем выпадковым», напісаным у 1944 г. у Лібаве, творца як бы падсумоўвае свае назіранні над асабістым лёсам і лёсам такіх, як ён, бесхацінцаў:

Стаўся ўсюды госцем выпадковым.
Дзе ні ступіш — ля чужых варот.
На дарозе ўбачыў я падкову,
а ляжыць яна наадварот.

У Еўропу з Азіі сабраўся,
не даехаў — выгналі назад.
Пэўна, спераду ящчэ бяда ўся,
бо падкова — перадам у зад.

Што мяне спаткае — невядома.
Непамысныя вакол сляды.
Ці назад, ці ўперад — ты не дома.
Словам — ні туды і ні сюды.

У паэтычным эпасе палітычная, грамадская біяграфія Алеся Салаўя раскрываецца больш выразна, як, дарэчы, і яго грамадзянская пазіцыя. Мы бачым, што ён не можа даравадь ні бальшавікам, ні фашыстам здзеку з народа.

Паэмы «На хуткіх крыллях вольнага Пегаса» (1943), «Звіняць званы Святой Сафіі» (1946), «Домік у Менску» (1944—1945), «Сын» (1947) розныя ў жанравых адносінах, пераважна лірыка-філасофскія, не пазбаўленыя рыторыкі і абстрактнай публіцыстычнасці.

Паэма «На хуткіх крыллях вольнага Пегаса» была надрукавана ў часопісе «Новы Шлях» (1943, № 23 (35)), у рэдкалегіі якога працаваў паэт. Гэты твор найбольш аўтабіяграфічны і злосны ў адносінах да тых, хто прычыніў яму незлічоныя пакуты, рэпрэсіраваў бацьку, самнасам пакінуў з бядой. Ужо ў прысвячэнні паэт закранае гэтую балючую тэму, звяртаючыся да свайго народа. Паэма пачынаецца з лірычнага паслання крывіцкаму народу. Яна як бы саткана з усплёскаў і выдыхаў пачуцця і ласкі, трывогі і роспачы, мужнай упэўненасці, што ўсё ў родным краі наладзіцца. У творы вядзецца лірыка-філасофская споведзь, маналог чалавека, у яко-

га, адрынутага, адарванага ад Радзімы, прасвятлілася і абвастрылася памяць. Паэма складаецца з асобных успышак-выбухаў высокаснага, шчымлівага пачуцця — так можна вызначыць яе жанравыя прыкметы. Нельга, чытаючы твор, заставацца раўнадушным, сорамна не чуць паэтавага болю, не бачыць, што ён — пакутнік не па сваёй волі, распяты нізавошта. І разам з тым нязломны, моцны духам:

> Нікому дум маіх не ўзяць на засаў,
> пакуль жывуць — усякі змогуць час.
> Пакуль жыццё у сэрцы не пагасла,
> хачу радзіму ўбачыць шчэ хоць раз.

А паглядзіце, якія трапныя мастацкія дэталі знайшоў аўтар, каб адкрыць чытачу невымернасць болю адчужанага ад роднай старонкі чалавека: «На грудзі камень-жоран ціснe, млён свідруе сэрца жорстка і балюча», «Даўно не бачыў вас. У дальняй зморы мне кожны месяц быў даўгі, як год».

У 13—16-м раздзелах паэмы паэт расказвае пра трагедыю народа пад Сталіным і яго наймітамі, ледзь не дакументальна акрэслівае, як каты распраўляліся са сваімі ахвярамі, як сціскалася пятля і на яго шыі:

> Я быў з дзяцей старэйшы — меў тады
> пятнаццаць год. Са мной — шчэ трое ў хаце —
> сястра, браты... Ні хлеба, ні вады...
> Ну, вось і ўсё... Да гэтага няшчасце,
> і холад ґрызкі — дзень не без бяды,
> і недавер вакольны, і пракляцце
> без дай прычыны — на усе лады.

Раздзелы 16—22 — пра Крыўю, радзіму, пра барацьбу за яе волю, будучыню. Паэт бачыць свой край пад чужынцам-манголам, які, «акрывавіўшы зямлю, нікім, нікім не прошаны, не званы, айчыну найдарожшую маю злачынна нішчыць гвалтам нестрыманым».

Паэма заканчваецца радкамі, у якіх выказваецца вера ў светлую зорку Крыўі. Апошнія строфы твора публіцыстычна-рытарычныя, складаюцца з лозунгавых дэкларацый, агульных разважанняў і заклікаў. Больш удаліся аўтару раздзелы, звязаныя з успамінамі пра дзяцінства, пра асабіста перажытае і перанесенае ў жыцці.

Варта адзначыць, што ўжо ў ваенныя гады паэма прыадчыняла заслону сакрэтнасці над сталінскай палі-

тыкай, следам за творам Францішка Аляхновіча «У кіпцюрах ГПУ» адкрывала тэму рэпрэсій і іх вынікаў.

Паэма «Звіняць званы Святой Сафіі» выдадзена ў Аўстрыі, у Зальцбургу на сродкі аўтара. Потым яна перадрукоўвалася ў газеце «Беларускі Эмігрант» (1948, № 3). Паэма прысвечана Юрку Віцьбічу — вядомаму пісьменніку, дзеячу беларускага нацыянальнага адраджэння. Твор лірыка-маналагічны, прасякнуты ідэяй неўміручасці барацьбы народа за свабоду. Сімвалам няскоранасці ў гэтай барацьбе з'яўляюцца ў паэме званы Святой Сафіі:

Звіняць званы Святой Сафіі —
гамоніць збуджаная даль.
І рвуцца путы векавыя,
і ломіцца кайданаў сталь.

У канцы паэмы аўтар выказвае жаданне вярнуцца ў той край, адкуль даносяцца званы.

Даволі цікавая і паэма Алеся Салаўя «Домік у Менску». Напісана яна ў гады вайны. Выспеўшы з успамінаў пра пакінуты ў горадзе юнацтва дамок, пра назаўсёды страчанае каханне, паэма ўяўляе даволі шырокае эпічнае палатно пра шляхі-дарогі чалавека і чалавецтва на зямлі, пра пакінуты край і невыносны сум аб ім, пра раскрыжаваную радзіму. Гэта ліра-эпічная паэма, адзіная ў спадчыне паэта. Асабліва кранаюць у ёй радкі пра адзіноцтва бяздомнага чалавека, пра горкі хлеб чужыны:

Як шоўк — ля дому на двары
краса мураваў аксамітных.
Як жвір — заморскія каўры
маіх прытулкаў невыбітных.

Ля дому ў пуні моцны сон,
як пух — і сена, і салома.
Як грант — чужы начлег-прыгон,
не адпачынак — толькі ўтома.

Паэма прасякнута сапраўдным болем сына за сваю страчаную радзіму. І асаблівая чуйнасць гэтага болю акрэсліваецца параўнаннямі-антонімамі — удала падабранымі, гаваркімі. Трагедыйнае гучанне працытаванага ўрыўка падмацоўваецца таксама анафарай, у ролі якой выступаюць тропы.

Высокая інтэлектуальная культура Алеся Салаўя выяўляецца ў глыбіні і філасафічнасці мастацкага мыслення паэта, аб чым сведчаць многія творы, якія ўвайшлі ў зборнікі «Мае песні» (1944), «Сіла гневу» (1948), у

падрыхтаваную да друку кнігу «Несмяротнасць» (1949—1952), што перад гэтым друкаваліся ў перыёдыцы — замежных беларускіх часопісах і газетах «Бацькаўшчына», «Баявая Ускалось», «Конадні», «Беларус» і іншыя ці засталіся ў рукапісах. Гэта затым увайшло ў пасмяротна выдадзеную кнігу «Нятускная краса»:

У гэты час, калі ўсясвету зоры
мігаюць нам — у дол, у цішыню,
наш розум ёсць уздымны і празорны,
узносіць нас далёка ў вышыню.

Надыдзе ноч — прастораў там азёры;
і скажам так наступнаму мы дню:
вяртаемся да тых зямных крыніцаў —
там — толькі ж там жыццём усім напіцца.

Прыкмета інтэлектуальнасці ці, скажам так, літаратурнасці паэзіі Алеся Салаўя заключаецца і ў пастаяннай арыентацыі аўтара на традыцыйныя, сталыя жанры і жанравыя формы — санет, рандо, актаву. Пра гэта ж сведчыць і яго перакладчыцкая дзейнасць — ім пераствораны на беларускую мову філасофска значныя творы М. Рыльке, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча.

Як ужо адзначалася, Алесь Салавей пісаў і сатырычныя творы, у тым ліку і фельетоны. У кнізе «Нятускная краса» змешчана і празаічнае апавяданне «Белы снег», што публікавалася ў «Менскай газэце» (20 студзеня 1942 г.) пад псеўданімам Тодар Быльнюк, а пасля перадрукоўвалася ў многіх эмігранцкіх выданнях. Па асноўнаму пафасу, глыбіні філасофскай думкі — белы снег усё зло прыкрые, ачысціць зямлю ад скверны — згаданае апавяданне блізкае да прозы Максіма Багдановіча. Фельетон «Маналог сабакі» друкаваўся ў «Бацькаўшчыне» № 20—21 (202—203) ад 30 мая 1954 г. пад псеўданімам Тамара Залеская.

Кнігу «Нятускная краса» рыхтавалі да друку пасля смерці аўтара вядомыя свету беларускія грамадскія дзеячы-інтэлігенты за мяжой Антон Адамовіч (ён жа і аўтар пасляслоўя), У. Сядура, В. Тумаш, М. Скабей, З. Кіпель, Я. Запруднік і інш. Іх намаганнямі данесена да чытача паэзія таленавітага сына беларускага народа, збіральніка і ахоўніка нашых культурных скарбаў:

Багатая Крыўі матуля-зямля
мяне, чым змагла, надарыла:
дала мне і голас і ўзлёт салаўя,
дала мне Пегасавы крылы.

*Арсень Ліс*

# ПАЭЗІЯ ХВЕДАРА ІЛЛЯШЭВІЧА

Спачатку суб'ектыўны штрых. У маладосці мне ўдалося пазнаёміцца з усёй заходнебеларускай літаратурай. Кажу «ўсёй» таму, што добрая палавіна яе на той час была выкраслена, або, як даўней казалі, «выкасавана», з гісторыі нашай духоўнасці, атулена такой глухой заслонай, нібыта яе зусім не існавала ў жыцці. Калі гаварыць аб яе апальных у вачах пануючага рэжыму прадстаўніках паімённа, то набярэцца больш дзесяці літаратараў. Гэта перш-наперш крытык і самавіты публіцыст Антон Луцкевіч, філосаф і крытык Уладзімір Самойла, паэт і філосаф Ігнат Канчэўскі, драматургі Леапольд Родзевіч і Францішак Аляхновіч, паэтэса Наталля Арсеннева, паэт, празаік і перакладчык Макар Краўцоў, паэт і публіцыст Сяргей Хмара, беларусазнавец шырокага профілю Адам Станкевіч, паэты Анатоль Бярозка, Франук Грышкевіч, Хведар Ілляшэвіч... У пераважнай большасці гэта буйныя імёны, без якіх нельга ўявіць аб'ектыўнай карціны той духоўнай напрацоўкі, творчай спадчыны, што пакінуты 20—30-мі гадамі на ніве Заходняй Беларусі. Некаторыя з іх па розных, пераважна палітычных, матывах вымушаны былі жыць і працаваць па-за межамі Беларусі, у эміграцыі.

Да такіх колішніх заходнебеларускіх літаратараў адносіцца і Хведар Ілляшэвіч. Хоць з вершамі ў друку Хв. Ілляшэвіч пачаў выступаць рана, яшчэ будучы вучнем Віленскай беларускай гімназіі, стала працаваць у літаратуры ён стаў у 30-я гады. У той час, калі несумненным лідэрам беларускага краснага пісьменства ў Заходняй Беларусі выразна вызначаўся Максім Танк, або Яўген Бура (першы літаратурны псеўданім паэта). Сярод магутнага патоку Танкавай паэзіі на старонках

«Калосся», «Маладой Беларусі», «Беларускага летапісу» і іншых перыядычных выданняў, цэлых цыклаў вершаў і паэм М. Машары строфы Хведара Ілляшэвіча займалі адносна сціплае месца. Аднак яму нельга было адмовіць у адметнасці паэтычнага светаадчування і вобразнага выказвання. У наяўнасці хоць і не шырокага паэтычнага дыяпазону гучання, але самаістага голасу. І што падкупляла ў Хв. Ілляшэвіча і на першы погляд магло паставіць яго нават перад Наталляй Арсеневай, індыферэнтнай у заходнебеларускі перыяд яе творчасці да грамадзянскіх матываў, дык гэта ягонае бачанне лёсу свайго народа ў кантэксце гістарычных катаклізмаў, прасякнутасць яго паэтычнага слова беларускімі злыбедамі. А адчуваліся яны не толькі ў выснаваных паэтам радках, але ў самой танальнасці яго вершаў.

Дарэмна спрабаваў абвінаваціць Хведара Ілляшэвіча яго былы сябра па гімназіі, паэтычным цэху і Лукішках Алесь Салагуб, трапіўшы, праўда, у Саветы і прайшоўшы «навуку» ў вульгарных сацыёлагаў Бэндэ і Кучара, у адыходзе ад «пралетарскай скіраванасці паэтычнага слова». А тым часам Хведар Ілляшэвіч ад ідэалаў сваёй маладосці, а заключаліся яны ў свабодзе свайго народа, не адступаў. Пераацэньваў некаторыя каштоўнасці палітычнага плана, свайго камсамольскага юнацтва, але ў галоўным ад прынцыпаў не адступаў. Было цяжка. Трыццатыя гады навaліліся на беларускія шляхі непамерным цяжарам, здавалася, неадольнымі перашкодамі. Хведар Ілляшэвіч, не старонні назіральнік драмы свайго народа, уздымаўся над горыччу яго страт і паражэнняў, над уласным бяссіллем, каб прагаварыць да тых, хто не страціў адчування шляху нават у крывавых туманах:

Многа песняў згубілі мы ўжо —
Ўсё жыццё так складваецца неяк —
У наш песенны звонкі дажон
Вецер цвету нямала развее.
Што ж? Радзіліся ў час такі мы,
Калі поле слязьмі ўскаласіла.
Не злічыць нам на роднай зямлі
Неаплаканых песняў-магілаў.
І няведама колькі яшчэ
Абляціць на шляхох белацвету...
З кожным шагам цяжэй і цяжэй
І ў імгле ледзь віднеюцца мэты.
Але песню нясём мы адну

У ўраджайную даль Беларусі,—
песню яснаму, светламу дню,
што прыйсці да нас некалі мусіць.
Нам не жаль, што раскінулі ўсе
свае сны ў нетры жудаснай гэтай —
мы яшчэ прапяём у рассвет
аб цвітучых садах і палетках.[1]

У паэтычна-вобразным сэнсе працытаваны верш не вельмі тыповы для творчасці Хв. Ілляшэвіча. Ён зусім, што называецца, «празрысты», не зіхаціць метафарамі. У той час як цяга да метафарычнасці, павышаная цікавасць да вобразнай матэрыі верша былі вельмі ўласцівы Ілляшэвічу-паэту. Ён быў вельмі ўважлівы да пошукаў і знаходак рускіх сімвалістаў і асабліва імажыністаў. Быў досыць гарачым прыхільнікам С. Ясеніна, нават прысвяціў яго ўплывам на заходнебеларускую паэзію спецыяльны крытычны эцюд[2]. Трэба сказаць, што пагоня за вобразнасцю часам і магла здацца вычурнасцю, але беларуская народная глеба занадта моцна трымала паэта, каб ён мог дазволіць сабе адно забаўляцца рыфмай, цалкам аддацца пошукам форм. І былі ў Хв. Ілляшэвіча, у яго імкненні вобразнага прачытання, так бы мовіць, знакаў зямлі сапраўдныя знаходкі. Як, напрыклад, вобраз камення на полі, што асацыіруецца ў паэта з вобразамі ўпалых, стомленых цяжкай працай жней:

Расшумеліся ветры на прасторы ў полі,
На прасторы ў полі, ў цёмным лесе-бары.
Разрываюцца хмары ў безбярэжжы-прыволлі,
Ў гэтай далі-бязмежжы балатоў, азярын.
На ўскалошаным полі, на прасторы шырокім
Упаду на зямлю я, упаду проста ніц,—
Паплыву ў хвалях шуму з-пад палёў беластоцкіх
Да дняпроўскіх лугоў, аж да слуцкіх пшаніц.
Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах
Рассыпаў нехта слёзы і у змрок галасіў.
Мне так часта здаецца ў жаўцеючы вечар,
Што каменне на полі — гэта жнеі без сіл.
Распляліся іх косы і апалі прыгожа,
Вецер з рук абамлелых не развеяў ім сны
І яшчэ замірае спеў працяжны на пожні
З тых гадоў, калі ў жыце упалі яны.
Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах

---

[1] Калоссе, 1938. № 3 (16). С. 129.

[2] Х. І. Ясенін у беларускай паэзіі // Вучнёўскі звон. 1930. № 1. С. 3—5.

Беларуская доля зацвітала нярaз,
Як адлівам пажараў над аўсамі, над грэчкай
Чорнай ноччу займалася, палымнела зара.

Верш вытрыманы ў энергічным рытме, у якім, аднак, адчуваецца непераадоленне нейкага душэўнага цяжару. Твор заканчваецца ўнутраным зваротам да братоў-песняроў, да сябе:

Трэба ў ветру парывах настроіць нам гуслі,
У жытах яго буйную волю скасіць.
З-над палёў, дзе дым сцелюць Беласток і Супрасль,
Аж да слуцкіх пшаніцаў калоссе шуміць. [3]

Як не ўздымаецца паэт над горыччу грамадскіх дасведчанняў другой паловы 30-х гадоў, над задухай заходнебеларускай рэчаіснасці гэтага часу, пазбегнуць элегічнага настрою ў вершах яму не ўдаецца. Ён прарываецца і ў інтымнай, і ў пейзажнай лірыцы:

Дзень павіс шэрай хусткай на плоце:
ой, у полі мгляно, мгляно,
ў вёсцы нават ніхто не малоціць,
дождж імглой шалясціць у акно.
Дзе ні глянь — адно возера белі,
быццам недзе мой край патануў.
Цяжка так неадрыўна кудзеліць —
выглядаць у тумане вясну. [4]

Лірык па прыродзе таленту, адкрыты на ўсялякае людское перажыванне, чуйны да грамадскай атмасферы свайго часу, Хв. Іляшэвіч у сваіх вершах перадваеннага дзесяцігоддзя інакшым быць і не мог. Усе яны ў той ці іншай меры нясуць на сабе сляды перажыванняў асобы сацыяльнай. Сум іх — сум грамадзянскі. Вытокі яго — у жыцці народа, у яго суровым бытаванні над чужой уладай. У вершы «Столькі песняў» паэт прама гаворыць аб прычыне смутку, міжволі разлітага ў яго песенных радках. Адначасна ім даецца досыць яскравы і адэкватны рэчаіснасці вобраз вясковай Беларусі (Заходняй) передваеннага часу:

...Мне б хацелася песняй аб шчасці
узбуяніць наш родны прастор —
Ўчора хлопчык Валодзя прадчасна
ў душнай хаце сялянскай памёр.

---

[3] Калоссе. 1938. № 3 (16). С. 154.
[4] Тамсама. С. 155.

Ў гэтых хатах, занесеных снегам,
вецер ноту камячыць адну —
у махорачны дым, з нейкім гневам
словы цэдзяцца... ўсё пра вайну.
Ў цемру ночы агні гэтых сёлаў
замятуха вуголлем мяце...
Так цяпер, Беларусь, не вясёла
для тваіх беспрытульных дзяцей.
Жыць агоркла у чорным горы,
ў снежнай далі лічыць крыжы...
І ніяк з-за палёў, загор'я
сіні золак не набяжыць. [5]

Вёска і горад, канкрэтна Вільня,— дзве сферы, дзе амаль аднолькава роўна абяртаецца лірычны герой Хв. Ілляшэвіча, адкуль бярэ ўражанні — імпульсы творчасці сам паэт. Рэаліі вясковага і гарадскога жыцця, прапушчаныя праз душу паэта, і ёсць крыніца яго думак, сталіся элементамі моўна-вобразнай формы — паэтыкі. Вёска, праўда, асэнсоўваецца Хв. Ілляшэвічам не сама па сабе са сваімі праблемамі, а ў кантэксце ўсяго беларускага жыцця, сучаснага і мінулага. Яна, з аднаго боку, настройвае музу паэта на прыўзняты лірычны лад, з другога — кліча да рэфлексіі, да одуму аб краі, дзе шляхі «ніводнай слязою нязрошаны»:

Абрусом рассцілаецца поле ізноў,
ператканае сонцам і зеленню.
Доўга, доўга калышыцца скрып званякоў
ў далі цветам вішнёвым забеленай.
Тыя ж песні, што чуў яшчэ хлопцам малым,
і цяпер звіняць — недапяяныя.
І ў іх жалю ўсё той беларускі палын
недапіты дзедамі-падданымі.
Як раней, у вячэрні, мгляны небасхіл,
стада стрэх плыве недзе на россашы —
нібы ў просіні той, дзе бярозаў шляхі,
край ніводнай слязою нязрошаны. [6]

Ёсць у Хв. Ілляшэвіча другой паловы 30-х гадоў верш «Цымбалы», у якім адбіўся метафарычны роздум паэта над лёсам беларускага адраджэння. Носьбітамі-ўвасаблялънікамі ідэй у творы паэта выступаюць народныя музыкі — сімвалічныя вобразы прадстаўнікоў мастацтва наогул, яго стваральнікі, ахоўнікі духоўнай традыцыі народа. Ілляшэвіч сваім творам сцвярджае думку, што горад, калі не чужы, то, прынамсі, яшчэ абыякавы да

---

[5] Калоссе. 1938. № 1 (14). С. 19.
[6] Тамсама. № 2 (15). С. 76.

носьбіту беларускай ідэі. Паэт «абяцае» прыйсці яшчэ цэлай грамадой музыкаў-будзіцеляў, урачыста прынесці «цымбалы мнагазвонныя» і затапіць «жудзь вякоў у пене струн». Прыйсці такой пяснярскай талакой, каб усе народы пачулі іх ігру, іх голас, голас беларускі, душу беларускую. Дазволю сабе на гэты раз злоўжыць даўжэйшай цытатай, каб даць паўнейшае ўяўленне аб гэтай аптымістычнай пры канцы, праяснёнай элегіі:

Тады, я памятаю, ў вуліцах аквечаных
ішлі ў сярмагах вы, ў святочны дзень якраз.
Ніхто не згатаваў вам гучнае сустрэчы,
ніхто не кінуў нават кветкаю у вас.
І з пальцаў вашых анясмеленых
цымбалаў ураджайны хмель
і скрыпак сок рабінавы не ўсніўся вяселлем
і не буяніў брук, як хлопцы у сяле.
Віно вясковае у струнах зачараваных
Вы паняслі назад пад крык хрыплівых труб.

У беларускія шумлівыя дубровы,
дзе разлівае рэха вашых струн тугу.
Зарана вы прыйшлі.— Над роднымі загонамі
не ссыпаўся яшчэ нядолі жоўты ліст,
яшчэ ўсё сумным тонам ў лесе, у сасновым
хтосьці плача, як калісь...
Зарана вы прыйшлі.
Як пойдзем з тварамі сур'ёзнымі
ў расплаўленую песняй звонкай даль —
развесім сонца мы над кожнаю бярозай,
раззвонім струны аж да снежных Альп.
Урачыста панясём цымбалы мнагазвонныя,
затопім жмудзь вякоў у пене струн,
і будуць слухаць з падпёртай галавою
усе народы нашую ігру. [7]

Паэт, кажучы фігуральна, не пасыпае галаву попелам, не збіраецца, а каб і хацеў, то не здолеў бы, уцячы ад беларускай рэчаіснасці 30-х гадоў у краіну мар, схавацца ў вежы са слановай косці. Яго лірыка гэтых сумных і стратных гадоў аб'ектыўна адлюстравала дыялектыку самога жыцця народа гэтага часу, дыялектыку перажыванняў песняра. Ад усяго, што бачыць у рэчаіснасці, паэт не дае сабе патануць у роспачы, затуліць твар у высокі каўнер манто. Ён зноў і зноў мабілізуе ўсю сваю духоўную істоту на служэнне тым высокім ідэалам волі народа, якія з юнацтва надалі сэнс яго

---

[7] Калоссе. 1938. № 4 (17). С. 196.

жыццю, сталі пуцяводнай зоркай на жыццёвай дарозе:

У бездарожжы блукацца даволі,
Абтрасу я з вачэй цяжкі сон
і ізноў загаруся на волі
у агні ап'янеючых дзён.
Годзе ў песнях туляцца нядолі,
што вякамі цярпелі дзяды.
Выйду раннем у роднае поле,
расспяваю задор маладны...[8]

Гэта ўжо зусім маладняковускія настроі, маладняковускі матыў з элементамі дэкларатыўнасці, толькі на заходнебеларускі лад.

Але, здаецца, час заглянуць у саму рэчаіснасць Заходняй Беларусі, яе атмасферу, тонус, каб паўней зразумець лірычную споведзь пра час і сябе аднаго з яе песняроў. Трэба сказаць, што яны ў беларускай гістарыяграфіі заідэалагізаваны і схематызаваны. Патрэбны погляд, больш адэкватны падзеям і фактам заходнебеларускага дваццацігоддзя. Не прэтэндуючы на поўны палітычна-грамадскі, духоўны вобраз Заходняй Беларусі, паспрабую накідаць яго ў агульных абрысах. Якраз Заходняй Беларусі 30-х гадоў, моцна адметных ад вобраза Беларусі папярэдняга іх дзесяцігоддзя.

Калі 20-я гады ішлі пад знакам станаўлення, прынамсі, ва ўсходняй частцы Беларусі, дзяржаўнасці, бурнага культурнага развіцця паабапал Рыжскай мяжы, кансалідацыі нацыі, то з канца 20-х, асабліва пачатку 30-х гадоў, адбыўся трагічны рэгрэс у гісторыі народа. Ён абазначыўся дзесьці з 1927 г. у падпольскай Заходняй Беларусі, калі ўрад Пілсудскага-Мейштовіча абрушыў на масавы вызваленчы рух, што развіваўся ў легальных формах Беларуска-сялянска-работніцкай грамады, рэпрэсіі і забароны. І з асобай сілай праявіўся з 1929—1930 гг. у Савецкай Беларусі, дзе пачаўся фактычна дзяржаўны тэрор супраць сялянства і беларускай інтэлігенцыі. Аўтарытарны рэжым Пілсудскага і таталітарызм Сталінскай імперыі аказаліся тымі жорнамі, што сталі сістэматычна і планава перамолваць старажытную з паходжання, але толькі што адроджаную пасля двухвекавога заняпаду беларускую этнасупольнасць. Першыя атакі ідэалагічнай крытыкі на беларускае адраджэнне абазначыліся ў 1927 г. у выступленнях

---

[8] Маладая Беларусь. Вільня, 1936. С. 24.

Вільгельма Кнорына. З лета 1930 г. пачаліся заплана-
ваныя масавыя рэпрэсіі супраць беларускай навуковай
і мастацкай інтэлігенцыі пад выглядам барацьбы з бе-
ларускім падполлем (так званая справа «Саюза вызва-
лення Беларусі»). У 1933 г. адбылася новая, больш маш-
табная акцыя органаў АДПУ супраць беларускіх
палітычных дзеячаў, у тым ліку прыбыўшых як паліт-
эмігранты з Польшчы лідэраў Кампартыі Заходняй Бе-
ларусі, рэвалюцыйна-дэмакратычных партый і аргані-
зацый — БСРГ, «Змаганне», а таксама літаратараў, на-
вукоўцаў, якія заставаліся неарыштаванымі ў 1930 г.

Як і справа «СВБ», гучна названая акцыя 1933 г.
«Беларускі нацыянальны цэнтр» не мела публічнага су-
довага выражэння.

Затым ішлі пад розным надуманым арганізатарамі
тэрора палітычна-юрыдычным афармленнем арышты
1936, 1937, 1938 гг., у выніку якіх былі канчаткова раз-
громлены Беларуская Акадэмія навук, Беларускі наву-
кова-даследчы Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі,
універсітэт, Беларуская сельгасакадэмія ў Горках, нар-
каматы земляробства і асветы. Былі арыштаваны, апы-
нуліся ў лагерах або расстраляны дзесяткі тысяч на-
стаўнікаў, аграномаў, прадстаўнікоў савецкай улады ў
сярэднім і ніжнім звяне. Быў цалкам знішчаны нацыя-
нальна свядомы элемент у партыі, камсамоле, арміі.

Польскія гаспадары беларускіх зямель на захад ад
Мінска, якія не маглі не сачыць за зменай нацыяналь-
най палітыкі Саветамі (Сталіным), рэагавалі з разу-
меннем сваіх палітычных апанентаў. На рэгіянальным
з'ездзе парламентарыяў урадавага блока дэпутат
Ст. Мацкевіч так акрэсліў падыход да беларусаў у
Польшчы: «... Беларускае пытанне з'яўляецца для Поль-
шчы не столькі задачай яе ўнутранай палітыкі, колькі
праблемай у пэўнай меры міжнароднай: адносіны да
яго з боку Польшчы залежаць ад таго, як паставяцца
да беларускай справы Саветы...» [9] Выказванне аднаго з
дзеячаў эндэцыі (партыя польскіх нацыянальных дэма-
кратаў) грунтавалася на рэальным стаўленні польскіх
улад да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху —
Адраджэння. Для польскага ўрада Пілсудскага-Барта-
ля змена курсу ў СССР на сто восемдзесят градусаў у

[9] Sulima. Nowy i «najnowszy» kurs polityki polskiej w sprawie białoryskiej. Wilno, 1933. S. 27—28.

дачыненні да нацыянальных меншасцей імперыі была пэўным знакам. Цяпер можна было не аглядацца на аргументы суседа, нявыгадныя Польшчы ў вачах Захаду. Цяпер можна было ціха, без шуму рабіць тое ж: праводзіць дзяржаўную палітыку асіміляцыі, падаўляць усе праявы апазіцыйнай думкі, без лішняй аглядкі на тое, што гэта прывядзе да поўнага знішчэння дэмакратычных асноў дзяржавы, традыцыйнага польскага дэмакратызму, якім час ад часу не міналі пахваліцца польскія дзеячы.

Калі да 1930 г. кожны палітычна свядомы беларус на захад ад Рыжскай мяжы ўглядаўся на Мінск як на маяк надзеі, дзе паводле агульнапрынятага выслоўя «будуецца Беларускі Дом», то падзеі 30-х прывялі заходнебеларускую інтэлігенцыю ў недаўменне, роспач. Частка яе, у тым ліку і людзей творчых, не навічкоў у палітыцы, пачала шукаць кампрамісу, пагаднення з прадстаўнікамі польскай улады. Яны ведалі аб устаноўцы польскіх урадавых чыннікаў на дэнацыяналізацыю беларусаў, але, прынамсі, палякі не ішлі на фізічнае знішчэнне беларускай інтэлігенцыі. Заставалася ў яе і натуральнае заплечча, сталы грунт, хоць сацыяльна маламоцны,— сялянства. У канцы 1929—1930 г. у Вільні была зроблена спроба сабраць разгромленыя беларускія адраджэнскія сілы, апошнім часам моцна дыферэнцыраваныя, пад адзін нацыянальны сцяг. Ініцыятыву на сябе ўзяла група інтэлігенцыі на чале з А. Луцкевічам, якая пачала выдаваць газету «Наперад». Быў створаны «Цэнтральны саюз беларускіх партый і арганізацый», або скарочана Цэнтрасаюз. У яго ўвайшлі некаторыя культурна-грамадскія дзеячы, хто-ніхто з былых радыкалаў, грамадоўцаў. На Цэнтрасаюз як на згоднікаў, гатовых прадаць за дробныя ўступкі ўрада ў сферы асветы вышэйшыя сацыяльныя і нацыянальныя ідэалы, глядзелі камуністы і беларускія хрысціянскія дэмакраты. А наогул трагедыя народа, інтэлігенцыі на ўсходзе вельмі балюча адбівалася на Заходняй Беларусі, з якой сотні тысяч моладзі падаліся праз «зялёную граніцу». Прыпыняліся чалавечыя, сваяцкія, духоўныя сувязі паміж дзвюма часткамі трагічна раздзеленай зямлі. У заходнебеларускай грамадскай атмасферы 30-х гадоў панавалі дэзарыентаванасць, разгубленасць, прыгнечанасць. Нацыянальная кансалідацыя ішла хіба толькі на ўзроўні асобных палітычных груповак. Затузаная з

Мінску (а ў Мінску ў той час было тое, што ў Маскве) не магла спрыяць нацыянальнаму выжыванню ў Заходняй Беларусі Кампартыя, якая ў 20-я гады садзейнічала, прынамсі, левай плыні нацыянальна-вызваленчага руху не толькі на словах. Цэнтрасаюз з усіх бакоў сцябалі за лаяльнасць да рэжыму «ўгоду», якая ва ўмовах нацыянальнага і сацыяльнага ўціску з боку ўлады сама па сабе ўспрымалася як зло, а не як здаровы сэнс, як тлумачылі сваю пазіцыю цэнтрасаюзы. Орган Цэнтрасаюза «Беларускі звон» (1931—1933) званіў глуха, без шырэйшага водгуку з палёў. На фоне збанкрутаваных ідэй арыентацыі на Мінск у пэўнай меры выйгравалі беларускія хадэкі. Яны пагардліва адпіхнулі руку КПЗБ, працягнутую ўсім дэмакратычным сілам з заклікам тварыць Народны фронт супраць узрослай пагрозы фашызму. Хадэкі стварылі літаратурна-навуковы і палітычна-грамадскі часопіс «Калоссе», які стаў выхадам-аддушынай для духоўных творчых сіл Заходняй Беларусі 30-х гадоў. Пад іх уплывам знаходзілася групоўка незалежніцкай моладзі, што гуртавалася вакол часопіса «Шлях моладзі» (1929—1940). Аднак шырокага ўплыву ў масах хадэкі не дамагліся. На гэта былі аб'ектыўныя прычыны.

Некалі найбольш моцная сярод беларускіх палітычных аб'яднанняў Партыя беларускіх сацыял-рэвалюцыянераў пад уплывам поспехаў культурна-нацыянальнага і дзяржаўнага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі ў 1924 г. самараспусцілася. Замежная яе група на нейкі час замерла, а з сярэдзіны 30-х гадоў у Вільні пачаў выходзіць орган маладой беларускай сацыялістычнай думкі часопіс «Золак». Маладыя беларускія эсэры сталі пры сцягу прафанаванага, на іх думку, сацыялізму і беларускай ідэі. Спадчыннікі грамадаўскага руху трымаліся каля культурна-грамадска-асветнай арганізацыі Таварыства беларускай школы, якое і ў цяжкія 30-я гады нямала рабіла для пашырэння беларускай асветы і нацыянальнай свядомасці. Часопіс «Беларускі летапіс» і газета «Наша воля» былі трыбунай не толькі дэмакратычна, але і радыкальна настроенай інтэлігенцыі, выданнямі, апазіцыйнымі рэжыму. Апошняе прадвызначыла лёс «Нашай волі», якая існавала зусім нядоўга.

А як жа выглядала практычная палітыка польскага ўрада ў дачыненні заходніх беларусаў у 30-я гады? Перш-наперш, згодна са сваёй каланіяльнай стратэгіяй,

урад умацоўваў асаднікаў, польскіх каланістаў на ўсходнім сваім рубяжы, імкнуўся пашырыць свае ўплывы на вёску праз розныя арганізацыі тыпу «Koło młodzieży wiejskiej «Strzełec» і інш. На працягу некалькіх гадоў былі закрыты беларускія гімназіі ў Нясвіжы, Радашковічах, Навагрудку, якія складалі прыкметныя беларускія асветна-грамадскія асяродкі. Далей закрываліся пачатковыя школы, ліквідаваліся гурткі ТБШ і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, аж пакуль у 1936 г. гэтыя дзве асветна-культурныя арганізацыі не былі забаронены зусім. Канфіскаваліся паэтычныя зборнікі заходнебеларускіх паэтаў М. Танка і М. Машары. Улады дадумаліся да судовай расправы над беларускім букваром С. Паўловіча «Першыя зярняткі». У 1934 г. на заходнебеларускіх землях, у Картуз-Бярозе, быў створаны першы ў Польшчы канцэнтрацыйны лагер. Палітычны рэжым даваеннай Польшчы набываў таталітарысцкія рысы. Вось такі ў цэлым вобраз жыцця Заходняй Беларусі 30-х гадоў.

Але, здаецца, час пасля гэтага не з суб'ектыўных прычын змрачнаватымі фарбамі накіданага гістарычнага фону вярнуцца да паэзіі Хв. Іляшэвіча. Будзе больш зразумелы душэўны крызіс паэта і галоўны лейтматыў яго творчасці 30-х гадоў, выказаны ў словах «з кожным годам цяжэй і цяжэй і ў імгле ледзь віднеюцца мэты». Духоўны крызіс, перажыты не адным Хв. Іляшэвічам, у творчасці яго тым больш прыкметны, што пачыналася яна ў іншую эпоху і мела акрэслена мажорную танальнасць. Паэзія Хв. Іляшэвіча 20-х гадоў у пэўнай меры кантрастуе з яго далейшай творчасцю, як і само жыццё Заходняй Беларусі. 20-я гады, асабліва іх сярэдзіна, былі вясной беларускага адраджэння. І Вільня 20-х была асяродкам яго вялікага духоўнага вогнішча.

Хв. Іляшэвіч прыйшоў у Віленскую беларускую гімназію на самым пачатку 20-х гадоў, калі там яшчэ працавалі такія апосталы беларускага адраджэння, як Максім Гарэцкі і Аркадзь Смоліч, вядомыя дзеячы асветы Сымон Рак-Міхайлоўскі, Антон Грыневіч, Сяргей Паўловіч. У актавай зале гімназіі ладзіліся differentnatэмaтычныя вечарыны, чыталіся публічныя лекцыі, Беларуская драматычная майстроўня ставіла спектаклі. У ВБГ у гэты час вучыліся паэты-пачаткоўцы А. Салагуб, Н. Арсеннева, М. Парашковіч, маладыя мастакі Р. Семашкевіч, В. Сідаровіч, М. Васілеўскі. Гімназійная мо-

ладзь выдавала гектаграфічным спосабам ілюстраваны часопіс «Рунь», дзейсна ўдзельнічала ў часопісе «Маладое жыццё» (1921—1923). У гэтым апошнім і дэбютаваў Хведар Ілляшэвіч. Тут ужо друкаваўся яго старэйшы брат Мікалай, які пазней паступіць у Пражскі універсітэт, выдасць у сталіцы Чэхаславакіі брашуру «Беларусь і беларусы» па-чэшску, а на звароце ў Вільню — «Кароткі нарыс псіхалогіі».

Браты Ілляшэвічы паходзілі з Пружан. У нейкі час сям'я перабралася ў Вільню, дзе бацька займеў сціплую пасаду паштальёна.

Сувязь з вёскай у вершах Хв. Ілляшэвіча праходзіць праз усю яго творчасць, выяўляючыся наглядна, паслядоўна. Месцам многіх яго твораў пазначана Пружана, як, згодна з мясцовай традыцыяй, трансфармуецца назва Пружаны. Даволі актыўна Хв. Ілляшэвіч стаў друкавацца з 1925 г. Вершы яго, падпісаныя ўласным прозвішчам, ініцыяламі Хв. І., псеўданімам «Малады», досыць часта друкуюцца ў грамадаўскай перыёдыцы — газетах «Жыццё беларуса», «Беларуская ніва», «Беларуская справа», а таксама ў постграмадаўскіх выданнях, такіх, як «Наша праўда», «Праца», «Права працы», «Сіла працы», «Сцяг працы».

Лірыка Хв. Ілляшэвіча 20-х гадоў сабрана ў першым зборніку паэта «Веснапесні», выдадзеным у 1929 г.

Ва ўступе, названым «Замест прадмовы», паэт выказвае сваё ідэйнае і мастацкае крэда. Яно заключаецца ў адмаўленні старой тэматыкі і старых ідэалаў, у пошуку новых вобразных формаў. Але лепш паслухаць пра гэта самога паэта: «Я думаю вобразамі, дзеля гэтага ў маіх вершах шмат недагаворанага. Галоўны тон іх — гэта трывожнасць сучаснай эпохі. Суадказна якраз гэтаму тону, які звініць, так сказаць, у цэнтральных вершах, я і назваў зборнічак «Веснапесні».

Яшчэ шукаю пераважна ў галіне формы. Старое не падабаецца. У беларускай паэзіі (зусім зразумела) пераважалі сумныя, невыразныя матывы і ідэалы. Новае пакаленне, вырасшае на грунце адраджэнскага ўздыму, нясе з сабой выразнасць і бадзёрасць. У навейшай беларускай паэзіі гучыць сонечны марш і для «новых» паэтаў настаў час скласці «Новы Апокрыф» [10].

---

[10] Ілляшэвіч Хв. Веснапесні. Вільня, 1929. С. 3. Далей даюцца спасылкі на гэтае выданне.

Здаецца, нешта падобнае дэкларавалі маладнякоўцы ў Савецкай Беларусі, толькі больш заклікалі Рэвалюцыяй ды рэвалюцыйнымі лозунгамі:

Мы маладыя,
Мы ўдалыя,
Мы брацця волі, сонца й дня!
Хай льюцца песні
Аб шчасці й долі —
І болей смеху, больш жыцця!

У такім духу вершам «Гвардыя» адкрывае паэт сваю размову з чытачом. Далей ідуць рабочыя матывы ў прамым сэнсе гэтых слоў. Назвы вершаў «Работнік», «Каваль», «За работай» непасрэдна аб гэтым гавораць. Сказаць, што аўтар іх пайшоў далей дарэвалюцыйных Хв. Чарнышэвіча і Ц. Гартнага, цяжка. Няма яшчэ глыбейшага прачытання ў працы і душы таго ж каваля, прадстаўніка рабочага класа ў вачах беларускай маладой паэзіі. Хоць асобныя штрыхі вобраза праглядаюць:

Чуеш стук? Гэта ў кузьні спацелы каваль
Куе жылістай, моцнай рукой.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ззяе горан ... жыццё і работа кіпіць...
Колькі песняў і шчасця ў грудзёх?!
Бі, каваль! Куй, каваль! Няхай ззяе, блішчыць
Твая кузьня ў чырвоных агнёх.

Чуецца ў вершах паэта радасць далучанасці да вялікай грамадскай справы, да барацьбы. І пачуццё падказвае яму непадробна шчырыя словы, народжаныя гэтай радасцю:

Родзяцца, творацца новыя дні,
Дні адраджэння зямлі,
Гэткія яркія, быццам агні,
А сведкамі гэтага — мы.

Але далей паэт зрываецца ў банальныя вобразы: «расхрэстаю грудзі для бур», «загінуў у стыхіі — бою», «але ўбачу лазур». Дэклараваць новыя думы і формы адно, а рэалізаваць «новы апокрыф» — штосьці іншае.

Нешта паэтычна існае мільгае ў роздуме паэта над мінулым Беларусі. Знойдзены імклівы і адначасна здатны на нейкае паглыбленне ў роздум рытм. Канкрэтныя гістарычныя падзеі як бы зашыфраваны і адно падаюць чытачу сігнал нейкімі мільгнуўшымі рэаліямі. Віхурны

одум заканчваецца аптымістычнай сентэнцыяй, якую толькі ўмоўна можна прыняць не за рыторыку, і то са скідкай на юнасць паэта:

Між лет даўгіх няволі й сна,
Зімы й начэй, скаваўшых край,
Шукаю я цябе, о, май!..
Цябе, народная вясна.
Быў май... Цвіло, гуло жыццё...
Мігнуў пярун... Прамчаўся конь...
Нясуцца войскі... Дым... Агонь...
Няволі ноч скавала ўсё...
Мінула, знікла, замялось...
Прайшоў гадоў бязлікі рой...
І стуль шукаю, як не свой,
Вясенніх песняў адгалос...
Гэй, песні волі і жыцця!
Вы зноў ахопіце народ
І недалёкі ваш прыход!
Вітаю я, чакаю я!

Пад вершам час яго напісання: 1926 год — год вяршыннага ўзлёту вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Грамадаўская паводка, уздым народнага духу. Вось яна, народная вясна, перад вачыма дваццацігадовага паэта. Імкненне асэнсаваць цяжкі шлях свайго народа да волі — рэч натуральная ў час, калі ён толькі-толькі ўстае, каб вярнуць сабе імя, права і былую славу. Заходнебеларускі паэт, мабыць, невыпадкова ставіць эпіграфам да сваёй гістарычнай рэфлексіі Купалавы радкі «Аддайце славу нашу нам — нашто схавалі, расхваталі». Але атрымалася толькі экспрэсія, кампазіцыя, пазначаная пункцірам. Мо гэта і ёсць тое недагаворанае, недаказанае, аб якім як аб метадзе паэтычнай выявы гаворыць Хв. Ілляшэвіч у сваёй праграме «Замест уступу».

Відаць, сапраўды, у імклівым рытме, у вобразе, сканцэнтраваным у адным слове, паэт імкнецца схапіць, перадаць імгненне, рух свайго часу, яго зменлівы воблік. У аснове верша — устаноўка на рух, слова-вобраз, шырокае ўвасабленне:

Чуеш музыку?
Агністаю,
Руністаю,
Веснавістаю
Палымнее адраджэнне.

Натуральна, за ўсім гэтым усплёскам рванага рытму,

вобразамі-азначэннямі не ўставала глыбей па-мастацку асэнсаваная вызваленчая рэчаіснасць. Такія творы даносілі хіба толькі танальнасць грамадскай атмасферы перыяду, калі Заходняя Беларусь уставала ў абліччы абуджанага, усведамляючага сваё сацыяльна-гістарычнае права і моц народа. Рамантычнае ўспрыняцце вясны народа больш пранікнёна паэту ўдавалася перадаць у тых вершах, дзе ён гаварыў не столькі ад грамады, колькі ад імя свайго лірычнага героя. Там было больш непасрэднасці выказу пачуццяў, ад таго і свежасць іх паэтычнай выявы:

Вясна адраджэння! Родныя скібы,
Залітыя сонцам, ізноў прада мной.
Вярнуўся мой брат вецярок гутарлівы —
Цяпер мы запусцімся ўдаль пуцінай.

А яшчэ больш паэтычна, выяўленча яскравей рамантычны парыў, звязаны з поступам абуджанага народа, перададзены паэтам у вершы «Гэй, прастор!» Хоць імпульс, сюжэт твора — не новы, з класікі:

Дальняя дарога,
Ззяння агняпас.
Гэй, лясы, разлогі,—
Я вітаю вас!
Клумак падарожны,—
Песні і разгон!
Прэч ланцуг астрожны
І няволі сон!
Гэй, ты, даль бязмежжа!
Гэй, прастор, абшар...
Як ваш выгляд свежы —
Як бы песні чар,
Або зык між цішы,
Які ледзь пачуць,
Што душу калыша,
Не дае заснуць...

Верш напісаны ў 1926 г., і пра ланцуг астрожны ў ім упамінаецца між слоў, а разам з тым і як рэальнае перажыванне, можа, прадчуванне лірычнага героя, якога нельга, мабыць, не ідэнтыфікаваць з асобай аўтара.

У першым паэтычным зборніку Хв. Ілляшэвіча — каля дзесятка вершаў астрожнай тэматыкі. З'явіліся яны, зразумела, невыпадкова. У 1927 г.— у часы першых масавых рэпрэсій супраць нацыянальна-вызваленчага руху беларусаў у Польшчы Хв. Ілляшэвіч быў арышта-

ваны дэфензівай, каля двух гадоў прасядзеў у сумнавядомых на ўсю Беларусь Лукішках. Улады інкрымінавалі Хв. Ілляшэвічу прыналежнасць да забароненага ў той час у Польшчы Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі. Падпольная камсамольская ячэйка ў Віленскай беларускай гімназіі была моцная, асабліва калі яе ўзначаліў пасля арышту А. Салагуба Юзік Урбановіч. Заходнебеларускае камуністычнае падполле, а да ўзнікнення КПЗБ яшчэ Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя ўдзялялі ВБГ сталую ўвагу, з яе рэкрутавалі нямала сваіх кадраў. Хв. Ілляшэвічу дарогу да камсамольскага падполля Заходняй Беларусі, верагодней за ўсё, паказаў А. Салагуб. Алесь быў на чатыры гады старэйшы. Яны сябравалі. На даўнейшай «фотцы» яны ды яшчэ тры гімназісты сфатаграфаваны ў абдымку. У цэнтры А. Салагуб з кніжкай у руцэ. Юныя, чыстыя, спадзеўныя хлопцы. Іх шмат што яднала: ідэалы свабоды свайго паднявольнага народа, любоў да літаратуры, вершатворчасць. Дружба трывала і ў Лукішскай турме, дзе А. Салагуб просіць пісьмова адміністрацыю аб пабачанні з Ілляшэвічам. Пасля эміграцыі ў СССР А. Салагуб у першай паэтычнай кніжцы прысвячае Хв. Ілляшэвічу як сябру адзін з сваіх «лукішскіх» вершаў.

Але вернемся да астрожнай творчасці самога Хв. Ілляшэвіча, які семнаццацігадовым хлопцам трапіў у турэмную ізаляцыю ад свету. Рана даводзілася сталець заходнебеларускай моладзі. У вершы «Цэлую зімачку буду чакаць бураў вясенніх» паэт-вязень захутвае сваю думку-мару ў алегарычны флёр і заканчвае твор аптымістычна. Насуперак зіме паэт спавядаецца прыходу вясны і заяўляе, што ў песнях яго «веснавіта распеніцца адзвон пераможнага бою» або водгалас пераможнай барацьбы, калі перавесці паэтычную метафару на больш выразную мову. У вершах «У цэлі расселісь халодныя змрокі», «Бразнулі з грукатам дзверы», «На прагулцы» — больш канкрэтныя вобразы і перажыванні заняволенага. Аўтару ўдаецца ў някідкім вобразе, адной дэталлю замацаваць, перадаць перажыванне вязня ад кантраснага сутыкнення пасля волі з турмой:

> ... Думкі вітаюць у сонечным краі...
> Цёмна у цэлі, ціха у цэлі.

Часам рэаліі турэмнага жыцця не даюцца маладому

паэтуператварыць іх у факт паэзіі: «Застылая зупа з вадзіцы і чорнага хлеба паўфунт! Сапраўды, з іх можа зрадзіцца гарачы вялізарны бунт». Пэўна, можа, але пры нейкіх умовах: ні эстэтычна, ні сэнсава заяўленай думкі паэт не развівае. Больш рэальны абразок турэмнага бытавання намячаецца Хв. Ілляшэвічам у вершы «Стамілася беднае сэрца ад суму», дзе лірычны герой паэта пакідае завеяны астрожны двор з дазорам і «імчыцца стралою на родныя гоні, дзе сцежкай скавана зямля, каб жыць на прыволлі да дня» і слухаць, «ці лёд не зазвоніць ад першых павеваў цяпла».

У вершы «Песні, мае краскі» Іллашэвіч звязвае надзею на вызваленне з астрогу-няволі з часам, «калі людзі вёскі выдуць з сваіх хат...» — з надыходам сялянскай рэвалюцыі. І толькі тады паэт дасягае большага поспеху ў сваёй астрожнай паэтычнай споведзі, калі ўздымаецца да абагульнення, пакідаючы туманныя і эстэтычна амаль бездапаможныя алегорыі. Тады з-пад яго пяра паўстае больш-менш паўнакроўны вобраз усёй зняволенай чужою воляй Заходняй Беларусі, убачанай юным вершатворцам з цэлі (камеры) Лукішскай турмы:

Шлях даўгі, ланцужны —<br>
Беларусь мая!<br>
Перапевы сцюжы,<br>
Летняя туга...<br>
Поле не ўзарана...<br>
Калёсаў паскрып...<br>
І ідзе скаваны<br>
Гаротнік-мужык.<br>
Твар яго — васковы,<br>
Вочы яго — муць,<br>
А хатуль вясковы,<br>
Цісне спіны худзь...

Апошнія турэмныя вершы Хв. Іллашэвіча, пазначаныя Лукішкамі, адносяцца да 1929 г. Тэма турмы займае досыць значнае месца і ў творах другога зборніка паэта, названага «Зорным шляхам». У іх паэт часам паўторна звяртаецца да вобразаў, снаваных, прамільгнулых у першай яго паэтычнай кніжцы.

Асобныя вобразы паэт паглыбляе — як бы яго не здавальнялі першыя іх накіды ў ранейшых вершах. Сказанае можна цалкам аднесці да такіх твораў, як «Дазорца», «Спацыр». Калі ў вершы «На прагулцы» перададзены балюча-радасныя перажыванні вязня ад кароткай сустрэчы пасля цеснай камеры з хоць і абмежа-

ванай воляй, то «Спацыр» дае жывы вобраз — у нейкай меры аналагічны вобраз жыцця палітвязня, шлях няволі [11]. У вершы «Дазорца» створаны псіхалагічна дакладны вобраз турэмнага вартаўніка, а адначасна вобраз самога астрогу:

Ён уночы straляе кашлем,
Марыць позехам аба сне
І даўгія гадзіны ўважна
Маўчыць у глухой цішыне.
У яго душа зліняла
Ад турэмнае жоўці муроў.
Бачыў ён, як з зубоў сцякала
На каменным цэменце кроў.
На пратэсты ён паясняе,
Што ён мае дзяцей і дом
І ля цэлі на 1-га мая
Доўга слухае, слухае ён.

А наогул у сваіх апошніх турэмных вершах лірычны герой Хв. Ілляшэвіча духоўна памацнеў. Турма не толькі прыгнечвае яго, але і гартуе, далучае да аналізу жыцця, халоднай развагі:

Вучуся холаду у сцен,
Спакою ў песнях аб нядолі,
Хачу сцюдзёна выпіць сэнс
Людскіх жаданняў і патолі.
У вячэрне-ціхую пару
Зліваю з цемрай свае зрокі
І быццам слухаюць і мруць
У цэлі жудасныя змрокі.

Вершы, што склаліся ў няволі, Хв. Ілляшэвіч свядома змясціў у канцы новага паэтычнага зборніка. Не пільнаваўся строга храналогіі і іх з'яўлення, не хацеў пачынаць новую кніжку, што ні кажыце, не з святлейшых настрояў, матываў.

Пачынаў яе раздзелам «Новая Беларусь», узвышана, рамантычна, прыўзнята: «У баявы марш мы вышлі. Ідзем па вялікай, адвечнай дарозе гісторыі. Часта зазыўна, грымуча пяе наш ход. Калісьці паўсталі мы з далёкае, дымнае крыві. Цяпер мы йдзем. Бура, запал — гэта мы! гэта мы! Кожны крок пяе ў нашым сэрцы напеўнай перамогай. Наперад! Мы ўзняліся па зову прапрадзедаўскай крыві і вітаем далёкую дарогу. За на-

---

[11] Ілляшэвіч Хв. Зорным шляхам. Вільня, 1932. С. 62. Далей даюцца спасылкі на гэтае выданне.

мі — цемра вякоў. Прад намі — сонечныя шляхі... Мільённы крок. Мы творым, мы творым новую Беларусь! Нас многа, нас многа!... Часта, зазыўна, грымуча пяе наш ход. Наперад! Далей!» Гэта рытмізаваная публіцыстыка. Можа, верш у прозе.

Гулка б'ецца нерв-рытм паэтавага верша:

Годзе песні пяяць аб нудзе!
Сэрца бунтам б'е у кажух...
Па краіне ідзе-гудзе
Весназвонны магутны рух...
Песня!
Песня бунтарна-гулкая!
Вырвіся з бедных спрагненных губ...
Грымні па бруку... вулкамі,
Гулам тысячных труб!

Гэта па выхадзе з турмы ўзрыў веры і ўпэўненасці ў праваце справы народнага вызвалення, беларускага адраджэння. Але яшчэ і там, за кратамі Лукішскай турмы, роздум Хв. Ілляшэвіча пра лёс Беларусі быў афарбаваны ў аптымістычныя таны. Астрог прыгнятаў, але не зламаў паэтавага духу. Досыць яскрава, пры алегарычнасці паэтычнай выявы, перадае ён вызваленчы ўздым, што ахапіў яго бацькаўшчыну:

Я не баюсь за Беларусь —
Яна, працоўная, прачнулась —
І песні радасці цвітуць
Ад адраджэння шуму-гулу...
У пушчах нешта грукаціць,
У вёсках, местах — палымніста...
І па палёх ідзе, звініць
Дзён новых веснік — Веснавіста.
Ударым радасна ў трызвон:
Ніхто, ніхто ўжо нас не зможа!
З вякоў няволі, стогну, сноў
Ўстае магутна Перамога.

Звяртае ўвагу ўлюбёны вобраз паэзіі Хв. Ілляшэвіча 20-х гадоў Веснавіста. Гэта ў свядомасці паэта ўвасабленне новых дзён, як у народнай паэзіі антрапамарфічны вобраз Вясны, дзе яна вобраз-сімвал адроджанай прыроды, адроджанага жыцця. Нельга сказаць, што ў вершах Хв. Ілляшэвіча сама Беларусь паўстае рамантызаваным вобразам, нейкім высненым паэтам казачным цудам. Аднак само стаўленне да бацькаўшчыны паэта не пазбаўлена рамантычнага падыходу. І калі Хв. Ілляшэвіч, звяртаючыся да Беларусі, кажа:

Беларусь, прыбірайся у краскі,
Ў песні бурнай і гучнай вясны!
Мы збудуем цябе, як у казцы,
Светлай, яснай, як нашы сны!..

— то гэта зварот усё ж паэта-рамантыка; хоць паэтычны сінтаксіс тут у сваёй аснове рэалістычны. Збудаваць бацькаўшчыну светлай, яснай — як сны барацьбітоў,— ці гэта не мара цэлых пакаленняў людзей не толькі рамантыкаў, а і што ні на ёсць цвярозых рэалістаў!

У другой паэтычнай кніжцы Хв. Ілляшэвіча вершы, навеяныя ўражаннямі горада, аб'яднаны ў раздзеле «Места агнявокае». Гарадскія матывы, гарадскі пейзаж — гэта перад усім жыццё, рух вуліц. І хоць паэт, натуральна, абагульняе, амаль не называе канкрэтна аб'ект сваіх вершаў пра места-горад, у іх пазнаецца Вільня, дзе прайшла большая частка яго жыцця. Вобраз горада ў Хв. Ілляшэвіча ў пэўнай меры імпрэсіяністычны. Людскі натоўп, дамы, электрычнае святло, рэкламы — тыя рэаліі, якіяператвараюцца ў словах паэта ў візію неабыдзеннага свету. Горад для яго набывае трансідэнтальнае прыцягванне. Паэту чуецца «ў моры людзей, неўгамонным ніколі», покліч-прывет «Вечнае Волі»:

Тысячай сонцаў у шыбах разліўся заход,
На радыё-дроце вароны спраўляюць вячэрню!..
Свежасць навейвае вулічны мрок —
Места вячэрняе.
У іскрах, што ліжуць блакіт языкамі ракет,
У моры людзей, неўгамонным ніколі...
Чую я нейкі сусветны прывет —
Вечнае Волі.

А наогул у цыкле «Места агнявокае» Хв. Ілляшэвіча дзесьці здалёк чуецца ўплыў М. Багдановіча, як у яго вясковых вершах — С. Ясеніна, а ў рэвалюцыйных — апора на практыку сучаснай рэвалюцыйнай паэзіі і беларускай мастацкай традыцыі, у прыродаапісальнай, пейзажнай лірыцы — паэтычныя рэмінісцэнцыі сусветнай класікі, асабліва Гётэ.

Калі гаварыць пра 20-я гады ў творчасці Хв. Ілляшэвіча як асобны этап, то нельга абысці такога факту, як яго завяршэнне.

Паэт фіксуе ў сваёй лірыцы грамадскія змены, а дакладней, палітычныя змены ў беларускім жыцці:

Хмары цёмныя звіслі над намі,
Яшчэ ўчора гучэў Веснаход...

Гэй, сябры! Смела ў бой з перунамі!
Ўспыхне заўтра іншы ўсход!
Гэты цень, што спусціўся ад хмараў,
Згіне з першай касуляй святла!..

Аднак застаецца цвёрда стаяць на пазіцыі барацьбы, дзейснага супраціўлення ўсяму, што супрацьстаіць свабодзе беларусаў. Ён пачувае сябе байцом цэлай грамады, адным з кавалёў будучыні свайго працоўнага народа. І прамаўляе ў вершы «У кузні» ад імя рабачаяўрупліўцаў гэтай будучыні:

Рукі самлелі ад молата.
Потам заліўся ўвесь твар.
У горан падсыплем мы золата —
Зробім мы працы пажар.
У горне змяістымі бліскамі
Цудныя краскі цвітуць...
Твар наш цалуючы іскрамі,
Новых нам сіл дадаюць.
Ў сталь пакладаем душу мы —
Сталь запяе ў жывы тон...
Моцна яе разбушуем,
Зробім ліхі перазвон.
Ў кузьні мы песні спяваем...
Грудзі працоўныя ўвысь!
Кузьня звініць, як жывая,
Мы кавалі — сцеражысь!
Рукі самлелі ад молата...
Ўдар здаганяе удар...
Ў горан падсыплем мы золата —
Ўзнімем мы працы пажар.

На такой баявой, рэвалюцыйнай ноце заканчваў Хв. Ілляшэвіч 20-я гады. У наступнае дзесяцігоддзе, перажываючы разам з беларускім рухам крызіс, спароджаны знешнімі прычынамі, паэт, аднак, не страціў веры ў высокія ідэалы ўздымных 20-х гадоў: не размяняў свабоды свайго народа на іншыя вартасці. Адно, як можна было бачыць у пачатку гэтага нарыса, танальнасць яго лірыкі моцна змянілася. У нейкім сэнсе нават кантрастна змянілася ў параўнанні з папярэднім перыядам, што было абумоўлена самім беларускім жыццём.

Паэтыка вершаў Хв. Ілляшэвіча перадваеннага часу ўжо не ведае вобразаў-сімвалаў кавалёў, што куюць «будучыні дні». Рытміка лірыкі паэта ўбірала ў сябе штораз болей цяжэйшых перажыванняў, рухаў душы. Выяўленчая палітра — болей барваў ад самой белару-

скай зямлі і той нядолі, якую поўнай мерай зведаў яе народ. І ўсё ж у асноўным ён заставаўся такім, якім выйшаў у дарогу. Усведамляючы, што «з кожным годам цяжэй і цяжэй і ў імгле ледзь віднеецца мэта», паэт не губляў веры ў людскую будучыню свайго народа.

Аб сказаным можа пасведчыць і верш «Сінія дні — каляровыя хусткі» з апошняй, нялепшай яго паэтычнай кніжкі. Ён нейкі вельмі беларускі сваім паэтычным ладам, стрыманай элегічнасцю, скрозь якую свеціцца надзея:

Сінія дні — каляровыя хусткі —
Кінула лета ў крыніцу за борам.
Зноў мітусіцца ў імглістым прасторы
Золатам дрэў лістапад беларускі.
Вецер-псаломшчык галосіць над краем,
Лістам заносячы чорныя межы.
Зноў Беларусь у тваіх безбярэжжах
Восень элегію-ціха складае.
Колькі яшчэ такіх восеняў шэрых
Сном праплыве над табою, Краіна?
Колькі яшчэ мы у далі, у сіняй
Жалю нап'емся і поглядаў змерым?..
Толькі ж вы, песні, не падайце з ветрам
Плачкамі ў лістапад беларускі.
Верце над гэтай асенняю пусткай
Іншымі віхрамі мы вас узнетрым... [12]

Меў пэўную рацыю М. Танк, калі ў артыкуле «Маладняк і крытыка» пісаў: «Трэба зазначыць, што на творчасць маладняка апошніх гадоў зрабіла ўплыў не паэзія Н. Арсеневай і Хв. Ілляшэвіча, а М. Машары і М. Васілька. Тэматыка апошніх была бліжэй да тых настрояў, імкненняў, якімі жыў маладняк, а своеасаблівы іх прымітывізм, зближаны да народнай песні, быў больш зразумелы, як чаканеныя ямбы Н. Арсеневай, як канструкцыйная метафарыка Хв. Ілляшэвіча, якая ад чытача вымагала пэўнай літаратурнай культуры» [13]. І ўсё ж не ўсе заходнебеларускія паэты канца 30-х гадоў наследавалі М. Машару і М. Васільку, песнярам 20-х І П. Сірата—Таўлай і С. Хмара якраз ішлі тым жа шляхам, што і М. Танк, засвойваючы перш-наперш паэтычную практыку рускага і польскага авангардызму. Не цураўся гэтай дарогі і Хв. Ілляшэвіч і дасягнуў у

---

[12] Ілляшэвіч Хв. Захварбаваныя вершы. Вільня, 1936. С. 79.
[13] Беларускі летапіс. 1938. № 4—5. С. 79.

сваёй лірыцы 30-х гадоў такога, што можна было дзекаму з маладых і пераняць, калі не ў плане ідэйнасці, то ў форме, паэтыцы.

На жаль, вельмі мала вядома аб перыпетыях жыцця і творчасці Хв. Ілляшэвіча 40-х гадоў. Тое, што ён не ўпісаўся ў новую, пасляверасnёўскую рэчаіснасць, не дзівіць, хоць меў для гэтага падставы. У Беластоку, дзе перад самай вайной засяродзілася сякое-такое беларускае жыццё (быў адкрыты педінстытут, выходзіла абласная газета, быў асветны аддзел), Хв. Ілляшэвіч мог знайсці прымяненне сваім сілам. Меў магістарскае званне. У свой час пасля заканчэння Віленскага універсітэта абараніў дысертацыю «Друкарскі дом Мамонічаў», выдадзеную асобнай кніжкай. На творчым рахунку паэта быў і крытычна-біяграфічны нарыс пра Ядвігіна Ш., дарэчы, вельмі карысны і сучасным даследчыкам,— гэтага яшчэ не ацэненага да канца навеліста і гумарыста. Ды, нарэшце, быў Хв. Ілляшэвіч паэтам з прыкметным творчым багажом. Але абставіны 1939—1941 гг. былі, калі бліжэй да іх прыгледзецца, што і робіць сённяшняя гістарычная навука, вельмі спецыфічныя. Напаўтаталітарны даваенны польскі рэжым замяніўся замаскіраваным пад народаўладдзе таталітарным савецкім. Заходнебеларускім інтэлігентам даводзілася пераадольваць бар'ер падазронасці савецкай адміністрацыі, адселекцыянаванай рэпрэсіямі 30-х гадоў. Арыштаваныя былі А. Луцкевіч, У. Самойла, М. Краўцоў — шырокавядомыя беларускія літаратары, вывезена Н. Арсеннева, Р. Шырма, якому дазволілі на базе свайго хору арганізаваць Беларускі ансамбль песні і танца, хутка быў кінуты на Лубянку. Няпроста прыціраўся да новых умоў, якія набліжаў усёй сваёй творчасцю, М. Танк. Аб гэтым выразна сведчыць дзесятак вершаў, напісаных заўсёды творча актыўным паэтам за амаль два савецкія перадваенныя гады. Востракрытычна да ўсталяваных у 1939—1941 гг. у Заходняй Беларусі парадкаў паставіўся ў сваіх вершах (яны захаваліся ў архіве Р. Р. Шырмы) паэт з рабочых Сяргей Крывец. Не менш крытычна Крывец аднёсся ў 1941—1942 гг. і да носьбітаў «новага парадку» ў Еўропе і іх прыслужнікаў. Хв. Ілляшэвіч выбіраў паміж дзвюма таталітарнымі сістэмамі іначай. Ён узначаліў «Беларускае аб'яднанне ў Беластоку»,

якое ўзнікла ў час вайны, супрацоўнічаў у газеце «Новая дарога», клапаціўся аб пашырэнні сеткі беларускіх школ. Вершаў і апавяданняў, якіх у перадваенным часе нямала друкаваў пад псеўданімам М. Дальны, у вайну не публікаваў, пэўна і не пісаў. У «Новай дарозе» сустракаецца некалькі артыкулаў, у тым ліку пра Аляхновіча-драматурга, Міхася Забейду-Суміцкага, эцюд пра Уладзіміра Жылку з нагоды дзесяцігоддзя з дня смерці. Усе яны падпісаны псеўданімам Ільяшэвіча — празаіка і крыптанімам М. Д., ад яго ўтвораным.

Паводле сведчання пісьменніка Масея Сяднёва, сарванага віхурай вайны з роднай Магілёўшчыны, Хв. Ільяшэвіч «прытуліў» яго ў Беластоку пры рэдакцыі газеты, дапамог апублікаваць ягоную сібірскую адысею, а таксама драматычную споведзь сведкі-відавочцы аб знішчэнні сталінскім рэжымам беларускіх савецкіх пісьменнікаў. Апошняя пазней выйшла асобным выданнем [14]. Чаму Хв. Ільяшэвіч у вайну не адседжваўся ціха, як у 1939—1941 гг.? Не здолеў разабрацца ў дэмагогіі і сутнасці новых «вызваліцеляў»? Цяжка сказаць. Меў, здавалася б, дастатковы жыццёвы, палітычны досвед, каб убачыць вялікі падман, злачыннасць будаўнічых «новай» Еўропы. Не мог не ўразумець (для гэтага было незамала ўражлівых фактаў) прынцыповай варожасці таталітарных рэжымаў свабодзе яго народа? Вырашыў выкарыстаць (такое, прынамсі, вынікае з выступлення Хв. Ільяшэвіча на з'ездзе «Беларускага аб'яднання ў Беластоку») змаганне таталітарных гігантаў, каб рэалізаваць хоць некаторыя мажлівыя ў скрутных ваенных умовах пастулаты беларускай ідэі? Памыляўся і ў якой меры — рассудзіць гісторыя.

У 1944 г. Ільяшэвіч падаўся на Захад: не меў ілюзій наконт таго, што магло яго чакаць за «супрацоўніцтва з акупантамі». Жыў у Заходняй Германіі, у лагеры для перамешчаных асоб. 9 красавіка 1946 г. у Рэгенбургу па ініцыятыве Хв. Ільяшэвіча створана Беларускае літаратурнае згуртаванне «Шыпшына». Мэта была акрэслена ў кароткай дэкларацыі двума пунктамі:

«1) згуртаваць беларускіх актыўных і творча-даспелых пісьменнікаў-белетрыстаў, паэтаў, драматургаў і крытыкаў, што знаходзяцца на эміграцыі;

---

[14] Сяднёў М. Ахвяры бальшавізму. Беласток, 1944.

2) працаваць над стварэннем вялікай літаратуры, годнай нашага вялікага народа. «Шыпшына» стаіць на варце поўнае свабоды творчых пошукаў, але для ейных сяброў з'яўляецца абавязковым крытэрыем высокае мастацкасці літаратурнага твора, імкненне да ідэёвае насычанасці і арыгінальнасці, глыбокая пашана да нашае літаратурнае спадчыны і пачуццё спадкаемства да ўсяго лепшага ў ёй, узаемная пашана да творчасці адзін аднаго, а ў галіне ідэёвай — самаахвярная адданасць найвышэйшаму ідэалу нашага народа. «Шыпшына» заклікае братоў-пісьменнікаў далучацца да яе, каб супольна тварыць на карысць нашае Маці-Беларусі» [15].

Дэкларацыю падпісалі адзінаццаць пісьменнікаў, паіменна: Н. Арсеннева, Юрка Віцьбіч, Мікола Вярба, Янка Золак, Хведар Ілляшэвіч, Аўген Кавалеўскі, Уладзімір Клішэвіч, Алесь Салавей, Масей Сяднёў, Уладзімір Сядура, Анатоль Чэслаўскі.

У літаратурна-мастацкім часопісе «Шыпшына» зрэдзь часу мільгае інфармацыя пра Хв. Ілляшэвіча. Накшталт такой: Хв. Ілляшэвіч працуе над цыклам навелаў [16]. Змешчана пару яго апавяданняў, пераклад «Двух грэнадзёраў» Г. Гейнэ і чатыры вершы, поўныя самоты, адчаю. Мары паэта, выказаныя ў даваенным вершы аб тым, што надыдзе час і беларускія музыкі «затопяць жудзь вякоў у пене струн», выглядалі нерэальнымі на бліжэйшую будучыню. Падамо адзін з апошніх вершаў Хв. Ілляшэвіча, тыповы па настрою для яго эміграцыйнай лірыкі. Дарэчы, у творы з'яўляецца цень чорнага чалавека, як і ў апошніх вершах шанаванага беларускім паэтам С. Ясеніна:

За акном дробны дождж шалясціць
І здаецца, што з клёнаў і ліпаў
Ападаюць з журбою лісты
Пад акорды асенніх іскрыпак.
Так хочацца верыць чамусь,
што сярпы у палёх адзвінелі
і жніўёвая ўжо Беларусь
адцвіла у кустах счырванелых...
Мо таму абарваўся напеў
і журбою туманяцца вочы...
Недакончаны верш аб вясне —
недаснёныя сны апаўночы...
Нехта стаў за акном і маўчыць,
толькі дождж ціхі шорах рассыпаў.

---

[15] Шыпшына. 1946. № 2. С. 45.
[16] Тамсама. № 5. С. 56.

Ападаюць з журбою лісты
пад акорды асенніх іскрыпак. [17]

У вершы «Чорныя цені» Хв.Ілляшэвіч выказвае прадчуванне сваёй хуткай згубы. Звяртаючыся да пакінутай на бацькаўшчыне каханай, вобраз якой набывае сімвалічны сэнс, паэт пісаў:

... Вецер хмары цяжкія гоніць,
Топіць надым іх дзесь за лясы,
Недзе ў змроку брыдуць мае коні,
Не скрыпяць ужо больш палазы.
І мяне ты дома чакаеш,
У акно пазіраеш адна.
Мне, відаць, у далёкім краі
Горыч прыйдзецца выпіць да дна.
Я не хочу. Цябе сустрэну
І ізноў да цябе прыду.
Усё адзін я... А чорныя цені
Мне згубу прадуць, прадуць. [18]

Хв.Ілляшэвіч загінуў 6 лістапада 1948 г. у аўтамабільнай катастрофе пры нявысветленых абставінах. Пахаваны ў Галендорфе, у Германіі. Ён на чатырнаццаць год перажыў сябра сваёй камсамольскай маладосці Алеся Салагуба, расстралянага ў Мінску ў лютым 1934 г. як «ворага народа».

Публікуючы апошні незакончаны верш Хв. Ілляшэвіча «Сябром», Юрка Віцьбіч, рэдактар часопіса «Шыпшына», пісаў: «Хведар Ілляшэвіч напярэдадні сваёй нечаканае смерці падрыхтаваў да друку зборнік вершаў з характэрнай назвай «Нязжатая радасць». Злы лёс не дазволіў паэту пабачыць кнігу надрукаванай. Шыпшынаўцы лічаць сваім абавязкам знайсці сродкі і выдаць «Нязжатую радасць» свайго сябра. Гэта будзе лепшым помнікам памяці выдатнага паэта, змагара і чалавека» [19]. Праз амаль паўстагоддзе пасля смерці Хв. Ілляшэвіча ёсць, нарэшце, магчымасць сабраць вершаваную і празаічную спадчыну пісьменніка ў сябе на радзіме, асэнсаваць яе ў кантэксце часу, суровага і стратнага для беларускага народа, яго культуры. Вярнуць напісанае Хв. Ілляшэвічам беларускаму чытачу і вызначыць месца таленавітага паэта, празаіка і літаратуразнаўцы ў беларускай духоўнасці, гісторыі культуры.

---

[17] Туга па Радзіме / Уклад., прад. і біяграфічныя даведкі Барыса Сачанкі. Мн., 1992. С. 218.
[18] Шыпшына. 1946. № 3. С. 19.
[19] Тамсама. 1950. № 8. С. 30.

*Святлана Берасцень*

# І ЖАДАЎ СТАЦЬ КАЗАЧНАЙ НЯЎГЛЕДКАЙ...

## (Лёс Міколы Куліковіча-Шчаглова)

Няўдзячны гэта чын — пісаць пра музыку, шукаючы слоўны эквівалент мове найтанчэйшага з мастацтваў. А тут яшчэ і музыка, якую мала каму з нашых землякоў-сучаснікаў даводзілася слухаць. Парадокс? Так. Але ён цалкам стасуецца з імем самога творцы, з яго асобай, якая таксама ўяўляецца досыць парадаксальнай паводле звестак пра жыццёвы і музыканцкі шлях Міколы Куліковіча-Шчаглова.

Талент — гэта ўжо само па сабе неадназначна. На фарміраванне, развіццё, самасцвярджэнне і прызнанне творчага дару М. Куліковіча паўплывалі яшчэ і неадназначныя, у тым ліку і трагічныя, акалічнасці. Дарэчы, гэта адбілася нават на прозвішчы музыканта, якога сябры, настаўнікі, калегі, слухачы, крытыкі аж да 40-х гадоў ведалі як Міколу Шчаглова.

Міколам Шчагловым звалі таксама яго бацьку, транспартнага чыноўніка, паходжаннем з данскіх казакоў. Прозвішча маці было Куліковіч, і родам яна са Смаленшчыны, з усходнебеларускіх земляў. Як сведчыць вядомы англійскі даследчык беларускай культуры Гай дэ Пікарда, будучы кампазітар (нарадзіўся ён 4 лістапада 1897 г. у Маскве) гасцяваў у бабулі на Смаленшчыне і з маленства прылучыўся да самабытнага песеннага фальклору, успрынятага ад вяскоўцаў-беларусаў. А тонкі духоўны склад перадаўся натуры хлопчыка, відаць, «у спадчыну». Бо яго далёкі продак, святар Цімафей Куліковіч, быў укладальнікам аднаго з беларускіх ірмалояў у 1652 г.

Маці ён страціў рана, і Міколавым лёсам пачала апекавацца матчына цётка — ігумення праваслаўнага манастыра ў Туле. У манастырскім хоры хлопчык вылучаўся

сваёй музыкальнасцю ды выдатным голасам (альт), і перад ім адчыніліся дзверы прэстыжнага Маскоўскага Сінадальнага вучылішча, дырэктарам якога быў знаны рэфарматар рускай царкоўнай музыкі Аляксандр Кастальскі. (Пад уплывам яго кампазітарскіх прынцыпаў сфарміраваўся з цягам часу стыль харавога пісьма М. Куліковіча-Шчаглова.) Таленавіты вучань у якасці саліста хору ўдзельнічаў у турнэ па еўрапейскіх краінах. Тады ж ён пасябраваў з харыстам Сяргеем Жаравым, які праз многа год узначаліў сусветна вядомы хор данскіх казакоў. Ну, а потым — Маскоўская кансерваторыя, клас М. Іпалітава-Іванава...

Магчыма, у маскоўскіх архівах дзесьці хаваюцца дакументы, якія дапамаглі б распавесці пра студэнцкія гады будучага кампазітара. А пакуль у гэтым месцы яго біяграфіі даводзіцца ставіць шматкроп'е і працягваць расказ ужо з сярэдзіны 20-х, калі М. Шчаглоў прыехаў настаўнікам музыкі на Украіну. Тут ён стварыў нямала песень і рамансаў на ўкраінскія тэксты (мову засвоіў даволі лёгка). У 1927 г. быў накіраваны на Смаленшчыну. І вось тады захапіўся збіраннем беларускага музычнага фальклору. Вядома, што тыя першыя зборы затым стала папаўняліся і ўтварылі багатую калекцыю беларускіх народных песень — чатыры рукапісныя тамы, страчаныя ў 1944 г. А тады, у канцы 20-х, збіранне песенных скарбаў натхніла маладога кампазітара на стварэнне «Беларускай аркестравай сюіты», пісаць якую ён пачаў у Смаленску.

Творчыя і арганізатарскія здольнасці музыканта па-сапраўднаму разгарнуліся з прыездам яго на Беларусь. У 1937 г. яго прызначаюць дырыжорам сімфанічнага аркестра Усебеларускага радыёкамітэта. Ён актыўна займаецца творчасцю, уступае ў Саюз кампазітараў БССР, выкладае тэорыю музыкі ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. У гэты перыяд былі напісаны «Беларуская сюіта», Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам, Першая і Другая сімфоніі...

А час быў, як вядома, не тое, што неспрыяльным — небяспечным для мастака: разгар палітычных рэпрэсій, ідэалагічнага ўціску. Паводле слоў Г. Пікарды, востры розум, жвавы характар ды, відаць, талерантнасць натуры М. Куліковіча-Шчаглова дазволілі яму прыстасавацца да жыцця ва ўмовах таталітарызму, паказаць лаяльнасць да пануючага рэжыму. Пад час нашай непасрэд-

най гутаркі, якая адбылася ў Мінску восенню 1992 г., спадар Пікарда зноў, як і ў сваіх друкаваных працах, падкрэсліў, што многа аддаў бы, каб пачуць Куліковічаву «Кантату пра Сталіна», бо, кажуць, вельмі прыгожая была музыка. Але заўважыў прытым, што кампазітар паспяхова пазбегнуў адкрытага ўслаўлення «бацькі ўсіх народаў», не ўжываў заклікаў тыпу «Слава Сталіну!» Ён «вельмі інтэлігентна зрабіў», злучыўшы ў гэтым манументальным творы для сімфанічнага аркестра, хору і салістаў... народныя песні пэўнага вобразнага зместу. Ішла, напрыклад, песня пра шчасце, затым песня пра героя і да т. п. Кантату гэтую выконвалі ў Мінску, Кіеве, Адэсе, Харкаве, Тбілісі, на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. І цяжка паверыць, што ў якім-небудзь з архіваў не захаваліся яе ноты.

Страчанаю лічыцца і партытура Другой сімфоніі, пра якую сёння можна меркаваць хіба што паводле рэцэнзіі ў часопісе «Советская музыка» (№ 12 за 1939 г.) і прыведзеных у ёй нотных прыкладаў. Вядомы музыказнаўца Аляксандр Астрацоў, аглядаючы новыя сімфоніі савецкіх кампазітараў Шастаковіча, Вепрыка, Газянпуда, досыць грунтоўна і крытычна аналізуе твор М. Шчаглова. Прафесійны разбор твора, заўвагі да аўтара зацікавяць найперш спецыялістаў-музыкантаў. А вось план сімфоніі, выкладзены самім М. Шчагловым і працытаваны А. Астрацовым, мусіць, прыцягне ўвагу і чытачоў, не дасведчаных у тонкасцях кампазітарскай творчасці. Цытую: «У першай частцы кампазітар імкнецца перадаць думкі і пачуцці народаў квітнеючай Савецкай Беларусі. Тут і сонечная радасць, і напеўная лірыка, і бадзёрыя, прыўзнятыя настроі. Пачынаецца першая частка ўступам (валторна), што выкладае асноўную тэматычную думку ўсёй сімфоніі. Далей ідзе першая тэма Allegro, пабудаваная на беларускай народнай песеннай мелодыі. Звязваючая партыя пабудавана на асноўным матыве сімфоніі. Так званая пабочная партыя мае асновай зноў жа беларускую народную тэму. Распрацоўцы папярэднічае напеўны эпізод, пабудаваны на зmененай тэме галоўнай партыі. У распрацоўцы ўдзельнічаюць тры папярэднія тэмы, а затым ідзе рэпрыза.

Другая частка сімфоніі — гэта расказ пра дарэвалюцыйнае мінулае Беларусі. Бяспраўнасць і прыгнечанасць беларускага і яўрэйскага народаў, светлыя спадзяванні на будучае вызваленне ад векавога прыгнёту, эпізоды

барацьбы народа з прыгнятальнікамі і, нарэшце, ажыццяўленне мары пра волю і шчасце — такія музычныя вобразы гэтай часткі.

Трэцяя частка — фінал паказвае народнае калгаснае свята. Кружыць карагод. Гучаць жартоўныя песенныя народныя тэмы. Карагод адыходзіць удалячынь. Дзесьці пяюць працяжную мелодыю. Спакваля ў яе ўплятаюцца гукі марша: гэта ідуць дарагія госці — чырвонаармейская часць. Да гэтага далучаецца карагод калгаснікаў, і ўсё зліваецца ў агульнай радаснай, кіпучай весялосці» [1].

Параўноўваючы аўтарскі план з канкрэтным нотным матэрыялам, рэцэнзент робіць, у рэшце рэшт, даволі суровую выснову: «Музычнага вобразу ў выніку не ўзнікае, бо музычны «рэпартаж» з песеннага фальклору, нават досыць добрасумленна інструментаваны, не можа замяніць адсутную музычную канцэпцыю» [2]. Не маючы аб'ектыўнай магчымасці ні пагадзіцца, ні паспрачацца з А. Астрацовым, мушу толькі дадаць у працяг яго слоў: размова (нават вельмі кваліфікаваная!) пра музыку не можа замяніць яе гучання і непасрэднага суб'ектыўнага ўспрыняцця...

А з другога боку, у адсутнасці жывога гучання музыкі, радуешся кожнаму слоўнаму сведчанню пра яе!

Дзякуючы яшчэ адной публікацыі ў «Советской музыке» (№ 9—10 за 1939 г.) можна ўявіць сабе і фабулу, і аблічча герояў першай оперы М. Шчаглова «Кацярына», створанай на лібрэта М. Клімковіча. Аўтар нарыса «Беларуская опера» А. Ліўшыц разглядае працу М. Шчаглова разам з опернымі творамі яго калег А. Багатырова, Я. Цікоцкага і інш. Чытаюцца тыя старыя часопісныя старонкі як найцікавы дакумент. Цяжка ўстрымацца, каб не працытаваць, бо гэта не толькі крыніца пэўных звестак, гэта і сумная памятка таго, што ўчынялася з гістарычнай свядомасцю нашага шматпакутнага народа.

«У аснову лібрэта оперы «Кацярына» беларускага кампазітара М. М. Шчаглова (лібрэтыст М. Клімковіч) пакладзены эпізод з гісторыі паходу палякаў на Маскву ў цараванне Івана Грознага,— піша А. Ліўшыц.— Аркестравы ўступ, пабудаваны на лейтматывах вядучых

---

[1] Сов. музыка. 1939. № 12. С. 65.
[2] Тамсама. С. 67.

персанажаў, адкрывае оперу. [...] У святочны дзень, на зялёным лузе, гуляюць вясковыя дзяўчаты і хлопцы, водзяць карагоды, ладзяць гульні ды скокі. З прыходам прыгажуні Кацярыны ў аркестры з'яўляецца яе тэма. Тэма гэтая пераходзіць у дуэт Кацярыны і яе каханага — Рыгора. Дуэт напісаны ў характары беларускай песні і цікавы па сваёй рытмічнай структуры. У самы разгар весялосці з'яўляюцца палякі, на чале з князем Капустай, якому польскі кароль Сігізмунд падараваў замак і навакольныя землі. Суддзя ўводзіць Капусту ва ўладаранне землямі. Пагрозліва гучыць у аркестры тэма палякаў. Ёй супрацьстаіць хор сялян... На фоне фанфараў у аркестры праходзіць тэма князя. Ён патрабуе дары ад народа. Стары селянін адказвае князю, што ў бедных сялян нічога няма. Ягоная драматычная гаротная песня пабудаваная на тэме народа. Чытаецца ўказ польскага караля аб перадачы земляў беднякоў беларускаму князю Капусце. Народ хвалюецца. Кацярына ў адчаі звяртаецца да князя. [...] Князю падабаецца смеласць прыгожай дзяўчыны. «Узяць яе»,— крычыць ён сваім слугам. Рыгор заступаецца за Кацярыну... Палякі забіраюць Кацярыну і Рыгора, і зноў гучыць журботная песня народа: «Выйдзем мы, доля, ў чыстае поле, выйдзем шукаць сваю вольную волю...»

Другая дзея — у княжацкім замку. У аркестравым уступе гучаць тэма Кацярыны ды Марыны, мамкі князя. Сын Марыны закатаваны князем — яна паклялася адпомсціць за яго смерць. Кацярына плача па сваім горкім лёсе. Яна гнеўна адказвае князю на яго пагрозы ўзяць яе гвалтам... Гэтая яркая сцэна поўная агромністай выразнай сілы, усхваляванасці, драматызму. Тужлівая, поўная жалобы песня Кацярыны — характарам блізкая народнай беларускай песні: «Павей, вецер, павей, буйны, на лясы, бярозы, асушы ты, вецер буйны, сіроцкія слёзы...» Марына блукае ў поцемках па замку. Яна бачыць беззаконнасць і распусту, што творацца ў замку, бачыць, як княгіня здраджвае мужу з сынам Адама — Ясем. Сам Адам — «верны слуга» князя — прапануе Марыне арганізаваць разам змову супраць пана. Іншыя агідныя тыпы выведзены аўтарамі оперы ў гэтай дзеі: хітры ксёндз і яго палюбоўніца Стэфа, сяброўка княгіні, прадажны п'янтос Дуля... Да слыху Марыны даносіцца чыйсьці голас: гэта Рыгор, які пакутуе ў вязніцы. Здабыўшы ключы, Марына вызваляе Рыгора. Але

выратаваць Кацярыну яна не можа. Марына развітваецца з Рыгорам. У яе развітальных словах палымяная туга па загінуўшым сыне, страсны заклік да помсты.

Трэцяя дзея — на беразе ракі. Удалечыні лес, лужок, старая разбураная капліца. Хлопчык Алесь грае на жалейцы. За сцэнай чуваць песню сялян. Кампазітар скарыстаў тут для хору старадаўнюю народную песню... У абліччы лірніка — дзеда Ахрэма — у вёску прыйшоў пасланец запарожскіх казакоў да беларускага народа. Рыгор распавядае Ахрэму пра сваё гора, просіць дапамагчы яму ўратаваць Кацярыну. Ахрэм прапануе яму далучыцца да запарожцаў. Рыгор згаджаецца. Капуста вяртаецца са сваёй світай ад князя Радзівіла, дзе абмяркоўваўся паход на Маскву. Ён устрывожаны — ходзяць чуткі пра сялянскія хваляванні. На Украіне бунтуюць казакі, за Оршай ужо стаяць палкі цара Івана. Народ просіць князя палегчыць яго цяжкое жыццё. У хоры праходзіць тэма Марыны (гэтым кампазітар хацеў паказаць сувязь Марыны з народам). Князь загадвае забраць сялян у рэкруты для паходу на Маскву. Ён даручае гэта выканаць пану Дулю, які адразу пачынае падлічваць, колькі ён заробіць на гэтай справе. Гэта камічная сцэна — як і сцэна ксяндза і пана Дулі ў 2-м акце — удала разраджае вялікае драматычнае напружанне, утворанае развіццём дзеяння. Здаля чутна песня — па рацэ плывуць чаўны з запарожцамі. Радасна сустракае казакоў Рыгор са сваімі зухаватымі хлопцамі. Тут кампазітар удала вырашыў складаную задачу — злучыўшы два хоры (казакоў ды хлопцаў), зусім адрозныя па музычнай фактуры і па характары (жаданне паказаць супольнасць памкненняў казакоў і беларусаў). Абодва хоры зліваюцца ў адзін, агульны хор казакоў. Стэпавая казацкая песня пераходзіць у скокі, пабудаваныя на матыве гапака.

Чацвёртая дзея — баль у замку ў князя Капусты перад паходам на Маскву. П'яная гульба польскіх шляхціцаў. У аркестры праходзіць мазурка — у ёй скарыстана тэма пана Дулі. Пад выглядам скамарохаў і пацяшальнікаў прыходзіць пераапрануты Ахрэм з хлопцамі... Княгіня ненавідзіць Кацярыну. Яна патрабуе ад князя ў падарунак свайму будучаму дзіцёнку — галаву Кацярыны. [...] Прыводзяць Кацярыну... Кацярына пяе страсную, выкрывальную песню. Шляхціцы абураныя: «Пакараць яе! Пакараць!» Раптам чуецца крык савы. Нядоб-

рае прадказвае ён князю. Змрочна, таямніча гучыць у аркестры гэты крык... Марына адкрывае князю праўду: не свайго першынца так радасна чакае ён, гэта — сын гайдука Яся, палюбоўніка княгіні. Князь загадвае закапаць жывымі княгіню, Марыну, Рыгора, Кацярыну і Яся. Асуджаных вядуць на пакаранне. Але ў гэты час урываецца Рыгор з хлопцамі. Казакі забіваюць князя, звязваюць шляхту. Чуцен трубны сігнал — то ідуць маскоўскія палкі. Беларусы, украінскія казакі і рускія аб'ядноўваюцца на барацьбу з польскай шляхтай...» [3]

Такая вось неверагодная гісторыя пра дружбу трох народаў... супраць чацвёртага, таксама, дарэчы, славянскага, народа. Зрэшты, гэта сёння можна іранізаваць з нагоды «гістарычнасці» лібрэта «Кацярыны». На той час кампазітар зусім сур'ёзна сцвярджаў (цытата з таго самага артыкула А. Ліўшыца): «У сувязі з узрушальнымі падзеямі, якія мы перажываем, «Кацярына» набывае яшчэ большае значэнне як мастацкі твор, што малюе спрадвечную барацьбу рускіх, украінцаў і беларусаў, іх гістарычнае з'яднанне і перамогу над панскай Польшчай...» [4] Магчыма, пазней М. Куліковіч разважаў бы ўжо інакш.

Калі б здарыўся цуд і партытура гэтай оперы знайшлася-апынулася ў рэпертуарным «партфелі» Дзяржаўнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, то ці знайшоўся б падзвіжнік-музыкант для няўдзячнай рэдактарскай працы, каб давесці да ладу ідэйную канцэпцыю і сюжэт «Кацярыны»? А ў тым, што ўласна музычны матэрыял яе варты ўвагі, пераконваюць высновы рэцэнзента: «Цікавая музычная мова Шчаглова. Яна свежая і простая, без вычварнасці, без надуманых выкрунтасаў. Партытура оперы пераконвае нас у тым, што кампазітар выдатна валодае аркестрам, умее выкарыстоўваць яго разнаітыя фарбы... Для творчасці М. М. Шчаглова глыбока арганічная музыка народа. Напеўнасць, цудоўны каларыт беларускай песні — вось адметная рыса музычнай тканіны оперы. Але кампазітар мала «цытуе» беларускую народную песню, захоўваючы ў той жа час цалкам водар гэтай песні... Тут мы сустракаемся з кампазітарам, які глыбока вывучаў беларускую народную песню, валодае вялікім майстэрствам. Ён шукае і знаходзіць вар-

---

[3] Сов. музыка. 1939. № 9—10. С. 77.
[4] Тамсама. С. 79.

тасныя музычныя сродкі для выяўлення сваіх думак»[5].

На жаль, звестак пра прэм'еру «Кацярыны» амаль няма. Спадар Пікарда сцвярджае, што была яна замоўлена да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве і паказ адбыўся з удзелам артыстаў Тэатра імя Станіслаўскага. Але ці было гэта? Тэндэнцыйнае лібрэта пазбавіла твор годнага сцэнічнага жыцця. Усё ж у Маскве палічылі магчымым надрукаваць лепшыя ўрыўкі, што і было зроблена ў 1940 г. Арыя Кацярыны «Павей, вецер», дуэт Кацярыны і Рыгора «Прытулілася каліна» з часам увайшлі ў канцэртны рэпертуар, набылі папулярнасць.

Мікола Шчаглоў стаў прыкметнай постаццю ў культурным жыцці перадваеннай БССР. Яго ўключылі ў створаную пасля вераснёўскіх падзей 1939 г. камісію па высвятленні стану мастацтва на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якую ўзначальваў Янка Купала. Свае высновы кампазітар выклаў у справаздачы на старонках часопіса «Советская музыка». Дарэчы, ён тут часта друкаваўся, стаўся фактычна карэспандэнтам па Беларусі. Аглядаў творчасць В. Залатарова і Я. Цікоцкага, А. Туранкова і Р. Пуксты, І. Любана, П. Падкавырава, Дз. Лукаса, С. Палонскага і іншых калег-кампазітараў. Урад адзначыў грамадскую актыўнасць і творчыя поспехі М. Шчаглова: у 1940 г. ён быў узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». А потым...

Потым была вайна. Кампазітар застаўся ў Мінску і выказаў лаяльнасць да акупацыйных уладаў. Ніхто, апроч яго самога, не зможа праўдзіва патлумачыць, чаму пад час сусветнай вайны з гітлераўскім фашызмам ён зрабіў менавіта такі палітычны выбар.

Лёс калабарацыяністаў — гэта заўсёды драма (а ўспомніўшы гісторыю Кнута Гамсуна, можна сказаць,— трагедыя). У буржуазнай Еўропе, як вядома, іх чакала суровае грамадскае асуджэнне. Але палітычныя памылкі і ваганні той ці іншай творчай асобы не заміналі грамадскаму прызнанню заслуг у мастацтве. Тое — ў Еўропе. Савецкі ж закон не дазволіў захаваць у гісторыі беларускай музыкі хоць бы імя кампазітара Міколы Шчаглова, аднаго з вядучых дзеячаў нацыянальнай культуры перадваеннага перыяду. Сёння, вяртаючы ў наш культурны ўжытак гэтае імя, мы з цывілізаванай памяркоўнасцю аглядаем і дзейнасць М. Шчаглова ў трагічную

---

[5] Сов. музыка. 1939. № 9—10. С. 79.

для нашае зямлі, для нашага люду часіну нямецкай акупацыі.

Ілюзорная «нацыянальная незалежнасць» пад чужацкім каўпаком трактавалася часам як свабода для творчага духу, для патрыятычных пачуццяў, для рэлігійнай веры. У ваенных умовах кампазітар з энтузіязмам прадоўжыў збіранне музычнага фальклору. Частка яго апрацовак увайшла ў «Зборнік купальскіх і жніўных беларускіх песняў», выдадзены ў Мінску ў 1943 г. Сярод змешчаных у ім трох дзесяткаў фальклорных узораў ёсць песні, аранжыраваныя А. Туранковым, Я. Прохаравым, ёсць «Купалінка» У. Тэраўскага. Але найбольш прадстаўлена праца М. Шчаглова: «Ішла Купалка», «А на гары цэркаўка», «Ой, чабор мой зялёны», «Васілёчак», «Радзі, Божа, жыта», «Ах вы, столікі мае», «Хадзі, раёк, на мой дварок», «Як пайшоў жа спарыш» і іншыя апрацоўкі. Спіс іх можна было б прадоўжыць, бо ёсць ксеракопіі старонак зборніка. Звесткі пра два іншыя тагачасныя выданні менш пэўныя: гэта невялічкія выданні-кніжачкі песень «Ой, прыйшла Каляда» і «Вясна-красна».

Рознабаковы музыкант, М. Шчаглоў і ў час вайны не абмяжоўваўся місіяй шукальніка і захавальніка фальклорных скарбаў. Ён пісаў асветніцкія артыкулы для «Беларускай газэты» і «Новага шляху» — пра музычную культуру Смаленшчыны, пра народныя інструменты. Адгукаўся на сучасныя патрэбы — пісаў песні для адпаведна настроенай беларускай моладзі. Працаваў для Мінскага тэатра эстрады. Ва ўмовах акупацыйнага рэжыму, але без умяшання ідэалагічнай цэнзуры былі створаны дзве оперы (лібрэта паэткі Н. Арсенневай).

Першая з іх — «Лясное возера» апавядала пра трагічнае каханне князя і сялянскай дзяўчыны. Прэм'ера адбылася 26 лютага 1943 г. у Мінскім народным тэатры, перадавалася па радыё. Наталля Арсеннева потым пісала: «Лясное возера» было створана кампазітарам у першыя гады нямецкай акупацыі Беларусі. Памятаю, як сёння, тыя халодныя і галодныя часы, калі я пісала да гэтай оперы лібрэта... Радасна, як ніколі, было пачуць свае словы, абуджаныя, ажыўленыя музыкаю Міколы Шчаглова. Мо таму, што ад першага знаёмства, ад першага сутыку нашых талентаў мы нейкім дзіўным чынам знайшлі супольную мову, сугучнасць і разуменне... Асабліва падабалася мне працягненая, як быццам чорнаю ніткаю, праз усю канву оперы музычная тэма долі,

трагічнага людскога Кону, тае долі, долі-чужаніцы, у якое «нельга адпрасіцца», што «хоча — дорыць шчасцем, хоча — гнець і ломіць...» У аснове песні пра долю — народная песня «Палыночак»...[6]

Опера «Лясное возера» была вельмі высока ацэнена беларускімі і «цывільнымі» нямецкімі крытыкамі, якія адзначалі яе ўкаранёнасць у традыцыі музыкі XIX ст. і ў той жа час — знітаванасць з сучаснасцю, ухвалялі кампазітарскую мову, у якой было не механічнае цытаванне народных мелодый, а фальклорны ўплыў.

Да парадаксальнасці рознабаковая натура музыканта ахоплівала, здавалася б, несумяшчальнае. Перастварэнне матываў беларускага фальклору ў оперным палатне — і кампазіцыі «мадэрных» танцаў для моладзі, складанне «Юнацкага спеўніка» (выдадзены ў 1943 г. у Мінску Саюзам беларускай моладзі), і рэфармаванне беларускай царкоўнай музыкі. Апошняму вельмі паспрыяла аднаўленне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, а творчым стымулам была рэфарматарская дзейнасць настаўніка М. Шчаглова па Сінадальным вучылішчы — А. Кастальскага, які ў свой час па-новаму асэнсаваў старажытны расійскі знаменны распеў. І вось ягоны вучань адважыўся выкарыстоўваць у літургічных кампазіцыях... напеўкі з беларускіх народных песень!

Другая опера на лібрэта Н. Арсенневай — «Усяслаў Чарадзей» (сюжэт узяты з гістарычнай мінуўшчыны) была скончана ў пачатку 1944 г., калі ўжо нямецкі рэжым ахапіла агонія, і тыя, каго спакусіў прывід нядоўгай беларускай незалежнасці, чакалі пакуты і нават трагедыі. Увасабленне новай оперы здавалася немагчымым, але прэм'ера ўсё ж адбылася — прагучала па мінскім радыё ў сакавіку 1944 г. Зноў былі ўражаны нямецкія крытыкі — параўноўвалі музыку беларускага кампазітара з творчасцю М. Мусаргскага, А. Барадзіна, адзначалі ў ёй жыццёвую сілу нацыі і даходлівасць кампазітарскай мовы. Ды наўрад ці кампліменты чужынцаў і віншаванні ў цесным коле свайго асяроддзя маглі шчыра ўзрадаваць творцу, які прадчуваў немінучую разлуку з радзімай.

Тая акалічнасць, што за калабаранцтва грамадзяніна

---

[6] Цыт. па: Пікарда Г. Найбольш беларускі кампазітар // Мастацтва Беларусі. 1991. № 12. С. 33.

Шчаглова доўгія дзесяцігоддзі «расплачвалася» і непадсудная музыка, трагічна адбілася не толькі на асабістым лёсе кампазітара, але і на абліччы беларускай нацыянальнай культуры. З яе былі выкінуты самабытныя музычныя старонкі — уся даваенная творчасць М. Шчаглова. І няма ўпэўненасці, што вернецца яна з забыцця ў поўнай меры, бо не выключана, што спадчына кампазітара знішчана.

Аднак жа і ў эміграцыі музыкант здолеў застацца музыкантам, бо пачуваўся ім да скону. Прыстасоўваючыся да новых умоў, ён вымушаны быў адмовіцца ад прозвішча «Шчаглоў» (магла выдаць аўтара папулярная ў даваенным СССР «Кантата пра Сталіна», дыскрэдытаваць яго асобу ў палітычным сэнсе) і карыстацца матчыным — «Куліковіч». (Між іншым, абодва прозвішчы ўтвораны ад назваў птушак, вядомых сваімі песнямі. Так што міжволі з'яўляецца думка: а ці не зашыфравана тут нейкае прыроджанае «песеннае» прадвызначэнне жыццёвага шляху?)

Быццам бы два розныя чалавекі прайшлі адзіны музыканцкі шлях: «тут» і да сярэдзіны 40-х — Шчаглоў, «там» і да канца 60-х — Куліковіч. Дык што ж было «там»?

Спачатку Нямеччына, наладжванне культурнага жыцця ў лагерах для перамешчаных асоб. Арганізацыя мабільнай трупы «Беларускі тэатр эстрады», для рэпертуару якога пісаў не толькі музычныя нумары, але і сцэнарыі, дыялогі, вершаваныя п'ескі, у якіх часта і з асалодай удзельнічаў сам — як спявак і акцёр. Мабыць, з часам будзе даследавана і гэтая унікальная з'ява нацыянальнай культуры для эмігрантаў, гэтыя музычна-драматычныя мініяцюры, адны назвы якіх ужо выклікаюць цікаўнасць: «Казка пра калгасную сям'ю», «Піф-паф», «Драма ў замку» і нават рускамоўная «Длинная рука.— Убийство Троцкого».

М. Куліковіч тамсама працягваў свае распрацоўкі нацыянальнага стылю царкоўнай музыкі. У 1948 г. закончыў «Літургію св. Яна Хрызастома» і «Усяночную», скарыстаўшы, як і ў сваім «Вялікодным каноне», папеўкі народных беларускіх песень. Рэдка ўжываючы «цытаты», ён умеў і свае арыгінальныя, вольныя царкоўныя гімны аздобіць водарам музычнага фальклору.

Ён ладзіў сувязі з беларускім друкам на Захадзе, займаўся даследчыцкай працай. Так, яшчэ ў 1944 г. у

Берліне выйшла кніга М. Куліковіча-Шчаглова «Беларуская музычная культура». Затым ён рыхтаваў фундаментальны матэрыял — «Беларуская народная песня», апублікаваць які ўжо не паспеў. Хоць увогуле шмат што паспеў здзейсніць за чвэрць веку жыцця на чужыне.

Нямеччыну ён пакінуў у 1950 г., перабраўся ў ЗША, дзе мог зарабляць музычнымі лекцыямі і фартэпіяннай ігрой. Неўзабаве пазнаёміўся з колішняй прымадоннай Кіеўскай і Венскай опер Надзеяй Градэ. Яны павянчаліся. Гэта было і шчаслівае творчае партнёрства: яркае сапрана і чулы піяніст-канцэртмайстар, яны выступалі з камернымі праграмамі ў Злучаных Штатах і Канадзе. Класічны оперны рэпертуар суседнічаў у іх канцэртах з творамі беларускіх кампазітараў і апрацоўкамі народных песень.

Уладкаваўшыся ў Чыкага, М. Куліковіч з жонкай зрабіўся відным чыннікам жыцця даволі актыўнай тамтэйшай беларускай грамады. Публічныя гарадскія канцэрты, удзел ва ўрачыстасцях 25 сакавіка, выступленні для іншых этнічных груп — украінскіх, польскіх, рускіх. Апрача таго, напружаная індывідуальная дзейнасць М. Куліковіча: музычныя заняткі з вучнямі, кіраванне хорам уніяцкай царквы Хрыста Збавіцеля ў Чыкага, супрацоўніцтва з беларускім і рускім замежным друкам. У 50-х гадах быў апублікаваны яго гістарычны агляд «Беларуская музыка» і аналітычная праца «Беларуская савецкая опера», разлічаная на англамоўнага чытача (з нязвыклым даследчыцкім падыходам, з вострым палемічным стылем М. Куліковіча мы атрымалі магчымасць пазнаёміцца праз публікацыю гэтай працы пад назвай «Савецкая беларуская опера» ў часопісе «Спадчына») [7].

Выходзілі ў Амерыцы і беларускія песенныя зборнікі, укладзеныя М. Куліковічам-Шчагловым і надрукаваныя Згуртаваннем беларускай моладзі ў Кліўлендзе, а таксама зборнічак «Калядоўшчыкі», «Беларускія песні і танцы для акардэону». Бадай, найбольш грунтоўны — другі песенны зборнік (1960 г.), складзены амаль са ста твораў: песень, танцаў, рамансаў, балад, апрацаваных кампазітарам пераважна для голасу і фартэпіяна. Тут і «Песня каліноўцаў», і «Васількі», і «Ты прыйдзі» — улюбёны рэпертуар беларускай дыяспары, як і Куліковічавы «Пагоня», «Ад родных ніў», «О, Беларусь, мая шыпшы-

---

[7] Спадчына. 1991. № 6. С. 75.

на», «У гушчарах»... Падборка яго твораў была змешчана і ў «Беларускім царкоўным спеўніку».

Ужо згаданая наша сустрэча з Г. Пікардам дала магчымасць даведацца пра М. Куліковіча-Шчаглова як асобу, пачуць расповяд пра апошні перыяд жыцця і творчасці музыканта. Тая гутарка амаль цалкам была надрукавана ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». І ўсё ж некаторыя фрагменты яе варта ўзнавіць.

«Куліковіч,— сцвярджае Г. Пікарда,— быў вельмі талерантны чалавек. Пісаў і для рыма-католікаў царкоўную музыку, і на свой уніяцкі прыход, як быў рэгентам. А сам — хрышчаны праваслаўны, які любіў трошачкі лацінства, трошачкі грэцкі абрад... Гэта беларускі характар, знаеце. Вось жа ў вас у вёсках ёсць такое свята — Божае Цела — ну, дык і праваслаўныя, і каталікі рыхтуюць такі алтарык, ксёндз благаславіць — і ўсё: талерантнасць... Куліковіч класічныя каталіцкія мелодыі гарманізаваў цудоўна: «Вітай, Марыя», «Сэрца Ісуса». І народныя беларускія песні таксама (больш за 600). Пісаў цэлыя літургіі, заснаваныя на народных тэмах. І гарманізаваў мноства старых беларускіх напеваў. І большай часткай рабіў усё гэта ў Амерыцы бясплатна...

Знаеце, гэта дзіўная рэч: хоць я шмат гадоў працаваў з Куліковічам, я ніколі не сустрэўся з ім. Мы толькі пісалі адзін аднаму. Таму і не ведаў яго асабіста. Але, відаць, ён быў чалавек вельмі шчыры, вельмі талерантны. Ну, і як Мусаргскі, любіў трошачкі выпіць... Не сноб, не горды чалавек, а вельмі гуманны быў. Пісаў і вышэйшыя прыгожыя царкоўныя мелодыі, і кабарэтныя песні — «Пацалуй мяне», тыпу... І гэта ўсё музыка! Гармонік вельмі цаніў, казаў, што гэта народны інструмент, сам граў...

Пасля ягонай смерці (Куліковіч, рыхтуючыся да ўгодкаў БНР у 1969 г., захварэў і 31 сакавіка памёр) удава кампазітара ўпарадкавала крыху архіў і пераслала, згодна пажаданню мужа, Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане. Маўляў, там людзі працуюць і будзе нешта сур'ёзнае. Спадзяюся, мы апублікавалі нешта сур'ёзнае са спадчыны Куліковіча, і няхай цяпер ідуць далей вашы людзі. Таму што вы маеце цяпер магчымасці гэта рабіць, маеце энтузіязм і вялікія сілы» [8].

[8] Літ. і мастацтва. 1992. 27 ліст.

Вяртанне творчасці М. Куліковіча-Шчаглова на радзіму пачалося. Яго працы для хору ўзноўлены сёння адным з лепшых выканаўчых калектываў рэспублікі, якім кіруе таленавіты дырыжор Ігар Мацюхоў; ёсць яны ў рэпертуары энтузіястаў з Акадэміі навук Беларусі і маладых артыстаў Гродзенскай гарадской капэлы. Энтузіясты музычнага адраджэння цікавяцца нотнымі пасылкамі з беларускага замежжа. Праўда, спадар Пікарда засцерагае называць такіх асоб, як М. Куліковіч ці М. Равенскі, «кампазітарамі беларускага замежжа», бо самыя плённыя гады творчасці звязаны ў іх з жыццём на радзіме.

Вяртанне пачалося, але яно не будзе лёгкім. Са зразумелым пачуццём насцярожлівасці, недаверу ставяцца да гэтай чыстай культурнай акцыі колішнія калегі і прыяцелі М. Шчаглова — цяпер ужо сталага веку людзі, прызнаныя музыканты, шчырыя патрыёты... І, мусіць, як гэта часта бывае ў мастацтве,— яго тайныя ці яўныя творчыя супернікі.

Вяртанне будзе нялёгкім яшчэ і таму, што даваеннага архіва М. Шчаглова фактычна няма. І таму, што творчая спадчына кампазітара, за невялікім выключэннем, марнее ў рукапісах, што яна невядомая, і мо таму недаацэненая ў замежным музычным свеце.

Тое, што сам творца горача жадаў вяртання ці хоць бы спаткання з Беларуссю, нельга не адчуць, чытаючы вершы Міколы Куліковіча-Шчаглова. Іх невялічкі рукапісны зборнік знайшоў у лонданскім архіве музыканта Адам Мальдзіс. Знайшоў сярод рукапісаў опер «Лясное возера» і «Усяслаў Чарадзей», аперэты «У вырай» (таксама на лібрэта Н. Арсенневай), драматычных сцэнак «Прыгоды дзядзькі Янкі з Гаротнікаў», «Паланянка», «Бяздушная цацка», «Голы нуль»...

У нізцы Куліковічавых вершаў, апублікаваных А. Мальдзісам [9], ёсць танга «Васількі», малітоўная «Падзяка», «Застольная». Ёсць і балада пра полацкія крыжы, і «Каляды» з успамінам пра Маці-Беларусь і нясмелым спадзевам на тое, што «Мо, й нам доля усміхнецца, на Радзіме давядзецца ў Новым, Радасным гаду пагуляць на Каляду». Ёсць верш і пра імклівы вецер, які панёс на радзіму паэтаў паклон.

---

[9] Літ. і мастацтва. 1991. 27 верас.

А гэта — з верша «Менск»:

Ах, я б жадаў
Стаць казачнай няўгледкай,
Злятаць у Менск, ўглядзецца ў новы твар,
Сучасных дней
Быць непрыкметнай сведкай,
Зямны паклон злажыць там на аўтар.

Хто ведае, мо яго творчы дух «казачнай няўгледкай» і сапраўды прыляцеў у Мінск. І будзе тут непрыкметным сведкай таго, як ляжа нарэшце на алтар беларускай культуры лепшае са створанага Міколам Куліковічам-Шчагловым — зямным чалавекам з грэшнаю душою і чыстым, ад неба, музычным талентам.

*Анатоль Сабалеўскі*

# ЛЯ ВЫТОКАЎ КУЛЬТУРНАГА АДРАДЖЭННЯ

## (Данчык у Беларусі)

Што ж уяўляла сабой Беларусь на той час, калі вераснёўскім ранкам 1989 года прыехаў у Мінск Данчык са сваёй маці Юляй Андрусішынай? Каб адказаць на гэтае пытанне, давядзецца пачаць крыху з перадгісторыі нашага нацыянальна-культурнага і нават палітычнага жыцця.

Як вядома, нацыянальны заняпад пачаўся з рубяжа дваццатых—трыццатых гадоў, калі ў адкрытую задзейнічала сталінская рэпрэсіўная машына. Пасля таго на асобных дзялянках культуры былі пэўныя ўсплёскі ці то ў лепшы, ці то ў горшы бок, але агульны, генеральны рух заставаўся няўхільным.

Працэс дэнацыяналізацыі інтэнсіўна развіваўся і ў хрушчоўска-брэжнеўскі час. Беларускія школы ператвараліся ў расейскія, і з часам, як бы неўпрыкметку, першыя фактычна перасталі існаваць. Родная мова вывучалася як замежная з усімі ў гэтым плане наступствамі. Праз пэўныя перыяды, але планамерна праводзіліся кампаніі барацьбы з нацыяналізмам, і пад рэпрэсіі падпадалі лепшыя, нацыянальна свядомыя творцы. Калі раней вынішчалі людзей фізічна, то ў постсталінскі перыяд кіруючыя органы дзейнічалі больш вытанчана: таптаді ахвяры ў бруд, тайна і публічна іх ганьбавалі, нявечылі маральна. Пад розным выглядам ліквідаваліся культурныя нацыянальныя асяродкі.

У выніку — беларуская мова амаль поўнасцю выйшла з паўсядзённага ўжытку, многія творы мастацтва прыроўніваліся да сувенірных, калі іх «інтэрнацыянальны змест» быў, не раўнуючы, нібы якія цукеркі ці каробкі цыгарэт, абгорнуты ў «нацыянальную форму». І менавіта такія творы афіцыйна падтрымліваліся і прапаганда-

валіся, іншымі словамі кажучы, выстаўляліся напаказ і напродаж. Менавіта як сувеніры.

Тым часам кіраўніцтва з Масквы беларусаў падхвальвала, што яны ледзьве не ўзорныя інтэрнацыяналісты і таму ці не першыя прыйдуць у светлую яву, цяпер не будзем удакладняць — якую. Наша ж мясцовае начальства асабліва старалася, каб Беларусь (чытайце — кіраўніцтва) хвалілі яшчэ больш, і ў плане дэнацыяналізацыі не толькі выконвалі нормы, але і значна іх перавыконвалі, вытраўляючы ў свядомасці людзей усё натуральнае, ад прыроды разумнае і здаровае. А народ?.. Ён, стагоддзямі прыгнечаны, удушаны, цярпеў, маўчаў.

Такія вось былі варункі.

Нацыянальнае абуджэнне ў Беларусі па азначаных ужо прычынах пачалося позна, прынамсі, значна пазней, чым у многіх іншых былых саюзных рэспубліках, асабліва ў параўнанні з паўночнымі і паўднёвымі суседзямі.

Найбольш актыўна дзейнічалі маладыя. Так, юнакі і дзяўчаты, пераважна студэнты, у выходныя дні ці ў вольныя ад вучобы або працы часіны збіраліся ў Траецкае прадмесце, каб уласнымі рукамі адбудоўваць, рэстаўраваць стары славуты куток Мінска. У выніку склаўся калектыў аднадумцаў — суполка «Талака», які не толькі бяссрэбна і самаахвярна працаваў, але і ўвогуле ўзяў на сябе клопаты пра культуру, пра яе адраджэнне, і найперш — роднай мовы. У нечым падобным шляхам сарганізоўваліся «Пагоня», «Тутэйшыя» і іншыя суполкі.

Напачатку высакародны рух за нацыянальнае адраджэнне меў амаль выключна культурніцкія мэты. Але ў вельмі хуткім часе ён быў скіраваны ў палітычнае рэчышча, і не самімі ўдзельнікамі гэтага руху, а (во парадокс!) партыйна-кіраўнічай наменклатурай. Ёй убачыўся не толькі прывід нацыяналізму, але нечага значна большага — ідэалагічнага і дзяржаўнага падрыву.

Мабыць, першым адкрытым наступам рэакцыі быў разгон навучэнцаў Мастацкай школы-інтэрната імя І. Ахрэмчыка, якія пры ўдзеле Саюза мастакоў, іншых культурных дзеячаў, шматлікіх мінчан намерваліся ў Траецкім прадмесці ладзіць мастацкую імпрэзу «Гуканне вясны». На калону зусім безабаронных дзяцей, падлеткаў, што крочылі з кветкамі і беларускімі народнымі песнямі, напалі дзябёлыя хлопцы, так званыя афганцы і жорстка іх пабілі — нібыта за тое, што вось яны на далёкай чужой зямлі адстойвалі свабоду і гонар, а цяпер

пачынаюць тлуміцца над гэтай свабодай і гонарам. Сама падзея, ці больш дакладна — акт вандалізму, ўзрушыў не толькі Мінск. Тым больш што вельмі хутка стала вядома — гэту «аперацыю» арганізавалі партыйна-кадэбісцкія службы. Зразумела, зварот бацькоў тых дзяцей, якія пацярпелі, у дзяржаўныя і судовыя інстанцыі ніякіх вынікаў не даў.

Тым часам у друку, увогуле ў сродках масавай інфармацыі, на розных афіцыйных сходах і пасяджэннях распачалася актыўная кампанія па выкрыццю так званай антынароднай дзейнасці, а па сутнасці проста па збэшчванню і маладзёжных суполак («нефармалаў»), і вядомых дзеячаў культуры, якія ўзнімалі голас у абарону праўды, справядлівасці ды і ўсяго дэмакратычнага нацыянальнага руху. Але разграміць гэты рух, што з лёгкасцю рабілася ў мінулыя гады, не ўдалося. Цяпер дзяржаўная ідэалагічная машына натыкнулася на моцнае супраціўленне. Да гонару нацыянальна свядомых дэмакратаў — у іх шэрагах былі пераважна маладыя сілы, а таксама і сталыя дзеячы — яны не толькі не прыгнуліся да зямлі, а цывілізаванымі сродкамі мала-памалу пачалі дэманціраваць саму казённую машыну.

У поўным сэнсе слоў громам з яснага неба прагучалі на старонках «Літаратуры і мастацтва» першыя звесткі пра Курапаты. Людзі, якія, здавалася б, ужо ведалі праўду пра сталінскія рэпрэсіі, пра злавесныя і трыццатыя, і наступныя гады, жахнуліся. Даныя пра Курапаты, крыху пазней яшчэ раз дакументальна пацверджаныя, літаральна скаланулі свет.

Першая публікацыя Зянона Пазьняка (сумесна з Я. Шмыгалёвым) была 3 чэрвеня 1988 года, другая пазначана 16-м верасня таго ж года. А праз месяц — 19 кастрычніка сабраўся Усебеларускі ўстаноўчы сход з прадстаўнікоў творчых саюзаў, дзеячаў літаратуры, мастацтва, навукі, культуры, рабочых, служачых, студэнтаў, грамадскіх і дзяржаўных арганізацый, на якім было створана гісторыка-асветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралог Беларусі». Чарга даходзіла да ўзнікнення Беларускага народнага фронту. Гэта ідэя ўжо не толькі насілася ў паветры, але і набывала рэальную глебу. Ды ўласна і «Мартыралог Беларусі» ў нечым быў папярэднікам і правобразам самога Народнага фронту.

Гэта не магло не разумець і камуністычнае кіраўніцт-

ва. Па старых адладжаных метадах тэрмінова збіраецца нарада ў першага сакратара, дзе яго ж вуснамі аб'яўляецца сам Устаноўчы сход «сборищем» (а ў ім прымаў удзел цвет беларускай нацыі — Васіль Быкаў, Янка Брыль, Стэфанія Станюта, Максім Танк, Зянон Пазьняк, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Вярцінскі і іншыя слынныя дзеячы). Па даўняй бальшавіцкай звычцы засылаюцца агітатары ў працоўныя калектывы, каб выкрываць і кляйміць і тое «сборище», і яго ўдзельнікаў, і наогул дэмакратычныя сілы. Поўнасцю падпарадкаваныя «кіруючай і накіроўваючай сіле» сродкі масавай інфармацыі паднялі чарговую хвалю прапагандысцкай істэрыі. Даць жа людзям праўдзівую інфармацыю пакуль магчымасці не было. У той час вятры дзьмулі толькі ў адзін бок. І тым не менш.

Супрацьстаянне ўзмацнялася, драматычныя падзеі нарасталі з вялікай хуткасцю і дасягнулі, бадай, свайго эпагея 30 кастрычніка ўсё таго ж 1988 года.

Група дзеячаў культуры выступіла з ініцыятывай адзначыць старажытнае народнае святкаванне «Дзядоў» — памінанне памерлых. Ну, і зусім натуральна і лагічна — адправіць рытуал у Курапатах, святым і шматпакутным месцы. Як гаворыцца, па ўсіх правілах, у вызначаны тэрмін звярнуліся да гарадскіх улад з хадайніцтвам аб дазволе. Адмовіць не было аніякіх падстаў. І дазвол напачатку быў выдадзены, толькі месца правядзення «Дзядоў» прызначалася не ў Курапатах, а каля Усходніх могілак. Аднак хутка ўлады спахапіліся і, што называецца, далі поўны адбой. Матывіроўка была да смешнага дзіка-неразумная. Маўляў, яшчэ не закончана дыскусія ў газеце «Вечерний Минск» пра тое, у які дзень адзначаць «Дзяды» ды і ці патрэбна гэта рабіць наогул. А тут яшчэ прыспічыла акурат у гэты дзень (і на гэтым месцы?) святкаваць сямідзесятыя ўгодкі камсамола.

Людзі ж не здаваліся, вырашылі, нягледзячы ні на што, прынародна, усёй грамадою адзначыць «Дзяды». Не драмала і партыйная наменклатура. На гэты раз ідэалагічным штабам стаў Мінскі гаркам. У перадапошнія да падзей дні ён шумеў, як моцна патрывожаны вулей. Нарады праводзіліся за нарадамі, адна група людзей пакідала залу, і тут жа яе запаўняла другая. Міліцыя, аманаўцы ўваходзілі і выходзілі маршавым строем. Указанні (каму што рабіць; як дзейнічаць) даваліся

кароткія і дакладныя, нібы перад сапраўдным боем. Усё гэта нагадвала — па вядомых фільмах — Смольны ў кастрычніцкія падзеі 1917 года, толькі ўжо ў вельмі камічным, вадэвільна-фарсавым выяўленні.

І хоць 30 кастрычніка па нейкіх міфічных і зноў жа вельмі смешных прычынах у бок Усходніх могілак не пайшлі ні тралейбусы, ні аўтобусы, ні нават электрычкі метро, людзей сабралася многа. Некалькі дзесяткаў тысяч. Дабіраліся да прызначанага месца ў асноўным пешшу. І тут жа натыкаліся на «жалезны заслон». Абсалютна мірную працэсію сустракалі ва ўсеўзброенні. Чалавечы натоўп, не прарваўшы абарону, стыхійна рушыў у бок Курапатаў. Кіраўнікі «аперацыі» такога павароту наперад не прадугледзелі і, натуральна, не далі адпаведных інструкцый. Таму «абаронцы рубяжоў» не ведалі, што ім цяпер рабіць, і нейкі час проста бяздзейнічалі. А шматтысячны натоўп, не дайшоўшы да Курапатаў, бо і там былі заслоны, у чыстым полі, прыпаўшы на калені на мёрзлую зямлю, слухаў словы Зянона Пазьняка, Уладзіміра Арлова і іншых прамоўцаў. Хутка, аднак, на людзей рушыла войска, абкружыла іх. А потым, па камандзе перагрупаваўшыся, рассекла натоўп, наступала на яго з усіх бакоў. Натоўп пачаў рассейвацца, людзі кінуліся наўцёкі. Іх вылоўлівалі. Нават тых, хто ўжо дабягаў да горада, спынялі, білі. Вялікай крыві ў той памятна-драматычны дзень не пралілося, але гумавыя дубінкі, як і газавыя балончыкі з вядомай «чаромухай», дзейнічалі спраўна. Не стаялі пустымі і зарашэчаныя машыны, у якіх звычайна возяць турэмшчыкаў. Туды сілком запіхвалі ахвяры і дастаўлялі «куды трэба».

Той ноччу амаль увесь горад не спаў. Узбуджэнне не праходзіла і назаўтра, і напаслязаўтра...

Гэта было падобна да падзей у Тбілісі ці пазнейшых у Вільнюсе. Праўда, тварыліся яны ў Мінску выключна сваімі рукамі, хаця наша заўсёды вернападданніцкае начальства ніколі не асмелілася б на такі крок без згоды Масквы, самага найвысокага кіраўніцтва.

А ў той час, як і да гэтага, як і пазней, першая асоба дзяржавы, з прычыны і без прычыны, бясконца паўтарала пра новыя падыходы і новае мысленне, пра працэс, які «пайшоў» і што яго назад ужо не вярнуць і г. д., і г. д. Але людзі ўжо добра разумелі, што гэта зусім пустыя словы, выключна разлічаныя на набыццё замежнага іміджу, і належаць яны, калі не жуліку, то ў лепшым

выпадку такому ж пустому чалавеку. Бо, сапраўды, чаго яны вартыя, калі натхняльнікі і непасрэдныя арганізатары ўдушэння і «новых падыходаў» і «новага мыслення», увогуле ўсяго жывога, прагрэсіўнага, не толькі не караліся, а падтрымліваліся, заахвочваліся. Найбольш жа старанныя даслужваліся да таго, што іх бралі ў Маскву, у «саму каманду» — вышэйшае дасягненне і гонар партакратычнай наменклатуры.

Вось і цяпер, як гаворыцца, па гарачых слядах падзей пачаліся моцныя ідэалагічныя прапрацоўкі — хто дзе што ўпусціў, не дагледзеў, не прыняў наперад адпаведных захадаў і т. п. Але на гэты раз рэпрэсіўныя меры ў хуткім часе давялося прыпыніць. Справа ў тым, што кіраўніцтва рэспублікі спадзявалася, а магчыма было і ўпэўнена, што ўсё застанецца шыта-крыта, ніякая інфармацыя пра рэальныя падзеі 30 кастрычніка нікуды не прасочыцца — усюды ж былі расстаўлены надзейныя заслоны. А тым часам пайшлі чуткі, якія хутка перадаваліся, шырыліся, што маецца выступіць Васіль Быкаў. Да нашых сродкаў масавай інфармацыі яго не дапусцяць, дык ён знойдзе (ці ўжо знайшоў!) іншую трыбуну.

Неўзабаве ў маскоўскім часопісе і сапраўды з'явіўся артыкул Быкава, у якім ён па-грамадзянску страсна, усхвалявана расказаў пра свежыя і крыху больш даўнія падзеі, увогуле пра тое, што творыцца ў Беларусі. Памятны часопіс без затрымак перадаваўся з рук у рукі, яго зачытвалі, як гавораць, да дзірак. Пераказвалі змест артыкула тым, да каго часопіс не дайшоў.

Гэта было як разрыў магутнай бомбы.

Выступленне Васіля Быкава набыло вельмі шырокі розгалас і рэзананс у свеце. Да таго Беларусь ведалі як самую стабільную ў палітычным жыцці рэспубліку, увогуле ціхую і паслухмяную. А тут такія падзеі...

Кіраўніцтва рэспублікі, усе завадатары, прыціснутыя да ганебнага слупа, якіх ужо асуджаў свет, пачалі выкручвацца. Як і звычайна, надзвычай няўклюдна і прымітыўна. Указвалі на нейкіх дробных клеркаў (а ўсе ж разумелі, што палітычная гульня была вельмі вялікая), ды і тых, калі ў гэты час не павышалі па службе, то і нічым не каралі.

А народ ужо не маўчаў. Усё больш пачаў выходзіць на вуліцы, плошчы. І найчасцей з даўнімі дзяржаўнымі сімваламі, святынямі — з выявай «Пагоні», пад бела-чырвона-белымі сцягамі.

Надышоў і цвёрдай хадою ступіў мітынговы перыяд. А тут якраз блізіліся выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі. Палітычныя акцыі ўзмацняліся і шырыліся. Праводзіліся розныя імпрэзы, сходы.

Вяршынным на той перыяд стаўся мітынг 19 лютага 1989 года на Мінскім стадыёне «Дынама», на гэты раз афіцыйна дазволены. Народу сабралася, па адных звестках, шэсцьдзесят, па іншых — сорак тысяч чалавек. Быў моцны, акурат лютаўскі мароз. Сам мітынг доўжыўся некалькі гадзін, і людзі стаялі, слухалі. А калі пад гітару Сяржук Сокалаў-Воюш заспяваў сваю новую песню, дружна падхоплівалі рэфрэн: «Фронт, фронт, фронт». Спробы партапаратчыкаў, якія і цяпер былі «мобилизованы и призваны», хоць чым-небудзь супрацьстаяць народнай хвалі, ніякага поспеху не мелі, іх намаганні выклікалі ў людзей адно саркастычныя насмешкі. Магутная агонія ўлады была 30 кастрычніка, а цяпер — усяго толькі канвульсіўныя сутаргі.

Даволі грандыёзным быў і мітынг у Мінску 25 сакавіка 1989 года — якраз напярэдадні саміх выбараў.

На саміх выбарах агульную перамогу атрымала партакратычная наменклатура. Інакш, бадай, і быць не магло: у іх руках па-ранейшаму знаходзіліся сродкі масавай інфармацыі, поўная ўлада, падпарадкаваная сама выбарчая сістэма і г. д. Наша ж зусім яшчэ маладая дэмакратыя нічога з гэтага не мела. І тым не менш ранейшая маналітная браня была прабіта. У Вярхоўны Савет, няхай і ў абсалютнай меншасці, трапілі і дэмакратычныя сілы (некаторыя з іх пазней складуць апазіцыю). Так, з першага ж тура быў абраны Зянон Пазьняк, на якога перад гэтым вылілі неймаверную колькасць бруду. І праваліўся першы сакратар Мінскага гаркама, які перад гэтым з нейкай здзяціненай наіўнасцю стукаў сябе ў грудзі, што ён і ёсць самы народны і самая народная ўлада, а самаахвочыя адвакаты даводзілі людзям, што і халадзільнікі ў яго доме зусім пустуюць.

Пасля выбараў самай значнай падзеяй былі акцыі 26 красавіка з нагоды трэцяй гадавіны Чарнобыльскай катастрофы. Зноў жа — масавая маніфестацыя, трагічна-белічныя рытуалы.

1 мая арганізоўваліся альтэрнатыўны мітынг і дэманстрацыя — як супрацьстаянне традыцыйнаму зкамунізаванаму святу, яго кансерватыўным рытуалам.

Апошнія палітычныя падзеі як бы падводзілі рыску —

і таксама апошнюю — пад наступнай, можа, самай важнай: стварэннем Беларускага народнага фронту. Ён узнік значна пазней у параўнанні з іншымі, асабліва з суседнімі, рэспублікамі — занадта паўнаўладнай усё яшчэ заставалася ў нас «кіруючая і накіроўваючая» сіла. Не дзіва, што на Устаноўчы з'езд 25 чэрвеня 1989 года дэлегаты сабраліся не ў Беларусі, а ў Вільнюсе, як бы ў падполлі, куды ўжо не маглі дацягнуцца мускулістыя рукі ўладаў.

Стварэннем Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» як бы завяршыўся першы, драматычна вельмі насычаны акт барацьбы. Ён меў выключна палітычную накіраванасць. Змаганне за адраджэнне вялося ў рэчышчы адваёў дэмакратычных свабод, нацыянальнай калі яшчэ не самастойнасці, не поўнай незалежнасці, то хоць бы аўтаноміі. Сёе-тое было ўжо дасягнута. Сведчанне гэтага — стварэнне адпаведных умоў для прыезду ў Беларусь Данчыка, чаго раней не было.

Але пасля першай дзеі наступіў некаторы антракт. Змагары, знясіленыя цяжкай барацьбой, адчувальна прытаміліся. Збалелыя сэрцы, душы праглі хоць невялікага супачыну. Тым больш што наперадзе вояў чакалі новыя сутыкненні і баі, не менш складаныя і драматычныя, чым папярэднія. І трэба было іх весці ўжо не толькі за палітычнае, але і культурнае адраджэнне нацыі.

Менавіта якраз у гэты час, калі пасля адчувальнай стомы ад мітынгаў, маніфестацый, іншых палітычных акцый трэба было знаходзіць новыя сілы, каб працягваць змаганне і на новым плацдарме — за адраджэнне нацыянальнай культуры, мовы, літаратуры, мастацтва, і прыехаў да нас Данчык. Як покліч самога часу і яго месія.

Данчыка прынялі на зямлі продкаў, без перабольшвання, адразу ж. Усталявалася не толькі выключная псіхалагічная сумяшчальнасць, але і поўнае паяднанне. У гэтым, прынамсі, напачатку важную ролю ігралі і прыроджаныя даныя, тое, што, як кажуць, ад маткі і бацькі. Стройны, прыгожы малады хлопец. І хоць Данчыку ў той час пайшоў ужо трыццаць другі год, выглядаў ён зусім юнаком. Светлым, чыстым, паэтычна-ўзнёслым. Увогуле было такое ўражанне, што Данчык увесь сатканы з паэзіі, яна з яго выпраменьваецца амаль пастаянна. Прытым паэзіі менавіта багдановічаўскага складу і нахілу (хто ведае, можа Данчыкава бабка і перадала ўну-

ку нейкія духоўныя імпульсы і гены ад Максіма Багдановіча, калі той трымаў яе на руках) — знешне нягучнай, сцішанай, да слёз шчымлівай і кранальнай, так бы мовіць, паэтычна-паэтычнай... Чароўная, асвятляльна вабная ўсмешка, якая вельмі часта лучыцца на яго твары. Плаўнасць і мяккасць рухаў, жэстаў, дасканалая пластычнасць. І нічога лішняга ці наноснага. Усё арганічнае, натуральнае.

Такія людзі маюць не толькі прыцягальную сілу. Яны падкупляюць, як бы абварожваюць, бяруць у палон. Прытым літаральна з першых хвілін знаёмства. І сапраўды, не паддацца ўладзе абаяння Данчыка, бадай, немагчыма.

А тут да прыродных даных як найлепей стасуюцца і набытыя чалавечыя якасці, тое, што называецца коратка — добрае выхаванне. Данчык вельмі інтэлігентны. Манеры яго паводзін зусім нязмушаныя. Ён просты ў абыходжанні. Не размашысты, па-высакароднаму стрыманы, сціплы і разам з тым вельмі даступны і камунікабельны. Да чалавека, да яго душы, сэрца Данчык ідзе напрасткі, найкарацейшай дарогай. Як гаворыцца, розум і пачуцці суладныя, працуюць у адным рытме.

Такія вось штрыхі характару і абрысы вобліку Данчыка з самага-самага першага позірку. Менавіта такім ён і запомніўся на беларускай зямлі.

А прыехаў Данчык сюды не з нейкай спецыяльнай місіяй, так бы мовіць, вялікага значэння. Проста прыбыў па прыватным запрашэнні, і ніхто наперад не мог ведаць і найменш, мабыць, ён сам, чым жа можа абярнуцца і ўрэшце-такі абярнуўся гэты яго візіт.

Аднак спачатку звернемся да хронікі падзей самой паездкі, якую скрупулёзна занатавала маці Данчыка Юля Андрусішына.

Пасля Мінскага вакзала, дзе прыхільнікі таленту Данчыка, прынамсі, тыя, хто ведаў пра прыезд, сустракалі з песняй і пад тады яшчэ забароненым бела-чырвона-белым сцягам — а сярод іх былі і сваякі, у тым ліку бацька Юлі Андрусішынай,— накіраваліся да Леаніда Барткевіча. Дарэчы, кватэра Барткевіча — Леаніда і яго жонкі знакамітай гімнасткі Вольгі Корбут — і будзе прытулкам у час знаходжання ў Мінску.

Першы дзень пайшоў на агульныя знаёмствы, сяброўскія размовы за святочным сталом, агледзіны Мінска, адшукванне для спадарыні Юлі знаёмых, родных мяс-

цін. На другі дзень адбылася сустрэча ў «Гасцёўні Галубка». Як, бадай, і на ўсіх наступных падобнага кшталту спатканнях,— а іх яшчэ наперадзе шмат,— узнікалі пытанні, даваліся адказы, гучалі песні. Жартавалі, смяяліся. Словам, усталёўвалася цёплая, сардэчная атмасфера, і ўсім было лёгка, радасна на душы.

Трэба сказаць, што Андрусішыны адразу ж патрапілі ў моцнае акружэнне сяброў, у тым ліку і сваякоў, якіх выявілася даволі многа, і распарадак гасцявання быў вельмі насычаны і нават перагружаны рознымі імпрэзамі. Напачатку пераважалі паездкі азнаямляльна-пазнавальнага характару. Так, зранку наступнага дня (13 верасня) разам з Барткевічам і Сяржуком Сокалавым-Воюшам выправіліся ў Заслаўе, агледзелі тамтэйшы музей. Потым накіраваліся ў купалаўскую мясціну — Вязынку, таксама пабывалі ў музеі, пазнаёміліся з яго экспанатамі.

А пад вечар таго ж дня ў Мінску была наладжана сустрэча з суполкай «Талака», якую ўзначальваў Сяржук Вітушка. Малады беларускі амерыканец і сваімі песнямі, і задушэўнай гутаркай поўнасцю запаланіў душы маладых беларускіх мінчан, дастаткова сказаць, што апошнія пазней апантана наведвалі канцэрты Данчыка і з вялікім імпэтам пасылалі яму цыдулькі з прызнаннем у сваёй любові.

Вось да прыкладу, некаторыя з іх: «Данчык!!! Ты наша надзея! Ты — наша сэрца! Ты — наша душа! Твае Талакоўцы» [1]. Або: «Данчык!!! Мы цябе шануем і кахаем!!! Талакоўцы». Ці яшчэ: «Данчык!!! Не ведаем, што мы будзем рабіць, калі ты з'едзеш, калі скончыцца гэтае свята!!! Твае талакоўцы».

Пасля «Талакі» вечарам была яшчэ адна імпрэза ў Доме літаратара. Пазней тут адбудуцца вялікія грамадска-культурныя падзеі, звязаныя з Данчыкам, а пакуль што — больш ціхая, як бы прыватнага значэння. Цяпер яна ладзілася ў бары, куды на сустрэчу з моладдзю запрасіў паэт Анатоль Сыс. Тут жа адбылося знаёмства Данчыка і спадарыні Юлі з вядомай паэткай Данутай Бічэль-Загнетавай, у якой пазней яны будуць гасцяваць у Гародні.

Наступныя дні праходзілі ў чарговых клопатах. Па-

---

[1] Тут і далей водгукі цытуюцца па запісках, пісьмах, паштоўках, арыгіналы якіх захоўваюцца ў сям'і Андрусішыных.

чалі ўсё больш апаноўваць прадстаўнікі масавай інфармацыі. Данчык рэпеціраваў на радыё з камерным аркестрам, даваў інтэрв'ю на тэлебачанні, сустракаўся з журналістамі.

Пад вечар 15 верасня Андрусішыны разам з Барткевічам і Сокалавым-Воюшам выехалі ў Наваполацк. Па дарозе скіравалі ў Хатынь. Назаўтра ўдзельнічалі ў экскурсіі па Полацку, дзе іх сустракаў і суправаджаў пісьменнік Уладзімір Арлоў.

Пасля гэтага 17 верасня ў Багаяўленскім саборы быў канцэрт, для Данчыка першы ў Беларусі. Апрача яго выступалі Леанід Барткевіч, Сяржук Сокалаў-Воюш — яны і надалей часта будуць разам выходзіць на падмосткі,— а таксама хор з Віцебска, які выконваў рускія песні. Данчык быў нямала здзіўлены, чаму гэты хор не праспяваў ніводнай беларускай песні, а для нашых слухачоў — звычайная і пашыраная з'ява.

Выступленне саліста з-за акіяна мела вялікі поспех. Стрыманая ў ацэнках Юля Андрусішына, якая ўвогуле стараецца пазбягаць станоўчых эпітэтаў ці пахвал, усё ж вымушана была прызнаць, што канцэрт прайшоў «удала». А паэтка Ірына Жарнасек і Эрнст Цецярэўскі выказаліся больш эмацыянальна: «Шаноўны Данчык! Вас заўсёды чакаюць палачане. Ваш голас саграе душы шматлікіх слухачоў ужо шмат гадоў. Сардэчнае дзякуй Вам за песні».

З Полацка зноў дарога павяла на Мінск. І ўжо назаўтра ж — 18 верасня — спатканне з чытачамі, наведвальнікамі Дома кнігі. У сустрэчы разам з Данчыкам і спадарыняй Юляй удзельнічалі Барткевіч і Вольга Корбут. Было шмат пытанняў, як і амаль пры кожнай сустрэчы, выконваліся песні. Імпрэза прайшла вельмі хораша, на высокім тонусе, пра што і было засведчана ў водгуках слухачоў. Дзень завяршыўся запісам песень на радыё і азнаямляльнай прагулкай па Мінску.

Назаўтра вяліся здымкі на тэлебачанні, потым — наведванне рэдакцыі «Голаса Радзімы», гутаркі з яе супрацоўнікамі і ўрэшце — гасцяванне ў сваякоў.

Надышло 20 верасня, дзень, які па справядлівасці можна пазначыць чырвонымі літарамі. Пра знаходжанне Данчыка і яго маці ў Беларусі ўжо ведалі многія, прынамсі, звесткі, нібы кругі па вадзе, разыходзіліся даволі шырока і прытым хутка. Гэтаму садзейнічалі і тыя сустрэчы, якія ўжо адбыліся і ў якіх прыняла ўдзел

хоць параўнальна і невялікая колькасць людзей, але па-грамадзянску актыўных і нацыянальна свядомых. Яны і пайшлі насупраціў рэспубліканскім уладам, якія ўсяляк стараліся, каб прыватны візіт амерыканскіх беларусаў не выйшаў «за межы» і такім заставаўся да канца. Усё-такі баяліся пэўных інцыдэнтаў, асабліва нацыянальнага ўсплёску.

Дык вось энергічная і настойлівая дырэктар Палаца прафсаюзаў Валянціна Швяцова пры падтрымцы грамадскасці дамаглася, каб правесці тут канцэрт Данчыка. Урэшце дазвол быў дадзены, праўда, толькі на адзін, і канцэрт адбыўся менавіта 20 верасня. Гэта было першым афіцыйным выступленнем спевака перад шырокай мінскай публікай.

Вялікая зала была поўная, поспех незвычайны. Публіка хацела слухаць і слухаць Данчыка. Канцэрт давялося паўтарыць — ужо без дазволу — назаўтра, прытым два разы. Поспех — нязменны, калі нават не большы. Папулярнасць расла не толькі з кожным днём, а нават і з гадзінамі. Вось некалькі фрагментаў з водгукаў, перададзеных спеваку ў кароткіх, але эмацыянальных запісках пад час саміх выступленняў:

«Дарагі Данчык!.. Ты пасланец Бога... Я слухаю цябе трэці раз... І ўвесь час знаходжуся пад вялікім уражаннем...»

«Данчык! Ты самы-самы лепшы спявак ва ўсім свеце!»

«Я ўдзячна лёсу свайму, што жыву ў адзін час з табою. Што маю магчымасць слухаць твой незвычайны голас і нават бачыць цябе».

«Як здорава, што на свеце ёсць такія людзі, як Вы. Мы таксама адчуваем сябе на нябёсах. Прыгажосць выратуе свет».

«Дарагі Данчык! Сэрца заходзіцца ад тваіх песень! Як выбраць лепшую?! Пагэтаму толькі аб адным прашу цябе вельмі: спявай усё і заўжды».

«...Мне здаецца, што гэта зала так цёпла, шчыра па-беларуску нікога не прымала».

«Дзякуй Вам за прыемныя хвіліны! Гэта сапраўды цудоўна!»

«Мілы Данчык... Дзякуй табе, вечнасць табе... Слухаем твае ўсе амаль канцэрты... Хай магутны Божа дасць і верасень і май, каб ізноў ты прыляцеў у родны край! Жыве Беларусь! Жывуць беларусы!»

«Вы, канешне, усведамляеце, што пакідаеце на Беларусі тысячы ашаломленых Вашым талентам, Вашай асобай людзей... Чароўны Ваш голас, чалавечая абаяльнасць, шчырасць, душэўная чуласць дасталі са дна і перавярнулі нашы душы, прымусілі на сябе паглядзець па-іншаму, расправіць плечы. Слёзы шчасця, асалоды, пачуццё гонару, еднасці, любові да радзімы, усяго беларускага, прыгожага, гордасці за нашых суайчыннікаў — усё гэта падаравалі Вы нам так шчодра і нечакана. Дзякуй!»

«Дарагі Багдан! Бог даў табе цудоўны голас і бязмежную любоў, праз якія ты пранікаеш у глыбіню чалавечай душы, абуджаеш і напаўняеш любоўю нашы сэрцы і ўзносіш да нябёсаў нашы душы! Дзякуй Богу за гэты Дар, дзякуй табе за тое, што нясеш гэты Дар людзям!»

Водгукі слухачоў розных пакаленняў можна доўжыць і доўжыць. Вядома, эмоцыі ёсць эмоцыі. Здараюцца і яўныя перабольшванні, накшталт параўнанняў Данчыка з Хрыстом, з Богам і інш. Тут жа прыводзяцца выказванні дзеля таго, каб лепш уявіць агульны настрой залы пад час канцэртаў спевака, ае адзінадушны душэўны парыў. У гэтым плане Данчык меў на гледачоў ледзьве не магічнае ўздзеянне. І на старэйшых, і асабліва на моладзь.

Падаваліся спеваку і пытанні. Іх таксама было надзвычай шмат і самых разнастайных: ад біяграфічнага характару (калі нарадзіўся, якое сямейнае становішча, як трапіў у ЗША і кім працуе) да грамадскага і нават філасофскага значэння (якія ўражанні пра Беларусь, у сутыкненні з нашай рэчаіснасцю, ці застаўся б тут жыць і пры якіх умовах і запатрабаваннях, якую ролю адыгрывае ў творчасці культурная традыцыя, і шмат-шмат іншых).

Вялікім патокам ішлі на сцэну запіскі з просьбай выканаць пэўны твор і з вядомага рэпертуару Данчыка, і з невядомага. Перачытваючы гэтыя запіскі, нават цяжка вызначыць: якія яго песні карысталіся найбольшай папулярнасцю? У кожнага ж свая любімая песня, што выклікае адпаведны эмацыянальны настрой ці нейкі душэўны парыў, успамін адчутага, перажытага. Беларусы прасілі выконваць беларускія творы, украінцы — абавязкова ўкраінскія, хтосьці нават хацеў пачуць з вуснаў Данчыка цыганскую песню. Вялізная аўдыторыя, натуральна, была

неаднароднай, як і розныя ў людзей густы, патрабаванні. Аб'ядноўвала ўсіх адно — жаданне слухаць і слухаць беларускага амерыканца: што б ён ні спяваў, абы толькі спяваў. Гэтае паяднанне злівалася ў адзіны эмацыянальны парыў, у адзіны гарачы подых, што ішоў з залы на сцэну. І Данчык ахвотна адклікаўся на просьбы і пажаданні, спяваў. Хаця два канцэрты ў дзень, прытым, няхай сабе і з мікрафонам, для вялізнай аўдыторыі (а літаральна ўчора было таксама выступленне ў гэтай жа зале, для такой жа шматлікай публікі) — нагрузка, мякка кажучы, вельмі і вельмі немалая.

Данчык пад акампанемент сваёй нязменнай спадарожніцы — гітары спяваў «Беларусачку», «Сонца за хмаркамі», «Зорку Венеру», «Я ад вас далёка...», «Мой родны кут», «Зорачкі», «Ты мне вясною прыснілася», «Аксамітны вечар», «У гушчарах» і многія іншыя.

Пасля выступленняў — як эмацыянальная разрадка і прафесійная разгрузка — зноў падарожжа, а значыць, і новыя сустрэчы, знаёмствы. 23 верасня сын і маці Андрусішыны ўжо ў Гародні. Гасцююць у сястры Вольгі Корбут, аглядаюць горад. А ўвечары — канцэрт. Ён прайшоў, калі меркаваць па мясцовым друку, выдатна, можа нават яшчэ лепш, чым папярэднія ў Мінску. Прынамсі, дыханне глядзельнай залы было больш гарачым, напал і эмацыянальныя ўсплёскі — таксама. Пазней ужо на цвярозы розум адна са слухачак, якая прысутнічала на тым выступленні Данчыка, у прыватным лісце ў Амерыку напіша, што «гэта быў трыумф».

Дзень закончыўся сустрэчай і начоўкай у Дануты Бічэль-Загнетавай.

Назаўтра Андрусішыны выправіліся ў Вільнюс. Прыехалі туды пад вечар, дзе ўжо чакала беларуская сябрына. Пасля непрацяглай з ёю сустрэчы знаёміліся з горадам — цэнтрам беларускай культуры ў дарэвалюцыйны час, асабліва з пачатку нашага стагоддзя. Гідам быў сваяк Лявон Луцкевіч — сын слыннага адраджэнца нашай нацыянальнай ідэі Антона Луцкевіча.

Наступны дзень пачаўся наведваннем несамавітай хаткі Зоські Верас. Яна, і найперш яе гаспадыня, заўсёды была прыцягальнай для свядомых беларусаў. І не дзіва — Зоська Верас з'яўлялася жывой повяззю паміж дзвюма эпохамі: той даўняй, віленскай, звязанай з імёнамі Івана і Антона Луцкевічаў, маладога Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уласава, Ластоўскага і многіх ін-

шых, і нашай, асабліва пад той час, калі ўзніклі імпульсы, памкненні зноў узнімаць сваю культуру. Зоська ж Верас заўсёды, да канца сваіх доўгіх дзён, блаславіла на такі высакародны шлях.

Потым — працяг знаёмства з Вільнюсам, са святымі для беларусаў мясцінамі: Базыльянскімі мурамі, Вострай брамай, будынкамі былога музея І. Луцкевіча, гімназіі. У час падарожжа па горадзе напаткалі групу з Беларускага народнага фронту, якая прыехала з Брэста. Трэба сказаць, што Вільнюс для БНФ, асабліва ў першы перыяд дзейнасці, пачынаючы з Устаноўчага сходу, іграў важную ролю. І не толькі з-за сваіх нацыянальных каранёў. Ён на той час ужо з'яўляўся вольным горадам, у якім можна бесперашкодна ладзіць розныя палітычныя імпрэзы, чаго нельга было сказаць пра Беларусь. Дзеля гэтых мэт сюды нярэдка і прыязджалі. Вось і брэсцкія бэнээфаўцы заявіліся — ішлі па горадзе ўсёй групаю свабодна, пад бела-чырвона-белымі сцягамі. Спатканне ж з Андрусішынымі і тымі, хто іх суправаджаў па Вільнюсе, было нечаканым, каб не сказаць выпадковым. Але атрымалася вельмі шчырым, радасным — як бы душэўна паядналіся палітыка і мастацтва.

Пад вечар таго ж дня Данчык у адным з Палацаў культуры выступаў у канцэрце, на якім прысутнічалі пераважна віленскія беларусы, а таксама літоўцы. Потым была сустрэча з вялікай і вясёлай кампаніяй у Лявона Луцкевіча. Там жа глядзелі тэлеперадачу з Мінска: у навінах паказвалі фрагменты з выступленняў Данчыка, яшчэ мінскіх. Да слова, нашы сродкі інфармацыі — перыядычны друк дэмакратычнага кірунку, радыё, тэлебачанне — даволі шырока і прыстойна асвятлялі знаходжанне ў Беларусі Данчыка і яго маці, але з-за нашых даўніх і пакуль невылечных хвароб са значным спазненнем.

Уранні наступнага дня госці пакінулі Вільнюс. Шлях зноў кіраваў у Беларусь. Спачатку заехалі ў Навагрудак, зрабілі яго агледзіны. Потым спыніліся ў Міры, пабывалі ў Мірскім замку, які тады ўжо актыўна рэстаўрыраваўся.

І зноў — Мінск. Праўда, цяпер тут затрымаліся нядоўга. Пераначавалі. З раніцы Данчыка і спадарыню Юлю ў парку па-над Свіслаччу здымалі для будучага фільма. Вечарам жа нашы госці і тыя, хто іх суправаджаў, на дзвюх аўтамашынах рушылі ў Маскву. І на-

заўтра раніцай іх ужо сустракаў з сябрынай Аляксей Каўка. З кветкамі і бела-чырвона-белымі сцягамі. Наведалі сям'ю Аляксандра Улашчыка — сына выдатнага беларускага гісторыка. З большага пазнаёміліся з Масквою, а потым у малой зале Палаца моладзі далі канцэрт. Дзень завяршыўся сустрэчай з блізкімі і родзічамі.

На наступны дзень працягвалі экскурсію па горадзе. Вяла яе Вольга Васняцова, прапраўнучка знакамітага рускага мастака. Наведалі яго музей, Новадзявочыя могілкі і царкву пры іх, на Краснай плошчы паглядзелі рытуал змены каравула ля Маўзалея Леніна, знаёміліся з іншымі мясцінамі. А вечарам разам з дваюраднай сястрой Юлі спадарыняй Маргарытай, якая прыехала сюды на спатканне з Гатчыны, і спадаром Аляксандрам Улашчыкам цягніком выехалі ў Ленінград.

Там іх назаўтра спаткалі вядомыя дзеячы, лідэры беларускага руху Мікола Нікалаеў і Валянцін Грыцкевіч. Як звычайна, аглядалі горад, з'ездзілі ў Пецяргоф. Назаўтра — 30 верасня была наладжана сустрэча з амерыканскімі беларусамі ў этнаграфічным музеі. На яе сабралася грамадскасць, найперш самі беларусы, а таксама ўкраінцы, рускія. Данчык спяваў песні, адказваў на шматлікія запытанні. Пасля гэтага з залы перайшлі ў беларускі павільён — і песні, сяброўскія гутаркі працягваліся. Вялася добрая, для ўсіх карысная справа. І людзі пачувалі сябе таксама добра.

А ў гэты час, якраз 30 верасня 1989 года, у Мінску разгортваліся бурныя падзеі, бушавалі вялікія страсці. Узнімалася новая хваля палітычнага жыцця. На гэты раз на парадку дня быў Чарнобыль. Звесткі пра яго страшную існасць і наступствы, як вядома, доўга і злачынна ўтойваліся ад людзей. Але пад напорам дэмакратычнай грамадскасці пэўная інфармацыя, асабліва пасля трэцяй гадавіны катастрофы, пачала прасочвацца і нават усплываць на паверхню.

У знак пратэсту супраць антынароднай палітыкі ўлад Беларускі народны фронт на 30 верасня прызначыў акцыю «Чарнобыльскі шлях». Меркавалася, што ў масавым траурным шэсці ў Мінску прымуць удзел як жыхары сталіцы, так і дэлегацыі з усіх найбольш пацярпелых раёнаў. Але адразу ж распачаліся контрдзеянні кіруючай наменклатуры. Яны ладзіліся па старых, апрабаваных дзесяцігоддзямі сцэнарыях — забараняць, недапу-

скаць, караць, знішчаць, калі ўжо і не фізічна, то маральна. Так, тыя, хто намерваўся выехаць у Мінск, удзельнічаць у паходзе «Чарнобыльскі шлях», былі падвергнуты ідэалагічным рэпрэсіям у «працоўных калектывах». А аўтадарожнай міліцыі даваліся ўказанні не прапускаць транспарт, на якім ехалі ўдзельнікі чарнобыльскай акцыі. Гэтым, аднак, не абмежаваліся нашы кіраўнічыя мудрацы. Прыдумалі і навінку: акурат на 30 верасня прызначылі суботнік. Ды не звычайны па ўборцы памяшканняў, ачыстцы тэрыторыі, а працоўны, зробленыя сродкі ад якога пойдуць у фонд дапамогі пацярпелым ад Чарнобыля. Вось тут, маўляў, і глядзіце, дзе большыя карысць і патрыятызм: у мітынгах ці ў рэальных справах. Той, хто прыдумваў і арганізоўваў суботнік, як раней, зусім не клапаціўся пра сапраўдную дапамогу ахвярам Чарнобыля. Гэта былі чыстай вады прапагандысцкія выкрутасы, разлічаныя на прасцячкоў і маладасведчаных. Але, думалася, падуладныя сродкі масавай інфармацыі зробяць сваё, тым больш што старанні і намаганні былі вялікія.

І ўсё ж паход «Чарнобыльскі шлях», нягледзячы на тое што мінчан на суботнік вывозілі менавіта за горад і што далёка не ўсе з пацярпелых раёнаў змаглі пераадолець блакаду, адбыўся. Трагічна велічны і папераджальна грозны. Тысячы людзей калонамі прайшлі па цэнтру сталіцы з выявамі «Пагоні», з бела-чырвона-белымі сцягамі і выказалі свае рашучыя «не» падману, эксперыменту над народам. Спробы ж супрацьдзейнічаць, чыніць перашкоды сталіся дробным, танным фарсам.

Данчык жа ў гэты час, знаходзячыся далекавата ад Беларусі, ад яе гарача-пякучых кропак, вёў сваю справу. На першы погляд магло падацца таксама далекаватую ад нашай агнём напаленай рэчаіснасці. Але, калі глянуць крыху глыбей, памагаў здзяйсняць адну і тую ж мэту — спрыяць абуджэнню і кансалідацыі беларускай нацыі. Рабіў гэта сваімі сродкамі і на сваім плацдарме — на ніве культуры.

З Ленінграда Андрусішыны зноў вярнуліся ў Мінск 3 кастрычніка. Для Беларусі Данчык ужо быў не тым, калі прыехаў сюды ўпершыню. Цяпер ён вяртаўся вельмі любімым, знакамітым творцам. Усё гэта за ім замацавалася літаральна за лічаныя дні. А новыя знаёмствы працягваліся, кола сяброў пашыралася. Вядомасць і папулярнасць — таксама.

Па прыездзе ў Мінск Данчык сустрэўся з нашым буйным кінарэжысёрам Віктарам Туравым, з унікальным музыкантам і адмысловейшым майстрам народных інструментаў Уладзімірам Пузыняй, з вядомымі мастакамі Аляксеем Марачкіным і Уладзімірам Басалыгам, гасцяваў у паэта Сяргея Новіка-Пяюна, чыю песню «Зорачкі» кранальна і часта выконваў у канцэртах. Наведаў музей Янкі Купалы, гутарыў з яго пляменніцай Я. Раманоўскай, іншымі супрацоўнікамі, пабываў на студыі «Беларусьфільм», дзе паказваліся фрагменты знятай пра яго кінастужкі. У Беларускім тэатры імя Янкі Купалы праглядзеў спектакль «Дракон» Я. Шварца, пазнаёміўся з артыстамі. Былі наладжаны сустрэчы з удзельнікамі клубаў «Спадчына» і «Дзянніца»: у першым выпадку, як гаворыцца, афіцыйна, у памяшканні бібліятэкі імя Янкі Купалы, у другім — у дамашняй абстаноўцы. І там, і там задаваліся шматлікія пытанні, выказваліся прапановы, пажаданні, ну і, вядома ж, гучалі песні. Па ходу розных імпрэз кінематаграфісты здымалі Данчыка, журналісты, фотамайстры, асабліва аматары, спраўна выконвалі свае абавязкі. Фотаапараты шчоўкалі вельмі зладжана.

5 кастычніка адбылася сустрэча Данчыка са студэнцкай моладдзю сталіцы, якая і да гэтага вельмі актыўна наведвала яго выступленні, у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Тут ён даў вялікі канцэрт, адказаў на шматлікія пытанні, прапановы. У выніку — новыя паклоннікі таленту спевака, прыхільнікі яго грамадзянскай і мастакоўскай місіі.

Назаўтра ладзілася спатканне з пісьменнікамі ў Доме літаратара, цяпер ужо, як прынята гаварыць, на іншым, высокім узроўні. Данчыка сустракалі тут як выдатнага культурнага дзеяча, прапагандыста беларускай песні і шырэй — нацыянальнай ідэі. Пранікнёнае слова гаварыў Ніл Гілевіч, ён жа і вёў першую частку вечара. Потым пачаўся канцэрт. Цяпер ужо вядучым выступаў Барыс Сачанка. А Данчык уражваў сваім спевам. Поспех быў надзвычай вялікі. На наступны дзень канцэрт у Доме літаратара давялося паўтарыць — на яго прыйшлі і тыя, хто быў учора, і многа новых слухачоў, так што зала, якая ў апошнія гады вельмі рэдка калі запаўнялася, была набітая біткам.

Паэты прысвячалі Данчыку вершы. Прывядзём урыўкі толькі некаторых з іх.

Сяргей Панізнік:

Паволі зближаюцца мацярыкі:
Вузеюць кашчавыя трэшчыны.
Мы ж — родныя-крэўныя,
Мы — сваякі.
І песні — над прорвай парэнчыны.
Змяншаюць свой гібельны трэск
наладжаныя
супрацьстаяння датчыкі.
Быў хрэст на свабоду.
На згоду хрэст —
Напевы Андрусішына-Данчыка.
. . . . . . . . . . . . . .
Твая Беларусь...
Вылюбляюць вякі
Крыніцу нязбытнасці спадчыннай.
Калі Беларуссю жывуць спевакі,—
Яна на планеце не страчана.

Уладзімір Скарынкін:

Данчык выконвае «Зорку Венеру».
Як пуцяводная зорка,
яна
Ззяла над ім і ўмацоўвала веру,
Што ў чалавека радзіма адна.
Там,
дзе народжаны песні радзімы,
Там,
дзе гняздзяцца ягоныя сны,
Бліснулі слёзы ў спадарыні Юлі:
Хочацца верыць —
ад шчасця яны.

Васіль Жуковіч:

Прыехаў Данчык з дальніх даляў,—
нарэшце бачымся мы з ім!
Мы песняў родных не ўяўлялі
ў натхнёным вобразе такім.
Святое дзіва адбылося
(у дзіва, Неба, промень твой):
З красою годнаю злілося
і спеўнай мовы хараство.
О, шматпакутная краіна!
Наш лёс апомніўся — і вось
нас адарыў цудоўным сынам
(сын будзе з намі, з намі ёсць)!

Пасля Дома літаратара — яшчэ выступленне ў Палацы прафсаюзаў, увесь збор ад якога пайшоў для дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыля. І гэта была не прапа-

гандысцкая акцыя, як колькі дзён таму кіраўнічая наменклатура арганізоўвала суботнік. Гэта была сумленная дапамога.

І зноў — дарога. Цяпер яна з Беларусі вяла на Украіну, дзе Данчыка таксама карані. Напачатку заехалі ў Кіеў. Прапраўнучка Тараса Шаўчэнкі па яго сястры Кацярына запрасіла Андрусішыных, калі яны былі ў Ленінградзе. Меркавалася, што Данчык і Сокалаў-Воюш выступяць перад студэнтамі універсітэта. Але дакладна не вызначылі час прыезду, і таму атрымалася накладка. Студэнты і педагогі наперад не былі папярэджаны і маглі б не сабрацца. З-за гэтай акалічнасці вырашылі канцэрт не даваць, а час скарыстаць для знаёмства з горадам, з яго найбольш цікавымі мясцінамі. Назаўтра ж накіраваліся ў Львоў, да родзічаў бацькі Данчыка. І на гэты раз аглядалі горад, гасцявалі, у тым ліку і на Тэрнопальшчыне. Вядома ж, і адпачывалі, асабліва пасля такіх фізічных і эмацыянальных нагрузак.

13 кастычніка ўжо былі ў Мінску, а назаўтра — у Віцебску. Тут у Беларускім тэатры імя Якуба Коласа ладзіўся вялікі канцэрт. Дарэчы, ён прайшоў з асаблівым уздымам і грамадзянскім напалам, так што назаўтра было не адбіцца ад мясцовых карэспандэнтаў. Ды і спадарыня Юля не ўтрымалася, у сваіх дзённікавых запісах пазначыла, што канцэрт выйшаў «вельмі ўдалы».

У лісце да Данчыка, напісаным у дзень канцэрта, выкладчыца Віцебскага музычнага вучылішча Вольга Градоўкіна больш эмацыянальная: «Не магу не выказаць захаплення Вашым талентам.

Надзвычайны тэмбр Вашага чароўнага голасу можна параўнаць толькі са спяваннем самога Арфея.

Вы спявалі цудоўна. Думаю, што Ваш мяккі, лірычны голас і шчырыя песні, выкананыя Вамі на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй г. Віцебска, не пакінулі раўнадушным ні адзінага чалавека, прысутнага ў зале тэатра імя Я. Коласа.

Пачуўшы ў Вашым выкананні беларускія і ўкраінскія песні, яшчэ больш адчуваеш сапраўдную прыгажосць роднай мовы.

...У гады вучобы ў Ленінградзе (у кансерваторыі.— *А. С.*) і пасля гэтага я слухала канцэрты шматлікіх выдатных выканаўцаў, але сустрэча з Вамі пакінула ў маёй душы незабыўнае ўражанне на ўсё жыццё».

Пасля канцэрта гасцей прымаў у сваёй кватэры на

той час галоўны рэжысёр тэатра Валерый Мазынскі. Цяпер ужо на вячэры выступалі самі коласаўцы — спявалі актрыса Таццяна Мархель і загадчык музычнай часткі Генадзь Шэмет, вершы чытаў артыст Алесь Лабанок.

Вярнуўшыся назаўтра ў Мінск, заняліся, можна сказаць, ужо звычайнымі справамі. Андрусішыны з'ездзілі ў Радашковічы, каб адведаць жонку Браніслава Тарашкевіча, потым — у Ракуцёўшчыну, адкуль паходзяць іх продкі, дзе іх карані, а ў нашай свядомасці звязаную з Максімам Багдановічам, і якраз менавіта праз Луцкевічаў. Па дарозе спыняліся ў Ратамцы.

У наступныя дні працягваліся здымкі на кінастудыі «Беларусьфільм». Яшчэ раз сустрэліся з Сяргеем Новікам-Пяюном і яго вучнямі. На радыё была запісана «Калыханка», якая цяпер, навяваючы дзецям добрыя, светлыя сны, пастаянна гучыць у эфіры. Наведалі музей Якуба Коласа, дзе гасцей прымаў сын класіка Даніла Міцкевіч, агледзелі экспазіцыі, на памяць сфатаграфаваліся з супрацоўнікамі калектыву. Працягвалі сустрэчы са сваімі шматлікімі сваякамі.

Так незаўважна надышло 19 кастрычніка — вельмі памятны дзень ва ўсёй паездцы. Уласна, пустых дзён не выпадала, кожны з іх быў максімальна загружаны і не падобны на іншы, абавязкова чым-небудзь адметны. І ўсё ж з іх даволі вялікага шэрагу надараліся асаблівыя. 19 кастрычніка ладзіўся канцэрт у Палацы прафсаюзаў, вялікая зала якога — яшчэ раз нагадаем — дзякуючы нялёгкім намаганням дырэктара Валянціны Швяцовай сталася для амерыканскіх беларусаў вельмі ўтульнай, менавіта сваёй. Гэта было пятае па ліку тут выступленне, прытым за адзін месяц.

Андрусішыны яшчэ застануцца ў Беларусі на шэсць дзён. Яшчэ ў Данчыка будуць канцэрты і выступленні. Але ў Палацы прафсаюзаў, у такой шматлікай аўдыторыі ён выходзіў апошні раз. Гледачы гэта ведалі, усведамлялі, таму і ўспрымалі выступленне як развітальнае.

Увесь збор ад канцэрта ішоў на Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Вялі вечар вядомая дзеячка нацыянальнага руху Галіна Прыма і Барыс Сачанка. Данчык выконваў сольныя песні і ў дуэце з Леанідам Барткевічам. Але апошні толькі як бы яму акампаніраваў. Непадзельна ж саліраваў Данчык. І гэта было адзінадушным жаданнем і памкненнем прысутных. На

канцэрце Данчык не толькі пеў, адказваў на пытанні, але, як і ў раннім юнацтве, выступаў з мастацкім чытаннем. У прыватнасці, пазнаёміў публіку з вершам Наталлі Арсенневай «Моладзь».

Прыём Данчыка гледачамі быў выключны, проста немагчыма перадаць словамі, што ў той вечар тварылася ў зале.

Пад час выканання песні «Зорачкі» людзі плакалі. На апошнім сваім нумары, адчуваючы горыч расстання, не ўтрымаўся і Данчык. І калі ў адзін з момантаў да спадарыні Юлі, якая амаль заўсёды была на выступленнях сына і яе вельмі годна і ўдзячна прымалі, звярнуліся з запытаннем, што пасля такіх імгненняў, «кажуць, паміраць не страшна?!» — яна ў знак згоды ледзь чутна прамовіла:

— Так...

А Стэфанія Станюта, якая прысутнічала на канцэрце, толькі ўсклікнула:

— Гэта цуд! Гэта цуд!.. Каб ён да нас часцей прыязджаў.

У той вечар Барткевіч з сям'ёю ад'ехаў у Амерыку. А Данчык назаўтра ў памяшканні Дзяржаўнага тэатра оперы і балета сустракаўся з калектывам хору імя Г. Цітовіча. Сама сустрэча была шчырай, задушэўнай. Хор выконваў песні, Данчык — таксама, у прыватнасці «Беларусачку». Гэтае спатканне было зазнята на кінахроніку.

21 кастрычніка Данчыка з маці запрасілі ў Дом творчасці «Іслач», дзе праводзілася нарада маладых пісьменнікаў, кампазітараў, дзеячаў іншых галін мастацтва. Тут ён спяваў, расказваў, вёў гутаркі з прадстаўнікамі маладой генерацыі творчай інтэлігенцыі. Вярталіся ў Мінск разам з Сяргеем Грахоўскім, з якім у «Іслачы» асабіста пазнаёміліся, хаця наш старэйшы паэт напісаў прысвечаны Андрусішыным верш раней, пасля сустрэчы ў Доме літаратара 7 кастрычніка.

Вось ён, названы «Маці Богам данага Багдана»:

Я кланяюся мудрай Маці,
Бо слухаў Вас, як на імшы,—
На ўзнёслым і ўрачыстым святе,
Сагрэтай песняю душы
Нам Богам данага Багдана,
Што ўсім за сына даражэй,
Бо верым,— хоць за акіянам
Ён наша слова зберажэ.

Вечарам таго дня Данчык выступаў у Доме кіно. Аб'яўляла нумары Галіна Прыма, а ўвесь канцэрт вёў адзін Данчык. Раней звычайна выходзілі на падмосткі ўдваіх ці нават утраіх. Акрамя госця браў удзел Барткевіч, а таксама Сокалаў-Воюш. Аб'яўляў выканаўцаў Віталь Сямашка. Так, прынамсі, было лягчэй. На гэты ж раз Барткевіча ўжо не было ў Мінску, а Сокалаў-Воюш не паспеў вярнуцца з «Іслачы».

І раней — усе гэта цудоўна разумелі — гледачы збіраліся на нашага суродзіча з Амерыкі, бо мясцовых спевакоў можна ўбачыць і пачуць і ў іншы час. І ўсе ведалі, што апошнія, ускладаючы на сябе частку нагрузкі, стараюцца памагчы Данчыку, спрыяць менавіта яго поспеху. Але калі хто-небудзь незнарок браў на сябе ўвагу, то публіка рэагавала на гэта адразу і самым актыўным чынам. Тут жа на сцэну пасылаліся запіскі, з катэгарычнымі фармулёўкамі і ацэнкамі. І паколькі адсутнічаюць на канцэрце ў Доме кіно і Сямашка, і Сокалаў-Воюш, і Барткевіч з жонкаю і іх якраз цяпер гэта не датычыцца, так бы мовіць, для разрадкі прывядзём некаторыя з выказванняў.

У адрас Віталя Сямашкі, якому, здаецца, дасталося больш за ўсіх:

«Сёння ў «Кроку» будзе сюжэт пра Данчыка. Як не ведаеш, дык не трэба ля-ля».

«Эфіру для іншых нямашка,
Калі з мікрафонам Сямашка!»

«Віталь, хацелася б больш паслухаць Данчыка, бо цябе мы можам заўсёды пачуць».

«Сямашка, адсунься, бо зусім з-за цябе не відна Данчыка».

«Віталь, не камплексуй... Не загаворвай залу... Зала вельмі не задаволена».

У адрас Сяржука Сокалава-Воюша:

«Гэта вечар Данчыка ці Сяржука? Элементарная непавага да госця...» А далей ідуць яшчэ больш рашучыя выразы, якія з далікатнасці тут заменены на шматкроп'е.

У адрас усіх, у тым ліку і Леаніда Барткевіча:

«Шаноўныя панове! Мы маем магчымасць бачыць і чуць вас амаль кожны дзень. Давайце лепей слухаць спевы самога Данчыка».

«Хлопцы, усё гэта вельмі добра, але давайце як-небудзь у наступны раз, га? Чалавек столькі гадоў імкнуўся сюды прыехаць, а вы не даеце яму да мікрафона па-

дысці. Людзі ж прыйшлі менавіта на Багдана, а не на каго іншага...»

У адрас Вольгі Корбут, якая непасрэдна не брала ўдзелу ў канцэрце. Ёй дасталося за тое, што дрэнна ведае беларускую мову:

«Дзень добры, спадарыня Вольга Корбут! Хочацца аднаго — пачуць ад такой славутай асобы беларускае слова».

«... Не сорамна ёй перад Данчыкам за сваю мову?»

Так, усе хацелі на канцэртах слухаць Данчыка, толькі яго аднаго.

Аднак час знаходжання ў Беларусі ўжо заканчваўся. У апошнія дні працягваліся экскурсіі па Мінску, развітальныя сустрэчы са знаёмымі, сябрамі, сваякамі. Так і падышло 25 кастрычніка. Днём Андрусішыны з'ездзілі ў дзіцячы садок «Заранка», якім загадвае Галіна Прыма. Дзеці паказалі гасцям невялікі канцэрт, потым праспяваў некалькі песень Данчык. Гэта было яго развітанне з самымі юнымі слухачамі, і хацелася б спадзявацца, што з часам яно станецца сімвалічным — маладыя падхопяць яго справу і павядуць яе далей.

А тым часам трэба было ўжо заканчваць пакавацца, каб паспець на вячэрні цягнік. Але пакуль Данчык і спадарыня Юля яшчэ тут, у Беларусі, варта зрабіць некаторыя падрахункі іх візіту на Бацькаўшчыну, яго ролі і значэння.

Калі ў памяці яшчэ раз перагарнуць усю хроніку сустрэч, канцэртаў, выступленняў, то карціна паўстае надзвычай уражлівая. Які вялікі духоўны набытак маглі пачэрпнуць для сябе і Андрусішыны, і тыя, хто з імі сутыкаўся. Колькі ручаінак несла жывую крынічную ваду ў розныя асяродкі! А адтуль гэта вада потым вярталася назад, зліваючыся ў вялікую, агульную раку, імя якой — Беларускі нацыянальны рух, яго ўздым.

Вядома, нямала пастараліся сябры, каб паездкі атрымаліся цікавыя і змястоўныя, каб у Андрусішыных было як мага больш спатканняў з людзьмі, выступленняў. Але нельга не бачыць і вялікіх духоўных і нават фізічных высілкаў нашых гасцей, іх самаахвярнасці.

Поспех жа выступленняў Данчыка быў бясспрэчны і аднадушны. Яму і сапраўды Богам дадзена зачароўваць, браць у сваю ўладу ўсіх. І не толькі лірычным і вельмі гнуткім тэнарам, надзвычай прыемным тэмбрам голасу, але і, як ужо адзначалася, падкупляючай абаяльнасцю,

прыгажосцю, душэўнай тактоўнасцю, выхаванасцю, інтэлігентнасцю, увогуле сваёй мастакоўскай і чалавечай існасцю.

І ўсё гэта было скіравана і ўкладзена і на прапаганду беларускай песні, што ўжо само па сабе надзвычай многа, і значна шырэй — на наша агульнае нацыянальнае Адраджэнне. У тым ліку і, можа найперш, роднай мовы.

Многіх здзівіла, уразіла, ашаламіла (эпітэты можна доўжыць) — як гэта магло здарыцца: мы тут, у сябе дома, на радзіме амаль забыліся на сваю мову, на гісторыю, на найбагацейшыя народныя скарбы і традыцыі, а Данчык, жывучы ў Амерыцы і да гэтага нават ні разу не ступаўшы па беларускай зямлі, мае такое добрае, чыстае вымаўленне, так хараша і сакавіта гучыць у яго вуснах слова. І ўвогуле ўвесь лад яго мыслення беларускі, выключна нацыянальны. Як можна дамагчыся такога, жывучы ў зусім іншым асяроддзі, далёкім і чужым беларускай культуры?

Пра гэта і ішла гаворка на шматлікіх сустрэчах з Данчыкам і яго маці. Зноў жа — з водгукаў гледачоў.

«Хто Вас навучыў так прыгожа размаўляць па-беларуску?»

«Дарагі Багдан!.. Мова Беларусі ў Вашых вуснах як мёд! Дзякуй Вашай маці за Вас!»

«Дзякуй за мову, за ўсё, што ты прывёз з сабою,— за дух беларускі».

«Добры Данчык! Вялікі дзякуй табе. Ты зрабіў у нас тое, што нам трэба рабіць з чалавекам!»

«Дзякуем за цудоўную родную мову і песні».

«Поспехаў табе на ніве новага беларускага Адраджэння канца XX стагоддзя!»

«Дзякуй табе, што ты там на чужыне захаваў беларускую мову, а мы тут яе згубілі».

«Я прыехала ў Беларусь, каб вывучаць беларускую мову. Гэты канцэрт для мяне быў цэлым падручнікам».

«Дарагі Данчык! За пяць вечароў Вы зрабілі са мною тое, чаго ніхто не мог зрабіць са мною на працягу двух гадоў. Я палюбіла беларускую мову. Дзякуй табе вялікі за гэта».

«Шчыры табе дзякуй за твае цудоўныя песні! Ты зрабіў неверагоднае — моладзь, дзякуючы табе, павярнулася тварам да беларускай мовы, нашай культуры. Школьнікі мараць быць падобнымі да цябе...»

«...Ты зачараваў мяне мілагучнай нашай мовай, песнямі, якія кранаюць сэрца...

Па-праўдзе кажучы, я ўжо пачала сумнявацца, што калі-небудзь у любым кутку Бацькаўшчыны можна будзе пачуць беларускае слова, але Ты абудзіў мяне ад гэткіх думак...

Шчыры дзякуй Табе за вечарыны, за тое, што Ты болей беларус, чым некаторыя тутэйшыя людзі».

Данчык прапагандаваў у Беларусі родную мову не толькі сваімі песнямі. Вось, скажам, яго размова з мінскім таксістам:

— Чаму не на беларускай мове гаворыце?

— А какая разница.

— Дык чаму вы тады гаворыце не па-беларуску, а па-расейску?

На пытанне рэпарцёра, як Данчыку ўдаецца захаваць у чысціні мову, адказаў, што ёю карыстаецца ў Амерыцы кожны дзень. І не без сарказму дадаў: «Мы «не как все»,— маючы на ўвазе нашых тутэйшых беларусаў.

Калі хтосьці заўважыў, што Данчык нам вяртае песню з-за акіяна, ён удакладніў: «Песня вяртаецца не з-за акіяна, а з забыцця».

Прыехаўшы ў Беларусь на золку цяперашняй хвалі нацыянальнага Адраджэння нашай духоўнасці, Данчык самым актыўным чынам паспрыяў вяртанню з забыцця і гістарычнай памяці, і даўніх народных традыцый, і багатай культурнай спадчыны. Як сваім мастацтвам, так і прыкладам уласнага жыцця, найадданага служэння справе. Данчык даў моцны імпульс усяму нацыянальнаму руху, пашырэнню беларускай ідэі. І ў гэтым плане пераацаніць яго місію наўрад ці можна.

Тым больш што парывы Данчыка падхапілі ўсе нацыянальна свядомыя беларусы (а многія праз сустрэчы з ім упершыню такімі станавіліся) — і людзі сталага веку, і моладзь. Паразуменне з моладдзю ладзілася адразу ж і было поўным, чаго не ўдавалася дамагчыся многім нашым старэйшым дзеячам.

Для маладога пакалення Данчык стаўся кумірам, яго покліч з удзячнасцю падхоплены і пашыраны сярод сваіх равеснікаў. І гэта вельмі абнадзейвае, бо каму ж браць асноўны цяжар па справе беларускага Адраджэння, як не маладым — дужым, са здаровым розумам і духам, у якіх наперадзе жыццё.

Як ужо адзначалася, Данчык воляю лёсу ці, можа,

гісторыі прыняў на свае плечы рух за адраджэнне культуры. Прынамсі, у палітыку ён не ўмешваўся. І ўсё ж, асабліва ў наш наскрозь палітызаваны час і палітызаванае жыццё, цяжка аддзяліць адно ад другога ці ўстанавіць паміж імі дакладную мяжу. І меў рацыю адзін з гледачоў, калі, звяртаючыся да Данчыка, сцвярджаў: «Ты зрабіў вельмі вялікую справу. Ні адзін палітычны дзеяч, ні адна грамадская ўстанова не зрабіла столькі для абуджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, як ты. Праз твой голас, праз твае песні многія з нас адчулі прыгажосць і непаўторнасць нашых мелодый, нашай мовы. І, напэўна, не адзін з нас падумаў пра тое, што калі нават у Амерыцы так шануюць і так дасканала ведаюць беларускую мову, то што ж тады казаць пра нас, жыхароў тутэйшай краіны...»

Ды і сам Данчык аднойчы заўважыць: тое, што ён, будучы грамадзянінам Амерыкі, спявае беларускія песні, культывуе ўсё беларускае, мае не столькі мастацкае, колькі палітычнае значэнне.

Апошняе пацвердзілася і пад час праводзінаў Андрусішыных, калі культурная і палітычная акцыі як бы пядналіся ў адну. На чыгуначным вакзале ў Мінску сабралася шмат людзей. Неўзабаве да іх далучыліся калоны, у асноўным з моладзі, якія пад бела-чырвона-белымі сцягамі прыйшлі развітвацца з Данчыкам і спадарыняй Юляй прама з мітынгу, што ў той дзень ладзіў Беларускі народны фронт. Было вельмі ўрачыста і да слёз кранальна. Данчык спеў некалькі песень. Выступіў і Сяржук Сокалаў-Воюш.

Праўда, не абышлося і без пэўных кур'ёзаў. Народу было так многа і ўсе хацелі як найбліжэй падысці да Данчыка, што атрымаўся гармідар, сапраўдная таўкучка. Андрусішыны нават не здолелі развітацца з некаторымі сваімі родзічамі, якіх дзесьці «зацiснулі» ў натоўпе.

І ў час шматлікіх сустрэч, канцэртаў, і цяпер на чыгуначнай станцыі людзі бясконца дзякавалі Данчыку за ўсё, што ён здзейсніў у Беларусі, маці, што нарадзіла і выхавала такога сына. Пасылалі падзякі і прывітанні ў Амерыку бацьку, бабцы Яніне Каханоўскай, паэтцы Наталлі Арсенневай. І вельмі запрашалі прыязджаць зноў і зноў.

Мінск, як пазначае ў сваіх запісах Юля, Андрусішыны пакідалі «з вялікім сумам». Ехалі яны ў Беласток.

Там іх ужо чакалі. На вакзале ўранні 26 кастрычніка

сабраўся тамтэйшы цвет беларускай культуры, моладзь. Данчыка на Беласточчыне добра ведалі яшчэ па яго прыездзе ў 1981 годзе, і цяпер сустракалі пашанотна і гучна — таксама са сцягамі і кветкамі. Трыумф, які спадарожнічаў пабыўцы ў Беларусі, працягваўся. Уласна, працягвалася і лагічна завяршалася тая ж самая праграма, рэалізаваліся тыя ж мэты і ідэі. Былі выступленні перад вучнямі і настаўнікамі ў ліцэі імя Б. Тарашкевіча ў Бельску і ў ліцэі ў Гайнаўцы, у клубе пісьменнікаў Беластока, канцэрты ў Гайнаўскім Доме культуры, два канцэрты ў адзін дзень у Беластоцкай філармоніі, паездкі па памятных беларускіх мясцінах. І сустрэчы, сустрэчы...

Тут на Беласточчыне Данчык упершыню быў названы салаўём, ім ён і цяпер пакідаў гэту зямлю. 30 кастрычніка адбылося з Андрусішынымі спатканне ў Беларускім студэнцкім клубе ў Варшаве. Як і звычайна на такіх імпрэзах, задаваліся пытанні, вялася адкрытая, задушэўная гамонка, спявалі шмат песень.

Назаўтра Данчыка і спадарыню Юлю шумнай, вясёлай кампаніяй праводзілі ў аэрапорт. Калі ж Андрусішыны прызямліліся ў Мюнхене, іх ужо ніхто не сустракаў. Тут у людзей сваё жыццё, і каму якая справа да нашых радасцей і боляў, да беларускай культуры, яе нацыянальнага Адраджэння.

Ціха пагасцяваўшы колькі дзён у даўняй сяброўкі Юлі, якая жыве ў Мюнхене, Данчык паляцеў у Амерыку, а яго маці разам з гаспадыняй выправіліся ў падарожжа па Еўропе.

У жыцці і творчасці Данчыка пачаліся новыя старонкі. Але гэта іншая тэма.

А ў нас у Беларусі шэрагі паклоннікаў і прыхільнікаў Данчыка растуць, павялічваюцца. Няхай і пакутліва цяжка, з вялікімі прабуксоўкамі, а ўсё ж шырыцца, набірае моц распачатая ім справа. Аднак і гэта іншая, новая тэма.

На заканчэнне ж — верш Рыгора Барадуліна, які называецца «Данчык»:

Ці ўвосень зацвіў святаяннік,
Ці верас замроіўся ўранні?
Выгнаннік-заакіяннік,
Крывіцкае песні даннік
Душу запрасіў на снядание.

Душа беларуса, снедай
Забытай мелодыяй, верай,
І ў свеце свой покуць ведай,
Пакуль ты не стала шэдай
У масе бязмоўна-шэрай.

Званы святое Сафеі,
Што ў «Слове» яшчэ звінелі,
Няміга, што ў смутку ўдавее,
У шчырапарыўнай завеі,
Вяльможна паноў запанелі.

І цесна ў самоце адрыне,
Гасцінцу ў бетоннай папрузе.
Звініць і ў расе не стыне
Званочак забыта-сіні
На беларускім лузе...

*Алесь Марціновіч*

## РАКУ ЖЫВЯЦЬ РУЧАІНЫ

Літаратура беларускага замежжа... Гэтае паняцце ў шырокі ўжытак увайшло толькі некалькі гадоў назад, калі працэсы дэмакратызацыі ў жыцці нашага грамадства набылі незваротны характар. Праўда, найчасцей яго звязваюць з творчасцю пісьменнікаў-эмігрантаў, якія жылі і жывуць у ЗША, Канадзе, Аўстраліі. Але ж замежжа — пакуль пакінем убаку цяперашняе так званае «блізкае замежжа» — гэта і Беласточчына. Як ні дзіўна, але пра творчасць тамтэйшых літаратараў няма артыкулаў. Не трапляла яна, бадай, і ў поле зроку навукоўцаў. Хутчэй за ўсё спрацоўвала інерцыя: за мяжой — значыць «не нашыя».

Падобнае стаўленне да сябе, дарэчы, не маглі не заўважаць і беластоцкія пісьменнікі. Сакрат Яновіч, аднойчы адказваючы на пытанне карэспандэнта газеты «Ніва»: «Да якой нацыянальнай стыхіі належыць творчасць «белавежцаў»? (Беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання, што працуе ў Рэспубліцы Польшча.— *А. М.*) — не без іроніі зазначыў: «Вы што: жартуеце? Пытаеце, колькі будзе два разы два? Калі ж усур'ёз: «белавежцы» з'яўляюцца здабыткам беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы». І працягваў: «У Мінску мы «пахнем па-польску». У Варшаве — наадварот. Ды дык куды нам падзецца? У Беластоку. Толькі ў Беластоку» [1].

Прагучала гэта не так і даўно, у 1988 годзе, калі, будзем шчырымі, нарэшце творы беластоцкіх аўтараў прабілі дарогу і ў нашы рэспубліканскія выдавецтвы, і на старонкі газет і часопісаў. А што гаварыць пра раней-

[1] Цыт. па: Петручук В. Пожня. Мн., 1991. С. 259.

шае становішча? Па сутнасці, на Беларусі друкаваўся адзін Алесь Барскі, ды выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў 1973 годзе выпусціла анталагічны зборнік «Літаратурная Беласточчына». І гэта ў той час, калі...

Паслухаем наконт гэтага развагі вядомага крытыка і літаратуразнаўцы (між іншым, ён нарадзіўся ў вёсцы Градзялі, што на Беласточчыне) Серафіма Андраюка: «Творчасць паэтаў і празаікаў Беласточчыны належыць несумненна да літаратуры беларускай. Бо аб'ектам іхняй мастакоўскай увагі з'яўляецца гістарычны лёс і сённяшняе жыццё беларусаў, што жывуць у сучаснай Польшчы. Менавіта тут яны бяруць тэмы і ідэі, вобразы і сюжэты для сваіх твораў: менавіта тут яны чэрпаюць натхненне. Бо галоўная ідэя, якая жывіць іхнюю творчасць, рухае яе, нацыянальна-беларуская. Бо глыбінная эстэтычная аснова, традыцыя, на якой грунтуецца іхняя мастацкая дзейнасць, зноў жа беларуская. І гэта — нягледзячы на пэўныя, найчасцей фармальныя, уплывы польскай, а то і еўрапейскай літаратуры, не заўсёды, праўда, арганічныя. Бо сама эмацыянальная атмасфера твораў, духоўнае напаўненне блізкія беларускаму сэрцу і розуму. Бо, нарэшце, пішуць яны на беларускай мове. А не на якой іншай ці дыялекце» [2].

Дык якая ж яна, сённяшняя літаратура, на Беласточчыне? Што жывіць яе, поіць глыбіннымі сокамі? Якія пісьменнікі працуюць? Каб лепей уведаць гэта, варта кінуць позірк у сярэдзіну пяцідзесятых гадоў, бо менавіта з гэтага часу на Беласточчыне пачаліся сапраўдныя нацыянальна-адраджэнскія працэсы. Важна, што і тагачаснае кіраўніцтва Польшчы з разуменнем паставілася да запатрабаванняў беларусаў. Іх нацыянальная ідэя, хоць, зразумела, і не без цяжкасцей, прабівала дарогу. Як адбывалася гэта, можна знайсці адказ у кнізе Георгія Валкавыцкага «Віры», выпушчанай у Беластоку ў 1991 годзе. Яго мемуарныя запісы нездарма маюць падзагаловак «Нататкі рэдактара». Менавіта Г. Валкавыцкі, тады нядаўні выпускнік Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага ў Маскве, стаў адным з тых, каму даручылі рэдагаваць будучую газету «Ніва».

Па прыездзе Г. Валкавыцкага ў Варшаву, яму «параілі пагаварыць з сакратаром прапаганды ПАРП» у Беластоку Мар'янам Ксёнжам: «Нягледзячы на санавітае

---

[2] Петручук В. Пожня. С. 259—260.

прозвішча, прыняў без тэлефоннай валакіты. Выслухаўшы, паклікаў адказнага працаўніка і загадаў уладкаваць у «Беластоцкую газету». Намякнуў таксама на нейкія «беларускія» выданні, з якімі, магчыма, будуць мець дачыненне»[3].

Георгій Валкавыцкі не саромеецца прызнацца, што на той час (восень 1954 года) і сам ён не надта вылучаўся сярод беларусаў, якія пачыналі забываць аб сваім паходжанні: «Беларускамоўныя выбарчыя лісткі, ці што? Намёку я не зразумеў. Усё, што ляжала за пушчай, заставалася загадкай, таямнічым і неабжытым архіпелагам»[4].

Паступова справа рушылася з месца. Узнікла ініцыятыўная група па стварэнні Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Яна неўзабаве ператварылася ў арганізацыйны камітэт, які працаваў над падрыхтоўкай установчага з'езда. Камітэт узначаліў настаўнік Уладзімір Саўко. Г. Валкавыцкі стаў намеснікам старшыні і адказным за прапаганду, аднак, як прызнаецца ён, «асноўным маім заданнем з'яўлялася заснаванне тыднёвіка». Сам і назву прыдумаў будучай газеце — «Ніва». 1 кастрычніка 1955 года зрабіў пробны макет. Але да выхаду газеты было яшчэ далёка. Толькі 1 лютага 1956 года Г. Валкавыцкі атрымаў афіцыйнае назначэнне на пасаду галоўнага рэдактара, хоць абавязкі гэтыя выконваў з 1 студзеня. Ды і без справы не сядзеў: «13.1.56 у «Беластоцкай газеце» з'явіўся наш анонс: «Неўзабаве ў Беластоку пачне выходзіць часопіс на беларускай мове. Гэта будзе тыднёвік «Ніва». Вельмі хочам дастасаваць часопіс да патрэб беларускага насельніцтва. Таму звяртаемся да будучых чытачоў «Нівы» з просьбай наладзіць з намі найшчырэйшае супрацоўніцтва»[5].

Пробныя нумары выйшлі 11 і 19 лютага, а 26 лютага 1956 года спецыяльны выпуск «Нівы» атрымалі дэлегаты ўстаноўчага з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прыхільна сустрэў з'яўленне беларускай газеты на Беласточчыне польскі друк. У Мінску адгукнуліся на гэтую важную падзею «Звязда» і «Советская Белоруссия». Акрамя таго, «прыслалі прыветлівыя ліс-

---

[3] Валкавыцкі Г. Віры: Нататкі рэдактара. Беласток, 1991. С. 9.
[4] Тамсама.
[5] Тамсама. С. 16.

ты беларускія пісьменнікі, а... Ніл Гілевіч пераклікваўся вершам «На прадвесні» [6].

Да гонару Г. Валкавыцкага, ён адразу ўбачыў у газеце магчымасць садзеяння развіццю літаратуры. Канечне, немалую ролю сыграла і тое, што сам пісаў вершы (пазней выступаў пад псеўданімам Ю. Зубрыцкі). Аднак дало знаць і іншае. Г. Валкавыцкі аказаўся тым сапраўдным культурным дзеячам, які глядзіць далёка наперад, прадугадваючы вынікі даручанай яму справы. Як не спаслацца яшчэ на яго кнігу?! «Дні бадзёрылі і натхнялі. Пачаў штурхаць на творчы ўздым і рэдакцыйнага паэта Андрэя Сошку. У красавіку стартаваў ён першай падборкай вершаў «Агафонам Аброткай» (вершаванай рубрыкай для дзяцей з малюнкамі Юзефа Мазалеўскага) і сатырычнымі вершамі, якія падпісваў псеўданімам «Корань».

У гэты час надрукавалі мы таксама першыя вершы беларускага рабочага Уладзіміра Сасіма і селяніна Аляксандра Баршчэўскага (сваяк А. Барскага)... У кастрычніку аб'явіўся паэтычны талент маладога хлопца з Тарнопаля Уладзіміра Гайдука. У лістападзе адгукнуўся вершамі з Узбярэжжа рэпатрыянт Мікола Базылюк (Дварэцкі). Складваўся паэтычны актыў, які даў пачатак нашаму паэтычнаму руху» [7].

Работа «Нівы» стала часткай дзейнасці ўсяго Беларускага грамадска-культурнага таварыства, чыім органам стаў штотыднёвік, па нацыянальнаму адраджэнню на Беласточчыне. З 1957 года пачаліся рэгулярныя перадачы на беларускай мове па радыё. У гэтым жа годзе пабачыў свет першы выпуск штогодніка «Беларускі каляндар», які праз некаторы час ператварыўся ў літаратурна-мастацкае і грамадска-культурнае выданне. У ім адзначаліся не толькі юбілеі, але і расказвалася аб грамадскім, культурным жыцці беларусаў. На старонках стала прапісаліся творы беластоцкіх літаратараў і пісьменнікаў з Беларусі.

У студзені 1957 года Галоўнае праўленне БГКТ выдала першую кнігу — ёю стала купалаўская «Паўлінка», адрасаваная ўдзельнікам мастацкай самадзейнасці. Пры Галоўным жа праўленні ў 1958 годзе было створана беларускае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Бела-

[6] Валкавыцкі Г. Віры. С. 19.
[7] Тамсама.

вежа», якое на сённяшні дзень налічвае да трыццаці чалавек — паэтаў, празаікаў, мастакоў... Дарэчы, белавежцы штогод праводзяць творчыя семінары, запрашаюць на іх калег з Рэспублікі Беларусь.

Калі выданне «Нівы», а пасля і «Беларускага календара» дало мажлівасць беластоцкім літаратарам рэгулярна друкавацца, мець свайго чытача, дык 1959 год прынёс ім, нарэшце, першую кнігу — калектыўны зборнік «Рунь». Выйшаў ён у красавіку. Зварот «Да чытача» напісаў «Г. В.», як няцяжка здагадацца, сам Г. Валкавыцкі. Свята заўсёды свята, таму і гаворка адпаведная: «Зборнік прадстаўляе ўсе наяўныя ў ПНР беларускія паэтычныя сілы. Вершы... у асноўным датуюцца параўнальна кароткім адрэзкам часу. Амаль усе напісаны не раней 1956 года. Прадстаўленыя аўтары розняцца між сабою не толькі гадамі ці творчым узроўнем, але і літаратурным густам. Большасць з іх свае першыя крокі ў паэзіі ставіла на старонках «Нівы» [8]. Ды і заканчваўся зварот традыцыйна: «Тое, што мы першымі выйшлі абрабляць паэтычныя аблогі, павінна дадаць нашым паэтам бадзёрасці ў пошуках сваёй папараці-кветкі» [9].

Наконт бадзёрасці сяму-таму з тагачасных дэбютантаў не так было і проста, бо мелі яны за плячамі за шэсцьдзесят. Тым не менш рунь зазелянела. Дазволю прывесці ўвесь спіс колішніх пачаткоўцаў, ён не такі ўжо і вялікі: Мікола Базылюк, Алесь Барскі, Янка Баразавец, Яша Бурш, Зося Бусловіч, Мікола Буцылін, Мікола Гайдук, Уладзімір Гайдук, Тодар Грушка, Уладзімір Дарашкевіч, Янка Дубіцкі (Іван Чыквін), Мікола Красоўскі, Алесь Свісёнак, Андрэй Сошка, Анатоль Хлябіч, Дзмітры Шабыловіч, Віктар Швед. Адны з гэтых аўтараў у далейшым абмяжуюцца выступленнямі ў перыёдыцы і толькі нямногія дачакаюцца ўласных кніг. Беласточчына тут не выключэнне.

Першай індывідуальнай кніжкай, выпушчанай Галоўным праўленнем БГКТ, стаў зборнік выбраных фельетонаў Дзядзькі Лявона (студзень 1961 года). Праўда, мастацкія вартасці твораў, змешчаных у ім, жадаюць больш высокага ўзроўню, але факт застаецца фактам — ад калектыўных кніг мясцовыя аўтары дажылі і да ўласнааўтарскіх.

---

[8] Рунь. Беласток, 1959. С. 5.
[9] Тамсама. С. 6.

У далейшым выходзілі як калектыўныя зборнікі, так і індывідуальныя. 1963 год пазначаны кнігай «Мой родны кут». Яна адрасавалася ў асноўным вучням пачатковых школ, у якіх вывучаецца беларуская мова. Гэта адпаведным чынам паўплывала і на змест. У першы раздзел увайшлі вершы і апавяданні, а таксама фальклорныя творы, што прывіваюць любоў да роднай зямлі. Працягам гэтай гаворкі пра Беласточчыну стаў другі раздзел «Пазнай сваю Бацькаўшчыну». Артыкулы, нарысы, прысвечаныя Белавежскай пушчы, гісторыі краю, адметнасці мясцовых гаворак, пашыралі кругагляд юных чытачоў, фарміравалі ў іх пачуццё глыбокага патрыятызму.

Праз два гады пабачыў свет яшчэ адзін калектыўны зборнік «Белавежа», якому наканавана было стаць альманахам. Як і ў кніжцы «Рунь», у ім прадстаўлены самыя розныя аўтары. Раскаванасцю радка прыцягвалі ўвагу творы Яшы Бурша (Янкі Анісаровіча), які нарадзіўся 12 лістапада 1929 года ў Баранавічах. Неўзабаве Я. Бурш выдасць кнігу паэзіі «Прамень думкі». Ён скончыў у 1957 годзе Варшаўскую акадэмію мастацтваў, таму сам ілюстраваў свае вершы. І малюнкі, і літаратурныя творы сведчылі аб назіральнасці аўтара і адначасова аб яго жаданні адысці ад звыклых рэалій. У Я. Бурша шмат умоўнасці, недасказанасці, уяўнай падтэкставасці.

Першыя апавяданні прапанаваў Юрка Геніюш (нарадзіўся 21 кастрычніка 1935 года ў Зэльве). Яны блізкія да замалёвак, лірычнасць спалучаецца з публіцыстычным роздумам. Ад самога жыцця, уласна перажытага, ішоў у сваіх вершах Алесь Свісёнак (Алесь Батура). Ён таксама выхадзец з Беларусі, нарадзіўся 6 жніўня 1920 года ў вёсцы Крывічы на Наваградчыне. У 1942 годзе быў вывезены на работу ў Нямеччыну, уцёк, пасля партызаніў, ваяваў у дзеючай арміі, настаўнічаў. Вылучаліся творы А. Барскага, а таксама М. Гайдука, В. Шведа, С. Яновіча. «Упрыгожваннем» зборніка сталі ўспаміны М. Забэйды «Мастацтва за мір».

У другім выпуску «Белавежа» (1971) акрамя новых твораў «белавежцаў» змешчаны мемуарныя запісы Л. Войцікавай (Зоські Верас) «Пяць месяцаў у Мінску», у якіх на першым месцы, як вядома, згадкі пра Максіма Багдановіча. Увайшлі ў альманах і ўрыўкі з «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча ў перакладзе Б. Тарашкевіча.

1973 год стаў годам адкрыцця беластоцкага літаратурнага «мацерыка» на Беларусі. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» з'явіўся складзены Уладзімірам Казберуком зборнік «Літаратурная Беласточчына». Невялічкая прадмова «Песні Белавежы», напісаная ім, давала пэўнае ўяўленне пра асобных аўтараў, прыводзіліся і кароткія біяграфічныя звесткі пра іх. Чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца з Антосем з Лепеля (Антонам Васілеўскім, які нарадзіўся 18 жніўня 1891 года ў Лепелі), А. Барскім, Я. Буршам, М. Гайдуком, Ю. Геніюшам, А. Свісёнкам і інш.

Трэцяга выпуска «Белавежы» давялося чакаць да 1980 года. Выхад альманаха быў прысвечаны дваццацігоддзю творчай дзейнасці літаратурнага аб'яднання, пра што не прамінуў згадаць ва ўступе Я. Чыквін. Поруч з ветэранамі заявілі аб сабе і маладзейшыя. Сярод іх Валя Анішчук (нарадзілася 24 лютага 1956 года ў Навакорніна), Надзея Артымовіч, Міхась Шаховіч, пра якіх скажу ніжэй.

Нарэшце, чацвёртая кніга «Белавежы». Год 1988-ы, «белавежцам» споўнілася трыццаць гадоў. Упэўнена трымаюць творчую справаздачу ветэраны А. Барскі, М. Гайдук, У. Гайдук, В. Швед, С. Яновіч, Я. Чыквін і інш. Поруч жа тыя, хто толькі ўваходзіць у літаратуру. Яніна Шостак (цяпер Ткачук) нарадзілася 12 студзеня 1965 года ў Беластоку. Ірына Свентахоўская (цяпер Юрчук) нарадзілася 29 студзеня 1956 года ў Нарве. Зося Сачко нарадзілася 18 ліпеня 1955 года ў вёсцы Волька каля Орлі... Усе яны любяць паэзію, у З. Сачко ў 1982 годзе выйшла кніга «Пошукі». А вось Міра Лукша (нарадзілася 9 лістапада 1958 года ў Гайнаўцы) — празаік. З яе лепшымі апавяданнямі знаёмы ўжо і чытачы часопісаў «Маладосць», «Беларусь», іншых перыядычных выданняў нашай дзяржавы.

А цяпер самы час запыніцца на творчасці найбольш вядомых беластоцкіх аўтараў крыху падрабязней. Пасля А. Барскага першым варта згадаць Сакрата Яновіча (хаця, думаецца, па значнасці зробленага іх можна паставіць поруч).

Нарадзіўся Сакрат Яновіч 4 верасня 1936 года ў мястэчку Крынкі. Як прыгадвае пісьменнік у адным з лістоў да Янкі Брыля, чытаць і пісаць яго навучыў савецкі настаўнік, які пасля ўз'яднання Беларусі кватараваў у іхняй сям'і зімой 1940 года: «На ўсё жыццё запом-

ніў я з тых дзён Купалаў верш «Хлопчык і лётчык» [10]. Згадвае С. Яновіч і іншыя моманты свайго маленства. У сямігадовым узросце наведваў нелегальную школу, адкрытую падпольшчыкамі. Пасля вызвалення вучыўся ў электратэхнікуме, які закончыў у 1956 годзе. Праз два гады прадоўжыў вучобу ў так званай «завочнай настаўніцкай студыі». Пра гэта ўжо згадкі ў аўтабіяграфіі «Пра сябе»: «Цікавасць да беларусчыны выбухнула выпадкова: Хутка ў сказ кладуцца словы. Але дні хутчэй мінаюць... і г. д. (прачытаў у кнігарні). Чытаць вершы я не любіў, слухаць іх — так... Аб беларускай літаратуры і ўвогуле аб літаратуры падрабязней даведаўся ў час вучобы на Аддзяленні беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі (закончыў яе ў 1962 годзе)» [11]. Завочна вучыўся С. Яновіч і на філалагічным факультэце Варшаўскага універсітэта. Дыплом аб вышэйшай адукацыі атрымаў у канцы 1973 года.

Яшчэ адно прызнанне: «Адчуванне слова пахлынула ад Бабеля, кніжку твораў якога прынёс брат маёй жонкі, мастак душою і па званню, сын Сакольшчыны. Напісаў я тады «Фэст», першую рэч, што прыйшла да мяне са шчырых перажыванняў да самых глыбіняў іх. Потым: «Сыну», «Валошку» [12]. Як бачым, пісьменнік пачаткам творчай працы лічыць 1962 год — менавіта тады і была напісана навела «Фэст». Аўтару, як кажуць, відней, хоць першыя яго «падлеткавыя практыкаванні», як кажа Я. Брыль, з'явіліся ў «Ніве» яшчэ ў 1956 годзе.

Згаданыя «Фэст», «Сыну», «Валошка», а таксама іншыя ўвайшлі ў першую кнігу С. Яновіча «Загоны». Першую не толькі для аўтара, аб чым не прамінуў нагадаць у прадмове М. Гайдук: «Зборнік твораў Сакрата Яновіча «Загоны» — першая кніга прозы аўтара ў дзесяцігадовай гісторыі беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа»... У іх чытач знойдзе кароценькія лірычныя абразкі, каларытныя замалёўкі, апавяданні, аповесці» [13]. І далей: «Па-свойму паказаў С. Яновіч і людзей і прыроду Беласточчыны. Хіба ж таму яго першы зборнік з'яўляецца кветкай гаючай, ірдзісты-

---

[10] Яновіч С. Сярэбраны яздок. Мн., 1978. С. 185.
[11] Яновіч С. Загоны. Беласток, 1969. С. 280—281.
[12] Тамсама. С. 281.
[13] Тамсама. С. 5.

мі колерамі і пахучай тхненнямі свойскасці нашага беластоцкага загону жыцця»[14].

Сказана вычарпальна. Варта дадаць толькі, што С. Яновіч з першых сваіх крокаў пачаў углядацца ў жыццё вокам неабыякавым і да паэзіі, і да прозы. Пісаў, сур'ёзна аналізуючы шматгранныя працэсы. Не адмаўляўся і ад гумару, іроніі. Удаваліся яму і навелы-роздумы, і апавяданні, свайго роду штрыхі з паўсядзённасці. Характэрны ў гэтым сэнсе твор «Як Міхалка лес краў». Чытаеш, і малюнак, створаны аўтарам, навідавоку: «За вёскаю, на пагорку, сава загукала ў кучме акалелага зарасніку.

— Маўчы ты, прыгажуня,— падмаргнуў ёй Міхалка.

А яна, дурная, напраўду падумала, што прыгожая вельмі, натапырылася, пахвалою пераняўшыся, ажно месяц гарласты чуць не зарагатаў. Тут прыпыніла яго буланка, хвастом таемна махнуўшы, і зубялямі жоўтымі передрачыла месяцаву нястрыманасць. Анямеў, паднябесны валакіта, застыла на ім срабрыстая ўсмешка ад вуха да вуха. Міхалка і тут не прамінуў кінуць: «Памятай, нідзе не быў і нічога не бачыў». Пасля, канечне, ён за справу ўзяўся. Ды боязна, і вось як перадае С. Яновіч стан свайго персанажа:

«Піла непаслушная з рук усё выслізваецца, енчыць:

— Што-о ро-обіце... што-о ро-обіце...

Прыімчаў вецер-задавака, загаласіў у дрымучым урочышчы.

— Зла-адзе-і... зладзе-еі-іі».

Гэтае апавяданне, а таксама «Спосабы на зладзеяў», «Удача», «Справядлівы кум» і іншыя аб'яднаны назвай «Дзядзькавы соннік». Так сказаць, вясковае жыццё пададзена з усмешкай.

Услед за першай кнігай С. Яновіча не прымусілі чакаць і яго наступныя: «Вялікі горад Беласток» (1973, перакладзена на польскую мову Янам Гушчам, Мацеем Юзафам Канановічам, Віктарам Варашыльскім і Ежы Літвінюком, апошні напісаў і прадмову), «Зборнік сцэнічных твораў» (1976, разам з Ю. Генюшам), п'еса «Не пашанцавала» (1978), «Сцяна», «Самасей» (абедзве ў 1979 годзе па-польску), «Мініяцюры» (1984, Лондан, паралельны тэкст па-беларуску і ў перакладзе на англійскую мову) і інш. Зборнік «Сярэбраны яздок» у 1978 го-

---

[14] Яновіч С. Загоны. С. 6.

дзе выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура». У аднайменнай аповесці пісьменнік праўдзіва ўзнавіў асноўныя моманты паўстання 1863 года на Беласточчыне. Наколькі С. Яновіч майстра малога жанру, бачна з апавяданняў, замалёвак, гумарэсак. Асобныя з іх змяшчаліся ў «Загонах», іншыя — у пазнейшых зборніках.

Чарговая сустрэча з беларускім чытачом — кніга «Самасей» («Мастацкая літаратура», 1992). Асноўнае месца ў гэтым зборніку займае аднайменная аповесць, якая, дарэчы, яшчэ ў 1979 годзе выдавалася па-польску. Здавалася б, такі даволі значны прамежак часу, што прайшоў пасля напісання твора, можа аказаць пэўны ўплыў на цяперашняе чытацкае ўспрыманне. Многае ж у жыцці мяняецца, карэкціруецца, праблемы, якія яшчэ нядаўна выглядалі ці не першаступеннымі, страчваюць ранейшае значэнне. Але свайго роду пераацэнка напісанага магчыма ў тым выпадку, калі аўтар вельмі ж працуе на «патрэбу часу», вырашае не столькі мастакоўскія, колькі сацыяльна-грамадскія задачы. С. Яновіч жа якраз належыць да пісьменнікаў, якія на першае месца ставяць агульначалавечыя праблемы, не падстройваюцца пад кан'юнктуру літаратурнага рынку. І сёння мы сустрэнем вакол сябе гэтакіх самых «самасеяў» — людзей, падобных інжынеру Андрэю Антошку, чалавеку ўвогуле не благому, але пазбаўленаму ў жыцці трывалай духоўнай асновы. Таму і нагадвае ён сабой своеасаблівае «перакаці-поле». І ў горадзе як быццам пражыць можа, і ў колішняй вёсцы пакуль яшчэ яго чужым не назавеш, а на самай жа справе...

Сакрат Яновіч не проста напісаў глыбока псіхалагічную аповесць. Да ўсяго гэта і твор, у якім адчуваецца незвычайнасць сюжэтных калізій, нечаканасць сітуацый, што ў той ці іншай ступені ўплываюць на паводзіны Андрэя Антошкі. Літаральна з першага ж абзаца аўтар настолькі заінтрыгоўвае, што нібыта ты разгарнуў дэтэктыў: «Былі яны з трэцяга камісарыята. Андрэй Антошка ўбачыў іх яшчэ да таго, як прыйшлі яны да дзвярэй ды пазванілі. Званок быў чужы, доўгі, па-службоваму беспардонны.

Калі ён глядзеў на іх праз акно, дык падумаў, што гэта валакуцца да хворага санітары. Хто ж захварэў?»

Аднак, «калі падыходзілі да пад'езда, ён зразумеў, што гэта ўсё ж не санітары. Адзін з іх падняў галаву і, здалося, зірнуў проста на Андрэя». Няцяжка ўявіць сабе

стан Андрэя Антошкі, калі перад гэтым «яму снілася смерць, могілкі, зямля, плач», а за дзень да таго ён увогуле «прачнуўся ад удару перуна, які бліснуў з пагоднага неба». І ўсё ж яму хочацца саўладаць з самім сабой, адагнаць назойлівыя думкі прэч. Андрэй ставіць на пліту чайнік, хоча выглядаць спакойным, не мітуслівым, але... «І тут зазваніла ў дзвярах. Званок выдаўся нейкім не заўважаным дагэтуль сном... У дзвярах — з тэатральнай падкрэсленасцю — пазванілі яшчэ раз. Гэта былі яны!»

Нельга не адчуць майстэрства празаіка, яго ўменне трымаць чытача ў напружанні. Ніводнага лішняга слова, усё дакладна ўзважана. Усё працуе, каб заінтрыгаваць, зацікавіць, прымусіць (паўтараю, прымусіць!) сачыць за далейшым ходам дзеяння, за яго разгортваннем. Аднак С. Яновіч дасканала валодае яшчэ адным майстэрствам. І гэта адразу адчуюць тыя з чытачоў, хто і ад вострага сюжэта не адмаўляецца, і разам з тым любіць прозу псіхалагічна-заглыбленую, насычаную вобразамі, з багатай мовай. Што да псіхалагізму, дык ён дае знаць аб сабе спакваля, па меры таго як Андрэй Антошка пачынае валодаць сітуацыяй, раскрывацца як асоба са сваімі індывідуальнымі якасцямі. Здатнасць жа пісаць вобразна, сакавіта бачна адразу.

Памятаеце, «гэта былі яны!»? Што ў такім разе робіць чалавек? Альбо ў страху стаіць перад дзвярыма, не ведаючы, як быць далей. Ці рашуча адчыняе дзверы, калі ўпэўнены ў сваёй праваце і гатовы пастаяць за сябе. Антошка «адчыніў ім дзверы з такім размахам, з якім у маладосці хапаўся за калаварат, калі бацька ўязджаў возам на прыгуменне са снапамі, а за Доўгім выганам грымела і шпіліла зямлю даждлом».

Непаўторна, вобразна сказана. Ды так, што здагадваешся — перад табой так званы гараджанін першага пакалення. Адразу выдае гэтае «адчыніў ім дзверы з такім размахам, з якім у маладосці хапаўся за калаварат...» Між іншым, праз шмат старонак С. Яновіч так ахарактарызуе аднаго са знаёмых Антошкі: «У таго зрок інтэлігента ў першым пакаленні, што якраз сядлае кар'еру, такі здольны, ого: на што толькі хочаш!» Але гэта будзе пасля. Цяпер жа ўся наша ўвага — сам Антошка і яго няпрошаныя госці. Як неўзабаве высвятляецца, прышлыя і на самай справе з паліцыі, а «ў Андрэі... бачылі злодзея». Выратаваць становішча можа ней-

кая міфічная жанчына. Калі Антошка паведаміць яе адрас, то яна і засведчыць, што Андрэй ніякага дачынення да крадзяжу не мае.

Сапраўды ўжо, папаўся ў нерат — ні ўзад, ні ўперад. Выратоўвайся, як хочаш. Да ўсяго — у гэтым Антошка не сумняваецца — «з камісарыята могуць пазваніць дырэктару» арганізацыі, дзе працуе Андрэй. Тады нічога добрага чакаць не выпадае. Адным словам, жыў чалавек спакойна, нікому нічога благога не рабіў і раптам высвятляецца, што пад сумненне ставяцца і яго прыстойнасць, і яго сумленнасць, і яго шчырасць. Антошку ж у камісарыяце паліцыі, куды яго неаднаразова выклікаюць, не вераць.

Уласна кажучы, з гэтага моманту аповесць і пачынаецца як твор. Неўзабаве высвятляецца, што перад табой ніякі не дэтэктыў, тым не менш цікавасць не паслабляецца. Прываблівае сам характар Андрэя Антошкі: хочацца даведацца, што за чалавек, якімі прынцыпамі кіруецца, да чаго імкнецца і што адмаўляе. Тым больш што і галоўны герой мусіць задумацца над перажытым, у нейкай ступені выверыць уласныя арыенціры.

У такім разе герою самы час ачысціцца. Маральна, духоўна, душэўна. І дзе гэта лепей за ўсё зрабіць? Канечне ж там, дзе твае карані, вытокі, дзе цябе пакуль што памятаюць, жывуць блізкія людзі. Андрэй Антошка едзе ў свае Крынкі (прыгадайма, Крынкі — родная вёска С. Яновіча). Адбываецца тое самае, пра што шмат гадоў назад так дакладна сказаў Янка Сіпакоў: «Усе мы з хат». Хаты прыцягваюць нас гэтаксама моцна, як і калісь у юнацтве трымалі, не адпускалі ад сябе. Як бачым, С. Яновіч у дадзеным выпадку нічога новага не адкрывае. Нават, як бы паўтараецца, ідучы тым шляхам, якім колькі ўжо «ходзіць» беларуская літаратура. Прыгадайма ў сувязі з гэтым творы М. Стральцова, І. Навуменкі, А. Жука, В. Карамазава, таго ж Я. Сіпакова і многіх іншых пісьменнікаў. Ды паўтор да таго неабходны, што пра яго забываешся, як бы і не прымаеш пад увагу. Не ён на першым плане. Куды важней, як пісьменнік прыглядаецца да свайго Андрэя Антошкі, імкнучыся разабрацца ва ўнутраным свеце, памкненнях.

Андрэй Антошка — няма сумнення — у нейкай ступені ахвяра пасляваенных абставін. Яны ж аднолькавымі былі і ў гаротнай пасляваеннай Беларусі, і ў няшчымнай, хоць, бадай, і менш гаротнай Беласточчыне. Як удала

знойдзены вобраз: «Аўтобусы Андрэевай маладосці былі аўтобусамі ўцёкаў»! Учарашнія сялянскія дзеці «працiскаліся да ўвахода з гоманам ад беспардоння, абвешаныя бакатымі пакункамі бацькоўскіх харчоў. Прадаўгаваты сіні кузаў пахістваўся, бы выратавальны кацер, што вывозіць — рэштку ўцалелых у нечуванай катастрофе — на хлебны кантынент, у белакаменную выгоду ды сытнасць». Беглі юнакі і дзяўчаты ад цяжкой працы, галечы, урываліся ў новы, такі загадкавы і, як гэта амаль заўсёды бывае, вабны свет. Не надта думалі, што для пераважнай большасці падобныя ўцёкі самотліва адгукнуцца праз усё жыццё. Вядома, для тых, хто не растраціў сумлення, для каго, хоць і рэдка, свецяць яшчэ яго сігнальныя агні і іх не патушыць жыццёвым навальніцам.

Андрэй з падобных непрыкаянцаў. Нездарма для яго лісты, атрыманыя ад маці, «пахлі полем». І невыпадкова аўтар з непрыхаванай усмешкай сведчыць пра галоўнага героя: «Калі б Андрэю спатрэбілася арганізоўваць падарожжа вакол зямлі, дык першае, аб чым паклапаціўся б, гэта — тона сухароў з чорнага хлеба і вялізная халадзільня, заплуненая вэнджанай саланінай, праросланай мясам...» Вёска не адпускае, яшчэ як не адпускае!

Меней за ўсё хацелася б, аднак, каб пры знаёмстве з аповесцю знайшліся ахвотнікі праводзіць паралель паміж вёскай і горадам. Ці наадварот... Маўляў, ад адарванасці ад трывалых маральных асноў, якія на сяле, і ідуць усе нашы беды. У такім разе, як быць з тым, што Андрэй Антошка, які ў родных мясцінах адчувае сябе, нібы рыбіна ў глыбокай вадзе, у горадзе непрыкаянец. А ўсё куды прасцей, чым падаецца на першы погляд. Бо не сам горад вінаваты ў гэтай непрыкаянасці, а ўсё тыя Антошкі, якія не змаглі ўрасці ў яго глебу. Менавіта яны, аказаўшыся перад новымі і не менш суровымі, а ў некаторай ступені і яшчэ больш складанымі абставінамі, забыліся пра тое, што было закладзена ў маленстве.

Герой С. Яновіча спрабуе разабрацца ў самім сабе. Гэтага жадаем і мы, чытачы. Да падобнага імкнецца і сам пісьменнік. Аднак, як гэта ні дзіўна, чым настойлівей шукаем адказ, тым большае пытанняў. З адным разабраліся, як паўстаюць іншыя. Парадокс, ці не праўда? А мо так і павінна быць? «Падумалася Андрэю: калі вёска — гэта наша глеба, дык чаму так рэдка сыплецца ў яе тое зерне, якое яна ж вырасціла? А можа, не яна вырасціла яго? Шчодрай рукою, можа, адступіла яго го-

раду? Нас, мяне з табою, тысячы іншых... І вецер надзеяў здувае ёй, час ад часу, адну салому ды мякіну!»

А ў іншым месцы: «Палявымі вятрыскамі абступалі Андрэя сумненні ў тым, ці з'яўляецца яго пакаленне добрым будаўніком горада. Адпаведным. У яго не было доказаў супраць... Але ў яго былі прадчуванні, што карысць, якую яны давалі, не такая ўжо і вялікая, бо не перастаюць яны шчаслівець ад таго факта, што жывуць і красуюцца ў Вялікім Беластоку». «Самасеі мы»,— скажа неўзабаве пра сябе і гэтакіх жа гараджан першага пакалення галоўны герой. Самасеі... А тут ужо, як хочаш, так і стаўся да гэтага прызнання. Самасей, канечне, ветрам занесены, ад зямлі роднай адарваны. Як быццам і каранёў не засталося. Аднак нельга забываць і пра іншае: тое, што само сабой засеялася, трывала за глебу трымаецца. Няхай і ў чужым месцы, але ветру не паддаецца. Супярэчлівасць? Ды хіба не з гэтых супярэчлівасцей складваецца наша жыццё? Літаратура ж і мусіць іх адлюстроўваць. Не прыхарошваючы, не прыглянцоўваючы, што і робіць С. Яновіч у сваёй таленавітай аповесці.

Выпадак, не сказаць, каб часты ў літаратуры, але разам з тым яго і адзінкавым не назавеш. Хоць і рэдка, ды з'яўляюцца пісьменнікі, якіх можна назваць аўтарамі адной кнігі. Ёсць падставы так гаварыць і пра Васіля Петручука. Яго шмат у чым аўтабіяграфічная аповесць «Пожня» выдавалася спачатку на польскай мове, двойчы выходзіла па-беларуску: у Беластоку (1987) і ў нас у «Мастацкай літаратуры» (1991) і прынесла пісьменніку заслужаную вядомасць як на Радзіме, так і за яе межамі. Аўтар яшчэ напісаў некалькі апавяданняў і навел, не кажучы пра яго публіцыстычныя выступленні, краязнаўчыя нарысы на старонках «Нівы».

Нарадзіўся В. Петручук 23 жніўня 1926 года ў вёсцы Грабавец на Беласточчыне. Дату ўдакладніў пазней, калі прайшоў нямала шляхоў-дарог. Маленства ж меў сіроцкае, не да таго было, каб памятаць падобныя «дробязі». Больш аб зусім не радасным, слёзным маленстве напоўнены і пачатак аповесці: «Нарадзіўся я ў 1926 годзе, але ніхто не ведаў, у якім месяцы; і мяне таксама гэта не цікавіла. Дзядзіна гаварыла, што «дзесьці летам...» Ведаю, што, калі жыву, значыцца, нарадзіўся я,— і тое, што было мне ўсяго паўтара года, калі памерла мая маці. Пасля смерці маёй маці мой лёс цікавіў свая-

коў столькі, колькі леташні снег». З-за гэтай самай непрыкаянасці, жыццёвай няўтульнасці і беспрытульнасці, калі нікому ты не патрэбен і нікому да цябе няма справы, В. Петручук доўга шукаў месца ў жыцці. Так, спачатку ў жыцці, бо, каб прыйсці ў літаратуру, яму найперш неабходна было ўпэўніцца, што зусім не лішні на зямлі.

На доўгі час лёс звязаў з арміяй, закончыў афіцэрскую школу. І толькі ў 1965 годзе звольніўся ў запас, пераехаў з Варшавы ў Беласток. Пашчасціла, што адразу пасля расстання з арміяй зблізіўся з «Нівай», якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. «Беларусам жа,— як прызнаецца,— сябе адчуваў заўсёды, дзе б ні жыў і дзе б ні працаваў. Маю на ўвазе, вядома, сваё дарослае жыццё. Прытым аніякія крутыя павароты палітычнага характару не змянілі мяне, хаця я ў іх браў непасрэдны ўдзел як афіцэр. Не перамяніла мяне і польскамоўнае асяроддзе, у якім я жыў і працаваў».

І вось гэты самы беларус, як цяпер прынята казаць, беларус свядомы, апынуўся ўжо ў беларускамоўным асяроддзі, сярод аднадумцаў. У «Ніве» дзякуючы В. Петручуку з'явілася пастаянная рубрыка «Якія мы людзі». Сам і вёў яе. Ад нататак, артыкулаў перайшоў да прозы. Першае апавяданне «Закалядаваў» надрукаваў у 1975 годзе, пасля другое, трэцяе. Паказаў іх С. Яновічу як больш вопытнаму літаратару. Той стаў першым, хто запрыкмеціў у В. Петручука талент празаіка. Заўважыў і падказаў: «А ты напішы кніжку!» Так з асобных апавяданняў, замалёвак і пачала нараджацца будучая аповесць «Пожня». Закончыў яе ў 1979 годзе, а потым — тут В. Петручук не выключэнне — не адзін год затраціў, каб прабіць твор у друк.

Аповесць у апавяданнях — так можна вызначыць жанр «Пожні». Прынамсі, падобнай думкі прытрымліваецца і С. Андраюк, з пасляслоўем якога «Свая старонка» яна выйшла ў «Мастацкай літаратуры» (прадмова «Слова аб запісаным жыцці» С. Яновіча).

Колькі пісалася ў літаратуры аб гаротным маленстве, у тым ліку і ў беларускай! Але справа ў тым, што ўсё гэтае «вядомае» ўражвае той праўдай, якая пры ўсёй яе знаёмасці кожным разам свая, непаўторная. Яе не прыдумаеш, не народзіш нават самай багатай фантазіяй. Бо ўсё гэта перажыта, адчута, так сказаць, на ўласнай скуры. Споведзь В. Петручука — гэта боль, незагоены з га-

дамі. Яго даверлівы расказ як напамінак — барані Божа, каб нешта падобнае паўтарылася.

Возьмем хоць бы такі эпізод, ад знаёмства з якім становіцца не па сабе. У кожнага народа, зразумела, хапае лютасці, знаходзяцца і асобы, якіх інакш, чым вылюдкамі, і не назавеш. Ды то ў іншых, а гэта ў нас, беларусаў, у тых, каго спакон вякоў і другія народы лічылі (і лічаць!) разважлівымі, спагадлівымі ці не самымі гуманнымі на зямлі. Аднак нікуды не дзенешся: было ў заходнебеларускай, у прыватнасці ў беластоцкай, вёсцы і такое, пра што расказвае В. Петручук: «Аднойчы, вяртаючыся з вёскі, пачуў я праз адчыненае акно размову мачахі з бацькам.

— А на чорта вуон тобіэ потрыэбны? У нас ёсць свае дыэты. Возьмі дэ пуд халеру зобы або вывезы, каб згынув. То ж вуон і обжырае нас, і трэба ж убраты, а скуоль мы маемо на тое браты грошы. То шчэ тэпэр малый, то можэ ходыты і ў згрэбных нагавыцях, а як пудростэ, то схочэ убырптысь, як кавалiеры, і шчо тогды зробыш?

—Я нэ знаю, дэ ёго подыэты, а ты як хочэш, то возьмі зобы,— адказаў бацька».

Зло не само па сабе з'ўлялася, а нараджалася з галечы, сацыяльнай няроўнасці. Азлабленне і прыводзіла да жорсткасці. Спачатку да хатняй жывёлы. Нездарма ж пасля таго, як мачыха жорстка забіла сабаку за тое, што той з'еў кураняты, у хлопчыка ў душы як бы нешта перавярнулася: «Закапаў я Бурка разам са сваёю верай у чалавека, зрабіў магілу і, паплакаўшы над сваім лёсам, вярнуўся да штодзённых заняткаў». Але малая жорсткасць нараджае і большую. Невыпадкова ўжо з вышыні пражытага В. Петручук прыгадвае дзядзьку Вусача, які мог узяць хлопчыка за вуха і выкінуць яго з хаты: «Не магу сказаць, што гэта былі дрэнныя людзі, не. Гэта адпавядала ўсяму тадышняму жыццю». Быў жа яшчэ і нейкі Паўлік, які завёз роднага сына і пакінуў у лесе. Загінуў бы хлопчык, калі б салдаты выпадкова не завіталі па дровы.

Як у сувязі з гэтым не прыгадаць навелу В. Петручука «Вярнулася сірочае шчасце». Яна — свайго роду дапаўненне да «Пожні». Зноў сірочае маленства, ды толькі прыгадваецца яно праз шчаслівы сон. Аднак хіба шчасце, пабачанае, адчутае ў сне, не ілюзорнае?! «Прыгажосць садочка я навучыўся бачыць праз слёзы крыўды, якой мне людзі не шкадавалі». Пякучы гэты боль сіро-

чага маленства, які яшчэ пякучы! І так патрэбны. Як напамінак аб мінулым. Усім нам. А можа, у большай ступені тым, хто вельмі ж ужо ўслаўляе ўсё, што было «да Саветаў». Усякага было, панове. Усякага. Праўда, дык праўда без крайнасцей. Ні ў адзін бок, ні ў другі.

В. Петручук працуе над працягам «Пожні». Новая яго аповесць мае пакуль што загаловак «Паганец», таксама пабудавана на аўтабіяграфічным матэрыяле. У накідах і кніга «Ой, чыя то хата». Як прызнаецца аўтар, яна «аб вясковым жыцці ў даваенны час на беларускай вёсцы».

«З гісторыяй на «Вы» — гэтыя словы як нельга лепш стасуюцца да Міколы Гайдука, які ў сваёй творчасці, бадай, як ніводзін з беластоцкіх літаратараў, прывязаны да гістарычнай тэмы. Слушна сказаў Б. Сачанка, што ўсё, напісанае М. Гайдуком, «гэта даніна любові і павагі да роднага краю, жаданне хоць што кольвечы зрабіць дзеля яго велічы і славы, далучыць да яго новых прыхільнікаў і шанавальнікаў» [15]. М. Гайдук упэўнены: «Няважна, дзе жыве беларус. Важна, каб у ягоным сэрцы заўсёды знаходзілася Беларусь. Не трэба забываць, што за межамі рэспублікі жыве недзе да адной трэці нацыі» [16].

Родныя мясціны пісьменніка — ваколіцы вёскі Кабылянка ў Беластоцкім павеце, у якой ён нарадзіўся 29 мая 1933 года. Хлопчык з маленства спазнаў звычайныя хлебаробскія турботы, дапамагаючы па гаспадарцы. Калі падрос, скончыў першы клас польскай школы. Пасля верасня 1939 года адкрываліся новыя школы, клубы. У адной з такіх школ два гады правучыўся і М. Гайдук. На жаль, і на гэты раз давялося перапыніць вучобу. Пачалася фашысцкая акупацыя. Праўда, знайшліся патрыёты, якія і ў гэты цяжкі, небяспечны час змаглі адкрыць нелегальныя школы. М. Гайдук хадзіў у тую, у якой заняткі вёў праваслаўны святар, а пасля мітрапаліт Варшаўскі і ўсёй Польшчы Васілій, а ў цывільным жыцці Уладзімір Дарашкевіч.

Яшчэ два гады вучобы — і зноў давялося развітацца з кніжкамі, схаваць іх на лепшы дзень. Гітлераўцы даведаліся, што святар Васілій і яго паплечнікі зусім не пра паслушэнства Боскае марацьі не ў духу адданасці

---

[15] Гайдук М. Трызна. Мн., 1991. С. 189.
[16] Тамсама. С. 188—189.

Германіі выхоўваюць школьнікаў. Школкі былі зачынены. Прадоўжыў вучобу М. Гайдук пасля вызвалення і Беласточчыны, і ўсёй Польшчы. Чарговыя два гады наведваў беларускую школу, якая адчынілася ў Міхалове. Закончыўшы яе, падаўся ў польскі ліцэй. Працаваў затым у гміне. Хто ведае, як склаўся б далей яго жыццёвы лёс, калі б не з'явілася абвестка, што прымаюцца заявы на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Савецкага Саюза. Жадаючых аказалася куды больш, чым чакалася. На адно месца прэтэндавалі каля дваццаці чалавек. Конкурс вытрымалі толькі найбольш падрыхтаваныя. У ліку іх і М. Гайдук.

Хацелася вучыцца ў Беларусі, давялося паехаць у Растоўскі універсітэт. Там выбіраць не даводзілася. Пачаў авалодваць ведамі на факультэце рускай філалогіі. Праз два гады перавёўся ў Ленінград, а затым праз пэўны час патрапіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта. Вучыўся выдатна. Таму, калі ў 1959 годзе закончыў курс навучання, прапанавалі застацца ў аспірантуры. Ды М. Гайдука цягнула ў родныя мясціны. Паехаў на Беласточчыну, уладкаваўся настаўнікам у Бельскі настаўніцкі ліцэй, выкладаў беларускую, рускую і лацінскую мовы. Неўзабаве ўзначаліў гэтую навучальную ўстанову, стаў дырэктарам ліцэя.

Недзе на гэты час прыпадае і пачатак творчай працы М. Гайдука. Як і многія аўтары, пачынаў са звычайных допісаў, карэспандэнцый, расказваў аб падзеях у мясцовым жыцці. Праўда, не абмяжоўваўся звычайнымі паведамленнямі тыпу: дзе, што, калі... Імкнуўся падрабязней прааналізаваць пэўныя з'явы, асабліва калі гэта тычылася побыту беларусаў, іх культуры, гісторыі. У «Ніве» новага аўтара заўважылі, ахвотна друкавалі, а ў 1971 годзе запрасілі на сталую працу.

З пераездам у Беласток М. Гайдук, уласна кажучы, і нарадзіўся як пісьменнік. Амаль на працягу дзесяці гадоў ён вёў спецыяльны раздзел «Шляхам гадоў», змяшчаючы навелы, апавяданні, былі з мінуўшчыны беларускага народа. Дзякуючы М. Гайдуку ў «Ніве» з'явіўся і краязнаўчы слоўнік.

Безумоўна, усё гэта патрабавала не толькі таленту, а і ўмення весці пошукавую, даследчыцкую работу. Патрэбнага матэрыялу пад рукой часта не аказвалася. Не заўсёды яго можна было знайсці ў бібліятэках, ды і

архівы не так лёгка адкрывалі свае сакрэты. Таму М. Гайдук, як прызнаецца сам, «хадзіў ад вёскі да вёскі, ад хутара да хутара, запісваў легенды, паданні, занатоўваў найбольш істотныя падзеі. Хацелася паказаць, што зямля беластоцкая — частка зямлі беларускай»[17]. Матэрыялы, якія з'яўляліся пасля гэтых вандровак, траплялі не толькі ў «Ніву». М. Гайдук друкаваўся ў альманасе «Белавежа», у «Беларускім календары». Пакрысе выспявала жаданне сабраць лепшыя з публікацый пад адной вокладкай. Асобныя дапрацаваць, а то і перапрацаваць, каб яны былі для чытачоў цікавыя і карысныя.

Так нарадзілася кніга «Аб чым шуміць Белавежская пушча», якая выйшла ў 1982 годзе і мела падзагаловак: «Казкі і легенды сабраў і апрацаваў Мікалай Гайдук». З першай жа старонкі, з прадмоўкі «Адкуль узялася гэтая кніжка» становіцца вядомым, да каго адрасуецца пісьменнік, каму спавядаецца, у кім хоча бачыць аднадумцаў, як і ён сам, улюбёных у беларускую зямлю. Расказвае, як запісваў народныя паданні, занатоўваў легенды. Гаворыць шчыра, давяральна: «... слова за словам, сказ за сказам сабраў я жменьку гэтых народных твораў... Жывуць яны ў памяці людзей і перадаюцца з вуснаў у вусны на тутэйшай мове, такой звонкай, як кукаванне зязюлі надвячоркам на ўскраіне пушчы, і такой ласкавай, як подых летняга вецярку на ўсланай спелымі суніцамі пушчанскай паляне»[18]. Завяршаецца ж уступ наступнымі словамі: «І прыйшло ка мне жаданне таксама ўсім Вам адкрыць таямнічыя апавяданні Белавежскай пушчы».

Кніга «загучала», стала сапраўднай песняй Бацькаўшчыне і яе людзям. Яна прыадкрыла напластаванні стагоддзяў, зняла, як кажуць, з іх пыл. У сённяшні дзень прыйшлі людзі, якія жылі раней, як бы адушаўлёнымі сталі малюнкі прыроды. Кожны раздзел — «У звяроў і птушак», «Паміж людзьмі і жывёламі», «Калі пушчу сцераглі асочнікі», «Сярод людзей» — па сутнасці, кніга ў кнізе. Сюжэтна завершанай, самастойнай і разам з тым часткай больш важкай і грунтоўнай гаворкі пра Беларусь.

Менавіта пра Беларусь, а не толькі пра саму Бела-

---

[17] Гайдук М. Трызна. С. 187—188.
[18] Гайдук М. Аб чым шуміць Белавежская пушча. Беласток, 1982. С. 4.

сточчыну, бо М. Гайдук не абмяжоўваўся аналізам і асэнсаваннем таго, што адбывалася ў розны час толькі ў яго родных мясцінах. Расказваў і пра падзеі, што мелі месца на Наваградчыне, Полаччыне... Спалучаючы ў адной асобе літаратара і гісторыка, самым сур'ёзным чынам ставіўся да мастакоўскага занатавання таго, што ні ў якім разе не павінна кануць у Лету.

Плённасць падобнага шляху засведчыла і кніга «Трызна», выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1991 годзе. Невялікія аповесці, апавяданні, што склалі яе змест, як правіла, пабудаваны на дакументальнай аснове. Да некаторых з іх пісьменнік нават узяў эпіграфамі вытрымкі з вядомых летапісаў. Ахоп жа падзей надзіва шырокі. М. Гайдук па-свойму аналізуе тыя з іх, якія звязаны з нападам хана Батыя. Заглыбляецца ён і ў барацьбу з крыжакамі. У полі зроку пісьменніка і паўстанне 1861—1863 гадоў. Твор за творам... «Першыя», «Крамола», «Сполах»... І ўсё чытаецца. Ды як яшчэ чытаецца! Сам подых гісторыі прысутнічае, ажываюць, вяртаюцца з небыцця людзі, якія жылі калісь, у нечым памыляючыся, расчароўваючыся, але аб'яднаныя адным жаданнем, адзіным помыслам — любоўю да роднай зямлі.

Новую кнігу М. Гайдука «Паратунак» (выдавецтва «Юнацтва») сёй-той з крытыкаў паспеў ужо назваць займальным падарожжам у гістарычную даўніну заходніх беларускіх зямель. У такім сцвярджэнні ёсць ісціна. Шматлікія гістарычныя эсэ — свайго роду гісторыя Бацькаўшчыны ў постацях. М. Гайдук звяртаецца да вобліку Узяслава Полацкага, Давыда Гарадзенскага, Міндоўга і іншых гістарычных асоб, пра якіх раней, на жаль, не шмат гаварылася. А яны ж стаялі ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Пісьменнік расказвае і пра безыменных нашых продкаў. М. Гайдук знаёміць з воямі, сялянамі, гараджанамі, аддаючы волю шчодрай сваёй фантазіі і адначасова грунтуючыся на добрым веданні эпохі, пра якую апавядае. Яго мастакоўская інтуіцыя падмацавана самім ходам гістарычных падзей, яна як бы вынікае з іх.

Да ўсяго М. Гайдук — выдатны краязнавец і фальклярыст, запісаў звыш 600 беларускіх песень з нотамі. Частка гэтых твораў увайшла ў кнігі «Беларускія абрадавыя песні, звязаныя з нараджэннем дзіцяці, на Беласточчыне» і «Беларускія вясновыя абрадавыя песні на Бе-

ласточчыне». Шмат займаецца М. Гайдук і перакладамі, пераўвасабляючы з польскай і лацінскай моў на беларускую. Пастаянна выступае з артыкуламі, нарысамі пра беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў. Разам з Лідзіяй Гайдук ён аўтар-складальнік падручнікаў беларускай мовы для трэцяга, чацвёртага, пятага і іншых класаў.

Ладная і дагледжаная творчая дзялянка ў Яна Чыквіна (нарадзіўся 18 мая 1940 года ў Дубічах Царкоўных Гайнаўскага павета, чым вытлумачваецца і псеўданім Я. Дубіцкі, якім у «Ніве» падпісаў свае першыя апавяданні, а пасля і вершы). У 1964 годзе Я. Чыквін закончыў Варшаўскі універсітэт, дзе цяпер выкладае на кафедры беларускай філалогіі. Адначасова чытае лекцыі па гісторыі рускай літаратуры XIX стагоддзя. Пісаць пачаў рана, пад час вучобы ў ліцэі. У семнаццацігадовым узросце прыйшоў на пасяджэнні літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Як засведчыў пазней у прадмове да трэцяй кнігі Я. Чыквіна «Неспакой» (1977) С. Я. (Сакрат Яновіч.— *А. М.*), «семнаццацігадовы ліцэіст ужо тады вылучаўся сярод іншых «белавежцаў» не толькі непаўторнасцю паэтычных замалёвак, але перш за ўсё дакладнасцю рысунка і строгасцю ў выбары тэмы. Чыквін — паэт задуменняў. Паэт пытанняў. Паэт інтэлекту. Выхаваны на сутыку беларуска-польска-рускіх традыцый» [19].

Ацэнка высокая, асабліва, калі ўлічыць, што аўтар на час выхаду першай сваёй кнігі «Іду» меў дваццаць дзевяць гадоў. Тым не менш слушна і наступнае: «Чыквінскі верш... З ім трэба размаўляць у цішы, адагнаўшы ад сябе віскліваe ган'ё штодзёншчыны, тэлевізарна-газетныя эмоцыі. Каб аднавіць сябе, не здрабняць» [20].

Малады паэт свядома арыентаваўся на вершы, пазбаўленыя звыкласці, будзённасці. Вядома, не абыходзілася напачатку і без, я б сказаў, «хрэстаматыйнага». Як у гэтым прысвячэнні бацькам: «Я жыць хачу, як вы жылі: сярод палёў, звяроў і чыставоддзя, здалёк ад гарадоў, машын і цывілізаваных паводзін...» Але лірычны герой Я. Чыквіна з часам рашуча пазбаўляўся ўсёй гэтай звыкласці, не прымаў і мітуслівасці звычайнага існавання. Ставячы перад сабой высокую мэту, хацеў жыць

---

[19] Чыквін Я. Неспакой. Беласток, 1977. С. 3.
[20] Тамсама. С. 4.

годна і сумленна, не цураючыся сваёй беларускасці, пастаянна памятаючы аб ёй: «Прэч ад мяне ліслівыя, падманлівыя словы. Вы душыце мяне, з-за вас не чую я простых слоў роднай мовы». Вяртанне да роднага слова станавілася для Я. Чыквіна і зваротам у яго неруш. Маладому аўтару хацелася гаварыць па-сапраўднаму вобразна, а не мудрагеліста-ўскладнена, калі мастакоўскія пошукі становяцца ледзь не самамэтай.

Праўда, яго другая кніжка «Святая студня» (1970) не шмат дадала новага да творчага вобліку паэта. За выключэннем хіба аднайменнага вянка санетаў. Сапраўднае сцвярджэнне Я. Чыквіна як асобы, мастакоўскай індывідуальнасці пачалося з трэцяга зборніка «Неспакой» (1977). Як бачна з твораў, лірычны герой за гэты час не проста пасталеў, але шмат у чым і па-новаму пачаў глядзець на свет.

У 1989 годзе, калі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга «Светлы міг», з творчасцю Я. Чыквіна пазнаёміўся і чытач Беларусі. Нядаўна ж у Беластоку пабачыў свет яго чарговы зборнік «Кругавая чара» (1992). Паэт уступіў у тую пару, калі самы час задумацца над пражытым, узважыць набыткі. Усё настойлівей дае знаць пра сябе і пытанне: хто мы на гэтай зямлі? Трывожны, засяроджаны роздум у вершы «Крык начной савы»:

> Што ёсць быццё? Што — чалавек? Што — Бог?
> Чаму нікому нельга лёсу перайначыць?
> Не адсумуе смутак нашых сіл
> зямных трывог —
> З вачэй злятае белы голуб плачу.

Але дзе трывога, там і занепакоенасць: «Каму за сорак, той пазначаны ўжо цёмным цеменем смерці. А ў цені светлай усе й да сарака». Аднак над гэтым песімістычным дамінуе паважлівае стаўленне да жыцця як катэгорыі вечнай:

> Даўно нежывы бацька полем ідзе.
> Ён арэ.
> Ён і плуг.
> Ён і скіба раллі, і зерне, і водсвет далёкага раю.
> Вочы, якімі ён глядзіць на свет, тыя самыя вочы, што
> яго сустракаюць.
>
> Аўсу бацька ўзяў у радно
> ды сее той бок, дзе вечнасць даўно.

Плённа працуе ў літаратуры Віктар Швед. Нарадзіўся ён 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора. Вучыўся ў беларускіх сярэдніх школах у Гайнаўцы і Бельску. Закончыў аддзяленне журналістыкі і кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Акадэмію палітычных навук у Варшаве. Працаваў у выдавецтве «Ксёнжка і ведза». Дэбютаваў у 1957 годзе на старонках «Нівы» вершам «Беларус». У Беластоку ў В. Шведа выйшлі кнігі «Жыццёвыя сцежкі» (1967), «Дзяцінства прыстань» (1975), «Родны схоў» (1991), «Вясёлка» (1992)... Зборнікі «Дружба» (1976) і «Мая зялёная Зубровія» (1990) пабачылі свет у «Мастацкай літаратуры». Цыкл вершаў для дзяцей, напісаных В. Шведам (дарэчы, ён на сённяшні дзень адзіны беларускамоўны пісьменнік у Польшчы, хто пастаянна прапаноўвае творы маленькім і юным чытачам), змешчаны ў падручніку «Чытанка» для беларускіх дапаўняльных школ (Нью-Йорк, 1968). Разам з А. Барскім падрыхтаваў падручнікі для 8-га класа «Дружба і праца» і «Насустрач жыццю».

Паэзію В. Шведа вылучаюць шчырасць інтанацый, задушэўнасць, праўдзівасць людскіх пачуццяў і перажыванняў. На гэтыя рысы звярнуў увагу Я. Міклашэўскі, аўтар прадмовы «Маленькая Айчына» да кнігі «Мая зялёная Зубровія»: «Віктар Швед — паэт традыцыйны, з адметным паэтычным голасам і сваёй тэмай — вялікай тэмай маленькай Айчыны. Гэта паэт з абвостраным пачуццём успрыняцця жыцця. Непаўторнасць яго паэзіі — у грамадзянскай пафаснасці, шчырасці і праўдзе чалавечых перажыванняў» [21].

Сапраўды, пра В. Шведа можна з поўным правам сказаць — нягучна, ды шчыра. І такая ацэнка ні ў якім разе не прынізіць значнасць напісанага ім:

> У маіх вершах — сэрца насцеж,
> Праўдзівасць пройдзенага дум.
> У маіх вершах — маё шчасце
> І ў перамешку боль і сум.

Віктар Швед імкнецца (і гэта яму ўдаецца) перадаць саму першароднасць, нерушавасць побыту. Ажываюць малюнкі, запомненыя яшчэ з маленства.

Зборнікі «Дружба» і «Вясёлка» адрасаваны дзеткам. Апошні — свайго роду выбранае В. Шведа. У ім, па сут-

[21] Швед В. Мая зялёная Зубровія. Мн., 1990. С. 5.

насці, некалькі самастойных кніжак, ды і тыя падзелены на раздзелы, якім дадзены запамінальныя назвы — «Любі, браток, родны куток», «Прыроду беражы, прыродай даражы!», «Бабулі, дзеткі і малалеткі», «Бусел верны Беларусі»... Творы напісаны лёгка, рыфмы ў іх простыя, запамінальныя. Як і вымагае таго дзіцячая паэзія, В. Швед не абыходзіцца без дыдактызму. Павучальнасць, аднак, нясе педагагічныя элементы. Праграмным успрымаецца верш «Я нарадзіўся беларусам»:

Я нарадзіўся беларусам.
Беларусам буду жыць!
Мову родную вучуся
Шанаваць, цаніць, любіць!

У 1974 годзе на старонках «Нівы» вершам «Туды» дэбютаваў тагачасны студэнт аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Міхась Шаховіч. Для М. Шаховіча вяртанне «туды» — жаданне, няхай і ў думках, прайсціся сцежкамі і ваколіцамі Сакаў на Бельшчыне, дзе 20 лістапада 1953 года ён упершыню глянуў на свет. Вяртанне патрэбнае для душэўнага заспакаення, для магчымасці адчуваць сябе патрэбным на зямлі:

Зноў човен поўны успамінаў
Плыве ў мінулыя гады,
У свет дзіцячае краіны,
У свет праменняў і вады.

З маленства гучала для М. Шаховіча родная беларуская мова, але несла яна ў сабе і адметнасці пэўнай мясцовасці. Да мовы ж літаратурнай ён далучыўся, калі пачаў вучыцца ў Пасынкаўскай пачатковай школе, дзе ўпершыню адкрыў водар паэзіі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Прынамсі, так сведчыць у прадмове да кнігі М. Шаховіча «Праміканне» (Беласток, 1978) Мікалай Тармасюк. Пасля М. Шаховіч вучыўся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім. Адразу пасля заканчэння ліцэя ў 1972 годзе паступіў ва універсітэт, а ў 1975 годзе перавёўся на завочнае навучанне, бо пачаў працаваць у рэдакцыі «Нівы».

Журналісцкія турботы, завочная вучоба не заміналі паэтычнай працы. У 1977 годзе М. Шаховіч закончыў універсітэт і праз год меў ужо згаданую кнігу «Прамі-

нанне». Даволі грунтоўны аналіз зборніка зрабіў М. Тармасюк, здолеўшы вылучыць у творах маладога аўтара найбольш істотнае і важнае: «Ужо сам загаловак прадказвае настрой зборніка. Аўтар безупынна стараецца вяртацца ў мінулае, у свет прыгожага дзяцінства, стараецца, хаця ўспамінамі, бегчы за касматымі вазамі сена, тануць у вячэрняй імгле. Але, на жаль, усё гэта толькі імгляны ўспамін. Бязлітасныя хвалі часу беспаваротна аднеслі човен чалавечага жыцця» [22].

На самай справе лірычны герой яшчэ знаходзіўся на своеасаблівых ростанях. Яго па-ранейшаму вабілі вясковыя далягляды, але ўсё настойлівей давалі знаць аб сабе і іншыя рэаліі. М. Шаховіч перажываў душэўны стан, так псіхалагічна заглыблена спасцігнуты М. Стральцовым у яго апавяданнях пра гараджаніна першага пакалення, якому не дае спакою пах «сена на асфальце»:

> Не бачыць больш вазоў касматых
> дзіцячым вокам ў сенакос...
> Усё зарасло жыццём вусатым,
> і я таксама перарос.

Спрабуе М. Шаховіч сілы і ў галіне прозы, аб чым сведчыць кніжка «Вада ў рэшаце». Яго гумарыстычна-сатырычныя апавяданні, замалёўкі напісаны «з натуры». Аўтар выкрывае людскую зваду, зайздрасць, паказвае тых, хто не вельмі прывык ды і не імкнецца да гэтага жыць сумленна і шчыра. Удаліся аўтару ў першую чаргу тыя творы, у якіх сам факт — больш ці менш значны — не проста падаецца, а асэнсоўваецца, аналізуецца.

Сталее і талент Надзеі Артымовіч, якая нарадзілася 18 лютага 1946 года ў вёсцы Аўгустова. Выпускніца факультэта беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта (1972). Аўтар кніг паэзіі «Роздумы» (1981), «Сезон у белых пейзажах» (1990), публікацый у альманасе «Белавежа». Зборнік Н. Артымовіч «З неспакойных дарог» выходзіць у «Мастацкай літаратуры». Вершы паэтэсы нясуць у сабе беларускія нацыянальныя традыцыі. Відавочны ў іх і еўрапейскі вопыт, што, між іншым, увогуле характэрна для беластоцкіх аўтараў, прадстаўнікоў малодшага пакалення. Але якой бы ні была форма, куды б ні вялі пошукі, як бы не сягалі яны да нейкіх завоблачных, а то і зусім нерэальных вышыняў, нязмен-

---

[22] Шаховіч М. Праміванне. Беласток, 1978. С. 4—5.

най для аўтаркі застаецца нацыянальная глеба. Сваё разуменне ў Н. Артымовіч і прызначэння паэзіі:

[illegible]<br>
паэты паміраюць тады<br>
калі першы раз<br>
заблудзіць жывое слова<br>
і разаб'ецца пшанічнае рэха<br>
аб камень<br>
паэты паміраюць тады<br>
калі ўсміхаецца добры час для паперы<br>
паэты паміраюць тады<br>
калі знойдзены дакладныя адрасы<br>
сытыя жэсты<br>
паэты паміраюць тады<br>
калі нараджаюцца чорныя<br>
лістапады!..

У «Ніве» пачынаюць друкавацца і іншыя маладыя аўтары. Шкада, што з імі апошнім часам мы не можам, як след, пазнаёміцца. Раней газета не трапляла на Беларусь з-за ідэалагічных рагатак, цяпер жа свае ўмовы дыктуе псеўдарынак. Ды, думаецца, у рэшце рэшт, і тут справа наладзіцца. Дачакаемся таго дня, калі ў кнігарнях Мінска ці іншых гарадоў свабодна можна будзе купіць зборнікі беластоцкіх аўтараў, што выходзяць у іх на радзіме.

Мы ж шмат гадоў жылі ізалявана, забываючы (няхай і не па сваёй волі), што беларусы, дзе б яны ні знаходзіліся, заўсёды застаюцца беларусамі. «І нейкім непаразуменнем, недарэчнасцю можна лічыць тое,— дазволю сабе яшчэ раз працытаваць С. Андраюка,— што літаратура на беларускай мове, літаратура пра жыццё беларусаў, у якіх агульная з усім беларускім народам духоўная і матэрыяльная гісторыя, да гэтага часу не ўключаецца нашай крытыкай і літаратурнай навукай у агульны нацыянальны літаратурны працэс» [23].

Раку жывяць ручаіны. Без іх прытокаў яна мялее і паступова знікае.

---

[23] Петручук В. Пожня. С. 260.

*Людміла Маленка*

# АМЕРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ І ІХ ЖЫЦЦЁ У МАСТАЦТВЕ

## (па старонках газеты «Беларус»)

Навуковае даследаванне жыцця беларусаў мае сваю гісторыю. Але ў гісторыі беларусаў за межамі іх этнічнай радзімы існавання ёсць адметнасці, якія могуць дапамагчы пазнаць народ як бы з боку абставін, што парушылі натуральны працэс яго эвалюцыі.

Запавольваюць ці спрыяюць такія сітуацыі сацыяльнаму і культурнаму развіццю і ў якім кірунку — пытанне, на якое трэба адказаць. Пэўнае ўяўленне на гэты конт дасць магчымасць улічваць уплыў на духоўную культуру розных сацыяльных умоў.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, дзе б ні жылі беларусы, яны аказваюцца здольнымі супрацьстаяць абставінам, захаваць сваю існасць і духоўнасць. Не дамагаючыся права на нейкае асаблівае становішча сярод народаў, яны захоўваюць і паміж сабою і даносяць да іншых уласную спадчыну, матэрыяльную і мастацкую культуру. Ва ўмовах адарванасці ад родных каранёў беларусы ствараюць новае мастацтва. Нараджаюцца новыя традыцыі, святы, абнаўляюцца абрады. Так, можна гаварыць пра цікавыя, змястоўныя сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі (пазней з розных кантынентаў), якія адбываюцца праз кожныя два гады, пра штогадовыя кангрэсы сяброў Беларуска-амерыканскай моладзі ў Амерыцы, пра з'езды Згуртавання беларусаў Канады, выстаўкі традыцыйнага, дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, якія наладжвае ў Кліўлендзе Беларускі інстытут навукі і мастацтва, пра тыдні культурна-рэлігійных студый і святы земляробчага цыкла, што арганізоўвае беларуска-амерыканская праваслаўная царква Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе. Усё гэта ў жыцці беларусаў Амерыкі ўвайшло ў традыцыю.

Культура беларусаў, якія з розных прычын засталіся на землях ці то Амерыкі, Аўстраліі, ці то Велікабрытаніі, Германіі, набывае новыя абрысы. Гэта культура ствараецца па-за межамі роднай краіны, дзе дзейнічае, так бы мовіць, іншая сістэма каштоўнасцей. Такая акалічнасць накладвае свой адбітак. Гэта асабліва выразна бачна ў выяўленчым, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, пра што і пойдзе гаворка на падставе матэрыялаў газеты «Беларус», якая асвятляе жыццё суайчыннікаў у Амерыцы.

Газета «Беларус» — адно з чатырнаццаці беларускіх выданняў сярод месячнікаў, квартальнікаў, паўгоднікаў, што выдаюцца беларускай эміграцыяй у Нью-Йорку, Нью-Джэрсі, Агаё, Кліўлендзе і іншых штатах [1]. Ад пачатку свайго выхаду ў 1950 годзе гэты месячнік існаваў як орган Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗа). З 1963 па 1968 год выдаваўся як супольны орган БАЗа і Згуртавання беларусаў Канады. З 1968 года ў адпаведнасці з пастановай, прынятай на 8-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Дэтройце, газета «Беларус» пачала асвятляць жыццё ўсіх беларусаў у «вольным свеце».

Газета «Беларус» разглядалася эміграцыяй як ідэйны кіраўнік беларускай дзяржаўнай нацыянальнай думкі і стваралася ў мэтах духоўных сувязей з суайчыннікамі. Для нас жа — гэта летапіс сацыяльнага і культурнага жыцця беларусаў у эміграцыі і крыніца для даследаванняў, у прыватнасці мастацтва беларусаў за межамі этнічнай радзімы.

Першае, на што нельга не звярнуць увагі,— гэта дасканалая сістэма ўзаемаадносін беларускіх нацыянальных арганізацый і ўрадавых структур ЗША. Газета «Беларус» за студзень 1984 года ў артыкуле, прысвечаным 35-годдзю БАЗа (адной з першых беларускіх арганізацый у эміграцыі з культурна-асветніцкім накірункам дзеяння.— *Л. М.*), піша: «БАЗа трымае лучнасць з урадам, кангрэсам ЗША, інфармуе іх пра свае погляды ў пытаннях палітыкі».

Атрымаўшы магчымасць самастойна ладзіць уласнае культурнае жыццё, беларускія эмігранты не адмяжоўваюцца ад даволі актыўнага ўдзелу ў дзяржаўных імпрэзах (ад «Тыдня паняволеных народаў» да перадвыбар-

---

[1] Беларус. 1972. № 184.

най барацьбы кіруючых партый) і ў палітычных маніфестацыях. Праўда, як адзначыў у свой час вядомы даследчык беларускай эміграцыі ў Амерыцы доктар В. Кіпель, беларусы заўсёды мала цікавіліся работніцкім ці якім-небудзь іншым палітычным рухам. Яны не ўсе станавіліся членамі прафесійных саюзаў. Прыклад, калі эмігрант са Случчыны Валодзя Татарчык арганізаваў у 1910—1920 гадах прафсаюз краўцоў, то гэта на агульным фоне ўспрымаецца як выключэнне, а не як правіла.

Беларусы пачалі браць удзел у выбарах як палітычная група з 1968 года. Тады ў г. Чыкага быў заснаваны першы Беларуска-амерыканскі грамадскі клуб. Старшынёй быў абраны грамадскі і палітычны дзеяч Янка Чарапук-Змагар [2].

Галоўным клопатам беларусаў у эміграцыі стала ўладкаванне свайго нацыянальнага жыцця, рашэнні пытанняў асветы, стварэння ўмоў для падтрымкі ўласных традыцый, будучы лёс свядома адукаванай моладзі, захавання духоўнай лучнасці з народам за межамі радзімы. У задачу палітычнай эміграцыі за межамі ўваходзіла таксама «пашырэнне ў вольным свеце ведаў і праўды аб Беларусі і беларускім народзе ды кансеквентная дапамога яго нацыянальнаму вызваленню [3].

Кола праблем, з якім сутыкаліся на шляху ажыццяўлення ўсіх гэтых ідэй, выклікала да жыцця розныя арганізацыі са сваімі асаблівасцямі накірунку дзейнасці. Найбольш значнай і актыўнай з усіх беларускіх арганізацый да сённяшняга часу застаецца Беларуска-амерыканскае задзіночанне. Такія, як Згуртаванне беларускай моладзі Амерыкі. Задзіночанні беларускіх ветэранаў, дзейнічаюць як філіі пры БАЗа і кіруюцца яговым чартарам. Беларускае жаночае згуртаванне (актыўнае ў Кліўлендзе і Нью-Джэрсі), па сутнасці, ператварылася ў яго секцыю [4].

БАЗа была зацверджана 31 ліпеня 1949 года на першым кангрэсе, які праходзіў у Манхэтэне. У хуткім часе ў асяродках са значнай колькасцю беларускай эміграцыі, такіх, як Кліўленд, Дэтройт, Спрынгфільд, Чыкага, Саўт Рывер, Бастон, Ньюарк, Бруклін, Джэрсі Сіці,

---

[2] Беларус. 1991. № 385.
[3] Тамсама. 1963. № 80.
[4] Тамсама. 1967. № 122.

Нью-Брансвік, Стамфорд, Бікан, Пэоры, арганізаваны яго аддзелы. Акрамя філіялаў БАЗа ў штатах Нью-Джэрсі, Агаё, Канектыкут, Мічыган, Ілінойс, Каліфорнія былі створаны іншыя арганізацыі. У сярэдзіне 50-х гадоў іх лік ужо дасягаў 30. Усе яны даволі значна паўплывалі на культурнае і грамадскае жыццё беларусаў у эміграцыі. Па сутнасці, разам з царквой былі тым цэнтрам, вакол якога гуртаваліся і сталыя людзі і моладзь.

50-я гады XX ст. у параўнанні з папярэднімі часамі ў гісторыі беларускай эміграцыі ў Амерыцы ўспрымаюцца як найбольш актыўны арганізацыйны перыяд. У Манхэтэне, Брукліне, Нью-Йорку, Саўт Рыверы, Нью Брансвіку і іншых асяродках пачалі працаваць суботне-нядзельныя беларускія школы. У снежні 1951 года ў Нью-Йорку быў створаны першы інстытут навукова-даследчага профілю — Беларускі інстытут навукі і мастацтва. 14 снежня 1952 года ў Нью-Йорку заснаваны інстытутам архіў беларускай эміграцыі (архіўнага, музейнага і бібліятэчнага фонду). Пачалі выходзіць газета «Беларус», часопіс беларускай моладзі «Наперад».

З ліпеня 1952 года бяруць пачатак сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Ініцыятыва ў гэтым належыць Беларуска-амерыканскаму задзіночанню і Згуртаванню беларусаў Канады. Першая сустрэча адбылася на Ніягарскім вадаспадзе, другая — у 1956 годзе ў Таронта, усе далейшыя — праз кожныя два гады перыядычна ў Амерыцы і Канадзе. З 18-й сустрэчы ў 1988 годзе ўдзельнічаюць суродзічы з этнаграфічных краёў Беларусі, Беласточчыны, эмігранты з Англіі, Бельгіі, Германіі, Іспаніі, Аўстраліі. Такім чынам, самі сустрэчы набываюць сусветны характар.

З гэтага ж перыяду пачалося сур'ёзнае вывучэнне гісторыі эміграцыі, што дазволіла ўдакладніць некаторыя пытанні аб беларусах у Амерыцы. У выніку сёння мы можам гаварыць пра вельмі даўнія ўзаемаадносіны амерыканскага і беларускага народаў і дзвюх краін — Амерыкі і Беларусі.

Так, доктар В. Кіпель лічыць, што беларусы-ліцвіны маглі ўжо сёе-тое ведаць пра Амерыку з «Хронікі» М. Бельскага, выдадзенай у 1554 годзе. Яе пераклад на беларускую мову быў зроблены па загаду караля Жыгімонда II. У сваю чаргу ў дакуменце адной з кампаній у Вірджыніі ёсць такі запіс: «... патрэбныя спецыялісты з усходніх краёў, апрача тых палякаў, што застаюцца ў

Вірджыніі»[5]. Гэта былі майстры па вырабу смалы, па апрацоўцы лёну, канопляў ды іншай сельскагаспадарчай сыравіны. Сярод спецыялістаў «з усходніх краёў», нацыянальнасць якіх называлася ў тэксце як «апрача палякаў», В. Кіпель мяркуе, што імі маглі быць беларусы. Прытым не толькі рамеснікі, але і купцы, бо гандлёвыя сувязі беларускіх княстваў паміж краінамі ў феадальную эпоху адыгрывалі значную ролю.

Вядома таксама, што ў Новым Амстэрдаме (сучасны Нью-Йорк) у той час функцыяніравала 18 моваў. У 1659 годзе выкладалася «руская мова». Выкладчыкам быў Курчэўскі (Куртыюс) з Вялікага княства Літоўскага.

Свой уклад у збліжэнне народаў Амерыкі і Еўропы ў XVIII ст. унесла Полацкая езуіцкая акадэмія. Полацк у той час стаў адзіным цэнтрам езуітаў свету і базай развіцця езуіцкага ордэна. У сілу гістарычных абставін сувязі з Полацкам для езуітаў Амерыкі, менавіта Мерыленда, аказаліся неабходнай падтрымкай існавання. У жніўні 1805 года езуіцкая місія Мерыленда была зацверджана як філіял акадэміі. Некаторыя беларускія езуіты станавіліся кіраўнікамі Мерылендскай філіі.

Гісторыя данесла да нас з тых часоў імя ксяндза-беларуса Францішка Дзераксынскага (Дзеражынскага). Пасля забароны ў сакавіку 1820 года дзейнасці езуіцкага ордэна на тэрыторыі Расіі ён праз Львоў, потым Італію пераязджае ў Філадэльфію, затым Вашынгтон. У жніўні 1823 года становіцца главой ордэна езуітаў ЗША. Вядома, што беларусы, якія эмігрыравалі ў ЗША пасля 1830 года, карысталіся яго падтрымкай.

Сучаснікам Ф. Дзеражынскага быў другі беларус — пісьменнік Ян Баршчэўскі, ксёндз Коршак.

Можа, з тых самых часоў у штаце Балтыморы захаваліся мясціны са славянскімі назвамі, а ў манастыры горада Фрыдрыхсбурга ёсць ікона з надпісам «Zurowice, Alba Ruthenia»[6]. Згадваецца імя яшчэ аднаго беларуса — Тадэвуша Касцюшкі, які жыў у Амерыцы ў розных штатах у 1776 годзе[7].

Ёсць архіўныя звесткі аб эміграцыі з Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай губерняў у ЗША ў 1899—1915 га-

---

[5] Беларус. 1975. № 219.
[6] Тамсама. № 215, 216.
[7] Тамсама. 1964. № 91.

дах. У 1899 годзе называецца лічба — 6858 чалавек. У 1907 годзе гэты паказчык узрастае амаль што ў чатыры разы (25 884). Такі ж высокі эміграцыйны працэс адбываецца ў 1910 і 1913 гадах. Адпаведна — 22 714 і 24 657 чалавек. За ўвесь гэты перыяд выехала 255 272 чалавекі [8].

Звычайна выязджалі адзіночкі, а не сем'і. Гэта садзейнічала хуткай асіміляцыі і адказу ад сваёй нацыянальнай традыцыі. Праваслаўныя беларусы ўсведамлялі сябе як расейцы, католікі — як палякі. У прыватнасці, так іх рэгістравалі афіцыйныя ўрадавыя органы ЗША.

Цяжкае эканамічнае становішча на Беларусі ў 20-я гады XX ст. нарадзіла новую хвалю перасяленцаў. З Заходняй Беларусі эмігрыравалі ў ЗША, Канаду, краіны Лацінскай Амерыкі. Гэта была «эканамічная эміграцыя». На першым плане ў людзей стаялі пытанні жыццёвай забяспечанасці, якія яны звязвалі з матэрыяльным дабрабытам. Патрэбу ў сувязях з суайчыннікамі ў той час задавальнялі арганізацыі культурна-асветніцкага характару, такія, як беларускае культурна-асветніцкае таварыства «Грамада» (узнікла ў 1934 годзе), таварыства «Культура», таварыства пры беларускай бібліятэцы імя Івана Луцкевіча (1937 год) і інш. У 1939 годзе асобныя таварыствы згуртаваліся ў Беларускую федэрацыю на чале з Янкам Пятручакам і Бараноўскім. Да яе далучыліся згуртаванні імя Якуба Коласа (пазней «Белавежа»), «Мінск», «Беласток», «Рассвет» [9].

Эмігранты падзялілі сябе па рэлігійнай прыналежнасці і арганізоўваліся паводле «земляў і губерняў» — Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Смаленскай, Гарадзенскай, Палесся, Беласточчыны, Бярэсця, Кобрыншчыны, Дзвіншчыны і г. д., тым самым вызначаючы месца свайго паходжання. Сярод католікаў перад вайной утварыліся дзве «зямляцкія» арганізацыі ў Чыкага — «Вільня» і «Гародня».

Гэта быў пачатак нацыянальнага самавызначэння. Яго фарміраванне адносіцца да 20-х гадоў XX ст. У канцы 1920 года ў Чыкага з'явілася першая, як лічаць даследчыкі гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША, беларуская арганізацыя — Беларускі нацыянальны камітэт на чале з А. Чарапуком, П. Чопкай і В. Трафімовічам. У дру-

[8] Беларус. 1975. № 218.
[9] Тамсама. 1991. № 385.

гой палове 1923 года на Першым беларускім кангрэсе ў Чыкага, дзе прысутнічалі прадстаўнікі навакольных мясцовасцей, было прынята рашэнне аб стварэнні Беларуска-амерыканскага нацыянальнага саюза. З яго дзейнасцю звязана масавае святкаванне ў 1924 годзе даты абвяшчэння незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 года.

Наступная хваля значнай па колькасці эміграцыі прыпадае на 1948 год — пасля другой сусветнай вайны.

Такім чынам, ад XVII да XX ст. вызначаюцца некалькі перыядаў найбольш актыўных міграцыйных працэсаў з земляў этнаграфічнай Беларусі на амерыканскі кантынент. Яны адбываліся ў наступнай паслядоўнасці: перыяд індывідуальных паасобных эмігрантаў ад XVII ст. да 1830 года; палітычная эміграцыя ад 1831 па 1880 год; масавая сялянская эміграцыя 1880—1914 гадоў; эканамічная эміграцыя ад 1920 па 1939 год; палітычная эміграцыя пасля другой сусветнай вайны.

Па дадзеных амерыканскага Бюро эміграцыі, у 1820—1880 гадах з тэрыторыі Расійскай імперыі ў Амерыку прыбыло 43 тысячы асоб. З іх з Віцебскай, Віленскай, Гродзенскай губерняў — каля 10 тысяч. У 1862—1880 гадах з Расіі выехала ў Амерыку каля 25 тысяч «палякаў». Вялікі працэнт эмігрантаў па запісах касцёлаў быў з Ашмяншчыны, Лідчыны, Глыбоччыны, Лепельшчыны, Міншчыны [10].

Пасля 1880 года з Гомельшчыны, Магілёўшчыны, Віцебшчыны выязджалі стараверы ў пошуках лепшага жыцця, а таксама сяляне. У гэтай хвалі эміграцыі былі сяляне з Міншчыны, Гродзеншчыны, Віленшчыны. Ад 1880 да 1914 года з беларускіх губерняў — Мінскай, Віленскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай — выехала, згодна з данымі эміграцыйных службаў Амерыкі, 920 тысяч чалавек [11].

У 1920—1930 гадах да беларускай эміграцыі далучыліся прадстаўнікі ўраду БНР, удзельнікі грамадскага руху з Заходняй Беларусі — усяго каля 25 тысяч чалавек. Пасля другой сусветнай вайны ў 1948—1955 гадах лік беларусаў-эмігрантаў у Амерыцы павялічыўся на 32 тысячы чалавек.

Наглядаецца цікавая заканамернасць: эмігранты розных часоў сяліліся кампактна, стваралі свае пасялі-

---

[10] Беларус. 1972. № 185.
[11] Тамсама.

шчы. Гэта сведчыць аб тым, што ў іх захоўвалася патрэба больш блізкіх сувязей з суайчыннікамі, прычым з розных мясцовасцей.

Так, «старая» эміграцыя стварыла свае паселішчы ў Бікане. З XVIII ст. беларусы вядомы ў штаце Балтымор, як і ў Нью-Йорку, Бастоне, Філадэльфіі, Нью-Джэрсі і Пенсільваніі. З тых часоў у штатах Небраска, Паўночная і Паўднёвая Дакота, Аёва пасяліліся беларусы-стараверы. Эмігранты апошняга дзесяцігоддзя XIX і пачатку XX ст. аселі ў штаце Ілінойс і яшчэ ў 17 штатах, прычым са 110 тыс. чалавек 95 тыс. прыпадае на Чыкага. Эміграцыя пасля другой сусветнай вайны выбрала гарады штата Нью-Джэрсі—Саўт Рывер, Пасэйк, Нью-Брансвік, Рокфарл, паўночна-ўсходні куток Амерыкі (г. Рыдманд, Агоста, Люістаўн, Партлэнд), а таксама Чыкага.

На пачатку верасня 1941 года была зроблена спроба абнавіць дзейнасць беларускіх палітычных арганізацый і заснаваць у штаце Ілінойс «Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны». Такая арганізацыя атрымала права на жыццё ў гэтым жа горадзе пад назвай «Беларуска-амерыканская нацыянальная рада» [12]. У час вайны яна аказвала значную дапамогу Бацькаўшчыне праз амерыканскія арганізацыі. У статуце было адзначана, што яна стаіць на прынцыпах аднаўлення Беларускай Народнай Рэспублікі.

Можна гаварыць аб асаблівасцях яшчэ адной арганізацыі — «Згуртаванні беларускіх ветэранаў на чужыне». Яна была заснавана ў кастрычніку 1945 года ў Розенбургу — у амерыканскай зоне Германіі. Пасля эміграцыі яе сяброў у ЗША была зарэгістравана пры арганізацыі амерыканскіх ветэранаў замежных войнаў як «Задзіночанне беларуска-амерыканскіх ветэранаў у Амерыцы» [13].

У беларускім жыцці на чужыне кожная з арганізацый адыгрывае сваю ролю. Для фарміравання нацыянальнай свядомасці ў моладзі мелі значэнне такія гуртаванні, як «Беларускае студэнцкае таварыства ў Амерыцы» (1951 год), «Згуртаванне беларускай моладзі Амерыкі», «Беларуская скаўцкая група ў Нью-Йорку».

Дарэчы, маладзёжны рух (скаўтынг) мае сваю гісто-

---

[12] Беларус. 1991. № 381.
[13] Тамсама. 1987. № 342.

рыю і бярэ пачатак з 1945 года, калі на сходцы гімназістаў пры беларускім лагеры перасяленцаў у Розенбургу 15 кастрычніка быў заснаваны Першы звяз беларускіх скаўтаў імя Кастуся Каліноўскага. У пачатку 1946 года ён разросся ў скаўцкі Сцяг. Амаль што адначасова паўсталі скаўцкія арганізацыі ў англійскай і французскай зонах Германіі. 6—8 ліпеня 1946 года на 1-м злёце дэлегатаў у Ватэнштэце адбылося аб'яднанне скаўцкіх адзінак пад назвай «Згуртаванне крывіцкіх скаўтаў на чужыне». У канцы 1947 года беларускі скаўт быў зарэгістраваны ў Міжнародным бюро і атрымаў правы на лягальнае існаванне. Ідэя духоўнага вызвалення і нацыянальнага ўзвышэння спрыяла аб'яднанню маладзёжных арганізацый усіх народаў у Германіі ў Міжнацыянальную скаўцкую асацыяцыю [14].

Гэты рух заклаў традыцыю актыўнага ўдзелу ў грамадскім і палітычным жыцці моладзі і выклікаў да жыцця студэнцкія і іншыя арганізацыі ў тых краінах, куды эмігрыравалі беларусы пасля вайны, у тым ліку і ў Амерыцы. Так, у 1950 годзе ўзнікла беларускае студэнцкае таварыства ў ЗША. Асноўная ўвага надаецца адраджэнню нацыянальнай культуры, захаванню традыцый, мастацкай спадчыны. Гэта і вызначае праграму дзейнасці студэнтаў акадэмічных асяродкаў і беларускую моладзь амерыканскіх школ, што супадае з мэтамі Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗа), Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ) і яго філіялаў, Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ).

Дзейнасць названых арганізацый аб'ядноўваецца разуменнем неабходнасці захавання ў беларусаў нацыянальнага самавызначэння, этнічнага адзінства, хаця шляхі дасягнення гэтага ў кожнай з іх розныя.

БАПЦ задавальняе ў першую чаргу рэлігійныя патрэбы эмігрантаў праваслаўнага веравызнання. Царква заўсёды аказвае ўплыў і на будзённае, і на святочнае жыццё беларускіх калоній у Амерыцы, напрыклад у Дэтройце, Кліўлендзе. Без удзелу царквы не праходзіць не толькі традыцыйнае народнае свята, але і з'езды, канферэнцыі, паседжанні навукова-культурных таварыстваў, вернісажы выставак і адкрыццё фестываляў.

Трэба адзначыць, што такія мерапрыемствы ў амеры-

---

[14] Беларус. 1970. № 163.

канскіх беларусаў склалі даволі ўстойлівыя традыцыі. Яны як бы падзялілі існаванне беларусаў у Амерыцы на ўнутранае жыццё калоній і агульнанацыянальнае. Так, міжнародныя фестывалі нацыянальнай культуры, фестывалі народнага мастацтва, штогадовыя выстаўкі народнага мастацтва ў Чыкага, Велікодныя выстаўкі, Дзень новых грамадзянаў, Дзень удзячнасці, Парад лаяльнасці, Тыдзень паняволеных народаў, Славянскі фестываль (Пенсільванія), фестываль славянскай культуры (Нью-Йорк), Калядны фестываль далучаюць беларусаў да агульнанацыянальных працэсаў у культуры, мастацтве, палітычным руху ЗША. Святы «Купалле», «Дзяды», «Юр'я», «Каляды», «Дзень маці», «Гуканне вясны», «Дажынкі», тыдні культурна-рэлігійных студый, Дзень незалежнасці БНР блізкія духоўным патрэбам беларусаў, аб'ядноўваюць іх памяццю аб адзінай гісторыі і культурнай спадчыне. І менавіта гэтыя святы БАПЦ падтрымлівае і прымае ўдзел у іх арганізацыі.

Сярод свят, якія тут называліся, ёсць старажытныя і тыя, якія нарадзіліся параўнальна нядаўна. Так, з 1959 года, пасля таго як Кангрэсам ЗША быў прыняты Публічны закон, у трэці тыдзень ліпеня штогод адзначаецца Тыдзень паняволеных народаў. У ім бяруць удзел і беларусы.

З 1951 года газета «Беларус» падае звесткі аб штогадовай маніфестацыі лаяльнасці да Амерыкі (Дзень лаяльнасці). З 1959 года праводзяцца тыдні рэлігійных студый у Чыкага (праз кожныя два гады). З 1978 года наладжваюцца славянскія фестывалі.

70-я гады XX ст. пазначаны асабліва пільнай увагай да нацыянальных традыцый, нацыянальнай культуры, народнага мастацтва. І менавіта выяўленчаму, дэкаратыўна-прыкладному, традыцыйнаму народнаму мастацтву адводзілася роля прадвесніка нацыянальнага адраджэння.

Трэба адзначыць, што ў жыцці амерыканскіх беларусаў мастацтва заўсёды займала значнае месца. Выстаўкі выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва праходзілі ў рамках амаль што ўсіх мерапрыемстваў, якія праводзіліся беларускімі грамадска-культурнымі і навуковымі арганізацыямі. Яны былі на штогадовых імпрэзах, прысвечаных Дню 25 сакавіка, на міжнародных фестывалях, у навукова-культурных студыях. Творцы ўдзельнічалі ў тэматычных выстаўках тыпу «Забы-

тыя культуры СССР», сусветных выстаўках у Нью-Йорку, Чыкага, пад час Тыдня славянскіх культур і г. д.

Матэрыялы газеты «Беларус» даюць падставу сцвярджаць, што дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, прадстаўленае традыцыйнымі рэчамі тыпу посцілак, дзяружак, вышывання, крашанак, асобных частак вопраткі, у жыцці беларусаў станавілася своеасаблівым сімвалам этнакультурных адметнасцяў. Таму яно не паддалося ўплыву мастацтва іншых народаў і на сённяшні дзень захавала чысціню стылю і кананічнасць у выкананні.

Падыход да фарміравання экспазіцый выставак адлюстроўвае саму сістэму каштоўнасцей. Атрымаць поўнае ўяўленне можна было б на прыкладзе многіх выставак 50—70-х гадоў. Мянялася іх тэматыка, рознай была якасць экспанатаў, узровень майстэрства ўдзельнікаў, але асноўны прынцып заставаўся нязменным.

У апошняе дзесяцігоддзе да ўдзелу ў выстаўках далучылася новае пакаленне беларусаў, якое ўжо нарадзілася ў эміграцыі. Гэта былі тыя творцы, хто аб традыцыях, напрыклад мастацтва беларускай саломкі, ведаў па працах сваіх папярэднікаў. У прыватнасці, па творах Міколы Сільвановіча. Ён і яшчэ 30 беларусаў (імёны аўтар артыкула «Дзіва з саломы» ў газеце «Беларус» за 1952 год не дае) адкрылі свету прыгажосць народнага беларускага мастацтва на выстаўцы ў Байройце (Германія) яшчэ ў 1948 годзе.

Традыцыі пашыраліся.

Так, калі ў 1956 годзе газета «Беларус» падае сведчанне аб удзеле толькі адной беларускай мастачкі Тамары Стагановіч у сумеснай з 12 амерыканцамі выстаўцы ў Нью-Йорку, то сярод удзельнікаў выстаўкі ў Саўт Рыверы ў 1989 годзе называецца 41 прозвішча. Выстаўкі ахоплівалі ўсё большыя абшары беларускай эміграцыі, прыцягваючы ўдзельнікаў не толькі з блізкіх краёў, напрыклад Канады, Аргенціны, але і краін іншых кантынентаў — Францыі, Аўстраліі, Фінляндыі, Англіі, Польшчы. Так мастацтва становіцца сродкам лучнасці і прадвеснікам жыватворнай тэндэнцыі агульнага паразумення. Сумесныя выстаўкі выяўленчага мастацтва беларускіх мастакоў замежжа прайшлі ў 1973—1974 гадах (I), 28 лістапада—31 снежня 1977 года (II).

Пры існаванні ў асяроддзі іншых этнічных культур можна было чакаць прыняцця пануючых у краіне, дзе жывеш, стыляў, метадаў. Але, зыходзячы з інфармацыі

«Беларуса», можна назваць толькі аднаго беларускага мастака Міколу Касака, які ўспрыняў не традыцыйныя для беларусаў плыні беспрадметнага мастацтва. У 1958 годзе ён прыняў удзел у 22-гадовай выстаўцы згуртавання Абстрактных мастакоў Амерыкі ў Нью-Йорку.

Большая ж частка беларускіх мастакоў кіруецца іншым разуменнем. На чым яно грунтуецца, можна рабіць высновы па выказваннях мастакоў і крытыкаў Раісы Жук-Грышкевіч, Рыгора Максімовіча, Галіны Русак у артыкулах 1970—1980 гадоў. Адно супастаўленне вельмі яскравае. Мабыць, яно і нам дазволіць вырашыць доўгія спрэчкі наконт таго, якім мае быць нацыянальнае мастацтва. Вядомы аўтарытэт у заходнім мастацтве Паўль Клее параўноўвае мастака са ствалом дрэва, а яго творы — з кронай гэтага дрэва. Крона красуецца пакуль дрэва пояць сокі — творчыя імпульсы каранёў.

Для беларускай эміграцыі гэтае параўнанне супадае з унутраным станам душы і разуменнем ролі маетацтва ў яе жыцці. Яна страціла грунт, але зберагла сокі. Імі станавіліся традыцыі, народнае мастацтва. Традыцыйныя рэчы захоўваліся доўгія гады, потым пры стварэнні музея пры Беларускім інстытуце навукі і мастацтва перадаваліся ў зборы. Фонды папаўняліся рэчамі, якія захавалі эмігранты з даўніх часоў ці прывозілі са сваіх паездак на радзіму ў апошнія гады. Метад рэканструкцыі, які дазваляў паўтарыць прадмет у аўтэнтычным варыянце, выкарыстоўваўся ў мастацтве вышыўкі, крашанак, саломкі, карункапляцення, народнага касцюма. Ствараючы новую рэч, з дасканалай падрабязнасцю паўтаралі арыгінал.

Сімвалічна, што ў якасці зрокавага сродку, які вызначыў беларусаў сярод іншых груп народаў Амерыкі, стала мастацтва касцюма. Паступова яно арганічна ўваходзіць у экспазіцыі выставак славянскіх народаў, самастойных выставак, у якіх прымалі ўдзел толькі беларусы пад час фестываляў, розных свят.

Традыцыя пачыналася з жывога паказу ўбораў беларускай народнай вопраткі ад 1-й выстаўкі беларусаў ў Саўт Рыверы ў 1974 годзе.

Аўтары абапіраліся на прынцыпы рэканструкцыі народнага касцюма ў аўтэнтычным варыянце. Гэтая работа пачалася ў другой палове 70-х гадоў. Мы маем звесткі, як стваралася калекцыя беларускага рэгіянальнага

касцюма, як яна павялічвалася колькасна, як пашыраўся асартымент.

У 1976 годзе на Першым беларускім фестывалі былі прадстаўлены 11 касцюмаў з 7 частак Беларусі: Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Гомельшчыны, Гродзеншчыны, Брэстчыны, Міншчыны і Палесся. Над іх выкананнем працавала група аўтараў — Н. Кудасава, Л. Літаровіч, С. Каранёўская, Л. Махнюк. На Другім беларускім фестывалі ў 1977 годзе да іх былі далучаны строі Віленшчыны, Смаленшчыны, Наваградчыны, Случчыны. Пашыраліся віды: калі раней паказваўся ў асноўным жаночы касцюм, то цяпер — узоры мужчынскага і дзіцячага адзення. Другая калекцыя ўжо была з 22 экспанатаў.

Часцей за ўсё ў беларускія экспазіцыі выставак уключалася ткацтва. Тканыя посцілкі, рушнікі, паясы, дзяружкі, сурвэткі дапамагалі ўзнавіць атмасферу асяроддзя, у якім праходзіла ўсё жыццё беларуса — ад нараджэння да апошніх слоў развітання.

Як і ў народным жыцці, калі пэўным святам адпавядалі асобныя рэчы (сёння мы іх успрымаем як рытуальныя), так і на выстаўках беларусаў розным відам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва надавалася свая роля і адводзілася асобнае месца. Напрыклад, на Велікодных выстаўках цэнтрам экспазіцыі станавіліся пісанкі (крашанкі). Адна з аўтараў гэтых работ Людвіка Беленіс (Л. Будчанка) пачала працаваць яшчэ да другой сусветнай вайны. Майстрыца ўвайшла ў гісторыю беларускага мастацтва з класічнымі варыянтамі тэхнік роспісу яек. Яна валодае гравіраваннем, вышкрэбваннем белага ўзору па каляроваму фону, пафарбаванаму рознымі метадамі.

Асабліва святочнымі, вясёлкавымі, іскрыстымі выходзяць узоры, зробленыя васкаваннем. На Велікоднай выстаўцы ў Музеі літоўскай культуры ў сакавіку 1990 года сярод удзельнікаў — прадстаўнікоў 20 этнічных груп гарманічнымі спалучэннямі простых геаметрычных фігур (ромбаў, шлячкоў) рэлігійнай сімволікі прыцягвалі ўвагу пісанкі другога аўтара — Кацярыны Паўкэ [15].

Больш блізкае знаёмства з жыццём беларусаў у эміграцыі ў Амерыцы дае падставы гаварыць пра розныя формы існавання прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Самастойныя выстаўкі, выстаўкі на фестыва-

---

[15] Беларус. 1990. № 371.

лях, святах, сходах — гэта адзін узровень творцаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Тут пануе акадэмічная дасканаласць у перадачы традыцыйных матываў, арнаментаў, застаецца амаль нязменным унутраны лад усіх рэчаў. Захоўваюцца традыцыйныя матэрыялы, накшталт саломкі, дрэва. Амаль што адсутнічае вонкавае запазычанне малюнка са структуры арнамента другога народа ці новага, што нарадзілася пад уздзеяннем часу, прафесійнага або прамысловага мастацтва.

Паралельна дэкаратыўна-прыкладное мастацтва захоўвае сваё месца ў паўсядзённым жыцці беларусаў. Тут рэч набывае іншае значэнне. Яна іграе ролю сімвала, знака нацыянальнай належнасці, памяці. Выкананне такога прадмета дапускае больш шырокія варыянты інтэрпрэтацыі народнага мастацтва. Побач са створанымі па канонах і метадах прамога паўтору дэкаратыўных і структурных прыкмет існуюць прадметы, якія спалучаюць традыцыйныя матывы і новыя матэрыялы.

Навацыя ўжо ў тым, што прадмет набывае нетрадыцыйную для народнага мастацтва функцыю. Страчваецца галоўнае, звязанае з паўсядзённай карыснасцю рэчы. Прэваліруе дэкаратыўны бок. Паралельна выпрацоўваюцца свае прыёмы выкарыстання першакрыніцы.

Адзначаныя метады творчай работы як бы ствараюць агульную карціну, фон, на якім прадметы на выстаўках і ў побыце не супрацьстаўляюцца. Яны, па словах навукоўца Ст. Станкевіча, «годна перахоўваюць і культывуюць праўдзівае, не зрусіфікаванае і не здэфармаванае беларускае мастацтва» [16]. Такую ацэнку чалавека з асяроддзя эміграцыі трэба лічыць адпавядаючай рэальнаму стану.

Дасканаласць захоўваецца і пры фарміраванні экспазіцыі выставак, і ў афармленні, напрыклад, царквы. Так, для ўпрыгожвання царквы ў Клíўлендзе, пабудаванай у пачатку 60-х гадоў XX ст., Жаночае згуртаванне выкарыстала рушнікі, налойчыкі, іконы і іканастасы ў старым «візантыйскім стылі» [17].

Блізкасць прыродзе традыцыйнага культавага мастацтва захоўваюць творы Эльзы Вярбіцкай, якія дэманстраваліся на кафедры царквы святога Кірылы Тураўскага ў Брукліне з нагоды парафіяльнага свята. З пры-

---

[16] Беларус. 1978. № 250.
[17] Тамсама. 1962. № 78—79.

чыны адсутнасці ілюстрацый цяжка гаварыць аб асablівасцях дываноў, якія распрацаваны гэтым аўтарам. Па яе ўласных словах можна меркаваць, што ў пачатку 1970 года ў мастацтве беларусаў замежжа адбываюцца змены: творчасць становіцца больш успрымальнай да новых плыняў у мастацтве, арыентацыя робіцца на тое асяроддзе, архітэктурную прастору, у якім віруе і сучаснае жыццё. Э. Вярбіцкая сцвярджае: «Мае творы надаюцца асабліва для мадэрных памяшканняў... Яны ствараюць уражанне цеплыні і вібрацыі на «суровай» сцяне. Маё мастацтва двухмернае, трэцяе вымярэнне — у ягоным духоўным змесце. Контуры маіх абразоў смелыя і простыя, амаль прымітыўныя (з прычыны спецыфічнай асаблівасці воўны). Галоўнае ляжыць у ўзаемадзеянні фарбаў і формаў» [18].

Працэсы, якія адбываюцца ў жыцці беларусаў-эмігрантаў Амерыкі, больш адчувальныя знутры. Таму зноў дадзім слова, на гэты раз Янку Запрудніку: «Нацыянальныя традыцыі — наймацнейшыя ўстоі беларускага грамадскага жыцця на эміграцыі, той цэмент, які лучыць на глебе супольнай мовы і супольнага паходжання ў моцную маналітную грамаду. Але традыцыі руйнуюцца: руйнуе адлегласць, час, раскіданасць. Руйнуе наша нядбаласць» [19].

Мы ведаем — у жыцця свае законы. Яны вызначаюць дынаміку руху і адзіны напрамак — у будучыню. Мы заўсёды верылі, што будучыня ёсць у народа, які шчыруе на ніве сваёй нацыянальнай культуры і свайго мастацтва. Але тое, што для народа, які жыве ў натуральных умовах этнаграфічнай радзімы, можа ўспрымацца толькі на ўзроўні разумення, для народа на чужыне становіцца сродкам захавання сябе як этнасу і зброяй самасцвярджэння.

Для таго каб зрабіць рэзюме, дастаткова супаставіць шляхі беларусаў у мастацтве на радзіме і ў эміграцыі. Красамоўнымі ўспрымаюцца творчыя напрамкі амерыканскіх беларусаў у выяўленчым мастацтве, асабліва ў параўнанні з тымі накірункамі, якія настойліва прапагандуюцца ў нас сёння. Калі гаварыць аб гэтых з'явах коратка і больш дакладна, то маецца на ўвазе, з аднаго боку, прыхільнасць да рэалістычных плыняў у выяўлен-

---

[18] Беларус. 1970. № 157.
[19] Тамсама. 1957. № 61.

чым мастацтве, а з другога — набіраючая моц да распаўсюджвання тэндэнцыі падтрымкі плыняў беспрадметнага мастацтва ў розных яго варыянтах.

Газета «Беларус» называе нам імёны беларускіх мастакоў у эміграцыі: іх не так многа, так што ёсць сэнс пералічыць тых, хто з пачатку 1970-х на працягу ўжо доўгіх гадоў прымае ўдзел у выстаўках беларускага мастацтва на чужыне.

У ЗША гэта Канстанцін Бандарук, Іда Батэрворт, Усевалад Анцута, Ксаверы Барысавец, Моніка Даніловіч, Ліда Каліноўская, Язэп Казлякоўскі, Барыс Данілюк, Надзея Кудасава, Ніна Каранцэвіч, Алег Махнюк, Людміла Махнюк, Пётра Міранавіч, Элеанора Норык, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Галіна Русак, Тамара Стагановіч-Кольба, Раіса Сямёнава, Ксенія Тумаш, Янка Юхнавец.

Як ужо адзначалася, выстаўкі беларусаў праводзяцца перыядычна праз год-два самастойна і ў рамках іншых мерапрыемстваў. Напрыклад, Славянскага фестывалю, Міжнароднага фестывалю этнічных груп Амерыкі, беларускіх фестываляў і г. д. Вылучаюцца і гарады, якія па актыўнасці ўдзелу беларусаў у культурных мерапрыемствах успрымаюцца цэнтрамі мастацкага жыцця ў эміграцыі. Такімі асяродкамі сталі Саўт Рывер, Кліўленд, Чыкага, а для агульнанацыянальнага жыцця — Нью-Йорк. Такое ж значэнне набыў і Лос Анджэлес.

Ад 1974 года ў Саўт Рыверы бяруць пачатак выстаўкі беларускіх мастакоў штата Нью-Джэрсі і яго аколіц, якія штогод ладзіць мясцовае Беларускае культурна-мастацкае таварыства. З 1973—1974 гадоў праводзяцца выстаўкі беларускіх мастакоў Еўропы, Амерыкі, Аўстраліі. З 1959 года беларусы бяруць рэгулярны ўдзел у Міжнароднай выстаўцы ў Чыкага. Гэтая імпрэза мае традыцыйную дату правядзення — кастрычнік.

На сённяшні дзень склалася пэўная рэжысура арганізацыі і правядзення выставак. Экспазіцыя ўключае раздзелы выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога і народнага мастацтва. З традыцыямі беларусаў знаёмяць не толькі самі мастацкія творы, але і праз жывы ўдзел майстроў ткацтва, прадзення, саломапляцення. Можна вызначыць і пастаянных удзельнікаў гэтых дэманстрацый: тэхніку ткання паказвае Кацярына Кайгацсу (Кігітсу), прадзення — Тэрэза Тарасевіч, саломапляцення — Мікола Шуст.

Экспазіцыя народнага традыцыйнага мастацтва максімальна набліжаецца да натуральных умоў сацыяльнага побыту. Характэрным прыкладам можа стаць апісанне беларускай экспазіцыі 13-й міжнароднай выстаўкі, якая праходзіла ў Чыкага ў 1973 годзе.

Была рэканструявана сцэна каляднага вечара. Паказана частка хаты, у покуце якой вісеў абраз Астрабрамскай Божай Маці, упрыгожаны рушніком. Пад іконай стаяла ялінка з саламянымі і папяровымі геаметрычнымі фігурамі. Сцены хаты завешаны вышыванкамі, тканінамі, зімовымі краявідамі мастака Віктара Жаўняровіча. Стол са святочнымі стравамі ўводзіў у сферу мастацтва народную кулінарыю [20].

Ініцыятарамі і зачынальнікамі гэтых выставак былі Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі ў штаце Ілінойс і Згуртаванне беларусаў гэтага ж штата. У 1973 годзе справу пераняў Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага, у склад якога ўвайшлі вышэйназваныя арганізацыі і Беларуская нацыянальная рада г. Чыкага [21].

Беларускае культурна-мастацкае таварыства ў Саўт Рыверы (штат Нью-Джэрсі) засяродзілася на арганізацыі выставак беларускага мастацтва свайго штата. Гэтыя выстаўкі садзейнічаюць падтрымцы майстроў-беларусаў і прапагандзе іх творчасці.

Дзякуючы такім выстаўкам у ЗША маглі пазнаёміцца з многімі беларускімі жывапісцамі. Абапіраючыся на друкаваныя матэрыялы аб іх, можам мець пэўнае ўяўленне пра творчыя вынікі ў выяўленчым мастацтве беларусаў Амерыкі.

Нават просты пералік твораў беларускіх мастакоў, які дае газета «Беларус» у інфармацыях аб выстаўках, запэўнівае, што галоўным стылявым напрамкам у мастацтве беларусаў застаецца рэалізм. Прыярытэтнымі жанрамі — краявід, партрэт, нацюрморт. Тэхніка — акварэль, алей, пастэль, акрыл. Вельмі нямногія з беларусаў успрынялі ўздзеянне мадэрнісцкага мастацтва. У якіх формах яно рэалізуецца, даюць уяўленне творы Язэпа Казлякоўскага і Анатоля Чайкоўскага.

Аб'ядноўвае мастакоў тое, што яны не абмяжоўваюцца ў сродках творчых пошукаў. Адных вабіць чысты натуралізм, іншых — рэальныя сімвалы. Дэкаратыўнасць

---

[20] Беларус. 1973. № 189.
[21] Тамсама. 1985. № 325.

існуе ў шырокім дыяпазоне сродкаў выразнасці. Колер, рытм падпарадкоўваюцца асэнсаванаму замыслу твора.

Кожны творца па-свойму індывідуальны ва ўспрыманні агульнага эмацыянальнага стану мастацтва беларускай эміграцыі. Але быў адзін твор П. Мірановіча, які, мяркуючы па ацэнках на старонках «Беларуса», прымалі як люстра долі эмігранта. Карціна так і называлася «Эмігранты».

Творчасць Пётры Мірановіча навукоўцы, якія вывучаюць беларускае мастацтва ў эміграцыі, а таксама аўтары крытычных аглядаў выставак вылучаюць як асабліва блізкае псіхалогіі беларуса-эмігранта, які харастводзі самых экзатычных земляў успрымае праз сціплую прыгажосць Беларусі.

П. Мірановіч нарадзіўся 21 верасня 1902 г. на Дзвіншчыне. Пражыў 88 год. У свой час атрымаў спецыяльную адукацыю у Рыжскай акадэміі мастацтваў. У 1944 годзе эмігрыраваў у Вену. Тут наведваў Венскую акадэмію мастацтваў. У 1947 годзе пераехаў ў Германію, а праз тры гады — у Амерыку. Пасяліўся ў Брукліне.

Мірановіч усё жыццё заставаўся прыхільнікам рэалізму. Крытыкі лічылі, што ён сфарміраваўся пад вялікім уплывам імпрэсіянізму. Гэтую акалічнасць мы б падкрэслілі, бо яна мае значэнне не толькі для характарыстыкі мастака, але і дае ўяўленне пра яго як чалавека з устойлівымі прынцыпамі і самастойным поглядам і на творчасць, і на жыццё. Такія рысы характару павінен быў мець чалавек, які студыяваў у асяроддзі творцаў, арыентаваных на заходнееўрапейскую мастацкую школу. Па гадах гэта супадала з панаваннем мадэрнісцкіх плыняў у мастацтве. На Мірановіча ж яны не аказалі істотнага ўплыву.

У сакавіку—красавіку 1964 года ў Нью-Йорку адбылася наладжаная Беларускім інстытутам навукі і мастацтва рэтраспектыўная выстаўка работ П. Мірановіча. Яна ўключала 60 твораў трох перыядаў: даваеннага на бацькаўшчыне, ваеннага і ньюйоркскага. Сярод першых былі бытавыя сцэны і краявіды роднай Дзвіншчыны — дыпломная работа «У сялянскай хаце» і творы, якія маглі б скласці адзіную серыю пад назвай «З любоўю да роднай зямлі». Менавіта такімі пачуццямі кіраваўся мастак, калі пісаў свае пейзажы «Віхуры на сенажаці», «Доўгае возера», «Капліца на могілках у Прыдруйску», «Белая царква ў Друі», «Паром на Краслаўцы», «Млын

на Краслаўцы», «Першы снег», «Зіма на Дзвіншчыне», «Першы выезд», «На хутары ўзімку», «Палудзень у жніво», «Мыццё бялізны», «Вываз гною».

У работах, створаных у 1945—1947 гадах, адчуваецца уплыў венскай школы. Да гэтага часу адносяцца невялікага памеру зімовыя краявіды, віды лагераў для перасяленцаў, архітэктурныя пейзажы, «Касцёл св. Карла ў Вене», «Палац Шонбурн», «Кляштар у Глязенбаху».

У ньюйоркскі перыяд створаны работы, якія як бы сінтэзуюць дасягненні папярэдніх гадоў. Мастак зноў звяртаецца да тэмы памяці аб роднай зямлі і стварае з невялічкіх замалёвак эмацыянальна ўзвышаныя палотны. Да іх можна аднесці кампазіцыю «Ганкі ідуць» (своеасаблівая панарама Дзвіны), «Бура ў жніўні», «Вясковая вуліца ў нядзелю». Другую групу работ, якія адносяцца да гэтага перыяду, склалі такія, як «Праспект Парку ў Брукліне», «Пляж на Коней Айленд», нацюрморты.

Экспазіцыя персанальнай выстаўкі была абмежаваная краявідамі, нацюрмортамі і давала падставы называць П. Мірановіча майстрам толькі гэтых жанраў выяўленчага мастацтва. Сапраўды, нават не вельмі якасныя здымкі ў газеце аказваюць моцнае эмацыянальнае ўздзеянне, захоўваюць экспрэсію каляровых плоскасцей і дынаміку структуры кампазіцыі. Пэндзаль мастака ўпэўнена рухаецца па форме прадметаў, смела расстаўляючы пластычныя акцэнты. Шырока, на адным дыханні, прапісваецца другі план — і краявід набывае асаблівую глыбіню. Чорна-белыя варыянты перадаюць рэзкі кантраст у светлых і цёмных месцах.

У краявідах мастака як бы пераплаўляюцца прырода і партрэт: яго краявіды цяжка ўявіць без постаці чалавека. Пры гэтым тыпаж выбраны ў гармоніі з характарам прыроды, чалавек злучаецца з веліччу неабдымных прастораў палёў, бязмежжа далёкіх берагоў Дзвіны ў амаль што першабытнай, некранутай цывілізацыяй прыгажосці. Самі людзі — дзейсныя, актыўныя.

Уласна краявід як бы пераўтвараецца ў расказ аб жыцці беларусаў. Так, у рабоце «Сяўба на хутары» нашу ўвагу прыцягвае хлопчык з канём на вадапоі, у «Навальніцы ў сенакос» паказваецца сцэна з сялянскага жыцця ў час уборкі сена, у «Першай зіме на хутары» даецца яшчэ адзін эпізод з сялянскага жыцця. Паказаны дзве вясковыя жанчыны ў час размовы: адна стаіць з вядром вады, другая — з кошыкам. Сама па сабе сцэ-

на можа служыць зачынам для філасофскага разважання аб жаночым жыцці і долі сялянскай, звычках.

Крытыкі яшчэ называюць П. Мі938 мастаком беларускага псіхалагічнага партрэта, песняром людзей працы. Яго кісці належаць партрэты беларускага палітычнага дзеяча К. Езавітава і Г. Езавітавай, паэта А. Салаўя, літаратара і навукоўца У. Глыбіннага, беларускага дзеяча ў Рызе Сяргея Сахарава з унукам. Асабліва хвалюючымі выдаліся жаночыя партрэты. Сярод іх вылучаюцца партрэты беларускай інтэлігенцыі.

Прынцыпы рэалістычнага партрэтнага мастацтва П. Міранові переносіць у сюжэтныя кампазіцыі. Так, у малюнку ля жытняе капы бачаць партрэт маці аўтара, а ў характэрных мяккасці, задуменнасці беларускага селяніна знаходзяць рысы чалавечай дабрыні бацькі мастака.

У свой час, ацэньваючы дасканалую манеру псіхалагічнай перадачы асаблівасцей беларускага тыпажу, прафесура Рыжскай акадэміі мастацтваў адзначыла прыход у мастацтва новага народа — не расійскага, не польскага, а беларускага. Быў тады 1937 год. Дзякуючы творчасці П. Міравіча пазнаёміцца з характарамі беларусаў змаглі ва ўсім свеце.

Незалежна ад таго, што пісаў — партрэт, прыроду, нацюрморт, яму была блізкай жыццесцярдная каляровая гама, якая нараджала ў людзей адчуванне ўпэўненасці і шчасця. Сваё ўспрыманне часу, стану душы чалавека, прыроды Міранові перадаваў праз жыватворныя суадносіны жоўтага колеру і складанай зялёна-блакітнай гамы. Ён любіў светлыя фарбы. Таму работы творцы, напрыклад «Сейбіт», як бы запоўнены святлом сонца, а ў «Навальніцы ў сенакос» сонца срэбрам разліваецца па хмарах.

Ведаючы лёс мастака (нарадзіўся на Дзвіншчыне, вучыўся ў Латвіі, Вене, жыў у Амерыцы), заканамерна гаварыць: чым у сваёй творчасці мастак звязаны з народамі гэтых краін? З краінай, дзе нарадзіўся, але амаль што не жыў,— ніцямі роднасці сваёй істоты. З краінай, дзе не нарадзіўся і не жыў доўга,— якасцямі прафесійнага майстэрства. З краінамі, дзе пражыў жыццё,— мабыць, такімі работамі, як нацюрморт «Кветкі».

У крытычным аглядзе адной з сумесных выставак беларусаў на чужыне Р. Жук-Грышкевіч дае такое яе апісанне: «Кветкі» П. Міранові — гэта гармонія абстрактных элементаў, чыстая, моцная кампазіцыя формаў,

плошчаў, рытмаў ліній, гульня колераў, святла і ценяў. Аснову кампазіцыі творыць гарызантальная цёмна-фія-летавая плошча стала. Яе падкрэслівае цёмна-сіняя лінія на букеце (амаль раўналежная да яе). Гарызантальную плошчу стала балансуюць старчманыя (вертыкальныя) формы двух збанкоў. Дзве кветкі букета прадоўжваюць гэтае імкненне ўвысь. Іншы комплекс ліній пачынаецца ў правым ніжнім ад нас куце і ўздымаецца ў напрамку яго верхняга левага кута.

Вузел кампазіцыі, што канцэнтруе ўвагу, гэта стол і збанок, месца, дзе перасякаюцца ўсе лініі кампазіцыі. З гэтага цэнтра нашага засяроджання выбухае ўверх ружовы букет радасці».

Мяркуем, што да гэтай работы можна было б далучыць творы, якія, на жаль, не атрымалі крытычнай ацэнкі на старонках «Беларуса». Яны адлюстроўваюць новыя якасці мастацтва гэтага майстра, даюць падставы гаварыць пра змены творчага накірунку пад уплывам новага культурнага асяроддзя.

Такія мастакі, як Галіна Русак, Тамара Стагановіч-Кольба, Ірэна Рагалевіч, складаюць іншую групу беларускіх мастакоў у эміграцыі. Спецыяльную адукацыю яны атрымалі ў навучальных установах за мяжой і ў сваіх творах развіваюць нацыянальнае мастацтва, блізкае народным традыцыям. Часцей, чым П. Міравовіч, выкарыстоўваюць выявы прадмета (кветкі васількі ці іншае) у структуры сімвалічных твораў.

Асабліва характэрна ў гэтым плане творчасць Галіны Русак. Для пацвярджэння прывядзём меркаванне крытыка з асяроддзя эміграцыі Р. Максімовіча, выказанае ў артыкуле «Васількова саната». Даючы аналіз выстаўкі мастацкага жаночага клуба ў Нью-Йорку, ён піша: «Двухмерныя, у адной плоскасці, моцна стылізаваныя. Хоць жанрава — гэта краявіды, але краявіды не рэалістычныя. Істота зямной красы выражана сродкамі сімвалічнымі. Васількам як сімвалам натуральнага харастваз ямлі аддадзена шмат пачуцця і ўвагі. Выстаўка — гімн, каляровая саната гэтым «вартаўнікам ураджаяў».

Думка скарыстаць у творчасці матывы роднага краю з'явілася (у Г. Русак.— *Л. М.*) пры вывучэнні сімвалічнай мастацкай культуры іншага асяроддзя — індыянаў Паўночнай Амерыкі» [22].

---

[22] Беларус. 1974. № 206.

У Г. Русак ёсць работы пад назвай «Багіня зямлі», «Людзі лесу», у якіх успрыманне міфалогіі гэтых народаў адлюстроўваецца праз тыпы-маскі. Беларускасць жа мастачка перадае праз васількі. Выява прадмета набывае значэнне знака, а дэкаратыўнасць паступова падпарадкоўвае структуру кампазіцыі, рытм матываў, каляровую гаму.

У цытаванай вышэй рэцэнзіі даецца заключэнне: «Ад пачатковай пары творчасці, якую характарызуе адлюстраванне, «фатаграфаванне» рэчаіснасці, мастачка прыходзіць да творчага перафармоўвання, «інтэрпрэтацыі» рэчаіснасці, скарыстоўвае яе элементы толькі як сімвалы ў кампазіцыях сваёй задумы».

І Галіна Русак, і Тамара Стагановіч-Кольба шукалі раўнавагу паміж адметнасцю нацыянальнага мастацтва і не замыканнем у межах толькі сваёй культуры.

У першых крытычных аглядах творчасці Стагановіч-Кольбы, якія паявіліся ў 1968 годзе на выстаўку ў галерэі «Аванты» у Нью-Йорку, яе адзначылі як прадстаўніцу «абноўленага імпрэсіянізму нашых дзён». Наколькі гэты тэрмін адпавядае творчасці мастачкі ў класічным разуменні самога паняцця, нам гаварыць цяжка. Але яно можа фігураваць хоць бы ў тым сэнсе, што імпрэсіяністы абвясцілі свабоду ад догмаў акадэмічнага жывапісу галоўнай умовай творчасці.

Ст. Тамара (так часцей яе называюць на старонках эмігранцкага друку) як мастачка застаецца па-за межамі якога-небудзь аднаго напрамку дзейнасці. Яна жывапісец, графік, монументаліст. Яе пэндзлю належаць іканастас Жыровіцкай Божай Маці Беларускай аўтакефальнай царквы ў Клійлендзе, літаграфіі, дрэварыты, гравюры. Мастачка свабодна валодае рознымі матэрыяламі станковых жанраў і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: засвоіла ткацтва, лепіць з гліны, піша алеем, акрылікам, тэмперай. Ёй падуладны розныя тэхнікі: сучасная і традыцыйная, якой карысталіся ў даўнія часы пры стварэнні ікон.

Стагановіч-Кольба прымае ўдзел у выстаўках з 1956 года і мае такую колькасць работ, адно пералічэнне якіх заняло б нямала месца. Як сведчаць матэрыялы газеты, у тэматыцы сваіх работ мастачка таксама не абмежавана, як і ў жанрах і тэхніках. Яе жывапіснае палатно «Вера, Надзея, Любоў» і анімалістычная графіка даюць хоць не поўнае, але ўсё ж уяўленне аб дыяпа-



½ 6. Зак. 637

зоне творчых магчымасцей аўтара. У жывапіснай рабоце выкарыстана сімволіка, і яна мае пэўны кантэкст. Графіка, акварэльныя краявіды рэалістычныя настолькі, наколькі гэта магчыма пры паэтычным успрыманні прыроды і жывёльнага свету, фантазія мастачкі адухатварае прыроду і надзяляе здольнасцямі эмацыянальных перажыванняў звяроў і птушак.

Такое ўспрыманне рэчаіснасці знаходзіць разуменне ў амерыканскай прафесійнай крытыцы. Сама мастачка за многія работы, у тым ліку малюнкі, прадстаўленыя на агульнаамерыканскай выстаўцы мініяцюрных замалёвак у г. Ля Люз (штат Нью-Мексіка, 1978 г.), мае ўзнагароды.

Па назвах саміх работ (напрыклад, «Таос: амерыканскія індыяне Пуэблё», «Чорныя твары», «Францішак Скарына», «Каронкі каралевы Ганны», «Вадапад», «Абяцаючы дзень») разумееш, што кожная з іх належыць да асобнага накірунку і ўяўляе розныя творчыя пачынанні. Якое месца займае ў іх беларуская тэма, старонкі галоўнага друкаванага органа беларускай эміграцыі адказу не даюць. Але даюць звесткі з біяграфіі гэтай самабытнай мастачкі.

Тамара Стагановіч (дзявочае прозвішча мастачкі) нарадзілася на Наваградчыне. У Амерыку прыехала ў 1950 годзе з бацькамі з лагера для перасяленцаў у Германіі. Закончыла Вэстэрн каледж у Агаё, Інстытут мастацтва Калумбійскага універсітэта ў Нью-Йорку, у тым жа горадзе студыявала ў студэнцкай мастацкай лізе. Член многіх мастацкіх клубаў.

У нечым падобная па сваіх даных другая беларуская мастачка — Ірэна Рагалевіч. Яна таксама нарадзілася на Беларусі. Адукацыю атрымала на новай радзіме. Студыявала ў Акадэміі мастацтваў у Йорку (Пенсільванія) на аддзяленні камерцыйнага мастацтва. У творчай дзейнасці таксама шматпланавая і рознабаковая. Адзін план яе дзейнасці — праца мастацкім дырэктарам агенцтва камерцыйнай рэкламы, другі — выставачныя, творчыя работы.

З крытычнага агляду адной выстаўкі, якую ладзіў Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў 1972 годзе, І. Рагалевіч паўстае перад намі як мастачка, якая балансуе паміж «прыродным экспрэсіянізмам і рэалізмам», прычым экспрэсіянізм для яе «не быў эстэтычнай плынню». Г. Русак заўважае, што экспрэсіянізм «імкнуў-

ся да крытычнага каментарыя сацыяльных і палітычных абставін»[23].

Маючы свае ўласныя эстэтычныя крытэрыі ў мастацтве і звязаныя з рэалізмам арыентацыі, І. Рагалевіч звярталася і да гэтай плыні заходнееўрапейскага паходжання. Для чаго гэта было патрэбна? Проста экспрэсіяністычны метад адпавядаў крытычным пазіцыям аўтара ў падыходзе да жыццёвай рэальнасці. У сродках жа выказвання ідэі, падыходзе да натуры (імкненне захаваць прапорцыі без скажэнняў формы) яна застаецца самастойнай і самабытнай. І больш набліжана да П. Мірановіча і іншых мастакоў — амерыканскіх беларусаў.

Так, яны застаюцца беларусамі ў сферах выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, аматарскай творчасці, літаратуры, паэзіі, у захаванні веравызнаўчых канфесій. Да таго ж амерыканскія беларусы штогод у пэўны дзень — Дзень лаяльнасці дэманструюць сваю любоў да ўрада і адзінства з народамі новай радзімы.

У аглядзе жыцця беларусаў у Амерыцы і іх выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мы ішлі па слядах эміграцыйнага друку. Ён адлюстроўвае погляд знутры. Але, як вядома, з'ява ўспрымаецца і звонку. Такім можа быць наша ўспрыманне гісторыі амерыканскіх беларусаў. Акрамя пачуцця павагі, якое нараджаецца да любога народа, што вытрымаў цяжкія жыццёвыя выпрабаванні, з'яўляюцца і асобныя меркаванні.

На прыкладзе беларускай эміграцыі ў Амерыцы мы можам бачыць — працэс духоўнага пераўтварэння больш складаны ў сваёй структуры, чым змена матэрыяльнай сферы жыцця. Для натуральнага існавання неабходна раўнавага паміж духоўным і матэрыяльным як часткамі тых умоў, без якіх немагчыма жыццядзейнасць чалавека як асобы. Усе яго намаганні кіруюцца на гармонію паміж першым і другім, і гэта раўнавага магчымая, калі культура (як прадукт свядомай творчасці чалавека) становіцца арганічным працягам асаблівасцей генетычнага кода нацыі.

Эміграцыя — з'ява не новая і не належыць толькі сённяшняму дню. Але цяпер для беларускай эміграцыі пошук шляхоў духоўнага самавызначэння пераўтвараўся ва ўмову самазахавання.

---

[23] Беларус. 1972. № 188.

Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва ў амерыканскіх беларусаў заняло адпаведнае свайму значэнню ў культуры і жыцці нацыі пачэснае месца. За ўвагай да гэтай сферы творчай дзейнасці навукоўцаў, даследчыкаў, мастакоў, майстроў, за імкненнем захаваць традыцыі відаць плён свядома скіраванай праграмы. Яе пачатак прыпадае на XX ст.

Гэта праграма натхняе шырокае кола эміграцыі і на сучасным этапе садзейнічае больш цесным узаемасувязям на культурнай ніве паміж прадстаўнікамі аднаго народа ў розных краінах свету. Гэта ў сваю чаргу спрыяе ўзаемаўзбагачэнню культур і дазваляе адказаць станоўча на пытанне: ці мае такі народ будучыню?

*Уладзімір Мамонька*

# ЧЫТАЙЦЕ «БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР»

У перыядычных выданнях так званага бліжняга замежжа адно з вядучых месц належыць «Беларускаму календару». Ён пачаў выдавацца ў 1957 годзе ў Беластоку як орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, якое было заснавана ў лютым 1956 года. Каляндар стаў другім значным друкаваным беларускім органам у Польскай Народнай Рэспубліцы — пасля тыднёвіка «Ніва», першы нумар якога выйшаў 4 сакавіка 1956 года.

З'яўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) было выклікана многімі прычынамі. Пасляваенны падзел тэрыторый, так званае сталінскае выроўніванне межаў адрэзала ад Бацькаўшчыны больш за 500 тысяч беларусаў з тэрыторыяй 10 052,7 км², якая ў асноўным належыць Беластоцкаму ваяводству.

Спробы штучна стварыць «этнічна чыстыя» тэрыторыі нічога не далі. Як вядома, адразу ж пасля перадачы беларускіх зямель Польшчы, ці польскіх Беларусі, урадамі абодвух бакоў былі зроблены валявыя намаганні па высяленні беларускага (і наадварот, вяртанні польскага) насельніцтва з «дарованных» тэрыторый [1]. Дзесяткі тысяч людзей беларускага паходжання былі выселены з родных мясцін, літаральна кінуты на волю лёсу ў былой БССР. (Як расказваў былы жыхар Беласточчыны, вядомы беларускі тэатразнавец Арсен Лабовіч, сям'я якога прайшла праз гэтыя церні, польскія ўлады не выт-

[1] У ліпені 1945 года падпісаны польска-савецкі дагавор аб рэпатрыяцыі польскага насельніцтва з СССР і рускага, беларускага, украінскага, літоўскага з ПНР.

6. Зак. 637

рымалі нават абяцання аб перавозе на новае месцажыхарства самай неабходнай хатняй маёмасці.)

Аднак гэта было кропляй у моры людскога жыцця. Акцыя сталася не больш, чым чарговай камуністычнай прапагандысцкай хваляй, каб «замаскіраваць» антынацыянальны ўчынак. А гэта значыць, паказаць свету, што ў ПНР з пэўнага часу не засталося ніводнага беларуса і таму няма нацыянальных праблем.

Пачатак «хрушчоўскай адлігі» вярнуў да вырашэння і пытанні нацыянальных меншасцей у Народнай Польшчы. Правячая ПАРП не магла не ўлічыць тагачаснай палітыкі «старэйшага брата»— КПСС. Ды і нельга было больш утойваць існаванне беларускай супольнасці на яе тэрыторыі. Такім чынам, і БГКТ у нейкай ступені было створана як праяўленне новага камуністычнага «мышления», якое павінна засведчыць гуманную нацыянальную палітыку яго лідэраў.

Тое, што гэта было задумана як чарговая гульня пракамуністычных палітыкаў, не патрабуе вялікіх доказаў. Чужыя і для польскага народа ўлады за прайшоўшы перыяд зрабілі ўсё, каб вынішчыць беларускае ў беларусах. Зачыняліся нядаўна адкрытыя беларускія школы, бо «не было жадаючых вучняў», штучна на польскія назовы пераводзіліся вёскі і пасёлкі, выключна з палякаў камплектавалася кіраўніцтва павятовых і ваяводскіх улад, хаця карэннае насельніцтва па-ранейшаму заставалася беларускім, нярэдка вёскі цалкам знішчаліся, як гэта здарылася з пяццю з іх пры будаўніцтве вадасховішча непадалёк ад Гайнаўкі. Да болю знаёмая акцыя: абвяшчалася дэкларацыя, каб пасля зрабіць на справе ўсё наадварот — тое ж, што Масква з першых да апошніх дзён свайго панавання эксперыментавала з БССР, у тым ліку, трэба прызнаць, і з польскай нацыянальнай меншасцю.

І ўсё ж стварэнне Беларускага грамадска-культурнага таварыства — гэта ў першую чаргу і факт лагічнага завяршэння цяжкой, самаахвярнай барацьбы за нацыянальную годнасць свядомай часткі беларускага насельніцтва, што не па сваёй волі трапіла да польскіх улад. Вядома ж метадамі і ва ўмовах, якія былі прадыктаваны часам і палітыкай гэтага часу. Таму стварэнне і дзейнасць БГКТ, а таксама і выпуск іх двух пастаянных друкаваных выданняў са шматлікімі дадаткамі — па справядлівасці расцэньваецца як значны ўклад у патрыятыч-

ны рух, у справу нацыянальнага жыцця беларускай супольнасці.

Характарызаваць «Беларускі каляндар» не проста. З аднаго боку,— з пункту гледжання чытача — гэта лёгка даступны, цікавы і змястоўны часопіс, каштоўны сваёй пазнавальнасцю і карыснымі парадамі. З другога ж боку, цяжка параўнаць яго з якім-небудзь іншым друкаваным органам, калі браць пад увагу паліфанічную тэматычную скіраванасць.

Кожны каляндар мае свае адметныя рысы. Калі ж выкрышталізоўваць асноўнае, то, як правіла, структура «Беларускага календара» наступная. На першых старонках традыцыйна адзначаюцца асноўныя гістарычныя даты, імяніны, а таксама даюцца астранамічныя звесткі. Некаторыя матэрыялы ў каляндарным раздзеле добра ілюстраваны і распавядаюць пра краявіды Палескага краю, ці аматарскія гурты... Тут жа трэба адзначыць адну адметнасць каляндарнай часткі. У раздзеле «чырвоных дат» падаюцца імёны і падзеі, якія пакінулі глыбокі след у гісторыі Бацькаўшчыны і ў нашых календарах у большасці выпадкаў звычайна абыходзіліся. Сярод іх — даты нараджэння і смерці Кастуся Каліноўскага, Адама Міцкевіча, Міхася Васілька, Браніслава Тарашкевіча, Цішкі Гартнага, Уладзіслава Сыракомлі, Міхася Машары, Янкі Журбы. Адзначаны выхад першага нумара першай легальнай беларускай газеты «Наша Доля» (1 верасня 1906 г.), угодкі Грунвальдскай бітвы. Яшчэ чытачы даведваліся і пра ўсе рэлігійныя святы ў каталіцкім і праваслаўным веравызнанні. Гэты, як можа каму-небудзь падацца, невялікі штрышок уносіў у каляндар дэмакратычнасць, якой моцна бракавала нашым тагачасным аналагічным выданням.

Другой тыповай каляндарнай часткай з'яўляюцца артыкулы гістарычнай і краязнаўчай тэматыкі. Тут таксама даводзіцца канстатаваць, што ў параўнанні з савецкай афіцыйнай гістарыяграфіяй многія тэмы даследчыкаў, распрацаваныя ў календары, носяць значна меншы адбітак «запраграмаванасці» на агульнапрыняты падыход. Так, чытачы пазнаёміліся ў «Беларускім календары» з публікацыяй Б. Нікіцюка пра Паўла Валошына — пасла ў сейм у 1922 годзе (у 1924 годзе разам з іншымі беларускімі пасламі Браніславам Тарашкевічам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім і Пятром Мятлою Валошын выходзіць з Беларускага Сеймавага клуба, і яны засноў-

ваюць асобную пасольскую фракцыю — Беларускую сялянска-работніцкую грамаду — БСРГ [2]).

У «Беларускім календары» за 1965 год змешчаны цікавы артыкул Вінцука Склубовіча «Праўнае становішча беларусаў у перадваеннай Польшчы і сёння», пабудаваны на малавядомых у нас дакументальных матэрыялах. Дарэчы, гэты гісторык-даследчык не раз выступае з матэрыяламі на старонках выдання. Сярод змястоўных яго публікацый — працы «Школьная справа і беларускі нацыянальна-вызваленчы рух» («Беларускі каляндар», 1967), «Нашчадкі Грамады» («Беларускі каляндар», 1981) і інш. Не ўдаваючыся ў глыбіню гістарыяграфічнай палемікі, неабходна ўсё ж адзначыць, што многія аспекты названых прац у нас проста замоўчваліся, ці падаваліся як варожа-нацыяналістычныя.

У тым жа, што і працы Склубовіча, накірунку напісаны даследаванні Антона Міpановіча «Статут 1529 гада — літоўскі, польскі, ці беларускі» («Беларускі каляндар», 1984), Аляксандра Анташэвіча «Каліноўскі — пачаткі і ідэі сучаснай Беларусі» (тамсама), М. Насовіча «Арганізацыя Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі на Беласточчыне» («Беларускі каляндар», 1974), Віктара Шведа «Абаронная вайна 1939 года» («Беларускі каляндар», 1989). Сярод аўтараў дадзенага раздзела сустракаем і імя вядомага пісьменніка, даследчыка і грамадскага дзеяча Сакрата Яновіча. Ён выступае з працамі «Стагоддзе беларускай палітычнай думкі» («Беларускі каляндар», 1984), «Беларусы ў дзяржаўным і грамадскім жыцці краіны» («Беларускі каляндар», 1963) і інш.

На жаль, нашы гісторыкі і сёння не спяшаюцца давесці да вучнёўскай аўдыторыі і шырокай грамадскасці рэальныя факты з жыцця Радзімы. Несумненна, што праўдзівая гістарычная думка можа і павінна запанаваць на нашай спрадвечна беларускай зямлі. Гэтаму павінны садзейнічаць і набыткі замежных суайчыннікаў, якія хоць і адарваны ад архіва і сапраўдных магчымасцей дакументальнай распрацоўкі пэўных тэм і праблем, у тым ліку і ва ўмовах жыцця ў Польшчы, усё ж дзякуючы адметнай нацыянальнай скіраванасці здолелі дабіцца высокіх дасягненняў. І будзе вельмі

---

[2] Беларускі каляндар. 1965. С. 36—41.

неабачліва, а можа, і злачынна, калі не выкарыстаем ці адмовімся ад гэтага нацыянальнага багацця.

Краязнаўчую беларускую навуку шмат у якіх напрамках дапаўняюць нашы суайчыннікі з Польшчы, працам якіх прадаставіў свае старонкі «Беларускі каляндар». У розных нумарах выдання змешчаны гістарычны нарыс Мікалая Гайдука «Нашы продкі», Антона Міраноўіча «Пра паходжанне назвы Беларусь», В. Іванюка «Праз Белавежу ў гісторыю», Е. Цэтэры «Ганчарства Беласточчыны», Яна Ясканіса «Археалогія аб жыхарах паўднёвай Беласточчыны ў першых стагоддзях нашай эры». Нават з прыведзенага, далёка няпоўнага пераліку прац відаць выразная скіраванасць выдання на асвятленне малавядомых фактаў, на даследаванне нераспрацаваных тэм і праблем.

Асноўную ж, ёмістую частку «Беларускага календара» складаюць матэрыялы па культуры і мастацтву.

Узнікненне і дзейнасць БГКТ аказала ўплыў на рост зацікаўленасці фальклорам, этнаграфіяй, тэатральнай творчасцю і іншымі відамі народнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны, пытаннямі яго гісторыі і сучаснага жыцця. Культурна-асветніцкая місія была вызначана як асноўная і ў дзейнасці таварыства. Устаноўчы з'езд БГКТ абавязваў таварыства арганізаваць даследаванні, прысвечаныя разнастайным пытанням беларускай нацыянальнай меншасці ў ПНР, і публікаваць іх вынікі. Ужо за першыя дваццаць гадоў дзейнасці навуковы гурток БГКТ падрыхтаваў і выдаў тры «Навуковыя зборнікі» (1961, 1964, 1974) культурна-асветніцкага накірунку. У тыднёвіку «Ніва», «Беларускіх календарах» было надрукавана каля 600 арыгінальных песень, казак, легендаў, паданняў і іншых відаў народнай творчасці, сабраных і апрацаваных мясцовымі энтузіястамі.

Усё гэта садзейнічала развіццю аматарскага мастацкага руху беларускага насельніцтва рэгіёна, узбагачэнню нацыянальнай культуры. Конкурсы, фестывалі, канцэрты, літаратурныя і мастацкія выстаўкі — усё гэта далучала да ўдзелу ў культурным руху шырокае кола людзей, пашырала і папулярызавала беларускую песню, танец, музыку, тэатральныя формы мастацтва.

«Беларускі каляндар» пачынае з нумара ў нумар друкаваць рэпертуарныя старонкі, якія, нібы гаючая крыніца, узбагачалі самадзейную мастацкую творчасць на-

рода, воляй лёсу адарванага ад Бацькаўшчыны. Змяшчаюцца песні для музычных фальклорных і сучасных гуртоў, проза, паэзія для тэатраў чытальнікаў, а таксама драматургія для шматлікіх школьных і дарослых аматарскіх калектываў.

Плён «Беларускага календара» ў гэтым плане даволі значны, тым больш што ён стаў яшчэ і аператыўна друкаваць новыя творы літаб'яднанняў «Рунь» і «Белавежа».

Праўда, гэтыя аб'яднанні мелі даволі трывалую выдавецкую базу і акрамя «Беларускага календара». Так, за 20 гадоў дзейнасці «Руні» (да 1979 года) выйшлі кнігі «Дзядзька Лявонь», «Фельетоны» (1961); некалькі зборнікаў А. Барскага — «Белавежскія матывы» (1962), «Жнівень слоў» (1968); «Мой родны кут» — празаічна-паэтычны альманах для дзяцей (1963); Яшы Бурша «Промень думкі» (1964); дзве кнігі Віктара Шведа «Жыццёвыя сцежкі» (1967) і «Дзяцінства прыстань» (1977); Сакрата Яновіча «Загоны» (1969); Яна Чыквіна «Іду» (1969); «Святая студня» (1970); альманах «Белавежа II» (1971); Ул. Гайдука «Раніца» (1971); Міхася Шаховіча «Прамінанне» (1978) і інш.

Добрым падмуркам для тэатральнага аматарскага руху сталі выданні зборнікаў сцэнічных твораў Юркі Геніюша і Сакрата Яновіча (адзін з іх выйшаў у 1969, другі ў 1977 гадах).

Драматычны рэпертуар і ў «Беларускім календары» бадай ці не самы змястоўны і поўны, асабліва, калі мець на ўвазе тэатр паэтычны і інсцэнізацыю прозы. З першага да апошняга, што пабачыў свет, нумара гэтыя літаратурныя жанры займаюць каля трэці агульнага аб'ёму выдання. У розны перыяд матэрыял друкуецца пад агульнымі рубрыкамі, якія ўжо сваімі назвамі акрэслівалі пэўную прыналежнасць: «На літаратурным палетку» ці «Літаратурны палетак» (1976, 1985), «Літаратурныя гоні» (1979, 1986), «Наша сцэна» (1972), «Для нашых спевакоў», «З роднага палетка» (1977), «Ад родных хат, ад родных ніў», «Паэты БГКТ» (1974), «На самадзейнай тэатральнай сцэне» (1975) і інш. Іх патрыярхамі з'яўляюцца Юрый Басна, Віктар Швед, Алесь Барскі, Дзмітрый Шатыловіч, Юрка Трыпун, Віктар Стахвюк, Алесь Батура. Нават простага пераліку дастаткова, каб уявіць шырыню беларускай літаратурнай творчасці ў Беластоцкім краі. Мастацкія рэчы, асабліва вершы,

прысвечаны Радзіме, гісторыі Бацькаўшчыны, яе верным сынам і дочкам, а таксама роднай прыродзе, каханню, блізкім сэрцу мясцінам.

Не менш змястоўная і разнастайная ў «Беларускім календары» палітра прозы, якую у розны перыяд у ім прадстаўлялі вядомы ў свеце пісьменнік Сакрат Яновіч, Кастусь Бандарук, Мікалай Гайдук, Юрка Геніюш, Уладзімір Малашкевіч, Уладзімір Шклярук, Вінцук Склубоўскі, Васіль Петручук, Алесь Чабор... Творы некаторых з названых аўтараў вядомы нашаму чытачу і па тыднёвіку «Ніва», а таксама па «Літаратуры і мастацтве», іншых выданнях былой БССР і цяперашняй Рэспублікі Беларусь.

Цікавымі з'яўляюцца і публікацыі «Беларускім календаром» гумарыстычных твораў, значная колькасць якіх набывала і тэатральнае жыццё. Друкаваліся дасціпныя анекдоты, гумарэскі Андрэя Баравога, Рыгора Бензярука і іншых пісьменнікаў. Часам, як гэта было ў 1963 годзе, «гумарыстычны блок» выдзяляўся ў асобную рубрыку.

Атрымлівалі распаўсюджанне не толькі п'есы тамтэйшых аўтараў, але і Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота і іншых буйных у Беларусі драматургаў [3]. На старонках жа «Беларускага календара» былі змешчаны сцэнка Сакрата Яновіча «Гутарка сучаснага з хворым» (1976), п'есы Ляона Кручкоўскага «Немцы» (1973), Яна Чыквіна «Калі хто чужы» (1967), Пятра Стэфановіча скетч «Хатні эксперымент» (1979), Юркі Геніюша «Дзіўны горад» і «Зямля» (1967) і інш. Камедыйны жанр прадстаўлены творамі В. Ардава «Ветэран панявolі» (1972) і У. Ціцюлькі, Я. Блізнюка «Дзесяць гектараў».

Коратка характарызуючы бясспрэчна цікавы перш за ўсё сваёй самабытнасцю драматургічны пласт, неабходна адзначыць, што аўтары аддаюць перавагу аднаактоўкам. Гэта выклікана тым, што творы звычайна пісаліся не проста для нейкага абстрактнага калектыву, а для канкрэтнага аматарскага тэатральнага гуртка ці нават

[3] Як гэта не раз адзначалася на справаздачных канферэнцыях БГКТ, зборнікі п'ес часта траплялі ў ПНР праз Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом «Радзіма», а таксама дзякуючы кантактам з вядучымі бібліятэкамі Беларусі.

для вядомых выканаўцаў, дзякуючы чаму амаль усе яны набылі сцэнічнае жыццё.

Песні. Яны карыстаюцца асаблівай павагай і любоўю рэдакцыйнай групы «Беларускага календара». Палескі край, які займае значную частку Беласточчыны, заўсёды славіўся сваімі спевамі, фальклорнай скарбонкай, асабліва каштоўнай у народнай спадчыне. У шостым нумары выдання як зачын да песеннага рэпертуару быў змешчаны верш вядомай беларускай паэтэсы Канстанцыі Буйло «Люблю наш край, старонку гэту...», напісаны ёю ў 1913 годзе.

«Беларускі каляндар» пільна сочыць за поспехамі кампазітараў на вялікай этнічнай Радзіме. Апублікаваны творы А. Ставера, Ю. Семянякі «Беларусачка», «А мне ў шчасце верыцца», А. Дзеружынскага, І. Кузняцова «Як задумаў Мікіта жаніцца», Г. Бураўкіна, Г. Вагнера «Я хачу прайсціся па зямлі» і інш. У 1963 годзе была падрыхтавана песня гродзенскага кампазітара А. Шыдлоўскага «Колькі ў небе зор», якая карыстаецца вялікай папулярнасцю ў жыхароў Беласточчыны.

Шмат эстрадных музычных твораў з'явілася і з-пад пяра кампазітараў і паэтаў-песеннікаў — прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Польшчы. Сярод іх сачыненні Эдуарда Гойліка, жыхара Беластока. Яму належыць шэраг вялікіх твораў: «Славянскі танец», «Польская сюіта», «Малы канцэрт для габоя з сімфанічным аркестрам», «Рэмінісцэнцыя» і «Сімфонія № 1» з падзагалоўкам «З майго дзяцінства». У 1967 годзе «Беларускі каляндар» змяшчае падборку яго лепшых песень «Бацькоўскі парог», «Вятрак» на словы В. Шведа, «Над зямлёй», «Вальс расстання», «Зіма», «Вясна маладосці», «Вернасць» на словы А. Барскага.

Сярод песеннага рэпертуару асноўнае месца ў выданні займаюць фальклорныя і абрадавыя творы. Гэта грунтоўна прааналізавана ў першым выданні «Культуры беларускага замежжа» [4].

Клопат «Беларускага календара» пра рэпертуар для аматарскіх калектываў не мог станоўча не адбіцца на пашырэнні самадзейнага руху, які атрымлівае новы імпульс развіцця пад апякунствам Беларускага грамадска-

---

[4] Фальклор (Беласточчыны). У кн.: Культура беларускага замежжа. Мн., 1993. С. 148—191.

культурнага таварыства. Ужо ў кастрычніку 1956 года пачынае дзейнічаць першы драматычны гурток ГП БГКТ. 6 лістапада таго ж года адбыўся і першы канцэрт хору таварыства. А праз два гады беларускі калектыў песні і танца БГКТ на канцэрце мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей Польшчы, што адбыўся ў Варшаве, заняў першае месца.

Як сведчыць «Беларускі каляндар», у самадзейнасці беларусаў Польшчы (акрамя арганізацый БГКТ на вялікіх абшарах Беласточчыны, яна разгортваецца таксама ў Варшаве, Кракаве, Шчэціне і многіх іншых гарадах і мястэчках — на той час павятовых і гмінных цэнтрах ПНР) прадстаўлены ўсе віды мастацтва: музычнаінструментальнае, харавое, харэаграфічнае і тэатральнае.

У музычна-харавой і харэаграфічнай творчасці акумулюючым звяном выступаюць традыцыйныя і любімыя ў народзе «Купаллі», якія штогод ладзіць БГКТ, а таксама фестывалі, конкурсы беларускай песні, святы нівы і інш. У раздзеле хронікі «З жыцця БГКТ» даюцца кароткія, але насычаныя фактамі звесткі пра беларускія нацыянальныя мерапрыемствы. Напрыклад, «Беларускі каляндар» за 1986 год распавядае пра «Купальскую ноч» на беразе Нарвы каля вёскі Рыбалы, пра народны фестываль у вёсцы Гаркавічы, што на Сакольшчыне, пра выстаўку твораў вядомага і ў нас на Беларусі мастака Лёніка Тарасевіча «родам з Вавілаў», пра тры віды беларускіх конкурсаў сярод школьнікаў — «Беларуская песня-86», пра агляд дэкламатараў і тэатральных калектываў у Гайнаўцы, пра сустрэчу ў Бельску з паэтэсай Зосяй Сачко...

Вядома ж, у вялікіх народных гуляннях дамінуюць песня, музыка і танец. Са знакамітых эстрадных калектываў называюцца Бельскія «Васілёчкі», эстрадная група «Гайтон», квартэт «Звон», музычны калектыў з Дубін, «Згодныя макі» з Райска і інш. Іх колькасць у розны перыяд вагаецца ў сувязі з распадам менш трывалых калектываў або, наадварот, кароткачасовым з'яўленні новых «сезонных» пад час аб'яўленых конкурсаў ці фестываляў.

Каб мець уяўленне аб аматарскім руху, трэба прывесці статыстычныя даныя за тры, на мой погляд, найбольш характэрныя ў гэтым плане гады. У 1966 годзе «Беларускі каляндар» называе 62 аматарскія калекты-

вы, у тым ліку 48 драматычных, у 1967—1968 гадах — 67, з іх 62 драматычныя, і ў 1968—1969 гадах — 69, таксама пераважна драмкалектываў.

Магчыма, у разуменні многіх нашых прыхільнікаў аматарскага мастацтва гэтыя лічбы пададуцца нязначнымі, асабліва ў параўнанні са «справаздачамі» па нашай рэспубліцы. Але гэтае ўяўленне будзе памылковым. Па-першае, у БГКТ ніколі не было патрэбы ў завышэнні паказчыкаў, чым грашылі і працягваюць грашыць нашы клубныя ўстановы ў пагоні за катэгарыйнасцю і аплатай працы. А па-другое, наперадзе заўсёды заставаліся ідэі спадзвіжніцтва, прафесійнага ўзроўню і нацыянальнай мастацкай асновы.

Можа таму, і нават напэўна таму, традыцыйны фестываль «Беларуская песня», асабліва яго заключны акорд у Беластоку, заўсёды збірае вялікую колькасць прыхільнікаў. Усе конкурсныя на ім выступленні, уключаючы і гала-канцэрт, праходзяць на аншлагу. Гаспадараць на ім песня, музыка і танец.

Як лакмусавая паперка, фестываль праяўляе, у прыватнасці, здабыткі харавога мастацтва. Здабыткі, якімі па праву можна ганарыцца і якія аказваюць вялікі ўплыў на культурнае жыццё беларускай меншасці ў Польшчы. Сярод адметных калектываў у розны перыяд дзеяння «Беларускі каляндар» называе Гайнаўскі хор, жаночы харавы калектыў вёскі Дашы, Беластоцкія «Каласкі», мужчынскі хор з Рыбалаў, а таксама хоры з Гарадка, Старога Ляўкова, Сямёнаўкі, Тыневічаў Вялікіх, Орлі, Навасадаў. Каб даць уяўленне і пра колькасныя маштабы «Беларускай песні», трэба прывесці такі прыклад. У фестывалі 1986 года прынялі ўдзел больш за 200 удзельнікаў у трох конкурсных накірунках: аўтэнтычнага фальклору, фальклору апрацаванага і сучаснай песні. На фестывалі ўвогуле выступіла шаснаццаць харавых калектываў.

Вядомыя ў Польшчы і калектыў песні і танца «Курні зялёныя», дзіцячы харэаграфічны гурт пад кіраўніцтвам Барыса Жэшкі, інструментальна-вакальны калектыў «Дубіны», эстрадная група «Лявоніха».

Як ужо адзначалася, драматычны від мастацтва займае вядучае месца ў самадзейнасці беларускага насельніцтва ў Польшчы. Выклікана гэта ў першую чаргу адметнай літаратурнай творчасцю тамтэйшых пісьменнікаў, драматургаў і паэтаў. Агляды арганізуюцца тэат-

ральнай секцыяй БГКТ штогод паміж дарослымі і вуч-нёўскімі калектывамі ў літаратурна-паэтычным і драма-тургічным накірунках.

Нягледзячы на значную перавагу драмкалектываў у агульнай канве аматарскага руху ў шматлікіх аддзелах БГКТ, з прыведзеных у «Беларускім календары» звестак вынікае, што з больш-менш сталых, пастаянных калекты-ваў у заключных турах конкурсаў удзельнічаюць ад трох да шасці. Гэта можна вытлумачыць, па-першае, адсутнасцю прафесійных рэжысёрскіх кадраў, здольных увасабляць на сцэнічных падмостках вялікія драматур-гічныя палотны, па-другое, слабой матэрыяльна-паста-новачнай базай. Аднак гэтая «колькасная» характарыс-тыка не паніжае якасную. Пра вялікія дасягненні ў тэ-атральным мастацтве сведчаць сталыя гурты з усталява-нымі традыцыямі: «Парнас»— тэатр паэзіі з Бельска Падляшскага пад кіраўніцтвам Янкі Морданя, папуляр-ны тэатр з Паўлаў пад кіраўніцтвам Валянціны Мароз, драмкалектывы з вёсак Пiліпкі, Тыневічаў Вялікіх, тэ-атральная група з Беластока пад кіраўніцтвам Янкі Кру-пы...

Першы з іх з упэўненасцю можна назваць тэатраль-ным рупарам літаб'яднання «Белавежа». Як адна з ве-хаў яго творчасці згадваецца увасабленне літаратурнай кампазіцыі «Роднае», з якой калектыў выступіў у многіх мясцінах Беласточчыны і з якой стаў пераможцам агля-ду, што адбыўся ў лістападзе 1986 года. Да несумнен-най удачы калектыву «Беларускі каляндар» за 1989 год адносіць яго спектакль «Вясёлыя жабракі» паводле Р. Бёрнса.

Заключныя мерапрыемствы драмаглядаў даюць доб-рую магчымасць паназіраць за рэпертуарам беларускіх аматарскіх тэатраў у Польшчы. Найбольш сталыя ка-лектывы звяртаюцца ў роўнай ступені і да беларускай класікі, і да творчасці сучасных драматургаў, у якой, як ужо адзначалася, перавага аддаецца малым формам. Цэнтральнае месца ў рэпертуары займае класічная ка-медыя Янкі Купалы «Паўлінка». Спектакль стаўся свое-асаблівай візітоўкай для тэатральнай групы з Беластока (лаўрэат конкурсу 1985 года), які паказваўся на праця-гу многіх гадоў. За пастаноўку п'есы «Прымакі» таго ж аўтара ў 1973 годзе атрымаў лаўрэацкае званне аматар-скі тэатр з Міхалова. У 1989 годзе драмгурт з Сямёнаў-кі на ваяводскім аглядзе выйшаў пераможцам за паста-

ноўку яшчэ аднаго класічнага твора беларускай драматургіі — камедыі Уладзіслава Галубка «Суд». Сярод іншых значных пастановак згадваюцца спектаклі «Мікітаў лапаць» М. Чарота, «Валодзеў гальштук» К. Крапівы, «Не верце цішыні» І. Шамякіна, «Было гэта ў 41-м» паводле твораў Васіля Быкава. Сцэнічны свет убачылі таксама «На дарозе жыцця» Я. Коласа (першае месца ў аглядзе 1981 года, драмгурток з Аўгустава пад кіраўніцтвам М. Артышэвіч і М. Махановіч), «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Госць з таго свету» і «На ўскрайку сяла» М. Алтухова, «Суседка» А. Пальчэўскага, «Смык і шпунцік» А. Махнача і інш. З пастановак твораў рускіх аўтараў «Беларускі каляндар» за 1977 год называе «Святую ноч» паводле М. Шолахава, якую ажыццявілі навучэнцы з Бельскага беларускага ліцэя пад кіраўніцтвам настаўніцы В. Рошчуп.

Асноўная ж увага ў тэатральнай творчасці аддаецца творам тамтэйшых аўтараў, пальму першынства сярод якіх займаюць Сакрат Яновіч (спектакль па яго п'есе «Сто хвароб» у пастаноўцы драмгурта з Паўлаў у 1989 годзе заняў першае месца ў аглядзе драматычнай творчасці), Юрка Геніюш (трывалае сцэнічнае ўвасабленне атрымалі яго п'есы «Зямля», «Дзіўны горад», камедыя «Вывaражыла»), У. Паўлючук, Я. Чыквін.

Да ваеннай тэматыкі акрамя пастановак ужо згаданых твораў В. Быкава і К. Крапівы належаць значныя спектаклі «Немцы» Л. Кручкоўскага і «Таптаная зямля» паводле аповесці польскай пісьменніцы Марыі Шунецкай, у якой расказваецца пра трагічную гібель жыхароў Райска ў гады другой сусветнай вайны (пастаноўкі драмтэатра з Паўлаў, рэжысёр В. Мароз).

Да арыгінальных пастановак, увасобленых на аснове калектыўнай драматургічнай творчасці ўдзельнікаў тэатральных гуртоў, адносяцца прадстаўленні Беластоцкага гурта «Ажаніся — весяліся», гуртка з Грабянёў «Вечарына» (1988), драмкалектыву з Тыневічаў Вялікіх «Адведкі» (1985) і інш. Яны ў нечым нагадваюць агітбрыгадныя відовішчы, якія ў гэты перыяд набылі значны размах на Беларусі і не маглі застацца незаўважанымі нашымі суайчыннікамі з Польшчы.

Але ў іх работах было шмат чаго і адметнага. Так, у Гайнаўскім палацы культуры ў 1984 годзе адбыўся міжраённы агляд калядпікаў і «зорак», у якім прынялі ўдзел трынаццаць калядных груп і чатыры харавыя калекты-

вы: хрысціян-баптыстаў з Гайнаўкі, Акадэмічны праваслаўны хор з Беластока, хор Гайнаўскай праваслаўнай парафіі і хор БГКТ.

Пра існаванне і творчасць лялечных тэатраў «Беларускі каляндар» расказвае вельмі скупа. Але і сціслая інфармацыя дае падставу меркаваць, што і гэты від тэатральнага жанру атрымлівае, асабліва ў вучнёўскіх калектывах, належнае развіццё. Асобнік за 1989 год коратка даводзіць чытачам пра выступленні дзіцячых лялечных тэатраў, што прайшлі ў чэрвені 1988 года ў Бельскім палацы культуры.

Тэатразнаўства як навуковая галіна, на вялікі жаль, не атрымала адпаведнага развіцця ў дзейнасці даследчыкаў з прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Разам з тым некаторыя цікавыя артыкулы змясціла на сваіх старонках «Ніва», што сведчыць пра наяўны патэнцыял. Пэўны ўклад у тэатразнаўства зрабіў і «Беларускі каляндар», на старонках якога ёсць спроба асэнсавання тэатральнага руху на Беласточчыне.

Тут у першую чаргу трэба назваць артыкул Яніны Чарнякевіч «Беларуская сцэна» (1973). У асобніку за 1985 год Надзея Панасюк аналізуе празаічную і драматургічную творчасць Аляксея Дударава.

Чым жа яшчэ цікавы «Беларускі каляндар»? Як правіла, ён выступае разумным дарадчыкам хатнім гаспадыням, фермерам, рыбаловам, паляўнічым... Апошнія старонкі выдання традыцыйна аддаюцца дадзенай тэматыцы, з якіх можна даведацца, калі лепш садзіць і як даглядаць гародніну, кветкі, дрэвы; у які перыяд года трэба больш асцерагацца ваўкоў; праз колькі дзён можна чакаць прыплоду ад хатняй і дзікай жывёлы; як варыць, смажыць, пражыць; і пра многае-многае іншае, цікавае і пазнавальнае. А яшчэ зможам прачытаць і выкарыстаць пры бяседзе анекдоты, прымаўкі і прыказкі, цікавыя здарэнні.

Вось, мабыць, і ўсё. Калі не ўлічваць галоўнага, што адкрыецца кожнаму, каму пашанцуе на свае вочы пазнаёміцца з гэтым цікавым і арыгінальным выданнем,— сведчаннем жывучасці нацыянальнай ідэі ў асяроддзі людзей, якіх лёс адрынуў ад роднай Бацькаўшчыны, але якія ніколі не парывалі душэўнай еднасці з роднай зямлёю.

Застаецца хіба толькі назваць імёны тых, хто рэдагаваў і рэдагуе выпускі «Беларускага календара». Гэта М. Баравік, Г. Валкавыцкі, М. Кураш, Л. Філіпік-Раманюк, У. Юзвюк, С. Яновіч, М. Хмялеўскі, М. Лобач, А. Казёл, А. Баршчэўскі і г. д.

А самае галоўнае — выданне працягвае жыць і застаецца патрэбным многім тысячам яго чытачоў!

*Тамара Гаробчанка*

# ЧАСЦІНКА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ НА ЧУЖЫНЕ

## (Кліўлендскі беларускі грамадска-асветніцкі цэнтр «Полацак»)

Гартаючы газеты і часопісы, неяк натрапіла на серыю фотаздымкаў, таленавіта зробленых фатографам-журналістам Анатолем Кляшчуком пад час яго вандроўкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Маладая гарэзлівая дзяўчына ў беларускім строі выхаплена камерай нібыта ў палёце ў момант выканання народнага танца, юнак з задумлівым і крыху сумным позіркам вялікіх вачэй, 98-гадовы ладны дзядок на фоне царквы ў Саўт-Рыверы, старая ў хустачцы, чый зморшчаны твар і навярэджаныя рукі сведчаць аб нялёгкіх жыццёвых варунках... Усе гэтыя людзі, зусім нядаўна па афіцыйнаму вызначэнню нашы «ворагі»,— амерыканскія беларусы, далёкія суайчыннікі, якія ў розныя часіны, па розных абставінах апынуліся за межамі сваёй Бацькаўшчыны.

Няўмольны лёс раскідаў шмат каго з беларусаў па ўсім свеце. Па сведчанні Аўгена Калубовіча, «масавыя хвалі палітычнай беларускай эміграцыі пачаліся з часоў заваёвы і далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст. Прычыны, якія іх выклікалі,— нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1794 года, напалеонаўская вайна 1812 г., антырасійскія паўстанні 1831 і 1863—1864 гг., расійская рэвалюцыя 1917 года і заняпад БНР (Беларускай Народнай Рэспублікі), нацыянальныя, палітычныя і рэлігійныя праследаванні. Жорсткая эксплуатацыя Беларусі як калоніі выклікала і эканамічную эміграцыю, дадаткова выгнаўшы многіх на пошукі працы, лепшых умоў жыцця. У выніку — сотні тысяч беларусаў, калі не болей, вымушаны былі пакідаць Беларусь і ісці ў далёкія чужыя мясціны» [1]. Найбольш масавая хваля

[1] Неман. 1992. № 2. С. 137.

беларускай эміграцыі назіралася пасля 1939 г. і ў канцы другой сусветнай вайны, калі на Захад рушылі не толькі адзінкі ці асобныя сем'і, а нават цэлыя нацыянальныя ўстановы, арганізацыі, ваенныя фарміраванні. Так трапілі беларусы ў ЗША, Канаду, Германію, Швецыю, Англію, Францыю, Аўстралію, Бразілію, Аргенціну. Апынуўшыся на чужыне, нашы суайчыннікі, каб не згубіцца паміж іншымі народамі, пачалі аб'ядноўвацца ў грамады і суполкі, ладзіць варункі дзеля выратавання роднай мовы, культуры, гісторыі, дзеля захавання ў нашчадкаў нацыянальнай свядомасці і годнасці. Вось як вызначае мэты пасляваеннай эміграцыі Вітаўт Кіпель: «Адрадзіць нашу спадчыну ў Амерыцы, паставіць сёння Беларусь на карту ў Амерыцы і заснаваць там сваё жыццё: пабудаваць цэрквы, гадаваць дзяцей у беларускіх школах, наладзіць навуковую базу эміграцыі...» [2]

Адно з самых шматлікіх эмігранцкіх паселішчаў утварылася ў Злучаных Штатах Амерыкі, куды ў канцы 40 — пачатку 50-х гадоў перабралася шмат беларусаў з Германіі і Англіі. Беларускія асяродкі засноваліся ў штатах Нью-Йорк, Канектыкут, Нью-Джэрсі, Пенсільванія, Масачусетс, Агайё, Мічыган і інш. Найбольш свядомыя людзі пачалі ствараць арганізацыі, вакол якіх разгорталася грамадскае і культурнае жыццё беларускай дыяспары. У сярэдзіне 50-х гадоў у ЗША існавалі наступныя арганізацыі:

Сектар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі;

Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗа) з аддзеламі: Нью-Йорк, Нью-Брансвік (штат Нью-Джэрсі), Кліўленд (штат Агайё), Дэтройт (штат Мічыган), Спрынгфілд (штат Масачусетс), Стамфорт (штат Канектыкут);

Згуртаванне беларускае моладзі ў Амерыцы;

Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку;

Крывіцкае навуковае таварыства імя Ф. Скарыны;

Прыход св. Кірылы Тураўскага БАПЦ.

Па лініі зарубежнага напрамку:

Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі;

Злучаны беларуска-амерыканскі дапамогавы камітэт;

Саюз беларускае моладзі ў Амерыцы;

Беларускі вызвольны фронт у Кліўлендзе;

Прыход св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы —

---

[2] Звязда. 1991. 10 ліп.

Беларуская праваслаўная царква пад юрысдыкцыяй Усяленскага патрыярхату [3].

У 1951 г. у Нью-Йорку пры актыўнай падтрымцы інтэлігенцыі быў адкрыты Беларускі інстытут навукі і мастацтва, якім у розныя гады кіравалі: епіскап Васіль (у цывільным жыцці Ул. Тамашчык), Янка Ліманоўскі, Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч. З 1982 г. дырэктарам БІНІМ з'яўляецца Вітаўт Кіпель. Дзейнасць інстытута скіроўвалася на актывізацыю інтэлектуальнага жыцця беларускага асяродку ў Амерыцы. Дзеля гэтага меркавалася выдаваць кнігі, газеты, часопісы, праводзіць навуковыя лекцыі, канферэнцыі, ладзіць выстаўкі, юбілеі, вечарыны з нагоды свят. Больш за сорак год існавання іншмат карыснага зроблена навукоўцамі і кіраўнікамі інстытута: збіраецца сусветная Скарыніяна, дакументуецца навейшая беларуская гісторыя ад дзяржаўнай думы да БНР, складваецца бібліяграфічная картатэка аб выданнях пра Беларусь на замежных мовах, найперш на англійскай, а таксама картатэка па гісторыі беларускай эміграцыі ў Амерыцы. З 1952 г. БІНІМ пачынае выдаваць навуковы зборнік «Запісы», артыкулы якога прысвечаны самым розным галінам навукі, літаратуры і мастацтва. Інстытут вядзе шырокую выдавецкую дзейнасць. У апошнія гады ім падрыхтаваны дзве фундаментальныя працы: «Беларускі перыядычны друк» (ад пачатку стагоддзя) і «Беларускі эміграцкі друк» (выданне кніг у 1919—1939 і ў 1945—1980 гг.).

Адначасова ўладкоўваліся культурныя і побытавыя запатрабаванні беларусаў. Яшчэ ў 1948 г. недалёка ад горада Манро ў штаце Нью-Йорк за кошт добраахвотных ахвяраванняў славян-эмігрантаў быў пабудаваны «Араў-парк», дзе ў спагадлівым суседстве паўсталі помнікі Пушкіну, Шаўчэнку, Уітмену і Купалу. Паступова наладжвалася жыццё, і беларускія эмігранты вырашылі стварыць цэнтр адпачынку, якім бы маглі карыстацца ўсе беларусы незалежна ад таго, да якіх палітычных груповак яны належаць. Быў створаны грамадскі камітэт і дзякуючы агульным намаганням набыты рэсорт Бэлэр у Глен Спэй штата Нью-Йорк, які атрымаў назву Бэлэр-Менск. Маёмасць беларускага цэнтра адпачынку складалі 75 акраў зямлі з лесам і паловай берага возера, пла-

---

[3] Мерляк К. Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Нью-Йорк, 1952. С. 125—126.

вальны басейн, спартыўныя пляцоўкі для валейбола і баскетбола, тэнісны корт. Атрымалі магчымасць задаволіць свае інтарэсы і тыя, хто захапляўся паляваннем і рыбалоўствам. Урачыстае адкрыццё Бэлэр-Менска адбылося 4 ліпеня 1963 г., і з гэтага часу кожны год сюды прыязджаюць на адпачынак беларусы з розных штатаў Амерыкі і з-за яе межаў. Тут адбываюцца богаслужэнні, працуе бібліятэка, існуюць летнія лагеры для дзяцей, праводзяцца спартыўныя спаборніцтвы сярод моладзі, ладзяцца з'езды грамадскіх арганізацый і г. д.

Раскінутыя па неабсяжных прасторах Злучаных Штатаў Амерыкі і іншых краін свету, беларусы адчулі патрэбу хоць зрэдку сустракацца, каб не траціць сувязі адны з аднымі, абменьвацца інфармацыяй, дзяліцца культурнымі і навуковымі набыткамі, ды і наогул, каб адчуваць сябе самастойнай этнічнай супольнасцю. Так узнікла ідэя пастаянных сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі. Першая такая сустрэча беларусаў ЗША і Канады адбылася 4—6 ліпеня 1952 г. на канадскім беразе Ніягары. Па ўспамінах аднаго з яе ўдзельнікаў А. Свіслацкага, пасля афіцыйнай часткі і прывітанняў з боку грамадскіх арганізацый «усе зліліся ў адну беларускую сям'ю — пачаліся гутаркі старых знаёмых і сяброў, што гадамі не бачыліся, ды асабістыя знаёмствы з асобамі, вядомымі адно з ліставання ці прэсы. Вінцэнт Жук-Грышкевіч прачытаў кароткі рэферат пра жыццё і творчасць Янкі Купалы. Як толькі сцямнела, усе накіраваліся да рэчкі, дзе пры распаленым вогнішчы адбылася купальская забава з адпаведнымі спевамі, пушчаннем вяночкаў і падобным» [4]. Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі сталі рэгулярна праводзіцца раз у два гады.

Такім чынам, менавіта пасляваенная эміграцыя шмат зрабіла для захавання беларускай этнічнай супольнасці. Пазбавіўшыся радзімы, нашы суродзічы тым не менш пачувалі сябе беларусамі, ужывалі родную мову, прывівалі да яе любоў сваіх дзяцей і ўнукаў. Бо, як пісала Наталля Арсеннева:

> Каб не мова
>     даўно б мы растаялі,
> расплыліся б імглой між чужых,
> збеглі ў вырай гусінаю стаяю...
> Але з мовай —
>         і мы будзем жыць...

---

[4] Беларус. 1988. Верас. № 351. С. 7.

Разам з тым жыў у сэрцы нясцерпны боль за сваю адарванасць ад роднай зямлі, за парушаныя кроўныя сувязі і радзінныя кантакты. Іх суродзічы на Беларусі таксама амаль нічога не ведалі пра лёс сваякоў і блізкіх на чужыне. Тэма гэта была моцна забаронена. Сёння, ва ўмовах новай грамадска-палітычнай сітуацыі, калі Беларусь стала суверэннай дзяржавай, мы нарэшце атрымалі магчымасць больш падрабязна даведацца пра жыццё замежных суайчыннікаў, пра іх духоўныя і культурныя набыткі. Захаваўшы родную мову, пабудаваўшы навуковыя і культурна-асветніцкія цэнтры, школы, цэрквы, зоны адпачынку, амерыканскія беларусы ўтварылі маленькія астраўкі Бацькаўшчыны на чужыне і, магчыма, самае галоўнае — здолелі выхаваць у нашчадкаў глыбокую ўнутраную ўсвядомленасць сваёй прыналежнасці да беларускай нацыі.

Адным з такіх астраўкоў Бацькаўшчыны ў Злучаных Штатах Амерыкі з'яўляецца беларускі грамадска-асветніцкі цэнтр «Полацак» горада Кліўленда штата Агайё. На пачатку 50-х гадоў на агульным сходзе быў зацверджаны Кліўлендскі аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗа) на чале са старшынёй Кастусём Калошай. Адначасова адбыўся арганізацыйны сход Згуртавання беларускае моладзі (ЗБМ), якое ўзначаліў Міхась Белямук. Моладзь выдавала свой бюлетэнь, ладзіла вечарыны, разам са старэйшымі стварыла харавы і танцавальны гурткі. Колькасць удзельнікаў абодвух арганізацый штогод павялічвалася. Так, на першым сходзе БАЗа прысутнічала 46 чалавек, а праз год, у 1952 г., было ўжо 126. Колькасць сяброў ЗБМ адпаведна за год вырасла з 25 да 46 асоб.

У тыя ж часы задумалі беларусы прыдбаць свой кут у Злучаных Штатах Амерыкі і каб абавязкова нагадваў ён родныя мясціны. Нарэшце іх мара здзейснілася. Непадалёку ад Кліўленда, у невялікім горадзе Стронгвіл, купілі дзялянку зямлі, на якой раней размяшчалася конегадоўчая ферма. Так пачаў сваё існаванне Кліўлендскі беларускі грамадска-асветніцкі цэнтр «Полацак». Вось што расказвае пра гэту падзею Святлана Белая: «Адкуль бы здалёк вы ні ехалі, «Полацак» пазнаеце адразу. Пасярод амерыканскага ландшафту — тыпова беларускі краявід. Тут усё, як на Бацькаўшчыне. Зялёны палетак з шаўкавістай травой і сунічнымі палянкамі пад срабрыста-зялёнымі соснамі. Магутны бор, у якім шмат вавёрачак і

грыбоў. У невялікіх зялёных ад багавіння азёрцах жывуць вялікія акуні і квітнеюць белыя гарлачыкі. І чырвоная каліна, што гнецца над вадою, таксама, як на Беларусі (А можа гэта толькі нам здаецца?)...

Каб зразумець настрой людзей, што з'язджаліся да Полацка, трэба перажыць усё іх жыццё на чужыне. Адчуць, як яны, некалі балесную тугу па бацькоўскаму аржаному хлебу, восеньскай песні жураўлёў, матчынай мове. Жахнуцца, наколькі хутка, няўтомна, няўлоўна «без смеху, без сыці» імкнуць дні. Трэба ўсвядоміць гэта ўсё, адчуць і ўбачыць. І не вачыма турыста, што ўпершыню трапіў у Амерыку і не можа надзівіцца цудамі заморскага жыцця. А душою чалавека, карані якога там, на Бацькаўшчыне, якому сніцца Беларусь»[5]. «Полацак» мае сваю Управу, якая перыядычна абнаўляецца. У 1991 г. у яе ўвайшлі: Янка Ханенка — старшыня, Андрэй Канончук — заступнік старшыні, Крыстына Каваленка — сакратар, Янка Каваленка — скарбнік.

Адначасова з уладкаваннем побытава-матэрыяльных патрэб закладваліся асновы жыцця духоўнага. У 1951 г. быў абраны царкоўны камітэт па заснаванню парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. У яго ўвайшлі Міхась Белямук, Якаў Кузміцкі, Міхась Страпко, крыху пазней — Тамаш Ламака і Сымон Яраховіч. Дзякуючы намаганням камітэта ў Пілгрымскай царкве было арандавана памяшканне, дзе 20 снежня 1951 г. настаяцель айцец Яўхім Якіменка правёў першую службу. У 1960 г. эмігранты на асабістыя сродкі сваімі рукамі збудавалі царкву Жыровіцкае Божае Маці, настаяцелем якой у апошнія гады з'яўляецца айцец Міхась Страпко. Тут у агульнай супольнасці кліўлендскія беларусы сустракаюць радасць і гора — вяселлі, хрышчэнні дзяцей, адпяванне нябожчыкаў, штогод адзначаюць святы Жыровіцкае Божае Маці, нараджэнне Хрыста, Вялікдзень, угодкі Слуцкага паўстання, Дзень незалежнасці Беларусі 25 сакавіка і інш.

Звычайна святы старанна рыхтуюцца і праходзяць па-сямейнаму цёпла і прыгожа. Пасля набажэнства дарослыя і дзеці збіраюцца ў падцаркоўнай зале, робяцца казанні, наладжваюцца канцэрты, праграму якіх складаюць беларускія вершы, песні ў харавым і сольным выкананні, танцы, драматызаваныя сцэнкі на біблейскія

---

[5] Полацак. 1991. № 1. С. 28.



7. Зак. 637

сюжэты і, вядома ж, даюцца святочныя падарункі дзецям. Асаблівасцю гэтых вечарын з'яўляецца іх асветніцкі характар, шчыльная сувязь з традыцыйнай народнапаэтычнай культурай нашых продкаў. Так, святкаванне куцці, Масленіцы, Каляд ці іншых дат царкоўнага або цывільнага календара абавязкова суправаджаецца фальклорнымі абрадамі, прамовамі пра старажытныя прыкметы прыроды. У хвіліны радасці і весялосці нашы суродзічы абавязкова звяртаюцца ў сваіх думках да далёкай радзімы, моляцца за яе лёс. Вось, напрыклад, як праходзіла ў «Полацку» сустрэча Новага, 1992, года:

«Стары год канчаем, новы зачынаем
з буйною травою,
багатаю зямлёю,
з зярном ядраністым,
ураджаем урадзістым...

Так, казалі нашыя бацькі, дзяды, прадзеды і тыя, хто сустрэў 1992 год на «Полацку». Як і ў мінулы год, сабралася шмат беларусаў і іх сяброў. Зала была ўпрыгожана стройнай ялінкай, каляровымі паветранымі шарамі, срэбна-залацістай мішурой. Гучалі амерыканскія і беларускія вальсы, факстроты, полькі ды так агніста, што танцавальная пляцоўка апусцела толькі перад поўначчу. Роўна а 12 гадзіне ўсе паднялі келіхі з шампанскім, каб павіншаваць адзін аднаго, што дачакаліся абвяшчэння незалежнасці Беларусі і прызнання яе як дзяржавы амерыканскім урадам. А таксама пазычыць усім сябрам і сваякам дачакаіцца наступнага, 1993, года і новых, яшчэ лепшых вестак з Бацькаўшчыны» [6].

Традыцыйнымі для кліўлендскіх беларусаў з'яўляюцца і штогоднія святы бацькоў. Звычайна пасля Літургіі ладзіцца ўрачысты пачастунак, які на Дзень Маці гатуюць мужчыны, а на Дзень Бацькі — адпаведна жанчыны. Святар або хто-небудзь з прысутных прамаўляе цёплыя словы пра бацькоў, дзядоў і бабуль, нагадвае пра іх абавязкі перад сям'ёй, заклікае дзяцей любіць і паважаць старэйшых, захоўваць памяць пра тых, хто адышоў у нябыт. На заканчэнне ўсім дораць прыгожыя кветкі.

Шырока адзначылі ўсе беларускія праваслаўныя прыходы Злучаных Штатаў Амерыкі 1000-годдзе хрысціян-

---

[6] Полацак. 1992. № 1. С. 62.

ства на Беларусі. З гэтай нагоды ў Нью-Йорк прыехаў Яго блажэнства архіепіскап Канстанцінопальскі і Усяленскі Патрыярх Дзімітрыёс, які прыняў беларускую дэлегацыю. Пра гэту ўрачыстасць газета «Беларус» за жнівень 1990 г. пісала: «Рада Беларускай Праваслаўнай Царквы Паўночнай Амерыкі (епархія), якая ўваходзіць у юрысдыкцыю Усяленскага Канстанцінопальскага Патрыярха, была ўдастоена спаткаць Патрыярха Дзімітрыёса 14 ліпеня ў гатэлі Вальдорф-Асторыя ў Нью-Йорку. Спатканне адбылося ў 11 гадзін раніцы. Беларускую дэлегацыю прадставіў Патрыярху архіепіскап Якавас, апякун нашай епархіі. Яго святасць вітаўся з кожным з дэлегацыі й блаславіў кожнага.

На гэтай аўдыенцыі Яго блажэнства Патрыярх Дзімітрыёс прамовіў да нашай дэлегацыі й сказаў у асноўным наступнае:

«Я ведаю, што ваш народ моцна пацярпеў у сваім гістарычным жыцці, асабліва ў гэтым стагоддзі ад уціску за веру й дамаганне волі ад бязбожнай чужой улады...

Я захоплены моцнай верай вашага народа на Бацькаўшчыне ды вашай верай і дзейнасцю на эміграцыі. Ваша вера, захаванне вашае мовы, культуры й традыцыяў сваіх продкаў сведчаць, што з Божай дапамогаю ваш народ дасягне ўсяго таго, чаго ён, як і ўсе іншыя народы, дамагаецца»[7].

Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе святкавала 1000-годдзе хрысціянства на Беларусі 22 мая. Урачыстасць распачаў Сяргей Карніловіч, даклад зрабіў прафесар Нью-Йоркскага універсітэта Томас Бэрд. На банкеце былі абвешчаны прывітанні ад іншых парафій, у канцэрце прынялі ўдзел Данчык-Андрусішын і Юрка Мазурак з Беласточчыны.

Шмат увагі надаецца актывістамі «Полацка» ўшанаванню памяці нацыянальных дзеячаў культуры і асветніцтва. У 1990 г. беларускія суполкі ўсіх штатаў Амерыкі маштабна адзначылі 500-годдзе выдатнага сына зямлі беларускай, гуманіста, першадрукара Францішка Скарыны. 1991 г. стаў годам Максіма Багдановіча. У «Полацку» 100-гадовы юбілей з дня нараджэння паэта святкавалі 26 мая. Пад час вечарыны дзейнічалі дзве фотавыстаўкі: «Вянок» Максіма Багдановіча» з твораў беларускіх мастакоў Яўгена Ціхановіча, Таццяны Лапіцкай,

---

[7] Цыт. па: Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 382.

Генадзя Грака і «Максімава Яраславія» з фотаархіва Святланы Белай. Пад ціхія акорды музыкі пачала свой расказ пра кароткі, гаротны жыццёвы шлях таленавітага беларускага паэта Святлана Белая, выкарыстоўваючы ўрыўкі з рукапісу сваёй кнігі «Максімава Яраславія». Гучалі песні на словы паэта. Лідзія Лазар-Ханенка прачытала некалькі яго вершаў па-англійску. На заканчэнне вечарыны ўсім былі падараваны граматы, выдадзеныя да свята мінскім клубам «Спадчына». Урачыстасці з нагоды юбілею адбыліся таксама ў царкве Святога Юрыя ў Чыкага, дзе даклад пра Багдановіча зрабіў Мікалай Латушкін, і ў бібліятэцы ААН.

Нашы землякі з «Полацка» хутка адгукнуліся на зварот клуба «Спадчына» стаць дабрачыннымі фундатарамі помніка Максіму Багдановічу ў Яраслаўлі і ахвяравалі значную суму долараў на гэту акцыю.

У 1992 г. у прадстаўніцтве Рэспублікі Беларусь пры ААН сабраліся беларусы з Кліўленда, Саўт-Рыверы, Нью-Брансвіка, Нью-Йорка, каб ушанаваць памяць нацыянальных геніяў Янкі Купалы і Якуба Коласа з нагоды іх 110-гадавога юбілею. Слова пра пісьменнікаў сказаў Г. Бураўкін, песні на іх вершы, а таксама на вершы Максіма Багдановіча, Лявона Пранчака і іншых выканалі беларускія акцёры.

Беларусы Злучаных Штатаў Амерыкі, якія заўсёды пільна сачылі за жыццём Бацькаўшчыны, шчыра віталі дэкларацыю Вярхоўнага Савета Беларусі «Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР», прынятую 27 ліпеня 1990 г. З нагоды гэтай гістарычнай падзеі яны даслалі Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі прывітальную тэлеграму:

«Яго дастойнасці Прэзідэнту
Беларускага Вярхоўнага Савета
Менск, БССР
30 ліпеня 1990 г.

Беларуска-амерыканскае аб'яднанне ў Нью-Йорку вітае Вас і ўвесь беларускі народ з паўзятым становішчам, якое вядзе да адраджэння роднае мовы, культуры, нацыянальнае годнасці й беларускае дзяржаўнасці. Мы жадаем вам і ўсяму беларускаму народу поспехаў у асягненні сувэрэнітэту й мірнага сужыцця з вольнымі народамі свету. Мы, беларускія амерыканцы, будзем старацца ўсімі сіламі Вам дапамагчы.

Спары Божа» [8].

Пэўныя новыя павевы ва ўнутранай і знешняй палітыцы Рэспублікі Беларусь адразу ж знайшлі станоўчы адбітак на ўзаемаадносінах з замежнай эміграцыяй, што ў сваю чаргу значна ажывіла культурнае жыццё «Полацка». У ліпені 1991 г. тут была наладжана фотавыстаўка, на якой было каля 60 здымкаў беларускіх майстроў і якая адлюстроўвала найбольш важныя палітычныя і грамадскія падзеі на Беларусі. Асобныя цыклы, такія, як «Беларусь сам-насам з Чарнобылем», «Шляхі за сваё выжыванне», раскрывалі жудасную трагедыю, што напаткала беларускі народ. 20 студзеня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці дэманстравалася фотаэкспазіцыя Анатоля Кляшчука «Землякі», якую складалі партрэты працаўнікоў Беларусі — сялян, хлебаробаў, настаўнікаў — усіх тых, на кім «зямля наша трымаецца». З вялікім поспехам прайшла у «Полацку» выстаўка беларускіх графікаў Арлена Кашкурэвіча, Сямёна Геруса, Алены Лось, Раісы Сіпліевіч і інш., якую наладзіў Анатоль Белы. Заслаўскі замак XVI ст., вулачкі дарэвалюцыйнага Мінска, домік Манюшкі, прыгожыя краявіды знаёмілі кліўлендцаў з сённяшняй і мінулай Беларуссю. Былі таксама прадстаўлены графічныя партрэты слаўных сыноў зямлі беларускай — Ефрасінні Полацкай, Скарыны, Гусоўскага, Міцкевіча, Каліноўскага, Цёткі, Багдановіча, Купалы, Коласа, Буйніцкага, Таўлая, Караткевіча.

Прыкметай культурнага і грамадскага жыцця «Полацка» на пачатку 90-х гадоў стала ўзмацненне кантактаў з Беларуссю, узаемныя візіты эмігрантаў на радзіму і беларусаў у Амерыку. У красавіку 1991 г. «Полацак» прымаў прадстаўнікоў БНФ З. Пазьняка, У. Заблоцкага, Л. Баршчэўскага. У маі сюды завітаў археолаг Сяргей Тарасаў. Ён выступіў з паведамленнем «Вытокі беларускай дзяржаўнасці», пасля чаго паказаў слайды пра старажытны беларускі горад Полацк. С. Тарасаў выступіў таксама з дакладам у Чыкагскай царкве Хрыста Збавіцеля, дзе адбыўся прагляд фільма, прысвечанага полацкай князёўне Рагнедзе і Ефрасінні Полацкай. У жніўні гэтага ж года «Полацак» наведала дэлегацыя сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль» у складзе яго старшыні Васіля Якавенкі, публіцыста Аляксандра Люцко, старшыні клуба «Спадчына» Анатоля Белага. Прысутнічалі на сустрэ-

---

[8] Цыт. па: Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 328.

чы беларусы з Вільні і Рыгі. В. Якавенка і А. Люцко расказалі аб жудасных выніках чарнобыльскай трагедыі і аб тых справах, што робіць іх саюз па пераадоленні гэтай страшэннай навалы. У 1992 г. кліўлендцы прымалі намесніка старшыні Таварыства беларускай мовы Яўгена Цумарава.

У верасні 1991 г. па запрашэнні БАЗа ў Амерыку прыбыла дэлегацыя ў складзе народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі У. Новіка і А. Гурыновіча. Мэта іх візіта — вывучэнне магчымасцей узаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і ЗША. Госці наведалі беларускую місію ААН у Нью-Йорку, штаты Нью-Джэрсі і Агайё. 9 верасня адбылася іх сустрэча з беларусамі ў цэнтры «Полацак». Быў прачытаны даклад на тэму «Палітычнае жыццё Беларусі». У. Новік і А. Гурыновіч прынялі ўдзел у працы XXIV кангрэса Беларуска-амерыканскага задзіночання, які адбыўся 14—15 верасня ў Нью-Брансвіку. Пасля даклада старшыні БАЗа Антона Шукелойца выступілі старшыні ўсіх аддзелаў і сярод іх Кліўлендскага аддзела Янка Ханенка. У сваёй справаздачы ён спыніўся на галоўных момантах працы за 1990—1991 гг. У прыватнасці, ён адзначыў, што кліўлендцы арганізавалі летні адпачынак групы дзяцей з Гомельшчыны, пералічыў беларускія дэлегацыі, якія за гэты час наведалі «Полацак», паведаміў, што Кліўлендскі аддзел БАЗа, царкоўны і жаночы камітэты сабралі 15 тысяч долараў і перадалі іх БНФ. Прадстаўнік Беларусі У. Новік выступіў на кангрэсе з дакладам «Роля беларускай эміграцыі ў станаўленні незалежнасці Беларусі». У заключнай частцы свайго выступлення прамоўца выказаў канкрэтныя прапановы дапамогі, якую Бацькаўшчына чакае ад эміграцыі: «— Наладжванне дзелавых кантактаў паміж беларускімі і амерыканскімі арганізацыямі, установамі і банкамі;

— Арганізацыя навучання беларускіх бізнесменаў у ЗША;

— Навучанне беларускіх бізнесменаў у Беларусі;

— Аказанне пасрэдніцкіх паслуг пры наладжванні дзелавых кантактаў паміж беларускімі й амерыканскімі бізнесменамі;

— Стварэнне інфармацыўных бюро» [9].

---

[9] Полацак. 1991. № 8. С. 63.

На пасяджэнні кангрэса было выказана шмат цікавых меркаванняў. Янка Запруднік прапанаваў стварыць банк даных на ўсіх беларусаў у ЗША, а Янка Ханенка параіў Галоўнай управе БАЗа звярнуцца ў афіцыйныя колы Вашынгтона, каб там устанавілі эміграцкую квоту для Беларусі.

Удзел прадстаўнікоў Беларусі ў мерапрыемствах беларускіх суполак у Амерыцы апошнім часам перарастае межы прыватных ініцыятыў і набывае высокі дзяржаўны ўзровень. У сакавіку 1992 г. у фундацыі імя П. Крачэўскага адбылася сустрэча актывістаў беларускай эміграцыі з міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанкам, пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры ААН Г. Бураўкіным, генеральным консулам У. Сакалоўскім, прадстаўнікамі беларускага пасольства і консульства У. Герасімовічам, Г. Бабарыкам, Ю. Ягоравым, М. Хвастовым, прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі У. Платонавым, дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі У. Заблоцкім. На сустрэчы прысутнічалі больш за 60 беларусаў з розных раёнаў Нью-Йорка, Гайленд-Парка, Саўт-Рыверы, Балтымора, Дэтройта і інш. З Кліўленда прыехала 8 чалавек: Міхась Белямук, Святлана Белая, Ірына Каляда, Сяргей і Вячаслаў Карніловічы, Янка Раковіч, Аўген Кабяка, Янка Ханенка.

У маі таго ж года Г. Бураўкін з жонкай, а таксама жонка беларускага генеральнага консула Э. Сакалоўская прымалі ўдзел ў святкаванні 50-годдзя Беларуска-амерыканскай нацыянальнай Рады, якое адбылося ў зале Святога Юрыя ў Чыкага. Ад кліўлендскага асяродка прысутнічалі Святлана Белая, Міхась Белямук і Вячаслаў Карніловіч. Былі запрошаны госці з Беларусі, сярод якіх — старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Я. Лецка. Пасля прывітальнага слова старшыні БАНР М. Каленіка даклад зрабіў М. Белямук. Ад Беларусі юбіляраў віншавалі Г. Бураўкін і Я. Лецка. Пасля юбілею ў адрас У. Сакалоўскага і Г. Бураўкіна паступілі лісты адпаведна ад Беларуска-амерыканскай нацыянальнай Рады і Беларускай праваслаўнай парафіі Святога Юрыя, дзе была выказана шчырая падзяка за ўдзел у святкаванні і за сувеніры з Бацькаўшчыны. Акрамя таго, у лісце Г. Бураўкіну паведамлялася аб тым, што «парафіяльная Управа перасылае чэк сумай 50 000 долараў на патрэбы амбасады Рэспублікі Беларусь. Наш абаюдны давер і зразуменне з'яўляюцца запарукай

перамогі дабра над злом, любові над нянавісцю» [10].

Вынікам дзелавых кантактаў з'явілася актывізацыя дзейнасці беларускай эміграцыі Злучаных Штатаў Амерыкі ў галіне наладжвання больш трывалых сувязяў з Беларуссю, у справе аказання ёй практычнай дапамогі. Ужо не толькі са старонак эміграцкіх выданняў, а непасрэдна ад беларускіх палітыкаў, грамадскіх і культурных дзеячаў даведваюцца далёкія суродзічы аб тых праблемах, што хвалююць сёння наш народ. Многія прадстаўнікі замежжа пад час вандровак на радзіму спазнаюць гэтыя праблемы ўвачавідкі. Жывое датыкненне да балявых кропак нашага жыцця і асабліва да чарнобыльскай бяды апаляе іх сэрцы, абуджае жаданне не на словах, а на справе ўключыцца ў агульны стваральны працэс. 10 кастрычніка 1992 г. у Белым Доме адбылася сустрэча дэлегатаў беларускіх арганізацый з амерыканскімі палітыкамі. Ад Клíўленда прысутнічалі Пол Васілеўскі, Янка Раковіч, Янка Ханенка, Астап Яраховіч. Былі таксама дзеячы з Нью-Йорка, Чыкага, Вашынгтона, Грэнд-Рапідса. У шчырай, зацікаўленай гутарцы абмяркоўваліся наступныя пытанні: ужыванне беларускай мовы ў праграме «Голас Амерыкі», абмен студэнтамі паміж Рэспублікай Беларусь і ЗША, афармленне і выдача візаў у Беларусі, а не ў Маскве, квоты на эміграцыю з Беларусі ў ЗША, матэрыяльная дапамога ў чарнобыльскай бядзе, удакладненне правапісу назваў «Беларусь» і «беларускі» ў амерыканскіх дакументах і прэсе. Амерыканскія палітыкі з разуменнем паставіліся да ўзнятых праблем. У прыватнасці, было адзначана, што ўрад плануе выдзеліць Беларусі значны крэдыт пад мінімальныя працэнты для ажыццяўлення дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі Чарнобыльскай трагедыі, а таксама ў прадстаўленні эміграцкай квоты ў колькасці 20 тысяч чалавек пераважна з забруджаных раёнаў.

З вялікай надзеяй успрыняло беларускае замежжа прысягу першага амерыканскага пасла на Беларусі Дэвіда Суорца, якая афіцыйна прагучала ў зале Бенджаміна Франкліна ў Дзяржаўным дэпартаменце Вашынгтона 25 жніўня 1992 г. Ад замежных асяродкаў на ўрачыстасці прысутнічалі старшыня Беларускага кангрэсовага камітэта Амерыкі Расціслаў Завістовіч і Іраіда Завістовіч. У сваёй прамове Дэвід Суорц спыніўся на пазі-

---

[1] Полацак. 1992. № 5. С. 63.

тыўных кроках урада Беларусі ў справе раззбраення і дэмакратызацыі дзяржавы. Добра валодаючы рускай, украінскай і польскай мовамі (раней працаваў у дыпламатычных місіях Масквы, Кіева, Варшавы), пасол запэўніў прысутных, што будзе імкнуцца вывучыць і беларускую.

Акрамя дзяржаўных кантактаў, дэлегацый ад афіцыйных арганізацый, было, вядома ж, шмат прыватных сустрэч са сваякамі, блізкімі, якія ладзіліся цэнтрам «Полацак». Асабліва часта запрашалі кліўлендцы артыстаў, мастакоў, паэтаў-бардаў. І гэта невыпадкова, бо што ж яшчэ, як не мастацтва, здольна раскрыць глыбіні душы народа. Вельмі ўпадабалі гаспадары «Полацка» народныя песні ў выкананні В. Пархоменка і А. Казака. Цёпла прынялі яны і Т. Мархель, вядомую выканаўцу фальклорных песень. Актрыса паказала сцэнічны абразок на біблейскія матывы, дзе жыццё Хрыста ад нараджэння да смерці падаецца праз вуснапаэтычныя і хрысціянскія традыцыі беларусаў. Дапамогу аказалі кліўлендскія беларусы і здымачнай групе, якая прыехала ў «Полацак» для працы над дакументальным фільмам з рабочай назвай «Беларусы, што жывуць у Амерыцы» (аўтар сцэнарыя В. Вярбоўская, рэжысёр Н. Вярбоўская, дырэктар карціны І. Дварнічэнка, аператар В. Леановіч). Гасцінна былі сустрэты оперны спявак В. Скарабагатаў, барды А. Малюжанец, С. Сокалаў-Воюш і інш. Зборы ад выступленняў звычайна адпраўлялі на Беларусь. Так, на дапамогу пацярпелым ад Чарнобыля пайшлі сродкі ад канцэрта, арганізаванага ў кастрычніку 1991 г. Камітэтам дапамогі ахвярам Чарнобыля Беларускай аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брukліне. Канцэрт падрыхтавалі агульнымі намаганнямі, у якім прымалі ўдзел і артысты з Мінска Р. Маленчанка, В. Пархоменка, А. Казак. «Каралевай смеху» назвалі жыхары Саўт-Рыверы выдатную беларускую актрысу Ганну Рыжкову за яе «цудоўны канцэрт, поўны смеху і слёз радасці». Г. Рыжкова трапіла ў Амерыку па запрашэнні сваёй сяброўкі юнацтва Ірыны Цупрык, якая праз шмат год выпадкова натрапіла на яе адрас і наладзіла актрысе гэту дзівосную вандроўку.

Такія прыклады можна доўжыць і доўжыць.

Значна пашырыліся візіты на радзіму нашых замежных суайчыннікаў. Апошнім часам на Беларусі пабывалі такія буйныя беларускія дзеячы са Злучаных Штатаў Амерыкі, як Кастусь Мерляк, Масей Сяднёў, Янка За-

пруднік, Міхась Белямук, Янка Золак, Вітаўт і Зора Кіпель, Сяргей Карніловіч, Янка Азарка і інш. Нібыта адчыніліся шлюзы, што стрымлівалі бурлівы паток, і людзі з радасцю і надзеяй паімкнуліся на спатканне з радзімай. У ліпені—жніўні 1991 г. па запрашэнні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» ў Беларусь прыехала група суайчыннікаў з Амерыкі. З кліўлендскага «Полацка» — Сяргей Карніловіч, Міхась Мітраховіч з сынам Андрэем, Марыя Любыш, Соф'я Шымчык, Ева Яраховіч, Таццяна Дубаневіч, а таксама Янка Азарка (старшыня Беларуска-амерыканскага задзіночання, штат Нью-Джэрсі) і Адольф Субота. Госці пазнаёміліся з Мінскам, пабывалі ў Курапатах, Хатыні, Вязынцы, наведалі Мікалаеўшчыну, Нясвіж, Жыровіцкі манастыр, гутарылі з беларускай інтэлігенцыяй. І, відаць, самае хвалюючае і незабыўнае — сустрэчы праз шмат год з роднымі і сваякамі. Т. Дубаневіч пабачылася з братам з Косава і сястрой, якая прыехала з сынам з-пад Масквы, Я. Азарка спаткаўся з братамі і сёстрамі з Баранавіч, Е. Яраховіч адшукала сваіх дваюрадных сясцёр і пляменнікаў на Палессі, а М. Мітраховіч — сваякоў у вёсцы Скалка на Гомельшчыне. Тыя ж, хто не меў блізкіх, наведалі радзінныя мясціны, дзе калісьці стаялі іх хаты, дзе на могілках пакоіцца прах бацькоў і дзядоў. Чым сталася для беларускіх амерыканцаў гэта паездка, якія пачуцці абудзіліся ў іх сэрцы? Лепш за ўсё пра гэта сведчаць самі госці. У прыватнасці, Ева Яраховіч прыгадвае: «Я 48 год не была на Беларусі, і, паверце, сёння я адчуваю сябе так, нібы нанова нарадзілася. Вы не можаце ўявіць, якія пачуцці мяне апанавалі, калі я была на Палессі, на сваёй радзіме, на тым месцы, дзе некалі стаяла наша хата... Не перадаць майго шчасця ад сустрэчы з маімі дваюраднымі сёстрамі, пляменнікамі, якіх я не думала, не гадала спаткаць. Калі я сюды ехала, я не ведала нават, што яны ёсць у Голым Бары, на хутары, дзе я некалі жыла. Гэта ж трэба, мы прыехалі ў вёску, і я пытаюся ў першай жанчыны на вуліцы: «Ці ведаеце тут Яраховічаў?» А аказалася, што яна мая дваюрадная сястра!.. Божа! У мяне сэрца разрывалася!.. Вы ведаеце, для мяне ўсё гэта як сон... Ад радасці плакаць хочацца! І шкада, шкада мне аднавяскоўцаў! Божа, каб я магла дапамагчы, усё аддала б ім, усё...» [11] Бадай, найбольш дакладна вы-

[11] Літ. і мастацтва. 1991. 27 верас.

казаў агульную думку Міхась Мітраховіч: «Самае моцнае ўражанне пакінулі беларускія людзі. Такія шчодрыя, адкрытыя, зычлівыя, такіх пашукаць трэба». А яго сын Андрэй дадаў да бацькавых слоў: «Людзі ў Беларусі вельмі ветлівыя, зычлівыя» [12].

Яшчэ адна даволі вялікая група кліўлендскіх беларусаў (34 асобы) наведала Бацькаўшчыну ў ліпені 1992 г. Госці пабывалі ў Мінску, Вільні, Полацку, Віцебску, у Жыровіцкім манастыры, завіталі да сваякоў і блізкіх на малой радзіме. Акрамя традыцыйных сустрэч з беларускімі працаўнікамі і інтэлігенцыяй з задавальненнем паглядзелі спектакль «Вежа» А. Дударава ў Тэатры імя Якуба Коласа, былі прыняты ў Жыровіцкім манастыры рэктарам Мінскай духоўнай семінарыі епіскапам Канстанцінам Навагрудскім і Лідскім. На развітанне епіскап Канстанцін падараваў для Кліўлендскай царквы ікону «Сабор усіх беларускіх святых», упрыгожаную вышыванымі ручнікамі. Госці ж са свайго боку ахвяравалі грошы на рамонт і пашырэнне семінарыі. Беларусы з Амерыкі прывезлі з сабой шмат медыкаментаў і аднаразовых шпрыцоў, якія падаравалі дзіцячым бальніцам у Віцебску, Мінску, Брэсце, Баранавічах і іншых гарадах. У складзе дэлегацыі былі Кастусь Калоша, Маня Нестар, Вольга Лукашэвіч, Ірына Врэцін, Гелена Радзюк, Кацярына Валюкевіч, Анатоль Лук'янчык і інш. Агульныя ўражанні ад паездкі падсумаваў Кастусь Калоша: «... хачу адзначыць, што гэта было адно з найбольш арганізаваных наведванняў эміграцыі Беларусі. Вялікае значэнне ў гэтым адыгралі тры фактары: арганізацыйная праца, якую правёў Сяргей Карніловіч перад паездкай у Беларусь, лёгкасць атрымання візаў, з якімі нам вельмі дапамог Уладзімір Сакалоўскі, а таксама тое, што на Бацькаўшчыне наш прыезд спансаравала таварыства «Бацькаўшчына».

Для нас было вельмі цікава наведаць беларускія музеі, батанічны сад, гістарычныя мясціны, пабачыць помнікі старажытнай культуры, цэрквы, манастыры, а таксама пазнаёміцца з некаторымі ўрадаўцамі, пісьменнікамі, беларускай інтэлігенцыяй, шчырымі беларускімі людзьмі, якія нас вельмі добра прымалі і якіх мы лічылі як сваіх родных. Незабыўнымі для кожнага з нас былі

---

[12] Полацак. 1991. № 6—7. С. 79—80.

паездкі на радзіму, дзе мы сустрэліся з сваімі сваякамі і роднымі»[13].

Беларуская эміграцыя сёння ўжо не пасіўна назірае за падзеямі на Бацькаўшчыне, а актыўна ўдзельнічае ў працэсе нацыянальнага адраджэння. У 1991 г. у Мінску адбыўся Першы міжнародны кангрэс беларусістаў, у якім з амерыканскага боку прынялі ўдзел: дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель, рэдактар газеты «Беларус» Янка Запруднік, загадчыца беларускага сектара Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі Зора Кіпель. У рабоце секцый таксама ўдзельнічалі вучоныя з Ватыкана, Англіі, Германіі, Польшчы і іншых краін. Галоўным вынікам кангрэса з'явілася заснаванне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, зацвярджэнне яе статуса і абранне кіруючых органаў. Гэта дае надзею, што тая лучнасць, якая паступова ўзнікае паміж Беларуссю і эміграцыяй усіх краін свету, змацуецца і набудзе далейшае развіццё.

Адной з найбольш значных з'яў ва ўзаемадзеянні з амерыканскім замежжам стаў удзел прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь у XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая адбылася ў Кліўлендзе 1—3 верасня 1990 г. Як ужо адзначалася, сустрэчы гэтыя ўзніклі у 1952 г. і раз у два гады па чарзе праводзіліся у ЗША і Канадзе. Асаблівасцю XVIII сустрэчы было тое, што ў Таронта прыехалі беларусы з Беласточчыны. І вось у кліўлендскім мерапрыемстве (ізноў упершыню) прынялі ўдзел 17 чалавек з Беларусі, а таксама з Вільні і Санкт-Пецярбурга. Калі дадаць яшчэ дэлегацыі з Канады, ЗША, Англіі, Бельгіі, Францыі, Германіі і Польшчы, то відавочна, што кліўлендцы сталі арганізатарамі Першай сусветнай сустрэчы беларусаў. Гэта падзея мела яшчэ адну адметнасць — праводзілася XIX сустрэча ў новым будынку грамадска-культурнага цэнтра «Полацак». Аднапавярховы каменны палац, збудаваны па праекту архітэктара Зорана Гарадзіцкага, мае ўтульную залу, забяспечаную сучасным тэхнічным абсталяваннем. Інтэр'ер «Полацка» выкананы мастаком з Беласточчыны Янкам Славянюком. Дэкаратыўнае афармленне складаецца з абразоў і серыі экспанатаў, якія асвятляюць жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны. Пад час XIX сустрэчы

---

[13] Полацак. 1992. № 10. С. 52.

тут была наладжана выстаўка ікон, вырабаў з саломкі, а ў бібліятэцы «Полацка» дэманстравалася экспазіцыя «Францішак Скарына і яго час», паказ якой арганізаваў Анатоль Белы. Экспазіцыя ўключала творы графікі, медальёны, плакаты, экслібрысы, жывапісныя палотны і алейныя партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія падараваў «Полацку» Г. Бураўкін.

Дэлегацыю з Беларусі прадстаўлялі: доктар фізіка-матэматычных навук Ю. Хадыка, старшыня камітэта «Дзеці Чарнобыля» Г. Грушавы, прадстаўнікі Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом У. Навіцкі і А. Абрамчык, паэты С. Панізнік і С. Сокалаў-Воюш, старшыня клуба «Спадчына» А. Белы, ансамбль народнай музыкі «Жывіца» пад кіраўніцтвам В. Пархоменка і інш. На адкрыцці свята пасля прывітанняў і перадачы падарункаў святары на чале з архіепіскапам Мікалаем першаіерархам Беларускай аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы асвяцілі новы будынак і адслужылі набажэнства. Узнёсла і ўрачыста прагучала пропаведзь настаяцеля парафіі Жыровіцкае Божае Маці пратаірэя Міхася Страпко, пасля чаго некалькі песень выканаў хор пад кіраўніцтвам Кастуся Калошы. На афіцыйнай частцы сустрэчы быў зачытаны тэкст тэлеграмы тагачаснага прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Джорджа Буша, які ад сябе і ад імя сваёй жонкі вітаў удзельнікаў XIX сустрэчы. На нарадзе першага дня сустрэчы было шмат выступленняў, успамінаў, абмену думкамі па праблемах усталявання далейшых кантактаў Беларусі з эміграцыяй, па арганізацыі і правядзенню агульных акцый, скіраваных на пераадоленне Чарнобыльскай навалы, па ўшанаванню памяці славутых суайчыннікаў з нагоды 150-годдзя з дня нараджэння Ф. Багушэвіча і 500-гадовага юбілею Ф. Скарыны. У выступленнях члена амерыканскага кангрэса Мэры Роўз Оўкер, старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча, сакратара Беларускага каардынацыйнага камітэта Чыкага Веры Рамук, старшыні Згуртавання беларусаў Канады Міколы Ганько, старшыні Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Янкі Міхалюка, губернатара штата Агайё Джорджа Вайновіча і многіх іншых было выказана шмат слушных прапаноў па праблемах далейшага палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця Беларусі ў шчыльным узаемадзеянні з эміграцкімі коламі Амерыкі. Закраналіся таксама пытанні экалогіі. Закончыўся першы дзень сустрэчы кан-

цэртам ансамбля «Жывіца», які зрабіў на прысутных вялікае ўражанне.

На другі дзень свята пад зводамі царквы Жыровіцкае Божае Маці адбылося набажэнства ў імя свабоды і шчасця Беларусі і ўсіх беларусаў свету. На заключным банкеце зноў доўжыліся прамовы, галоўнай тэмай якіх быў чарнобыльскі боль. Амерыканскія беларусы шмат разоў праз розныя арганізацыі перадавалі на радзіму грошы, медыкаменты, дзіцячае адзенне і г. д. На XIX сустрэчы таксама было сабрана звыш чатырох тысяч долараў і перададзена Г. Грушавому. Акрамя таго, распрацавана далейшая праграма аказання гуманітарнай дапамогі. На заканчэнне адбыўся канцэрт з удзелам ансамбляў «Жывіца», «Васількі» і кліўлендскага хору пад кіраўніцтвам Вольгі Лукашэвіч. Гучалі песні ў выкананні Данчыка, Л. Барткевіча, С. Сокалава-Воюша, чыталі вершы паэт С. Панізнік і дырэктар мінскага беларускага дзіцячага садка Г. Прыма.

Кульмінацыяй дня стала прыняцце рэзалюцыі, у якой адзначалася: «Мы, удзельнікі 19-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, з'ехаўшыся са Злучаных Штатаў, Канады, Беларускай ССР, Беласточчыны, Віленшчыны, Англіі, Францыі, Заходняй Нямеччыны ў беларускае селішча Полацак у горадзе Кліўлендзе, штат Агайё, ЗША, заслухаўшы прывітанні ад прэзідэнта Джорджа Буша, кангрэса Злучаных Штатаў, прадстаўнікоў мясцовых уладаў ды ад беларускіх арганізацыяў, выслухаўшы выступленне кангрэсменкі Мэры Роўз Оўкэр, дэкларуем:

1. Рабіць захады, каб дзяржаўныя і прыватныя сектары заходніх краінаў аказалі гуманітарную дапамогу пацярпелым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі, як гэта звычайна робіцца ў выпадках вялікіх катастрофаў. Імкнуцца адроджваць нацыянальную культуру, хрысціянскую мараль і агульначалавечыя вартасці.

2. Звярнуцца з просьбай ад імя беларускіх грамадаў у ЗША і Канадзе да кангрэса ЗША, парламента Канады, каб у Амерыку й Канаду былі прынятыя квоты эмігрантаў з ліку жыхароў найбольш заражаных мясцовасцяў Чарнобыльскай зоны.

3. Падтрымваць і далей дзейнасць Беларускага народнага фронту, скіраваную на ратаванне жыхарства ад чарнобыльскай радыяцыі, на ратаванне беларускай нацыі ад культурнага заняпаду, да якога давяла аднапартыйная сістэма.

4. Рабіць захады для пабудовы коштам амерыканскіх і канадскіх фондаў анкалагічнага шпіталя ў Беларусі, у якім лячыліся б ахвяры чарнобыльскай радыяцыі, ды ў якім працавалі таксама і лекары з Амерыкі й Канады.

5. Спрыяць усімі магчымымі спосабамі эканамічным і гандлёвым сувязям паміж амерыканскімі, канадскімі ды іншымі заходнімі фірмамі, з аднаго боку, прыватнымі прадпрыемствамі Беларусі, з другога.

6. Спрыяць пашырэнню й замацоўванню дыпламатычных сувязяў Злучаных Штатаў Амерыкі і Канады з Беларускай Рэспублікай, Вярхоўны Савет якое абвясціў 27 ліпеня сёлета Беларусь суверэннай дзяржавай.

7. Падтрымваць справу як многа больш шырокага навуковага, культурнага і турыстычнага абмену паміж Паўночнай Амерыкай і Беларуссю, прыезду ў Злучаныя Штаты й Канаду беларускіх студэнтаў на навуку, спецыялістаў рознага профілю, у тым ліку сельскагаспадарчага, на практыкум, моладзі на азнаямленне з жыццём беларускае Амерыкі й Канады.

8. Мы падтрымваем ініцыятыву аргкамітэта згуртавання «Бацькаўшчына» ў Менску дзеля аб'яднання беларусаў свету, каб супольна спрыяць (кажучы словамі аргкамітэта са «Звароту да беларусаў свету») «нацыянальнаму адраджэнню ўсяго беларускага народа, палітычнаму і эканамічнаму суверэнітэту Беларусі».

9. Мы вітаем намаганні ў колах беларускага грамадства, скіраваныя на рэалізацыю Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы, які ўвайшоў у сілу ўчора, першага верасня 1990 г.

10. Мы зварочваемся з просьбай да ўладаў Беларускай ССР, каб было спынена накладанне мыта на дазіметры, якія жыхары рэспублікі дастаюць ад сваіх суродзічаў з-за мяжы.

11. Мы выказваем непакой з прычыны нарастання антыбеларускай акцыі на Беласточчыне, якая выяўляецца ў хлуслівай кампаніі ды ў паленні цэркваў беларускай культуры. Нас таксама трывожаць выпадкі частага прападання ў дарозе да адрасатаў у БССР і Польшчы беларусаведных публікацыяў, у тым ліку зборнікаў мастацкае літаратуры і навуковых артыкулаў, рэлігійных выданняў.

12. Мы поўнімся надзеяй, што працэс дэмакратызацыі ў Беларусі будзе паглыбляцца й замацоўвацца, спрыяючы паляпшэнню эканамічнага дабрабыту й куль-

турнага росквіту беларускага народа ды ўмацаванню мірнага супрацоўніцтва паміж народамі Беларусі, Злучаных Штатаў Амерыкі і Канады»[14].

Фактычна ўпершыню сустрэча беларусаў свету набыла ярка выяўленае грамадска-палітычнае гучанне і скіравана на абмеркаванне і распрацоўку практычных захадаў па вырашэнні праблем сваіх суайчыннікаў на радзіме. Аб гэтым сведчыць рэзалюцыя, фактычна кожны пункт якой тычыцца жыцця Бацькаўшчыны і яе будучыні.

Наступная, XX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі адбылася ў Нью-Брансвіку ў верасні 1992 г. Ад Беларусі ў ёй прынялі ўдзел П. Краўчанка, Г. Бураўкін, В. Голубеў, У. Навіцкі, Я. Лецка, Я. Цумараў, А. Белы і інш. Асноўная тэма нарады была вызначана — «Беларусь на шляху да незалежнасці». Узнімаліся пытанні дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі і яе інтэграцыі ў сусветную эканоміку, гаварылася пра стварэнне беларускага войска і ўласнай фінансавай сістэмы са сваёй грашовай адзінкай. Таксама былі закрануты пытанні культуры, у прыватнасці вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў, якія ў розныя часы і пры розных абставінах апынуліся за межамі рэспублікі. З паведамленнем пра эканоміку Беларусі ў ацэнцы заходніх дзяржаў і з прапановамі па аказанні дапамогі з боку эміграцыі выступіў Вячка Станкевіч. Аналіз рэлігійнага працэсу на Бацькаўшчыне (у прыватнасці, ужыванне беларускай мовы ў багаслужэнні) зрабіў Васіль Русак. Абагульніў і падвёў вынікі нарады Янка Запруднік. Пад час XX сустрэчы працавалі камісіі па эканоміцы, палітыцы, рэлігіі, адукацыі і камісія па выніках Чарнобыльскай трагедыі. На заканчэнне першага дня ўся грамада наведала Саўт-Рывер, дзе адбыўся канцэрт з удзелам артыстаў з Беларусі — І. Афанасьевай, М. Скорыкава, кампазітара З. Яўтуховіча.

Другі дзень, як звычайна, распачаўся святой Літургіяй у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Нью-Брансвіку, пасля быў традыцыйны банкет з прамовамі і абменам думак. Найбольш важныя палажэнні і тэзісы, выказаныя ў дакладах і паведамленнях, былі падсумаваны і знайшлі адлюстраванне ў рэзалюцыі. Асноўная ідэя, якой была прасякнута атмасфера XIX і XX сустрэч беларусаў

[14] Полацак. 1991. № 1. С. 35—36.

Паўночнай Амерыкі і якая прагучала практычна ва ўсіх выступленнях,— гэта перакананасць удзельнікаў у неабходнасці кансалідацыі сіл і агульных намаганняў дзеля выжывання нацыі.

Доўгі час мы знаходзіліся ў інфармацыйнай ізаляцыі, нібы паміж намі існавала сцяна, што на працягу дзесяцігоддзяў падзяліла адзін народ на два варожыя лагеры. Яе разбурэнню шмат у чым паспрыяў часопіс «Полацак», які з 1991 г. пачаў выходзіць у Клíўлендзе дзякуючы руплівай, падзвіжніцкай працы рэдактара Святланы Белай і сакратара Міхася Белямука. Друкуецца часопіс за кошт дабрачынных ахвяраванняў амерыканскіх беларусаў і пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы г. Клíўленда. Ганаровымі сябрамі абраны Анатоль Белы, пісьменнік Васіль Быкаў, доктар юрыдычных навук, прафесар Іосіф Юхо. Выданне добра з густам ілюстравана. Акрамя фотаздымкаў у ім багата твораў беларускіх графікаў і мастакоў — А. Кашкурэвіча, С. Геруса, М. Басалыгі, Я. Ціхановіча, У. Жука, Т. Лапіцкай, Г. Грака і інш. Распрацоўка макета вокладкі, шрыфтоў і заставак рубрык на высокім прафесійным узроўні зроблена мастаком Андрэем Карпуком.

Галоўнай адметнасцю «Полацка» з'яўляецца тое, што ён у роўнай ступені задавальняе попыт чытачоў як Амерыкі, так і Беларусі. Часопіс набліжае да нас жыццё беларускага замежжа і адначасова знаёміць далёкіх суайчыннікаў з нашым поглядам на гісторыю і сённяшняй складанай рэчаіснасцю ў суверэннай дзяржаве Рэспублікі Беларусь. Вартасцю часопіса з'яўляецца і тое, што ў адрозненне ад асобных празмерна ідэалагізаваных эміграцкіх выданняў ён вылучаецца спагадлівай, памяркоўнай танальнасцю, добрым навуковым узроўнем. Пераважная ўвага ў ім надаецца блізкай і даўняй гісторыі. Тут можна знайсці цікавыя матэрыялы пра Рагнеду і Ефрасінню Полацкую, Францішка Скарыну і Кірылу Тураўскага, М. Багдановіча і Ф. Багушэвіча, Я. Купалу і Я. Коласа, пра Цётку, М. Забэйду-Суміцкага, Р. Шырму. Зусім заканамерна на старонках часопіса друкуецца шмат матэрыялаў аб старажытным беларускім горадзе Полацку. Так, Ю. Штыхаў піша пра полацкіх крывічоў, І. Юхо — пра полацкае старадаўняе права, С. Тарасаў — пра гісторыю Полацкага княства, У. Арлоў — пра Ефрасінню Полацкую і крыж Лазара Богшы. Нібы ажываюць

драматычныя старонкі жыцця Язэпа Лёсіка, Антона і Івана Луцкевічаў, Васіля Захаркі, Аляксандра Цвікевіча і многіх іншых, чые імёны былі бязлітасна выкраслены з гісторыі Беларусі. У рубрыцы «З архіваў КДБ» змешчаны новыя матэрыялы пра дзейнасць БНР, пра складаны, поўны супярэчнасцяў шлях Зміцера Жылуновіча, пра трагічныя абставіны смерці Канстанціна Езавітава. Шмат раней невядомага раскрываюць успаміны Я. Цихановіча пра выдатнага тэатральнага дзеяча, мастака і драматурга Уладзіслава Галубка, а таксама ўспаміны Л. Крыгмана пра найталенавітага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. З захапленнем чытаюцца лісты да сяброў гісторыка Міколы Ермаловіча і Уладзіміра Караткевіча. Наогул тэматыка публікацый надзіва разнастайная, аб чым сведчаць назвы артыкулаў: «Вытокі нацыянальнай свядомасці» (А. Белы), «Беларусізацыя» (Л. Лыч), «Час духоўнага паяднання» (А. Сабалеўскі), «Як апраналіся нашы продкі» (Л. Дучыц), «Чарнобыль: спроба аналізу сітуацыі» (І. Кісялёва) і шмат іншых.

Друкуюцца ў часопісе і мастацкія творы: публіцыстычная аповесць-хроніка ў дыялогах «Свечка на Дзяды» Э. Ялугіна, урыўкі з кнігі «Максімава Яраславія» С. Белай, вершы беларускіх паэтаў У. Караткевіча, С. Грахоўскага, Р. Барадуліна, а таксама вершы паэтаў-эмігрантаў Наталлі Арсенневай, Янкі Юхнаўца, Міхася Кавыля, Масея Сяднёва, Пятра Нядзведскага, Анатоля Бярозкі, Барыса Данелюка і інш.

Мае часопіс рубрыкі «Лісты з Бацькаўшчыны», «Згукі Бацькаўшчыны» і «З жыцця эміграцыі», пад якімі друкуюцца матэрыялы пра палітычныя, рэлігійныя і культурныя падзеі як розных гарадоў Беларусі, так і замежных асяродкаў. У 1992 г. рэдакцыя «Полацка» за свой кошт пасылала 360 экземпляраў кожнага нумара часопіса ў Беларусь, Беласточчыну, Віленшчыну, Дзвіншчыну, Расію, Сібір і Казахстан.

Калі знаёмішся з публікацыямі «Полацка», уражвае кола буйных асоб навукоўцаў, прыцягнутых рэдактарам С. Белай для супрацоўніцтва. Іх артыкулы даюць магчымасць нашым замежным суродзічам пазнаёміцца з высокім узроўнем навуковай думкі Беларусі. У сваю чаргу матэрыялы мясцовых аўтараў, такіх, як М. Белямук, К. Мерляк, М. Страпко, А. Шукелойц, Ю. Найдзюк, В. Тумаш, Я. Сажыч, Р. Завістовіч і інш., раскрываюць перад нашым чытачом пакутлівыя шляхі беларускай

эміграцыі, набліжаюць да нас іх штодзённыя клопаты са смуткам і радасцю, наканаванымі зямному існаванню чалавека, у якім бы кутку воляю лёсу ён ні апынуўся.

Было б, відаць, наіўна меркаваць, што сённяшняе жыццё беларускай эміграцыі ў Амерыцы з'яўляецца выключна шчаслівым і бесканфліктным. Пры ўсёй матэрыяльнай уладкаванасці побыту там існуюць свае праблемы, непаразуменні паміж групоўкамі, асобнымі палітычнымі і рэлігійнымі дзеячамі, што знаходзіць свой адбітак на старонках перыядычных выданняў. Аднак на першым этапе больш блізкага знаёмства з беларускім замежжам нас цікавіць іншае. І перш за ўсё — як беларусы, трапіўшы на чужыну, здолелі захаваць сваю этнічную супольнасць, не толькі зберагчы родную мову, але і стварыць на ёй высокамастацкія літаратурныя творы? У пэўнай ступені гэта можна зразумець з тых адказаў, якія даюць самі пісьменнікі-эмігранты на пытанні, сфармуляваныя Л. Пранчаком. (Матэрыялы друкаваліся ў газеце «Літаратура і мастацтва» на працягу 1992 г. і ў 1993 г.) Пры ўсёй рознасці думак і меркаванняў, выказаных Н. Арсенневай, М. Сяднёвым, А. Яцэвічам, Я. Пятроўскім, М. Паньковым, Я. Золакам, М. Кавылём, А. Саковічам, М. Прускім са Злучаных Штатаў Амерыкі, аўтараў аб'ядноўвае адно — вытокі іх адданасці беларускай ідэі на чужыне маюць свае карані на Бацькаўшчыне і абумоўлены няспыннай тугой па радзіме, глыбокай любоўю да свайго народа.

Сёння ў нашай свядомасці, а адсюль і ў нашым стаўленні да замежнай эміграцыі адбываюцца пэўныя зрухі. Працэс гэты не можа быць хуткім, таму яшчэ часам чуюцца ў адрас суайчыннікаў і аглабельная крытыка, і палітычныя абвінавачванні. Думаецца, слушную думку наконт гэтага выказала Святлана Белая: «Тая грамадзянская вайна, якая была распачата больш як 70 гадоў назад, якая прынесла нашаму народу такія страты і вымусіла тысячы сыноў і дачок пакінуць радзіму, апынуцца за мяжой і не мець магчымасці падтрымліваць сувязі з суайчыннікамі, роднымі, — павінна быць спынена. Мы лічым, што толькі гісторыя ды Бог суддзя нам і нашым продкам у тым, хто быў правы і быў вінны перад сваім народам. Усе мы павінны зараз аб'яднацца для таго, каб выратаваць Беларусь» [15]. Відавочна, што гісторыя і су-

---

[15] Полацак. 1991. № 1. С. 29.

часнасць беларускага замежжа вымагае сур'ёзнага навуковага асэнсавання. Таму што, як трапна заўважыў В. Кіпель, «пакуль Бацькаўшчына не пачынае цікавіцца эміграцыяй, эміграцыя заміpae»[16]. Па сутнасці, аднаўляецца гістарычная справядлівасць. Аднаўляецца разарваная повязь часоў, і пакутлівым блукальнікам вяртаецца чалавечае права наведаць сваю радзіму, сэрцам дакрануцца да спрадвечных каранёў. Асабістыя кантакты, агульныя мерапрыемствы, знаёмства з літаратурай і перыядычным друкам замежжа набліжаюць да нас жыццё беларускай эміграцыі, дапамагаюць у поўнай меры ацаніць тую вялікую працу, якую яна рабіла і робіць для фізічнага і духоўнага выжывання нацыі, для сцвярджэння яе роўнасці паміж іншымі народамі свету.

---

[16] Звязда. 1991. 10 ліп.

*Яўген Адамовіч*

# КАФЕДРА БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

Беларуская Беласточчына з больш як паўмільённым насельніцтвам беларусаў стала ахвяраю пракамуністычнай палітыкі. Не паспеўшы, як кажуць, пасля Вялікай Айчыннай вайны другі раз дыхнуць паветрам супольнасці з роднай Беларуссю, Беласточчына зноў была адарвана ад Радзімы і далучана да Польскай Народнай Рэспублікі, стаўшы, такім чынам, нацыянальнай меншасцю ў гэтай даволі складанай у нацыянальных адносінах дзяржаве. Але ў многіх жыхароў хапіла і павагі да мінуўшчыны, да продкаў, і памяці, і гонару, каб заўсёды пачувацца беларусамі. Хацелася гэтага ці не хацелася, але польскім дзяржаўным уладам давялося лічыцца з беларускай меншасцю і даваць ёй пэўную магчымасць развівацца культурна і на нацыянальнай глебе. Намаганнямі беларускай інтэлігенцыі, Беларускага грамадска-культурнага таварыства, іншых структур былі адкрыты беларускія школы, ліцэі ў Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім. Гэта больш чым дзесяцігадовая актыўная работа на ніве адукацыі прывяла да неабходнасці адкрыць у навучальнай установе спецыяльную кафедру, якая павінна рыхтаваць беларускія кадры для школ, ліцэяў і на іншыя патрэбы культурнага нацыянальнага развіцця.

У 1956 годзе Міністэрствам вышэйшай адукацыі і навукі была створана адзіная за межамі Беларусі кафедра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце на базе Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі. Здзяйсненне гэтага знамянальнага акта для развіцця культуры мела і мае надзвычайнае значэнне. Кафедра стала той крыніцай, якая жывіць нашу нацыянальную культуру, поўніць артэрыі яе духоўнасці, зберагае мову,

фальклор, мастацтва ва ўсіх яго праявах, што працуе на ідэю нацыянальнага адраджэння і развіцця, на захаванне нацыянальнага аблічча беларускай дыяспары ў Польшчы.

Ганаровы абавязак заснавальніка і першага кіраўніка кафедры выпаў на долю прафесара Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай — вядомага славяніста, буйнога вучонага, сімпатычнага чалавека. Пачынаць работу трэба было амаль на голым месцы. Не было ці вельмі не хапала кваліфікаваных педагогаў, падручнікаў і дапаможнікаў па беларускай літаратуры і мовазнаўству, кніжак навуковай і мастацкай літаратуры. Галоўнай задачай першых крокаў кафедры была падрыхтоўка сваіх педагагічных кадраў. Трэба было знайсці ахвочых, далучыць іх да працы на кафедры.

У вырашэнні гэтых праблем дзейсную дапамогу напачатку аказалі навуковыя, навучальныя і бібліятэчныя ўстановы Беларусі. Так, выкладаць пагадзіліся М. Бірыла з Інстытута мовазнаўства АН Беларусі і В. Тарасаў з Мінскага педінстытута імя Максіма Горкага. Праз два гады іх замянілі з тых жа адпаведна інстытутаў А. Жураўскі і М. Лазарук. Яны чыталі лекцыі, праводзілі са студэнтамі семінары. Практычныя заняткі па беларускай мове ажыццяўляла былая выпускніца Мінскага педінстытута магістр Л. Базылюк — малады супрацоўнік Варшаўскага універсітэта. Сваіх першых выкладчыкаў з Беларусі на кафедры з удзячнасцю ўспамінаюць і сёння. На нядоўгі час з Беларусі прыязджалі чытаць лекцыі М. Ларчанка, Л. Шакун, А. Лойка, В. Казлова, Л. Бурак і інш.

Педагогі і навукоўцы з Беларусі сумесна з загадчыкам кафедры стварылі як бы вучэбную лабараторыю для прафесійнай падрыхтоўкі маладых выкладчыкаў і навуковых супрацоўнікаў. У ёй набывалі вопыт А. Баршчэўскі, Э. Смулкова, А. Багроўская, М. Врублеўскі. Яны затым склалі сталы калектыў супрацоўнікаў кафедры і актыўна павялі працу дыдактычнага і навуковага характару.

З першых крокаў дзейнасці кафедра беларускай філалогіі ажыццяўляла дзве задачы. Адна з іх — навучанне і выхаванне студэнтаў — будучых настаўнікаў школ, ліцэяў, работнікаў іншых культурных устаноў на глебе беларускасці. Другая задача — навукова-даследчая праца. Разуменне таго, што гэтыя два накірункі павінны

быць ўзаемна звязаны паміж сабою, дало вельмі станоўчыя і значныя вынікі [1].

Навукова-даследчая работа кафедры вялася па дзвюх спецыялізацыях. Жанчыны займаліся ў галіне беларускага і славянскага мовазнаўства, а мужчыны ў галіне гісторыі беларускай літаратуры. Нягледзячы на малы калектыў супрацоўнікаў, ужо ў 1962 г. выйшаў з друку «Падручны польска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблонскай і М. Бірылы, які ахоплівае каля 40 тысяч перакладных слоў. Гэта была першая калектыўная праца. Затым быў падрыхтаваны ў апрацоўцы А. Багроўскай і Э. Смулковай пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблонскай больш аб'ёмны «Беларуска-польскі слоўнік», разлічаны не толькі на студэнтаў-філолагаў, але і на ўсіх тых, хто цікавіцца беларускай і польскай мовамі.

Збор і апрацоўка анамастычнага матэрыялу (мікратапанімічныя назвы мясцовасцяў, урочышчаў, угоддзяў і г. д.) у Беластоцкім ваяводстве сталі наступнай калектыўнай працай. Да ўдзелу ў ёй былі запрошаны вопытныя даследчыкі, як, напрыклад, Т. Зданцэвіч з Познані і М. Кандрацюк з Працоўні беларускай філалогіі Польскай акадэміі навук. Мясцовымі назвамі Гайнаўскага, Беластоцкага, Сакольскага і Высокамазавецкага паветаў заняўся М. Врублеўскі. У выніку гэтага была створана абшырная картатэка, праведзена яе навуковая апрацоўка.

Літаратуразнаўцы падрыхтавалі вельмі неабходную да друку анталогію беларускай літаратуры.

Членамі кафедры даволі шырока і актыўна вялася і індывідуальная навуковая праца. У галіне мовазнаўства даследчыкі ўзяліся за распрацоўку наступных тэм: дыялекталогіі, іншамоўнага субстрату ў беларускай мове, словаўтварэння і нарматыўнасці, анамастыкі, сінтаксісу. Галоўная ўвага была скіравана на вывучэнне беларускіх гаворак на тэрыторыі Польшчы, асабліва ва ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства, якое заселена пераважна беларусамі. Работа вялася ў цесным супрацоўніцтве з Працоўняй беларускай філалогіі ПАН і была скіраваная на распрацоўку Атласа беларускай народнай мовы. Праца вялася Э. Смулковай і А. Багроўскай пад кіраўніцтвам А. Абрэмбскай-Яблонскай.

---

[1] Гл.: Смулкова Э. Навукова-дыдактычная дзейнасць кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта // Беларускі каляндар. 1970. С. 91—103.

Пытанням беларускіх народных гаворак прысвяціла працу Э. Смулкова. Сярод іншых работ па дыялекталогіі трэба адзначыць апублікаваную ў 1968 г. яе манаграфію «Земляробчая лексіка ў гаворках усходняй Беласточчыны на ўсходнеславянскім фоне». У кнізе ў параўнаўчым плане аналізуецца земляробчая лексіка ўсходняй Беласточчыны на польскай, беларускай, рускай і ўкраінскай мовах. Зроблены цікавыя высновы наконт «лексічнага і словаўтваральнага радства і дыферэнцыяцыі ўсходнеславянскіх моў (рускай, беларускай і ўкраінскай) і моўнага падзелу ўсходняй Беласточчыны». Пытанням беларускай лексікі Э. Смулкова прысвяціла і шэраг артыкулаў, сярод якіх «Нарыс фаналагічных сістэм беларускіх і ўкраінскіх гаворак усходняй Беласточчыны», «Летуанізмы ў беларускай сельскагаспадарчай лексіцы», што змяшчаліся на старонках вядучых польскіх перыядычных выданняў.

Навукоўцы кафедры звярнулі ўвагу на наяўнасць балтыйскага ўплыву ў сумежжы ўсходнебеластоцкіх гаворак з літоўскімі. Распрацоўкай гэтай тэмы займалася А. Абрэмбская-Яблонская.

А. Абрэмбская-Яблонская ўзначальвае яшчэ адну калектыўную работу па навуковай апрацоўцы рукапісу М. Федароўскага, знакамітага збіральніка беларускага фальклору і этнографа канца XIX — пачатку XX ст. Дзякуючы намаганням з друку выйшлі «Pieśni», V і VI тамы «Ludu Białoruskiego». Да выдання падрыхтаваны VII том з артыкуламі мовазнаўчага, фалькларыстычнага, музыказнаўчага характару, слоўнік малавядомых слоў і карта тых мясцін, дзе М. Федароўскі збіраў матэрыялы.

На ніве беларускага літаратуразнаўства засяродзілі свае сілы А. Баршчэўскі, М. Врублеўскі, З. Скібінская-Харыла. У полі зроку даследчыкаў — галоўным чынам беларуская літаратура XIX і XX стст. У асобную вылучана тэма «Вытокі новай беларускай літаратуры» (першая палова XIX ст.). Над ёю актыўна працаваў М. Врублеўскі. Ён прааналізаваў творчасць А. Рыпінскага, Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча ў рэчышчы плыняў іншых славянскіх народаў, і ў прыватнасці польскага.

Літаратуру XX ст. абраў А. Баршчэўскі. Ён апублікаваў шмат артыкулаў у «Ніве», «Літаратурна-навуковым зборніку», «Беларускім навуковым зборніку» і іншых выданнях. Бясспрэчным набыткам літаратуразнаўства ста-

ла яго кандыдацкая дысертацыя «Творчасць Якуба Коласа (1906—1930)», 1966 г. Па гэтай тэме апублікавана некалькі артыкулаў. У сааўтарстве выдадзена Хрэстаматыя па беларускай літаратуры для VIII класа пачатковых школ з беларускай мовай навучання.

Тэма кандыдацкай дысертацыі З. Скібінскай-Харыла — «Міхась Зарэцкі на фоне беларускай крытыкі 20—30-х гадоў XX стагоддзя». Пра паспяховасць гэтай працы сведчаць артыкулы, што з'явіліся ў друку. Цікавае яе даследаванне «Аб перакладах «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча на беларускую мову».

Названыя тэмы, дысертацыі, публікацыі па беларускай мове і літаратуры — гэта толькі частка навуковадаследчай працы членаў кафедры. Дастаткова сказаць, што агульная колькасць публікацый перавышае лічбу 80.

Як ужо адзначалася, кафедра вядзе вялікую педагагічную працу. Галоўная мэта — падрыхтоўка «спецыялістаў у галіне беларускай мовы і літаратуры з рускай або польскай мовамі як прадметамі пабочнымі» [2]. Тэрмін навучання студэнтаў — пяць гадоў. За гэты час яны праходзяць агульнаадукацыйны курс з пашыранымі спецкурсамі па філалогіі і сацыялогіі. Кафедра выкарыстоўвае розныя формы дыдактычнай працы. Студэнтам чытаюцца аглядныя і манаграфічныя лекцыі, праводзяцца з імі практычныя заняткі і семінары, даюцца кансультацыі па пытаннях мовы і літаратуры і па абраных тэмах. Пад кіраўніцтвам выкладчыкаў студэнты пішуць курсавыя і магістарскія (дыпломныя) працы.

Акрамя агульнапрынятых універсітэцкіх форм дыдактычнай работы кафедрай практыкуюцца іншыя віды, звязаныя з вузкай спецыялізацыяй. Да іх адносіцца дыялекталагічная практыка студэнтаў III курса, якая праводзіцца на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны, а таксама знаёмства трэццякурснікаў з гістарычнай граматыкай беларускай мовы і сучаснымі дыялектамі. Пры вывучэнні дыялекталогіі акцэнтуецца ўвага на беларускія гаворкі Беласточчыны. Тэорыя замацоўваецца практыкай студэнтаў, якія выязджаюць у вёскі для вывучэння жывых народных гаворак. Адначасна адбываецца знаёмства з духоўнай і матэрыяльнай культурай беларускай вёскі, фальклорам, абрадамі народных святаў, самадзейнасцю.

Вялікую ўвагу надае кафедра практычным ведам.

---

[2] Беларускі каляндар. 1970. С. 99.

Дзеля гэтай мэты ўведзены яшчэ тры спецыяльныя курсы наступнага накірунку: 1) педагагічны на базе беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы пад кіраўніцтвам настаўнікаў гэтых навучальных устаноў; 2) агульнаадукацыйныя, замежныя, якія праходзяць студэнты ў Беларусі і 3) агульнапольскі універсітэцкі рускай мовы, калі навучэнцы абавязаны гаварыць выключна на рускай мове на працягу трох тыдняў.

Абменная замежная практыка адбываецца пераважна пасля IV курса. Пад кіраўніцтвам аднаго з педагогаў група студэнтаў выязджае ў сталіцу Беларусі Мінск. Ён і з'яўляецца асноўным месцам пражывання. Тут праводзяцца спецыяльныя заняткі па мове, літаратуры, гісторыі, культуры, мастацтву. Студэнты наведваюць музеі, тэатры, кінатэатры, іншыя ўстановы культуры, навукі, ВНУ. Знаёмяцца з жыццём і вучобай беларускіх студэнтаў. Практыка разлічана на чатыры тыдні.

У падобным накірунку праходзіць практыка студэнтаў-філолагаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Польшчы.

Назапасіўшы пэўны багаж ведаў, студэнты на IV курсе выбіраюць тэмы дыпломных (магістарскіх) работ па беларускай мове ці літаратуры. Тэмы гэтых работ бываюць самымі разнастайнымі. Мовазнаўцы бяруцца за даследаванне помнікаў старажытнай беларускай пісьменнасці, праблем дыялекталогіі і сучаснай літаратурнай мовы. Літаратуразнаўцы засяроджваюцца на вывучэнні творчасці пісьменнікаў канца XIX і XX стст., а таксама беларуска-польскіх літаратурных сувязяў.

Кафедра (пры наборы студэнтаў праз год) да 1970 г. выпусціла 50 магістраў беларускай філалогіі. Дзесяць з іх — па мовазнаўству.

Выпускнікі працуюць настаўнікамі сярэдніх і радзей пачатковых школ, вядуць культурна-асветную работу, займаюць пасады ў выдавецтвах, з'яўляюцца навукоўцамі як кафедры, так і Польскай акадэміі навук у Варшаве.

Дарэчы, кафедра даволі цесна супрацоўнічае з Польскай акадэміяй навук і навуковымі ўстановамі Беларусі. Арганізуюцца доўгатэрміновыя стажыроўкі супрацоўнікаў, выданне супольных навуковых прац у Беларусі і ў Польшчы, абмен літаратурай, часопісамі, газетамі, наладжваюцца індывідуальныя кантакты работнікаў кафедры з калегамі іншых ВНУ і навуковых устаноў.

У рэчышчы гэтай дзейнасці ў пазнейшыя часы запра-

шаліся для працы на кафедры мовазнаўцы з Беларусі М. Суднік, Ю. Мацкевіч і інш. З польскага боку прыязджалі ў нашу рэспубліку П. Звалінскі, В. Курашкевіч, А. Міровіч, Л. Асоўскі, К. Дэйна, А. Яблонская і інш.

Спецыялісты кафедры па мовазнаўству прайшлі стажыроўку ў асноўным у Беларусі, што дало магчымасць удасканаліць свой прадмет і атрымаць неабходныя матэрыялы, якіх няма ў Польшчы, пазнаёміцца з работай калег з нашых ВНУ. Падобную стажыроўку ў Польшчы праходзілі даследчыкі з Беларусі — фалькларыст І. Саламевіч, мовазнаўца Г. Пальцаў і інш.

Першыя 15 гадоў кафедрай кіравала прафесар А. Абрэмбская-Яблонская. Яна вызначала яе магістральныя шляхі, закладвала навукова-даследчую і педагагічна-метадычную аснову ў першыя нялёгкія гады існавання ў Варшаўскім універсітэце. Гэта працягвалася і пазней, калі кафедру ўзначальвала дацэнт Э. Смулкова. Вызначаная на пачатку лінія доўжыцца і цяпер, калі кафедрай кіруе прафесар А. Баршчэўскі. Натуральна, што новыя кіраўнікі, і найперш само жыццё, уносяць і свае карэктывы.

Вось пра ішто напярэдадні, можна сказаць, першага юбілею распавядаюць А. Баршчэўскі, Я. Глушкоўская, Н. Амельянюк, М. Кандрацюк, М. Чурак у артыкуле «Кафедра беларускай філалогіі на парозе новага 25-годдзя» [3].

За 25 гадоў работы кафедра выпусціла каля 170 спецыялістаў-беларусістаў, якія працуюць у розных установах Польшчы. Яе аўтарытэт вырас настолькі, што цяпер паступаюць вучыцца апрача выпускнікоў беларускіх ліцэяў з Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі і палякі. Яны даволі хутка авалодваюць беларускай мовай, увогуле вучацца паспяхова. Атмасфера ўзаемаадносін паміж студэнтамі заўсёды сяброўская незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці ці рэгіёнаў паходжання.

Трэба сказаць, што матэрыяльная база кафедры добрая. Студэнты жывуць у нармальных умовах. Яны практычна амаль усе забяспечаны стыпендыяй, інтэрнатам, карыстаюцца сталоўкай, бібліятэкай. Зручна і тое, што ўсё гэта размяшчаецца амаль побач з вучэбнымі аўдыторыямі.

Галоўны накірунак магістарскіх дысертацый — дас-

---

[3] Беларускі каляндар. 1983. С. 59—65.

ледаванне дыялектных і фальклорных пластоў Беласточчыны. За чвэрць стагоддзя напісана каля ста такіх прац, якія сталіся своеасаблівым помнікам беларускай этнічнай і фальклорнай культуры гэтага рэгіёна.

Як ужо адзначалася, навуковая дзейнасць кафедры вядзецца ў двух аспектах: мовазнаўчым і гістарычна-літаратурным. Чарговыя дзесяць гадоў далі прыкметныя набыткі ў абодвух гэтых накірунках.

Так, пад кіраўніцтвам Э. Смулковай на аснове анамастычнага матэрыялу (каля 35 тыс. слоў) вялася падрыхтоўка слоўніка мікратапаніміі паўночна-ўсходняй Польшчы. Сабраная картатэка выкарыстоўвалася супрацоўнікамі кафедры для навуковых прац, дысертацый.

Кафедра актыўна супрацоўнічае з Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі і Інстытутам мовазнаўства Польскай акадэміі навук. У выніку гэтага супрацоўніцтва падрыхтаваны і выдадзены пяцітомны «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча». На аснове амаль 9 тыс. слоў сабранага матэрыялу мовазнаўцы вядуць распрацоўку праблем балта-славянскіх і беларуска-ўкраінска-польскіх сувязяў.

Калектыў кафедры таксама ўдзельнічаў у падрыхтоўцы матэрыялаў да Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны, які выдала Польская акадэмія навук, вёў працу над кнігай «Дыялектныя тэксты Беласточчыны з моўным каментарыем», якую выпусціла Беластоцкае навуковае таварыства ў 1973 г. Да актыву кафедры належыць выданне «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча ў перакладзе. Уступ і каментарыі напісала А. Абрэмбская-Яблонская.

Разам з калектыўнымі распрацоўваюцца і індывідуальныя тэмы. Так, манаграфія Э. Смулковай прысвечана акцэнтацыі ў беларускай мове. Друкуюцца артыкулы. Сярод іх — «Да гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы» А. Абрэмбскай-Яблонскай. У шэрагу прац Я. Глушкоўскай разглядаюцца няпэўныя займеннікі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, а таксама графіка і арфаграфія помнікаў старабеларускай пісьменнасці XVI ст.

Змест артыкула Т. Ясінскай-Сохы раскрывае яго назва — «Флексійная сістэма помнікаў старабеларускай пісьменнасці II пал. XVI ст.»

Шмат і плённа працуе А. Баршчэўскі. У прыватнасці,

ён падрыхтаваў, пераклаў і выдаў на польскай мове два тамы беларускай народнай прозы, рускай народнай прозы і том украінскай народнай прозы. Для студэнтаў беларусістыкі Варшаўскага універсітэта прызначаны яго дапаможнікі па гісторыі беларускай літаратуры. У тыднёвіку «Ніва» апублікаваў каля 600 артыкулаў пад агульнай назвай «Беларуская літаратура». Назвы прац можна доўжыць і доўжыць!

Праблемамі перакладаў на беларускую і з беларускай мовы плённа займаецца З. Скібінская.

І мовазнаўцы, і літаратуразнаўцы ўдзельнічаюць у шматлікіх навуковых канферэнцыях, сімпозіумах у Польшчы, Маскве, Мінску, Сафіі і іншых гарадах. Кафедра была арганізатарам навуковых канферэнцый, прысвечаных юбілеям Янкі Купалы, Якуба Коласа і інш.

Ёсць і цяжкасці ў працы. Так, давялося ўводзіць на кафедры дадатковую спецыялізацыю па рускай філалогіі. Факт, як кажуць, вымушаны і трывожны. Справа ў тым, што выпускнікам не заўсёды знаходзіцца праца па беларускамоўнай прафесіі і даводзіцца «ратавацца» рускаю мовай. Агульная тэндэнцыя беларусаў — адмаўляцца ад свайго, роднага, на жаль, пачуваецца і на Беласточчыне ды і ў іншых кампактна заселеных беларусамі месцах Польшчы.

І ўсё ж, нягледзячы на не простыя абставіны палітычнага, сацыяльнага, эканамічнага характару, якія асабліва востра праявіліся ў апошнія гады як у самой Польшчы, так і ў былым СССР, кафедра па-ранейшаму настойліва здзяйсняе навуковыя, педагагічныя і культурныя планы.

Працуе творча і плённа. А дзе праца — там і аўтарытэт. Відаць, пагэтаму слынная слава пра некаторых работнікаў кафедры сягае далёка за межы Польскай Рэспублікі. Іх ведаюць як неардынарных асоб. Узяць хоць бы першага загадчыка кафедры, яе арганізатара і рупліўца, доктара філалагічных навук, прафесара Антаніну Абрэмбскую-Яблонскую. Без перабольшання, гэтага вучонага добра ведаюць навуковыя колы філолагаў бадай што ўсіх славянскіх народаў. Другі загадчык кафедры — доктар філалагічных навук, дацэнт Эльжбета Смулкова цяпер па даручэнні ўрада выконвае ганаровую місію пасла Польскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь. Пра трэцяга загадчыка кафедры таксама не раз гаварылася і пісалася ў друку, і не толькі ў Польшчы. Вучоны савет Бе-

ларускага універсітэта прысудзіў яму званне ганаровага доктара.

У папярэднім абмеркаванні кандыдатуры прынялі ўдзел дэкан філалагічнага факультэта, член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар А. Лойка, дактары філалагічных навук, прафесары Л. Шакун, Н. Мячкоўская, І. Шаблоўская, С. Лысенка, Б. Плотнікаў, А. Манаенкава. Было адзначана, што кафедрай на працягу яе існавання «ажыццяўлялася надзвычай грунтоўная навукова-даследчая і грамадска-асветніцкая дзейнасць дзеля азнаямлення шырокай польскай грамадскасці з Беларуссю наогул і асабліва з яе літаратурай і культурай».

Цяпер кафедра знаходзіцца на парозе свайго саракагоддзя. Да гэтай даты яна падыходзіць з добрымі набыткамі у дыдактычным, навуковым і грамадскім плане. Рэзананс яе работы гонарна шырыцца за межы Польшчы. І хочацца спадзявацца, што гэты пачэсны шлях у накірунку адраджэння і развіцця роднай мовы і культуры будзе карысным не толькі для беларусаў, якія жывуць у Польшчы.

# ЗМЕСТ

Научное издание

**КУЛЬТУРА БЕЛОРУССКОГО ЗАРУБЕЖЬЯ**

**Книга 2**

Составитель Соболевский Анатолий Викентьевич

*Минск, издательство «Навука і тэхніка»*

На белорусском языке

Навуковае выданне

**КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА**

**Кніга 2**

Складальнік Сабалеўскі Анатоль Вікенцьевіч

Загадчык рэдакцыі *Л. І. Пятрова*
Рэдактар *Н. М. Тарасевіч*
Мастак *Т. П. Кулажэнка*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*
Карэктар *А. М. Малей*

Здадзена ў набор 09.06.93. Падпісана ў друк 01.07.93. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера газетная. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,50. Ум. фарб.-адб. 10,50. Ул.-выд. арк. 10,83. Тыраж 3000 экз. Зак. № 637. Цана 50 р.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. ЛВ № 437. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220141. Мінск, Жодзінская, 18.